

# Маладосць

3

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(676) САКАВІК, 2010

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 09.03.2010. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,54. Тыраж 2708 экз. Заказ 595.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# НАЗАЎЖДЫ — У РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*Колькі разоў даводзілася чуць, што напісанае застаецца. І тут безліч прыкладаў, пачынаючы ад Кнігі Кніг — Бібліі. Так, спачатку было Слова, яно найбліжэй да Святла, амаль яго сінонім. Святло асвятляе і не толькі. Навукоўцы ведаюць, што ў фізіцы існуе такое паняцце, як карпускулярна-хвалевы рух. Гэтае паняцце заключаецца ў тым, што атамы, з якіх складаецца ўсялякая матэрыя, адначасова з'яўляюцца і часцінкай, і хваляю. Дык вось, Слова мае тую самую хвалевую аснову, праз яе — сіла яго ўздзеяння...*

*Каму мне дзякаваць за гэту шыр,*
*За гэту сінь, што растае на сонцы*
*І потым доўга свеціцца ў душы?*
*За цішыню — у сна на самым донцы?*
*За раніцу, што п'ю і не дап'ю,*
*Зачэрпнуўшы з крыніцы даланёю?..*

*Гэта радкі Таісы Бондар... Тасі... Мы былі, што называецца, прыпісаны да аднаго літаратурнага пакалення і ў сваёй літаратурнай маладосці нават блізка сяброўвалі. І, напэўна, тут яшчэ трэба ўспомніць і Жэню Янішчыц. Нам тром калісьці Валодзя Някляеў прысвяціў заключныя строфы аднаго са сваіх вершаў. Выдатны верш! Мы тады вельмі ганарыліся гэтым прысвячэннем. Цяпер... так ужо расклала жыццё... тымі Валодзевымі радкамі я ганаруся адна. У далёкім 1988 годзе трагічна пайшла з жыцця Жэня, а некалькі гадоў таму не стала і Таісы... Яна тады ўзначальвала нашу рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову, як заўжды, шмат пісала, і жыццё яе абарвалася неяк вельмі раптоўна. У такіх выпадках кажуць: за лічаныя дні згарэў чалавек. Таіса Бондар гарэла ў сваім жыцці, узрывалася эмоцыямі, усё нешта некаму хацела даказаць... А даказваць, у прынцыпе, і не трэба было: жыццё так хутка праміналася, і застаўся адзіны доказ усяму — творчасць, тое, што напісалася. Напрыканцы сёлетняга лютага Таіса Бондар адзначыла б сваё шасцідзесяціпяцігоддзе. Гэтая высокая дата, на вялікі жаль, адзначалася без яе ў Пухавічах (пісьменніца нарадзілася на Міншчыне). Яе імя засталося ў літаратуры сваёй прамяністай зорачкай, і шмат хто працягвае прынікаць і да радкоў яе паэзіі, і да старонак яе прозы. Спрацоўвае той самы хвалевы пачатак Слова...*

*У лютым адзначалася і васьмідзесяціпяцігоддзе з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Івана Якаўлевіча Навуменкі. З гэтай нагоды ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі ладзілася Рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст». Юбілейны матэрыял (а гэта будзе адна з навуковых прац, падрыхтаваная да гэтай канферэнцыі) рэдакцыя мяркуе надрукаваць у пятым нумары «Маладосці». Шмат якія матэрыялы гэтага нумара будуць прысвечаны шасцідзесяціпяцігоддзю Вялікай Перамогі і, безумоўна, паэтычныя старонкі не ўяўляюцца без паэзіі незабыўнага Аляксея Васільевіча Пысіна. Яго ваенная лірыка — класіка нашай паэзіі, а сама публікацыя будзе яшчэ прымеркавана і да дзевяностагоддзя выдатнага паэта, якое адзначыцца грамадскасцю, і найперш у Магілёве, дзе жыў Аляксей Пысін, у сакавіку.*

*І яшчэ пра адзін сакавіцкі юбілей мне хацелася б сказаць... Глухая восень ці не 1971 года. Позні вечар. Я іду малаасветленай вуліцай вёсачкі Нівы, што на Бярозаўшчыне, правёўшы вечар за мочанымі антонаўскімі яблыкамі ў Ніны Мацяш. Поруч — маладзенькая і прыгожая Зіна Дудзюк, ва ўсялякім выпадку мне гэтак уяўляецца. Берасцейскі край вельмі багаты на магутныя таленты... У маім пакоі — фотаздымак, зроблены ў Пінску, калі ў 2008 годзе адзначалася гадавіна з дня нараджэння Жэні Янішчыц, дзе мы з Нінай Мацяш сярод іншых — у апошні раз — разам. Сустрэцца можам ужо толькі там, адкуль не вяртаюцца.*

*Зіне Дудзюк, дзякуй Богу, яшчэ можна патэлефанаваць. Ёсць нагода! Яна, і цудоўная паэтка — вельмі тонкі лірык, і глыбокі празаік — аўтар і раманаў, і аповесцей, у сёлетнім сакавіку адзначае сваё шасцідзесяцігоддзе. Рэдакцыя «Маладосці» сардэчна і з любоўю віншуе Зінаіду Іосіфаўну з гэтай такой сонечнай кругленькай лічбаю і жадае далейшага ўрадлівага плёну. Як казаў Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін, у руплівай пчолкі павінен быць багаты ўзятак! Няхай будзе гэтак і надалей!*

З найлепшымі пажаданнямі да ўсіх чытачоў — Ф. Баравікова



*Воля Чайкоўская нарадзілася ў 1987 годзе ў Віцебску. У 2005 годзе скончыла Віцебскую гуманітарную гімназію № 2. Цяпер студэнтка факультэта журналістыкі БДУ. У 2007 годзе выдала дэбютную кнігу вершаў «Л У П Ы».*

Воля ЧАЙКОЎСКАЯ

# Я МУЗЫКАЙ ВЕТРУ СТАНУ...

* * *

Халодныя рукі ў чорных пальчатках,
Навязлівыя радкі.
Ля сценкі стаю на пятках
І чую худыя гудкі.

Я б так хацела на мора —
Жанчына ў пясках —
Схаваць у каралах і вапне
Свой страх.

Я б так хацела паслухаць
Спевы чароўных палёў.
А ты мяне ў нейкае поле
Глухое завёў…

* * *

Я паглядзела на гэты горад
Другімі вачыма.
Няўмыты. Няродны.
Не той, што цягаю я за плячыма.
Адчужаны горад
Пульсуе і б’ецца.
Адчужаны горад
Сталіцай завецца.
Адчужаны горад
Збірае пялёсткі ў кветку.
А што я раблю тут? —
У цемры пытаюся зрэдку.

* * *

такія цьмяныя ў горада
такія цьмяныя ночы
твой позірк з поўні на поўныя
ногі мае пераскочыў
твой позірк доўга вандруе
па вуліцах цела майго
бягом
хачу
каб заблукаў

* * *

Я спынілася
І тапчуся на месцы.
Пратаптала пад нагамі
Дарэшты.
Можа, святло
Ліхтарнае на мяне
Пральеш ты?

**СПРЭС ГУЛО**

Вось і скончыўся жнівень,
Быццам і не было.
Самагубцы рамонкі
Выпраменьваюць тонкі
Пах. Спрэс гуло.

І святлом ледзь улоўным
Закругляецца лета.
І старая кабета
Восень.
Неўтаймоўна
Скрозь неба просінь…

* * *

Час — самы бязлітасны ваяка.
Нака табе!
І табе — нака!
Раздорвае хвіліны і гадзіны.
Ад злосці
Напляваць на ўсё не хопіць сліны!
Нака — табе!
І табе — нака!
Час — здрадлівы злосны сабака…

**ЗЯЗЮЛЯ**

Што ты мне села на плечы,
Загадкавая Зязюля?
Я з кожным днём імпэтную
Бойку вяду. Ваюю.
Што ты псуеш мне вечар?
Што так глядзіш упарта?
Вецер прагоніш прэч?
Калі паляціш? — Заўтра.

* * *

воля колам па полі
коціцца так ляніва
сёння волі санліва
быць вастрыём касы

пахнуць травой валасы

* * *

Замучаная зімой прырода
Хаваецца за туманам.
Няма праз адлігуброду.
Я музыкай ветру стану...

* * *

***Ю. К.***

Вясна.
Рака.
Адліга.
Вясна.
Адліга.
Вочы.
Ішоў
Востры,
Як крыга.
Вясна.
Да мяне
Збочыў.

* * *

***Ю. К.***

Са мной здзяйсняюцца ўсе мары —
Сказаў ты мне на вуха.
І рэха прагрымела наўздагон.
І рэха прагрымела глуха-глуха.
І ледзь азваўся звон.

Са мной здзяйсняюцца ўсе мары —
Сказаў ты мне ў вочы.
І крылы выраслі ў абаіх.
Ты бачыць мае вочы хочаш.
А мне каштоўны водар рук тваіх.





Югася Каляда
нарадзілася ў 1981 годзе
ў Гомелі.
У розныя часы вучылася
на гістарычных факультэтах
Беларускага дзяржаўнага
педагагічнага ўніверсітэта
імя Максіма Танка,
Гомельскага дзяржаўнага
ўніверсітэта
імя Францыска Скарыны,
на факультэце правазнаўства
Мінскага інстытута
парламентарызму
і прадпрымальніцтва.
Друкавалася ў перыядычных
выданнях з 1998 года.
У 2005 годзе ў выдавецтве
«Мастацкая літаратура»
выйшла кніга
«Галоўная памылка
Афанасія». Асобныя творы
перакладаліся на польскую,
чэшскую, літоўскую
і ўкраінскую мовы.

Югася КАЛЯДА

# СЛОВА НЕ З МАЙГО ЛЕКСІКОНУ

## *Апавяданне*

*Думка пра яго* займала ў маёй галаве такое месца, на якое не мела ніякага права. Думка пра яго не вартая была такой ганаровай пасады — быць Думкай у Маёй Галаве.

Усе мае астатнія думкі пагарджалі ім, як народ краіны пагарджае нягеглым каханкам Імператрыцы, якога тая вырашыла пасадзіць на трон. Так трынаццацітомная Сусветная Гісторыя пагарджае стракатым жаночым раманчыкам, уціснутым паміж сёмым і восьмым тамамі.

Думкі ў маёй галаве ладзілі дружныя карагоды, а яго ў свае гульні наўмысна не прымалі. Думка пра адметнасці ратыфікацыі Беларуссю міжнародных канвенцый лічыла ніжэй за свой гонар звяртаць на яго ўвагу. Думка пра адрозненні англасаксонскай прававой сістэмы ад заходнееўрапейскай ва ўсім брала прыклад са сваёй суседкі. Думка пра эвалюцыю сям'і ад сацыяльнага інстытута да групы не жадала нават выкарыстоўваць яго ў сваіх эксперыментах. Думка аб трох законах дыялектыкі наўмысна абразліва паварочвалася да яго спінай. Думка аб маёй нібыта прыдушанай, але ўсё адно магутнай астме ціха сядзела ў куце ды раз-пораз тужліва пазірала на яго: ну чым ты, небарака, дапаможаш мне? Нічым! Вясёлая кампанія думак пра нараджэнне Сусвету, адноснасць Часу ды глыбіні Космасу летуценна мінала яго, нават не кранаючы. І толькі думкі пра Музыку рабілі раз-пораз спробы пасябраваць з ім — з зеленавокім, па-дзіцячаму прыгожым хлопчыкам з пульхнымі вуснамі ды дарослым імем Рэймон Дэлярош, — які ў форме думкі самотна бавіў час у маёй галаве. Бралі раз-пораз спробы пасябраваць з ім, але неўзабаве сарамліва вярталіся да сваёй старой сяброўкі — да думкі аб боскім паходжанні Музыкі.

Карацей кажучы, у маёй галаве было багата думак, і ўсім ім перашкаджала думка пра Рэймона. Нават асуджаныя аўтсайдэры — думкі пра маю нічым не абумоўленую манію велічы — сарамліва хавалі вочы ды не глядзелі ў ягоны бок.

І толькі дзве неразлучныя сяброўкі — думкі пра маю самадастатковасць ды пра маю выяву ў люстэрку — звяр-

талі ўвагу на Рэймончыка, але якую ўвагу! Яны бегалі вакол яго ды злосна выкрыквалі: «Ідзі адсюль! Давай, давай, валі! Ты хто такі? Ты ніхто! Ты пішаш з памылкамі! Ты нічога не цяміш у геапалітыцы! Ты спяваць не ўмееш! Ты маляваць не ўмееш! Тваё імя калі й з'явіцца ў газеце, дык толькі ў некралогу! Якія ў цябе таленты, акрамя як вочкамі прыгожа міргаць?! Якія ў цябе вартасці, апрача пульхных вуснаў ды гучнага імя?»

Сапраўды, у Рэймончыка было такое імя, якое яму не зусім пасавала. Ён з гэтым імем выглядаў так, нібы апрануў бацькава паліто. Прыгожае імя Рэймон Дэлярош было разлічана на сталага саракагадовага мужчыну, які ўсіх перамог ды крыху стаміўся ад уласнай усемагутнасці: Рэймон Дэлярош — як Ален Дэлон! Або як Шарль дэ Голь — а вось дваццацісямігадовы хлопчык карыстаўся гэтым імем, як чужой крэдыткай.

Я неаднаразова — ды што там, штодня! — спрабавала выціснуць Рэймона са сваёй галавы — але безвынікова. Бо думкі пра выдаленне думак пра Рэймона ўсё адно былі думкамі пра Рэймона — замкнёнае кола! Стужка Мёбіуса. Я не ведала, дзе шукаць вытокі маёй паразы. Я цярпліва чакала, пакуль Рэймончык, як і належыць усім маім хлопчыкам з мінулага, зойме належнае яму месца: у архіве маёй памяці, у запыленай, закінутай скрыначцы з надпісам: «Лухта. Не варта згадваць». Але выпадак з Рэймонам не меў прэцэдэнтаў. Бо нават пацверджанае досведам «З вачэй далоў...» ніяк не дапамагала. Хоць не камунікавалі мы ўжо больш за год, а бачыліся апошняга разу ўвогуле даўно.

Вечарамі, звыкла адзначаючы наяўнасць Дэляроша ў галаве, я думала: «А можа, гэта каханне?»

І адразу жахалася: «Вар'ятка! Не рабі з сябе дурнейшай, чым ты ёсць! Якое каханне? Не чыні шкоды Сусвету! Калі вось гэтая пухліна памяці і ёсць каханне, дык чаго ж яно тады вартае наогул, каханне? Рэймончык — гэта твая хвароба, каменьчык у чаравіку, стрэмка ў сэрцы! Рэймончык — гэта твая слабасць, гэта метастазы твайго комплексу непаўнавартасці, сімптомы страху смерці: ах, прытулі мяне да сэрца! Ах, паглядзі мне ў вочы! Ах, давай памнажацца ў гэтай бяскрайняй цемрадзі! — Рэймончык — гэта бунт жывёльных інстынктаў, дэман тваёй пасвядомасці, атавізм і рудымент! Адпачынак высокаарганізаванага розуму — але ніяк не каханне!»

І дзве фанабэрлівыя сяброўкі — думкі пра маю самадастатковасць ды незямную прыгажосць — шыпелі аднагалосна: «Каханне — гэта слова не з твайго лексікону!»

— З майго, — нечакана шчыра прызнавалася я, — з майго, але не пра мяне…

І, каб не даць волі думкам-аўтсайдэрам пра ўласную нікчэмнасць, як звычайна, я спяшалася заснуць.

* * *

Прачнулася а дзевятай, на пяць хвілін раней за будзільнік, нягледзячы на тое, што была субота — бо сёння я мусіла ісці ў басейн.

Наведванне басейна ў суботу аб адзінаццатай было часткай майго складанага плана, выкананнем адказнага задання: «Давядзі сама сабе, што ты здольная на ЎСЁ!!» Каб мець чарговую падставу, стоячы перад люстэркам, пытацца: «Ну што, хіба я не крутая?» — і адказваць самой сабе: «Так! Я проста супер! Я гэта здолела!»

Басейн быў абраны невыпадкова. Даўно, яшчэ ў дзяцінстве, я займалася ў спартыўнай школе і апрача іншай карысці прыдбала адно каштоўнае *адчуванне*.

Вось і сёння я плавала ад борціка да борціка, сумленна, правільна: сто метраў — брасам, сто метраў — кролем, дваццаць пяць — больш не магу! — батэрфляем, яшчэ сотню — адпачывала на спіне, і ўсё спачатку: рэфлекторна — як у дзяцінстве — паглядала на вялікі гадзіннік: колькі там да канца трэніроўкі? Вочы засцілаў звыклы туман ад хлараванай вады, у вушах прыемна гуло, але галоўным было тое самае прыдбанае ў дзяцінстве адчуванне: незалежнасці. Яшчэ ў шасцігадовым узросце я зразумела: плаваць мне ніхто не дапаможа. Плаваць удваіх немагчыма. Або ты ўмееш плаваць — або не.

А я ўмела. І я плавала ад борціка да борціка, і кожны мой рух радаваў мяне. Гэта на сушы можна ствараць ілюзіі пра тое, што ты жывеш не *адна*, што ты надзейна абароненая ад самоты, што ў цябе ёсць чалавек, які цябе ніколі не пакіне, што працягам тваім з'яўляюцца дзеці… Але не ў вадзе. Вада — як галоўнае выпрабаванне. Вада не пойдзе на кампраміс. Або ты не ўмееш плаваць — і тонеш. Або ты ўмееш плаваць — і плывеш. Сама. Адна. Я плавала і думала пра сваю незалежнасць. І пра Рэймона.

Пасля басейна я пацягнулася на рынак, маючы надзею купіць новую торбу. Я правалэндалася па рынку ды па суседніх крамах гадзіны тры, але нічога не знайшла на свой вычварна-вытанчаны густ і ўжо стала збірацца дадому, калі на чыстае неба набеглі хмары ды пайшоў снег.

Шкада было прапускаць такі ўзорна-зімовы снег: з неба падалі пухнатыя шматкі, і горад умомант збялеў — і я вырашыла пагуляць.

Калі б за мной нехта сачыў — ну вось, напрыклад, калі б я была шпіёнкай — мне цікава было б пазнаёміцца з думкамі гэтага чалавека. «Ейныя маршруты ірацыянальныя! Якую мэту яна пераследуе?! Заўважыла хвост і хоча адчапіцца? Якая таямнічая, загадкавая персона!» А яшчэ мне цікава было б прысутнічаць пры вывучэнні зместу маёй торбы ды расшыфроўцы нататніка. «А навошта ёй гэты даведнік лекавых раслін? І чаму насупраць тэлефонаў — ініцыялы? І што гэта за адрасы без імёнаў?» Я мела добра ўсвядомленую патрэбу ў тым, каб незнаёмыя людзі пільна цікавіліся маёй асобай гэтаксама ўважліва, як следчыя — і пры тым прызнавалі мае нетрывіяльныя здольнасці ды ўвогуле маю арыгінальнасць і выключнасць. А калі б мной пацікавіўся псіхіятр — што ён сказаў бы? Комплекс непаўнавартасці? Манія велічы? Першыя сімптомы паранохі?

Ад рынку я дайшла да ЗІПа, збочыла да «Цепласетак», пайшла ўгару Інтэрнацыянальнай, прайшла ўздоўж парку, мінула Кагальны роў, схаваны за рознакаляровым плотам, пакінула праваруч дом творчасці «Юнацтва» — а снег усё валіў ды валіў з неба — і з боку рэстарацыі ды казіно «Беларусь» выйшла на плошчу. Па перыметры я рушыла да аўтобуснага прыпынку.

Плошча выдавала на пляцоўку, дзе здымалі вар'яцкі фільм. У цэнтры разбіралі ёлку, зробленую з мноства ялін — дакладней, ужо амаль разабралі, і цяпер былыя елкі ляжалі як вырачоныя на трох грузавіках, а ў неба мкнулася адно толькі незразумела-касмічная канструкцыя каркаса. Уверсе тырчала самотная яловая галіна, і ўсё гэтае разбіранне-разбурэнне было такое фатальна-неахайнае, што я не магла адвесці ад яго вачэй.

Бронзавы помнік на пляцы свайго імя пачуваўся ніякавата. (І добра было, што наш помнік быў не з паднятай рукой, бо цяпер ягоная поза трактавалася б гэтак: запрашаю вас завітаць у наш абласны драматычны тэатр! Альбо ў Галоўпаштамт — як пажадаеце! Не, наш галоўны помнік трымаўся за лацканы свайго паліто, і мне здавалася, што ён хоча яго зняць — улетку, бо горача, або ўзімку, бо мароз).

Падаў снег, і помнік меў на галаве смешную белую шапачку, а над галавой — крыжы царквы Пятра і Паўла. Мне гэта падабалася, як і ўсё незвычайнае.

Я падышла да помніка, аточанага гранітнай трыбунай ды прыгожымі елкамі. Трыбуна была вялікая, і елкі былі вялікія, і ён сам быў вялікі, а я — маленькая. Мяне гэта не засмучала. У мяне быў надзіва добры настрой.

Я прайшла вакол трыбуны, каб зрэзаць рог ды праз стаянку таксовак прайсці да прыпынку, калі на супрацьлеглым баку плошчы, ля тэатральнага ганка, прыкмеціла чалавека. Ішоў снег ды заляпляў мне акуляры, але я скіравалася да тэатра — не па пераходзе, а з рызыкай быць збітай машынамі, — я ішла ды думала: ён што, матэрыялізаваўся?

Я чамусьці не здзівілася адразу, а ён стаяў, задзёршы галаву ды разявіўшы рот, і лавіў ротам снег, як дашкаляня. Я стрымлівала сябе, каб не рвануць да яго стрымгалоў, а ён заўважыў мяне, усміхнуўся ды зноўку пачаў лавіць ротам снег.

Я спынілася насупраць яго, не ведаючы, што сказаць; я нават не паспела прыдумаць сабе выраз твару.

— J'avais peur, — сказаў ён, — я баяўся!

— De guoi? Pour gui? — я ўзіралася ў ягоны твар. — Чаго? За каго?

Рэймон стаўся вельмі сур'ёзны ды пачаў прамаўляць хутка-хутка:

— Цябе. Я баяўся, што ты перамянілася. Што я прыеду, а ты на мяне забылася. Што я званю ў дзверы, ты мне адчыняеш, а ў цябе тут муж і пяцёра дзяцей, а ты тоўстая ды чужая, і мне трэба браць валізку ды вяртацца ў аэрапорт. Я пра цябе думаў увесь час — няспынна, — і раптам вырашыў ляцець! Праўда, ты таксама?

— Што — таксама? — я не магла зразумець, што ён тут робіць, пасярод плошчы Леніна.

— Ты таксама пра мяне думала, — выключна сур'ёзна сцвердзіў Рэймон, і мы, якія стаялі насупраць, як слупы, раптам пачалі душыць адно аднаго, сціскаць з усяе моцы, заплюшчыўшы вочы, — не памятаю, хто першы на каго кінуўся, — мабыць, каб запэўніцца, што мы сапраўды сустрэліся, што гэта не сон і не казка, а немагчымае, незразумелае вар'яцтва.

Рэймон урэшце паставіў мяне на зямлю, і мы пачалі размаўляць адначасова, перапыняючы й перапытваючы адно аднаго.

— Вар'ят, — казала я,— як ты збіраўся мяне шукаць? Як ты даехаў ад аэрапорта дасюль?

— Вось,— ён з усмешкай раскрыў далонь і прадэманстраваў скамечаную паперку з маім адрасам, — я зараз паказаў бы гэта ў таксоўцы… Вунь там у вас таксоўкі, так?

— А чаго ты не ўзяў таксоўку ў аэрапорце? — дапытвалася я.

— Я не падумаў, — бестурботна апраўдваўся Рэймон, — я пайшоў туды, куды пайшлі людзі, і вось… Прыехаў на аўтобусе…

Я пацягнула Рэймона да прыпынку; калёсікі ягонага чамадана не ехалі па снезе, і Рэймона гэта забаўляла; мы балбаталі так, нібыта развіталіся тыдзень таму.

Пакуль мы чакалі аўтобуса, мы абмяркоўвалі падрабязнасці ягонай вар'яцкай вандроўкі, а я глядзела на Рэймона ды думала: такі самы! Такі самы! Ён не змяніўся!

У амаль поўным аўтобусе на нас непрыхавана ўтаропіўся ўвесь салон, і кандуктарка доўга вагалася, перш чым папрасіць у нас грошы. Я вырашыла не здзекавацца з яе:

— Два поўныя, калі ласка!

Яна крыху расчаравана адлічыла рэшту: а можа, і хлопец таксама прыкідваецца замежнікам, дарэмна што з валізкаю?

Затое я разам перапыніла ўсе пачатыя размовы кшталту «А дзеўка апранутая як наша!»

Я засунула абодва квіткі ў кішэню Рэймонавай курткі:

— На памяць! — і раптам да мяне дайшло: Рэймон. Прыехаў. Да мяне.

Ён, напэўна, таксама дапяў, што нарабіў, бо страціў цікаўнасць да краявідаў невядомай краіны, стомлена сеў на валізку ды апусціў галаву.

Мяне нават не абразіла тое, што ён не прапанаваў мне сесці; я хутка адвярнулася ды стала глядзець у акно, нібыта ніколі не бачыла вуліцы Савецкай ва ўсёй яе красе. Вельмі хутка сцямнела, як зазвычай у студзені.

Я ліхаманкава разважала. Па-першае, трэба зараз жа патэлефанаваць і папярэдзіць бацькоў, бо рэакцыя ў іх будзе непрадказальнай; па-другое… Рэймончык, Рэймончык, ну што ж ты нарабіў, дурны хлопчык? Пад уплывам імпульсу ты прыляцеў у чужую краіну да дзяўчыны, кінутай сто гадоў таму — а дарэчы, хто каго кінуў? Здаецца, я проста перастала адказваць на званкі — а затое ты вельмі лёгка перастаў званіць! А вось цяпер ты вельмі хутка зразумееш, што ўсё перагарэла, што ад пачуццяў засталіся згадкі, што я табе чужая… І ты з’едзеш дадому, а я… А я… Што ты нарабіў, Рэймон Дэлярош, — ты з’едзеш, а я зразумею, што ты, аказваецца, быў мне самым дарагім чалавекам, і зруйнуеш у адначассе ўвесь мой свет, бо я меркавала, што здолею жыць без цябе…

Стоп, сказала я раптам і раптам вельмі лёгка сябе паслухалася. Стоп. Што ты вярзеш, вар’ятка? Якое там «зруйнуе ўвесь мой свет»? Як жыла, так і буду жыць, з Рэймонам або без Рэймона, мой лёс — гэта мой лёс, і ніхто мне яго не зруйнуе!

Я рэзка павярнулася да Рэймона. Ён падняўся насустрач мне.

— Навошта ты прыехаў?

Я заўважыла, што вусны ў яго задрыжэлі, але ён хутка авалодаў сабою.

— Можна… Можна, я скажу табе гэта не ў аўтобусе?

Упершыню за апошнюю вар’яцкую гадзіну я пачула такі рашучы ягоны тон.

Рэймон усё ж змяніўся. Ягонае імя пачынала патроху пасаваць яму. «Ён пасталеў, вось што!» — з вясёлым жахам адзначыла я, і Рэймон, нібы прачытаўшы мае думкі, усміхнуўся.

— Я так вырашыў. Ну, а цяпер ты вырашацьмеш…

— Мама, мама, амерыканцы! Глядзі, мама, сапраўдныя амерыканцы! — узрушана закрычала дзяўчынка гадоў пяці.

Увесь маленькі аўтобус нумар дваццаць восем нязлосна засмяяўся. Мы ехалі па мосце; снег усё падаў ды падаў.



# У ПОШУКУ НАТХНЕННЯ

***У** студэнцкім гарадку Белдзяржуніверсітэта — галоўнай ВНУ нашай краіны — літаратурна-музычная гасцёўня «Натхненне» існуе ўжо сем гадоў. Яе кіраўнік, мастацтвазнаўца Галіна Васільеўна Махаева, дапамагае таленавітым студэнтам рэалізаваць свае здольнасці ў літаратуры, музыцы, акцёрскім майстэрстве. Няважна, на якім факультэце творца вучыцца: філалагічным, фізічным, геаграфічным — галоўнае, каб малады чалавек хацеў паказаць свае неардынарныя здольнасці, падзяліцца багаццем сваёй душы з аднадумцамі, сябрамі, дазнацца шмат новага пра прывабны свет мастацтва ад старэйшых калег. У праграму працы літаратурна-музычнай гасцёўні пры інтэрнаце № 2 БДУ ўваходзіць не толькі асабістая работа са студэнтам, развіццё яго талентаў, але і наведванне культурных устаноў — тэатраў, музеяў, арганізацыя сустрэч з вядомымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі нашай краіны. Напрыклад, былі праведзеныя майстар-класы Нінэль Шчаснай, Ігара Дабралюбава, Аляксандра Яфрэмава, Барыса Луцэнкі, Леаніда Дранько-Майсюка. Дарэчы, супрацоўнікі ды аўтары часопіса «Маладосць» таксама завітвалі ў госці да «Натхнення».*

***Сябры гасцёўні прымаюць актыўны ўдзел у жыцці універсітэта, выступаюць на шматлікіх мерапрыемствах са сваімі вершамі, песнямі. Кацярына Мацяш, Вераніка Судас, Кацярына Слабко, Іван Жукаў, Віктар Кожан, Ірына Чыстабаева і многія-многія іншыя творцы шчыра дзякуюць літаратурна-музычнай гасцёўні і яе кіраўніку, Галіне Васільеўне, за тое, што ім удалося знайсці Натхненне. Сёння на старонках «Маладосці» — паэтычныя творы ўдзельнікаў аб’яднання пры студгарадку БДУ.***

**Віка ТРЭНАС**



**Марыя ПАЎЛОЎСКАЯ,**
***студэнтка III курса філалагічнага факультэта БДУ***

## МЫ ЕДЗЕМ

Едзем у цягніку.
То незвычайны цягнік.
Цягнік асаблівы.
Мінаем сур’ёзныя краявіды,
Сур’ёзныя твары прахожых.
Мы едзем.
Едзем у будучыню.
Змагаемся з часам
І нудным сядзеннем.
Мы разам пакуль,
Але нашы дарогі хутка,
Вельмі хутка,
Будуць рознымі,
Як і мы самі.
Дзіўна так:
Хтосьці побач спавядаецца
Незнаёмым,
Быццам айцам;
Нехта хоча дазнацца
Пра невядомы пакет:
Чый ён?
Хтосьці грае прыгожую мелодыю
На адзінай,
Адной-адзінай струне;
Мы едзем.

Едзем у будучыню.
Як добра,
Што нашы шляхі
Агульныя толькі цяпер.
А там —
Перасадка.
Станцыя за станцыяй.
Мы едзем.
Едзем у цягніку,
Імкнучыся да нейкіх мэтаў...
І як добра, што яны ў нас розныя,
Гэтыя мэты,
Бо не ведаю,
Ці маглі б мы трываць
Адно аднаго
У такім падарожжы...

* * *

Я не
сляпая.
Ты —
сляпы.
Я не
глухая.
Ты —
глухі.
Я не
дурная…
Ты —
дурны…
Я не
святая…
Ты —
святы…

## Я Ў ПОШУКУ

Я ў пошуку.
Вера. Бог і д’ябал.
— Дзе ты, Марыля?
— Я побач.
Я ў пошуку,
Нібы ў кошыку
Сярод груш і яблыкаў
Сліва.
— Я ў пошуку.
Любоў. Мужчыны і я.
— З кім ты, Марыя?
Побач Я.
— Дзе я? У пошуку...
Толькі для дотыку
Адчаю і мары.
Тут паміраю.
Божа, як цяжка! Быць у пошуку.
Бо ўсё адно
Прыйду да Цябе.



**Сяргей САМАХВАЛ,**
***студэнт III курса філалагічнага факультэта БДУ***

## ЖЫЦЦЁ

Жыццё? Якое яно?
Цяжкае? Невыноснае?
Пекла?
Ці лёгкае і простае?
Рай?
Прыходзім усе ў яго
Голыя. Што хочаш —
Сам апранай.

Што? Цела? Лепей душу.
Цела сатлее з адзеннем
У труне.
Душа жыве. Дзе? Вырашыць
Суд.
У пекле ці ў раі,
Залежыць ад таго,
Як жылі тут.

* * *

Я гатовы ўздымацца ў высокія горы,
Па пустэльнях гарачых
сасмяглым хадзіць,
Кіламетры праплыць
у хвалюючым моры...
Для чаго мне ўсё гэта?
Ды проста каб жыць!..



**Таццяна ТАМАШЭВІЧ,**
***студэнтка V курса Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ***

* * *

Я люблю цябе, Жыццё,
За Тваю пяшчоту.
Ты нябёсаў адкрыццё,
Крылы для палёту.
Ты шыкоўнай мальвы цвет,
Мёд ад пацалунку,
Божы, вечны запавет,
Ключ да паратунку;
Яблык спелы наліўны,
Бы Сусвету шчасце,
Дожджык спорны праліўны
І абдымкі маці.
О Жыццё, Ты прыгажэй
Сну любога з ночы.
Няма скарбу даражэй,
Чым любові вочы.

**БОЖЫ ХРАМ**

Мая душа ёсць Божы храм.
З бацькоўскага парога
Да светлых, зорных, чыстых брам
Ляжыць мая дарога.
Мая душа ёсць Божы свет,
І ў тым ёсць добры провід,
Які пакіне ў сэрцы след,
Прагненняў шчырых сповед.
Мая душа ёсць Божы цуд.
І гэта так прыгожа:
Спяваць хвалу, а не прысуд.
Так кожны думкай можа.
Мая душа — жыцця працяг,
І ў ёй жывая вера.
Ўздымае к небу Божы сцяг
Надзеі чыстай мера.
Мая душа — Твая любоў,
Хрыстос мой Бог і Творца,
Табе пяю я зноў і зноў,
Ты моцны абаронца.



**ЕХЕ КІМ УРГ,**
***студэнт IV курса фізічнага факультэта БДУ***

**НЕБА?**

Неба?
Няіснае неба.
У памяці толькі
празрыстасць аблокаў,
і гарачыя зоры
трымаюцца ў прасторы.

Неба не ёсць,
і тая атмасфера,
што паглынае зорнае святло,
вабіць, спакушае, хлусіць.

Жадаеш анёлам —
натхняйся паражнёй,
будзеш касманаўтам.

Імкнешся ў неба —
трапіш у прастору,
трапіш у пустэчу.

Я ведаю:
неба — сімвал,
але — няіснае неба.

**ЧАЛАВЕК**

Чалавек,
Патрэбны ты мне,
Як пятая нага
Ды стрэлы ў пятах,

Як ровара спіцы
У літых колах.

Ты — як тая Венера:
З падманам, але
Мусіш свяціць.
Бо што тое зорнае неба
Без зорак хлуслівых?

Закаханым без сэнсу
(Ці бывае інакш?),
Тым, што любяць здалёк
(Тыя не горш),
Нашто ім жыццё —
Без Чалавека?



**Ірына**
**ПРЫЧЫНЕЦ,**
***студэнтка III курса філалагічнага факультэта БДУ***

* * *

Ты міма каханай маўкліва праходзіш,
Шукаеш ўзаемнасці і не знаходзіш.
І сам ты сабе паўтараеш упарта:
Не варты яе я, яе я не варты!

Звысоку яна на цябе пазірае,
Агонь у душы тваёй іскрай палае,
А ты ўсё, як школьнік маленькі з-за парты,
Мяркуеш аб тым, што яе ты не варты…

У марах сваіх побач з ёю ты крочыш,
Ты ёй апантаны, ты быць з ёю хочаш.
Паводзіш сябе так, як быццам вар'ят ты,
Бо ўсё паўтараеш: яе я не варты!..

І сэрца тваё зразумець не жадае,
Яно безнадзейна, адчайна кахае,
Ды лёсу свайго ўсё ж адзін гаспадар ты,
І лепшай каханай дзяўчыны ты варты!..



**Ліда**
**НАЛІЎКА,**
***студэнтка III курса філалагічнага факультэта БДУ***

* * *

і ў вершах
проза жыцця
нідзе няма забыцця
ні ў чым няма забыцця
і ў вершах
проза жыцця

чаканне — няма такога
і, можа, няма нічога

затоіцца сэрца-нябога

нічога няма

нічога

* * *

Давай
дамовімся
дазволіць
адно
аднаму
адзіноту.

* * *

Губляю зрок.
Ўсе фарбы свету
здаюцца шэрай плямай мне.
Куды падзець самоту гэту?
Хіба яна сама міне…
Наступны крок
вядомы. Потым
усякіх думак чарада.
Губляю зрок.
Мяне ў абдоймы
бярэ людская грамада.

Маргарыта ПРОХАР

# ВОСЕНЬ У ВІЛЬНЮСЕ

***Аповесць***

«*Хутка восень.* Увосень мяне цягне ў Вільнюс. Я ўвесь час успамінаю пра гэтую гісторыю. Мусіць, я не змагу яе забыць ніколі, калі гэтулькі часу мінула, а я яе не магу забыць. Па сутнасці, маё жыццё — а толькі за яго я магу адказваць, — гэта шлях ад адной гісторыі да другой. Але калі астатнія з часам губляюць фарбы і пачуцці, паступова расплываюцца ў глыбіні памяці, то гэтая ніколі не пакідае мяне, калі зноў прыходзіць восень.

І я паддаюся ёй, я еду ў Вільнюс.

Гарады і гісторыі... гісторыі і гарады... гісторыі гарадоў у гісторыі майго жыцця, гісторыі людзей і мая гісторыя ў гісторыі гарадоў. Вось як я магу заблытаць, па сутнасці, пустымі словамі, гульнёй гэтых слоў. Можа, я гэта раблю таму, што мне цяжка пачаць свой аповед. Я губляюся перад гэтым белым аркушам паперы, на якім мне трэба вывесці такія словы, як каханне, надзея, сустрэча, адчай, жыццё і смерць. І для пачатку выводжу што прасцей. Проста Восень у Вільнюсе...»

Вось першыя словы, якія ўразілі мяне, калі я адкрыла гэты маленькі зялёны нататнік. Зрэшты, яны і зараз не пакідаюць мяне ў супакоі, гэтыя словы. І не толькі яны, але і ўсё тое, што адбылося з прыходам гэтай восені.

Спачатку, мусіць, варта растлумачыць, хто *я*. Гэта мае сэнс яшчэ і таму, што з гэтага пачалася і ўся гісторыя: і зялёны нататнік, і каханне шматлікіх людзей, і знаёмства з прадаўцом шчасця на старой вільнюскай вуліцы, і сам Вільнюс для мяне, і, нарэшце, — гэтая восень у Вільнюсе...

Такім чынам, — аб сабе, пра тое, чым жа я займаюся. Праўда, мая прафесія не меркавала ніякай рамантыкі, пакуль не з'явіўся хтосьці, хто ўбачыў у ёй свой сэнс. Наогул, я займаюся тым, што знаходжу згубленыя рэчы, згубленых котак і сабак. Гэта значыць, шукаю ўсё, што губляюць людзі. А губляюць яны бясконца. З аднаго боку, гэта дрэнна, з іншага боку, — гэта мой заробак. Так я зарабляю сабе на жыццё. Такая ў мяне праца. Часам — сумная, часам — смешная, часам шмат чаму вучыць мяне: бачыць дробязі, рабіць высновы са скупых фактаў і чужых слоў. І калі дарогу перабяжыць чорны кот, я, мусіць, буду адзіным чалавекам, хто ў гэты момант падумае: а можа, ён згубіўся?



*Маргарыта Прохар нарадзілася ў 1979 годзе ў г. п. Карэлічы Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру. Аўтар кніг «Набліжэнне», «Насустрач сонцу». Друкавалася ў часопісе «Маладосць», «Полымя», у «ЛіМе». Працуе старшым рэдактарам Беларускага радыё.*

Вось так я паступова падыходжу да таго дня. Гэта быў звычайны дзень пачатку восені. Дворнікі зграбалі лісце, яшчэ мокрае ад ранішняй расы. Іх граблі і лапаты стукалі па асфальце, нібы ігралі пахавальны марш апалай лістоце, і купкі жоўтага лісця былі падобныя да помнікаў восені. Адна з іх жаўцела ля дзвярэй маёй канторы. Звыкла скрыгатнуўшы ключом, я з другой спробы адкрыла дзверы ў цёмны калідор. Ну вось і мой кабінет. Наведвальнікаў у гэты час звычайна не бывае, але ўсё ж я прыходжу рана: а раптам? Або, можа быць, я прыдумала гэта для сябе, каб стварыць ілюзію справы — ранняя працоўная раніца, своечасова адчыненыя дзверы згодна з шыльдачкай на іх. Я ведала, што гэта ілюзія, але ўсё роўна прыходзіла сюды з раніцы. Хоць і зараз буду пакутаваць да абеду — чакаць і чытаць кнігу. Я ўжо дастала яе з шуфлядкі і адкрыла на ўчарашняй недачытанай старонцы, як раптам пачуліся крокі і ўвайшоў наведвальнік.

Мяне адразу ўразіў кантраст яго дарагой адзежы і таннага пацёртага дывана майго кабінета. Зрэшты, гэта ўсё роўна не падштурхнула б мяне на рамонт: я не лічыла, што такі занятак, як лоўля котак і сабак, патрабуе раскошных апартаментаў.

— Прысаджвайцеся, — я паказала яму на сціплы шэраг крэслаў каля сцяны.

Ён моўчкі ўзяў крэсла і перанёс яго бліжэй да майго стала.

Калі сказаць шчыра, я хацела, каб лавіна скаргаў і слёзных просьбаў аб дапамозе любімым чатырохногім сябрам даносілася да мяне здалёк, але ў гэтым выпадку мне прыйшлося скарыцца. Зрэшты, мой наведвальнік не быў настроены на істэрыку. Наадварот, яго пагляд, звернуты да мяне, быў халодны і сур’ёзны. Перада мной сядзеў дзелавы чалавек, забяспечаны, калі меркаваць па адзенні і — больш — па спакойным уладным паглядзе. На выгляд яму можна было даць гадоў сорак. Знешнасць нічым не прыкметная: кароткая стрыжка валасоў, якія пачалі сівець, крыху паўнаваты ў шчоках твар, нос з лёгкай, невыразнай гарбінкай. Але, калі глядзела на яго, у мяне ўзнікла падазрэнне, што ён не адчуваў сувязі паміж сваім абліччам і сабой унутраным. Гэта дзіўнае пачуццё. Яно ўзнікае пры поглядзе на людзей, якія чамусьці незадаволеныя сабой.

Так я разглядвала яго, пакуль ён даставаў нешта са сваёй папкі. Нарэшце ён падняў на мяне вочы. Ён глядзеў ва ўпор. Гэта было незвычайна: людзі часта не заўважаюць тых, каму плацяць за працу. Для іх яны — безаблічныя. Гэты глядзеў ва ўпор. Пагляд яго быў па-ранейшаму сур’ёзны і спакойны, але я зноў злавіла сябе на адчуванні, быццам на мяне глядзіць іншы — унутраны чалавек, чалавек далёкага мінулага.

— Такім чынам, вы нешта страцілі? — спытала я, перарваўшы гэты пагляд ва ўпор.

І ён, пачуўшы пытанне, раптам хутка апусціў вочы, быццам яго злавілі на чымсьці недазволеным. Прычым не гэтага дзелавога сур’ёзнага чалавека, а нейкага ўнутранага, далёкага.

— Так, — сабраўшыся з думкамі, сказаў ён. — Я хачу папрасіць вас знайсці адну дзяўчыну.

Зрэшты, нечага такога я ад яго і чакала.

— Але я не шукаю людзей. Мая прафесія — коткі, сабакі, партманеты, нарэшце.

Здавалася, ён не чуе мяне.

— Можа, у вас прапала котка? Або хамячок?

Ён усміхнуўся.

— Не. У мяне няма ні хамячка, ні коткі. А паколькі іх няма, яны не маглі прапасці. Таму давайце забудземся аб котках і хамячках.

Ён паклаў мне на стол грошы.

— Досыць на першыя выдаткі ў Вільнюсе?

— Дзе?!

— У Вільнюсе, — спакойна паўтарыў ён. — Вам трэба будзе паехаць у Вільнюс, каб знайсці гэтую дзяўчыну.

— Але я не расшукваю людзей... — я паспрабавала яму яшчэ раз гэта растлумачыць.

— А я і не прашу яе расшукаць… Проста знайдзіце і перадайце вось гэты зялёны нататнік.

Ён паклаў зялёны нататнік побач са стосам грошай, якога хапіла б на паўгадавы адпачынак у Іспаніі, не тое што ў Вільнюсе.

— Зараз я растлумачу вам некаторыя дэталі.

— Але ж я яшчэ не пагадзілася?

Падобна, мае словы здзівілі яго.

Ён паглядзеў на мяне — ацэньваючы, холадна. Цяпер гэта быў позірк толькі дзелавога чалавека. Кракадзіла, якому на зуб патрапіла мошка.

Я ўздыхнула і паглядзела на старыя фіранкі, на гадзіннік, які прабіў дзевяць раніцы, якую я магла б правесці і лепш, калі б не праца. І яшчэ... У гэтым мне было б цяжэй за ўсё прызнацца...

— Ну так што ж вы вырашылі? Вы едзеце?

— Так, еду, — сказала я і раптам адчула, што гэта адказала не я, а таксама — чалавек мінулага. Той чалавек з мінулага, які жыве ў кожным з нас, нябачны ў сучаснасці і штодзённым жыцці, які абуджаецца толькі з нашымі ўспамінамі.

Мужчына працягнуў мне фотаздымак. Гэта быў аматарскі здымак. Хлопцы і дзяўчаты, абняўшыся, стаялі паўколам і ўсміхаліся ў камеру. Сярод іх вылучалася адна. Яна была маленькая, менш за ўсіх, з доўгімі светлымі валасамі і незвычайна яркімі блакітнымі вачамі на хударлявым твары. Але і не гэта вылучала яе сярод усіх астатніх. Галоўнай была ўсмешка. Яе цяжка перадаць: нешта асаблівае ў лініі вуснаў, твару, вачэй. Здавалася, яна ўся выпраменьвала гэтую ўсмешку, якая і асвятляла фота.

— Гэта яна? — спытала *я*.

— Так.

— Вельмі прыгожая.

— Яна дзіўная, — раптам сказаў ён.

— Усе людзі чымсьці незвычайныя.

— Не, яна менавіта дзіўная. Вы пераканаецеся самі, калі знойдзеце яе. Яна — як птушка.

— Што ж, тады гэта сапраўды мая праца. Шукаць птушак. Шукаць котак.

Ён усміхнуўся, паціснуў плячыма і сышоў, трохі горбячыся, як усе людзі высокага росту.

Так я апынулася ў Вільнюсе, каб адшукаць гэтую дзіўную дзяўчыну — чыёсьці чужое каханне.

За што толькі людзі не плацяць грошы... Зрэшты, бывае і так, што, перабіраючы ў памяці сваё жыццё, раптам зразумееш, што важней за ўсё на свеце для цябе якаянебудзь старэнькая запальнічка, падораная дзесяць гадоў назад, — падораная яшчэ і зараз цёплай, любімай рукой...

Так разважаючы, я выйшла з платформы ў горад. Мусіць, гэтымі думкамі я імкнулася ўцячы ад таго, што можа зараз адбыцца ў маёй уласнай памяці, калі я ўбачу — так, зноў убачу гэты горад...

На імгненне я заплюшчыла вочы, рыхтуючыся да гэтай сустрэчы. Цікава, што змянілася тут за гэтыя некалькі гадоў? І ці гатовая я ўбачыць гэтыя змены?

Секунда, другая, трэцяя...

Што ж, як у дзяцінстве — на лік тры.

І я адкрыла вочы.

Не, нічога, нічога тут не змянілася, на гэтай старой прывакзальнай плошчы. Тыя ж бела-чырвоныя тралейбусы, прыпынак на тым жа месцы, тыя ж кіёскі стаяць, прыціснуўшыся да шэрых дамоў, і з тых жа самых дрэў сыплецца, зрываемае восеньскім ветрам, жоўтае лісце...

«Ну прывітанне, стары горад...» — у думках гавару *я*. Як усе, каго не пакідае надзея, што гарады, якія хоць на некалькі гадоў вызначылі твой лёс, памятаюць пра цябе. Можа, таму, што і мы таксама помнім іх.

Я паволі накіравалася па вузкай вуліцы, убок ад вакзала. Тут асабліва адчувалася восень. Яна спала на аранжавай траве высокага насыпу, за якім пачыналася чыгунка; спала, накрыўшыся лісцем, і, відаць, ёй было халаднавата, таму яна яшчэ і яшчэ накрывала сябе лісцем. І дрэвы шкадавалі сваю прыгажуню-восень — аддавалі ёй апошнія, самыя раскошныя ўборы.

Павярнуўшы ў дворык, я паднялася па каменных сходах на невялікі пагорак, з якіх, урэшце, і складаецца гэты стары горад.

Над шэрымі дамамі з чырвонымі дахамі ляцела жоўтае лісце. У гэтай карціне не было нічога асаблівага, але мне чамусьці стала раптам і журботна, і светла на сэрцы.

Міма, унізе, ішлі людзі. Яны не заўважалі мяне на вяршыні пагорка, чужога чалавека, які разглядаў іх горад, горад, у якім яны жывуць.

Некалькі гадоў назад я не магла б і падумаць, што калі-небудзь вярнуся сюды. І прыеду не для таго, каб успомніць мінулае, а каб адшукаць адну незнаёмую дзіўную дзяўчыну — чыёсьці каханне.

І, як бы гэта ні здавалася незвычайным, але гэта так і ёсць.

А раз так, мне варта засяліцца ў якую-небудзь гасцініцу і падумаць, як дзейнічаць далей.

Праз паўгадзіны я ўжо ўваходзіла ў вестыбюль гасцініцы «Караліна». Мой нумар быў на пятым паверсе. Адкрыўшы фіранкі, я зноў пабачыла Вільнюс — восеньскае неба над дамамі і — у лёгкай надвячэрняй смузе — востры шпіль тэлевізійнай вежы. Нібы шыя шэрага жураўля, яна прабівала прастору над горадам, цягнулася ўвысь, у далёкія глыбіні, куды не дастае пах восені — лісця, рудой травы і мокрых ад туману галінак, прапахлых дымам апошніх вогнішчаў...

Тады... Зрэшты, гэтая восень не павінна мець нічога агульнага з той, маёй восенню ў Вільнюсе. Зараз у мяне ёсць проста чужая восень, чужы зялёны нататнік і фотакартка чужой дзіўнаватай дзяўчыны, якую мне трэба знайсці.

— А калі я не змагу яе знайсці? — спытала я тады.

— Не, вы яе знойдзеце. Абавязкова знойдзеце, — цвёрда сказаў гэты мужчына.

— Чаму вы так упэўнены ўва мне? — здзівілася *я*.

Ён нічога не адказаў. Толькі моўчкі глядзеў на мяне — цвёрда і не міргаючы. І я не наважылася зноў задаць сваё пытанне.

І зараз мне трэба з чагосьці пачынаць.

І толькі я падумала пра гэта, як раздаўся тэлефонны званок.

— Добры вечар.

Я здрыганулася: гэта быў ён, мой работадаўца.

— Як вы мяне знайшлі?

— Не мае значэння. Нататнік пры вас?

— Так... Але ўсё ж, як вы мяне знайшлі?

— Не мае значэння. Адкрыйце нататнік. Апошняя старонка. Прачытайце і не сыходзьце з нумара. Я вам хутка патэлефаную. А каб было менш пытанняў, не адключайце свой мабільны.

Такім чынам, ён ізноў не адказаў. Падобна, ён робіць толькі тое, што яму трэба.

Я адкрыла апошнюю старонку.

«Мы мала дзе бывалі з ёй. Часам я запрашаў яе, але яна адмаўлялася. Часам тэлефанавала сама. Часам я проста ішоў туды, дзе яна магла быць. Проста паглядзець на яе. Яна не бачыла мяне, затое я мог ёю любавацца.

...кафэ. Яна бывала тут з сяброўкамі — пералётнымі птушкамі, як сама, аматаркамі павесяліцца і забыцца на наступны дзень пра гэтую сустрэчу. Момант — не больш. Яна такая — уся з момантаў.

...у старым горадзе ў вежы Гедымінаса. Калі ёй сумна, яна ўзбіраецца туды, на вышыню, адкуль бачны ўвесь горад. Узбіраецца на вежу і паліць, хоць гэта забаронена. Або таму, што гэта забаронена. Яна такая.

...кінатэатр «Forum Coca-cola Plaza». Яна любіць глядзець містычныя або прыгодніцкія фільмы. Мы глядзелі з ёй «Ключ». Яна ўчапілася ў падлакотнік крэсла: было страшна. Але ёй гэта часам таксама трэба — спалохацца, каб лягчэй жыць у рэальнасці. Так яна гаварыла. Яна такая.

...у піцэрыі ў «Forume». Любіла заказваць не піцу, а рассыпісты пірог і кактэйль з малінай. Але піцу яна таксама любіць. І вельмі. Часам днямі толькі ёй і сілкуецца. А ў «Forume» яе не заказвае, хоць там выдатная піца. Чаму не заказвае — не ведаю. Яна мне не адказала. Яна такая.

...любіць хадзіць у модныя крамы, любіць выбіраць, хоць і няма грошай. Я хацеў ёй купіць у падарунак, але яна мне гэта забараніла. Вось і такая яна.

...кнігарня. Блукае ля паліц з кнігамі, але купляе толькі вясёлыя паштоўкі. Гаворыць: дома кнігі навяваюць сум, а вось паштоўкі — наадварот. Ад іх сцены становяцца пярэстымі і вясёлымі. Так яна лічыць.

...клуб. Усе імкнуліся зрабіць ёй нешта добрае. Яна ўзнагароджвала іх смешнымі і запальнымі танцамі. Яна любіла танчыць і ў танцы нібы забывала ўсё — сябе, жыццё вакол. Яна апыналася ў свеце рухаў, аддаючы гэтаму свету ўсю сябе. Можа быць, яна любіла танчыць менавіта таму. Таму, што ў танцы ў яе атрымоўвалася ўцячы ад усяго. Мне здаецца, яна свядома спрабавала ўцячы ад чагосьці вельмі скрушнага ўнутры сябе, што не давала ёй супакою...»

Я прачытала і задумалася. Так, яна няпростая, або жыве толькі ёй зразумелым жыццём, і абрала яна гэтае жыццё па толькі ёй вядомых прычынах.

Зазваніў тэлефон.

— Гэта вы? — зрэшты, можна было не ўдакладняць.

— Так. Вы прачыталі?

— Прачытала.

— Добра. Заўтра адпраўляйцеся ў «Forum».

І ён паклаў трубку, нічога не растлумачыў. Падобна, ён памкнуўся мной кіраваць. Зрэшты, мне было ўжо ўсё роўна. Я раптам адчула, што стамілася: ад сваіх успамінаў, ад дарэмных здагадак.

Раніцай я была ў «Forume».

І толькі я ўвайшла туды, як зазваніў мой тэлефон.

— Я на месцы.

— У вас сумны голас.

Я прамаўчала.

— Добра. Не буду стамляць непатрэбнымі гутаркамі. Вы ўзялі квіток?

— Так. Да сеанса паўгадзіны.

— Ідзіце ў піцэрыю.

— Я магу пачакаць і на вуліцы.

— Не, ідзіце ў піцэрыю.

— Гэта так важна?

— Так, гэта важна. А чаму вы не жадаеце ісці туды?

Што я магла яму адказаць? У кожнага свае ўспаміны. Дзіўна толькі тое, што

месцы нашых сустрэч супалі. Але не думаю, што аб гэтым яму было б цікава даведацца.

...Тады таксама быў дзённы сеанс. І таксама прыйшлося чакаць, калі ён пачнецца. Чакаць у піцэрыі... Вось нават той столік з прыгожымі плюшавымі канапамі вольны.

— Я ўжо ў піцэрыі. Я заказала пірог і муса кактэйль з малінай. Я адгадала, я зрабіла так, як вы хацелі?

— Так.

Праз пяць хвілін прынеслі мой заказ. Я дастала фотаздымак.

— Гэтая дзяўчына з'яўлялася ў вас?

— Не, я яе не бачыла, — адказала маладзенькая афіцыянтка.

— Прабачце, вы не маглі б паказаць гэты здымак іншым супрацоўнікам? Можа быць, хтосьці пазнае яе? — папрасіла *я*.

— Вы з паліцыі?

Я ўсміхнулася.

— Няўжо я падобная да паліцыянта? Не, я не з паліцыі. Проста гэтую дзяўчыну шукае сябар. Яны доўгі час не бачыліся, але аднойчы абедалі тут.

— Добра, — афіцыянтка ўзяла фотаздымак і раптам, ужо сыходзячы, яшчэ раз кінуўшы на мяне пагляд, сказала: — А вось вас я добра памятаю. Год назад я абслугоўвала столік побач: прынесла піцу і кактэйль аднаму маладому чалавеку, але раптам на яго столік скокнула нечая сабака, перакуліла кактэйль, сапсавала столік. Вы мне дапамаглі: дазволілі «пацярпеламу» прысесці за ваш стол.

...Так, гэта было. Так мы пазнаёміліся.

Успаміны абрынуліся на мяне і закруцілі, нібы ў восеньскай каруселі, дзе блыталася ўсё — словы і лісце...

...— Дазвольце, я перасяду да вас? Мне ўсяго толькі дзесяць хвілін пачакаць да сеанса. — Жэст прабачэння, трохі дзіцячы. І ўсмешка. Усмешка ўпэўненая. Гэтае разбурэнне гармоніі прыцягнула мяне.

— Мне таксама дзесяць хвілін. Садзіцеся.

— І вы на гэты фільм? — ён назваў яго.

— Так.

Мы разам глядзелі гэты фільм. Потым разам сышлі з залы, потым чакалі таксі.

...bet kuria valanda
bet kurioie vietoie
bet kas iš mušu
bet kuria kaina...

— Я не ведаю літоўскай мовы, але гучыць хараша. Вашы вершы?

Ён раптам засмяяўся.

— А вы падумалі, гэта вершы па-літоўску? Не.

— А што ж гэта?

— Гэта граматыка. Займеннік «любы». І яго формы. Вось як гэта перакладаецца:

...у любую гадзіну
у любым месцы
любы з нас
любой цаною.

Хоць, сапраўды, нават у перакладзе атрымліваюцца нейкія вершы. Дзіўныя вершы... Справа ў тым, што я часам люблю чытаць слоўнікі. І вось, калі няма чаго рабіць, мармычу дзіўныя рэчы адтуль. Гэта мая жудасная звычка. Але вы адзіны чалавек, хто прыняў гэта за вершы.

...Зараз я ўспамінаю гэта ўсё, зноў з'явіўшыся тут. Толькі нікога няма за суседнім столікам. Пустыя чырвоныя плюшавыя канапы, а ў шкляной попельніцы самотна адлюстроўваецца рознакаляровая столь...

Каля мяне зноў з’яўляецца фотаздымак. Гэта вярнулася афіцыянтка.

— Дзяўчына бывала ў нас, але вось ужо больш за год ніхто яе тут не бачыў.

— Дзякуй.

Ну вось, першая няўдача... Чаму ж гэта мяне не хвалюе?

Мяне ахапляе дзіўнае здранцвенне. Быццам у сне, я гляджу на гадзіннік і заўважаю: час ісці, хутка фільм. І гэтак жа сонна прабіраюся паміж столікамі да выхаду, пакуль адна фраза не трапляе ў маё сэрца, нібыта смяротная страла:

— Я не магу яе пакінуць. Я ведаю, што яна не падыходзіць мне, але я не магу яе пакінуць...

Я абарочваюся і бачу, што праходжу міма століка, дзе сядзяць хлопец і дзяўчына. Ён сказаў гэтую фразу, потым апусціў галаву і амаль прашаптаў: «Я такі чалавек, што не магу зрабіць балюча... Я не магу яе не кахаць… Чаму — не ведаю. Кажуць, што ёсць каханне на ўсё жыццё: ты можаш быць з кім заўгодна, але разумець, што ў тваім жыцці толькі адно каханне. І толькі яно пройдзе з табой праз гады. Будзе з табой у любы час і дзе і з кім бы ты ні быў... Прабач мяне».

З гэтымі словамі ён падняўся з-за стала і прайшоў міма мяне да выхаду, да дзвярэй, ледзь прыкметных у рознакаляровых сценах. Я паглядзела яму ўслед, і раптам, нібы іронія, разбегліся, разляцеліся на аскепкі ў маіх вачах рознакаляровыя блікі, каб стаць словамі:

...bet kuria valanda
bet kurioie vietoie
bet kaš is mušu
bet kuria kaina...

Любы з нас... Гэта значыць: сёння ты, а заўтра — хтосьці іншы. Вось яна, вечная плынь жыцця. Ёй усё роўна, хто. Любы. Любы працягне яе і атрымае тыя ж сустрэчы, у той жа вечар або дзень, у тым жа горадзе і будзе жыць і кахаць па сваіх правілах — светла ці жорстка, выпадкова ці назаўжды. Любы з нас... Можна сумаваць, можна ўсміхацца рознакаляровым водбліскам на сценах...

Пра гэта я думала ў амаль пустой кіназале, калі глядзела фільм. Дакладней, сачыла, як змяняюцца кадры. Я не глядзела фільм — можа быць, гэта быў мой маленькі знак пратэсту.

Але ён усё роўна патэлефанаваў мне — роўна праз паўтары гадзіны, калі я выходзіла з «Foruma».

— Што яшчэ? — спытала *я*.

— На сёння ўсё. Да заўтра.

Гэтага я не чакала. Падобна, ён не імкнуўся перагружаць мяне працай.

Я азірнулася. Восень ціха плыла над Вільнюсам. А я проста бязмэтна ішла па адной з яго вуліц.

...Будынкі, высокія і шэрыя, сыходзяць у неба, зацяняюць вузкія вулачкі, а ў спалучэнні з вельмі рэдкім золатам восені выглядаюць маркотна і халодна, прапускаючы праз сябе транспарт унізе. Дахі гэтых высокіх старых будынкаў нібы глядзяць на бела-чырвоныя тралейбусы і людзей.

Зрэшты, ёсць і новыя будынкі — са шкла. У іх няма старадаўніх чырвоных дахаў, і гэта мне чамусьці не падабаецца. Яны выразныя і моцна прыгожыя сучаснасцю. Яны быццам крадуць у старых будынкаў рэшткі маладосці, яшчэ раз разам з восенню залішне падкрэсліваючы холад старасці.

Не, я не супраць восені ў старым горадзе. Можа быць, я занадта шмат заўважаю не таго, што трэба. Я ж так даўно тут не была.

Не, мабыць, восень натуральная для старога горада. Лісце пад нагамі, у паветры, усюды жоўтае лісце і камяні.

Сухая восень. Асабліва яна адчуваецца ў завулках, арках і дварах, дзе не паспяваюць вымятаць лісце, выганяць восень — самотную сяброўку старога шэрага камення.

Але не ўсё так маркотна.

Таму што яшчэ ёсць сонца. Яно асабліва ласкавае да гэтага горада, нібы просіць прабачэння, што хутка будзе радзей паказвацца ў гэтых паўночных мясцінах.

І мне раптам зноў захацелася ўбачыць яго — прадаўца шчасця, быццам ён мог знікнуць з апошнімі кроплямі восеньскага сонца.

Год назад пасля фільма і нашага выпадковага знаёмства мы так і не дачакаліся таксі, а адправіліся блукаць па старым горадзе. Там мы і сустрэлі яго — на адной з вузенькіх вулачак, якія сыходзяць да парку.

...Дзесяць літаў за паветраны шар шчасця! Дарослыя і дзеці, самотныя і смешныя, маленькія і высокія, рудыя, лысыя, разумныя, тоўстыя, смелыя, чорныя, белыя!.. Паветраны шар шчасця! Адправімся за шчасцем?..

— Адправімся за шчасцем? — пераглянуліся мы і купілі шар. Адзін на дваіх. Бо шчасце можа быць толькі адно на дваіх...

Цікава, ці сустрэну я цяпер прадаўца шчасця?

Для гэтага мне трэба прайсці праз стары горад.

Стары горад — серпанцін вузкіх вулачак з рознакаляровымі дамамі. Восень — толькі ўверсе на рэдкіх дрэвах.

На Totorio няма ніводнага жоўтага лістка — толькі будынкі ў вузкай вулачцы з кветкамі на маленькіх балкончыках, усё прыбрана, нібы няма часу.

І вось знаёмая вулачка. Я агледзелася: там, каля гэтага кафэ ён стаяў. Але не, сёння тут яго не было. І мне раптам стала сумна. Я ўспомніла, як дома кожную раніцу лавіла на руку падаючыя жоўтыя лісты — на шчасце. Бо ў мяне больш не было паветранага шара старога прадаўца шчасця, і я прыдумала сваю традыцыю. І ўсё ж я верыла, што я яго яшчэ сустрэну.

Але, відаць, не сёння...

І вось я зноў бязмэтна блукаю па старым горадзе.

Аркі — нізкія, каменныя, за імі — абшарпаныя будыначкі, нейкі посуд на драўляных лаўках, а побач — звычайныя кветнікі ў восеньскіх колерах. Хто б мог падумаць, што варта зрабіць крок углыб парадна прыбраных вулачак старога горада — і ты ўбачыш зусім іншы свет.

А наогул, стары горад — кавалак пражскага торта, маленькая Прага.

Калі стамляешся блукаць сярод яго рознакаляровага камення, можна выйсці ў парк, дзе сыплюцца на галаву каштаны і мяце легкадумны лістапад. Узнікае адчуванне: калі доўга стаяць не рухаючыся — цябе засыпле лістотай. Шпокаюць, разбіваючыся аб здрадліва схаваныя лістотай асфальтавыя дарожкі, каштаны: ім не дацягнуць да зямлі, дзе яны маглі б прарасці ўвесну.

Восень, восень шуміць у парку лістападам у сонцы.

Насустрач ідуць хлопец і дзяўчына. Яны трымаюцца за рукі, а на іх сыплецца лістапад. І яны шчаслівыя.

І ўсюды восень, восень. Восень — халодная прыгажуня сярод даўніны.

Я саджуся за столік у кафэ і адкрываю зялёны нататнік. Не ведаю, навошта я гэта раблю: чужы нататнік не заменіць прадаўца шчасця. Я разумею гэта, але ўжо адхінаю наўздагад старонку, розумам апраўдваюся, што мне трэба зразумець гэтага чалавека:

«Часам я іду па вуліцы чужога горада, бачу цікавы будынак і лаўлю сябе на думцы, што пытаю ў цябе: «Спадабалася?» Пытаю, нібы ты ідзеш побач. І я ўжо даўно не перапыняю сябе: цябе няма са мной, цябе няма... Хутчэй, я проста закрываю вочы на тое, што цябе няма. Нават дапускаю, што ты ёсць, проста я цябе не бачу

або ты на крок адстаеш ад мяне, ідзеш павольней, дзесьці там, за спінай. Так табе зручней, а я не настойваю. Галоўнае — каб ты ішла побач: навошта нам спрачацца па дробязях? Ідзі так, як жадаеш. Толькі ідзі са мной.

Мне так цёпла, так хороша думаць, што ты са мной і што я магу ў цябе спытаць, убачыўшы цікавы будынак у чужым горадзе: «Спадабалася?» І не думаць, што гавару гэта ў нікуды.

Зараз я разумею, за што люблю чужыя гарады. Яны дазваляюць вось так думаць — вольна, як птушка. У горадзе, у якім доўга жывеш, не можаш настолькі разняволіць свядомасць і хадзіць па вуліцах з чалавекам, якога ўжо няма з табой. То звыклыя будынкі, то знаёмыя людзі нібы працверажаюць цябе, быццам халодны душ, вяртаюць у суровую рэальнасць: нібы крычаць табе ў твар: яе няма! Яе няма... Рэха гэтых слоў здольнае разарваць сэрца.

А чужыя гарады халодныя, але вольныя для тваіх фантазій. Яны нібы з абыякавасцю кажуць: заходзь, паглядзі, палюбуйся, пафантазіруй і блукай з кім жадаеш. Тут шмат ходзіць чужых людзей. Ім няма справы да тваіх фантазій. Ім усё роўна, з кім ты ідзеш: адзін, з ценем мінулага, з марай будучыні. Яны мудрыя, гэтыя чужыя для цябе гарады з чарадой незнаёмых і такіх розных вулачак — задуменна-ціхіх драўляных, а потым раптам цагляных дамоў, напышлівых вышынёй, каламбурам і вэрхалам платоў і агароджаў; старадаўнія і новыя, з якіх выходзяць людзі і якія зноў паглынае гэты канвеер вулачак, але ўжо іншых... Ці не — у чымсьці падобных.

Людзі... Я гляджу на іх твары, пакуль яны не расплываюцца, не сыходзяць... Шчаслівыя яны ці не? Разумныя? Сумуюць або смяюцца па вечарах?.. Я ведаю, што не знайду дакладнага адказу, але гляджу. Ізноў гляджу і спрабую, спрабую адгадаць...»

І я не вытрымала гэтых радкоў, гэтых самотных думак, якія плачуць на белых старонках. Я паволі пайшла па горадзе, і ногі самі неслі мяне ў тую вузкую вулачку са старым брукам. Было вельмі балюча думаць, і я ішла і толькі глядзела, глядзела…

…Паміж старымі камянямі — восень, гэта значыць яе заціснутыя ў запясцях рукі — жоўтае лісце. Хоць у гэтым няма сэнсу, але хочацца іх вызваліць.

…Панадворкі — ціхія стомленыя аазісы звонкай вячэрняй цішыні і восені. Аблупленыя фарбы на старых будынках і рэха арак. А так гэта еўрапейскі горад з маляўнічымі вітрынамі і шыльдамі рэстаранаў і дарагіх крам. Звычайны старадаўні горад, які гандлюе сабой, дакладней, сваёй даўнінай, рэшткамі сваёй старажытнасці.

…Восень, як сто, дзвесце, трыста гадоў назад, для гэтых сцен не ўяўляе нічога новага, але не для мяне.

Лісце ляціць над старым Вільнюсам. Я стаю ў панадворку, звычайным ціхім панадворку, куды ледзь далятае шум вуліцы.

Бабулька — я гэта бачу — назірае за мной. А я ўсё ніяк не магу сысці.

— Kas jus laukti? (Кагосьці чакаеце?) — пытае яна.

Сапраўды, каго і што я чакаю ў гэтым замеценым восенню панадворку?

Адзінае, што я магу сказаць:

— Успаміны.

Яна мудрая, разумее, ківае галавой. Ёй гэта знаёма, а журботны пагляд не таму, што яе трывожаць успаміны. Не. Яна з імі звыклася, таму што зразумела: яна ўжо пражыла жыццё. Яна сумуе, гледзячы на мяне, шкадуючы маю маладосць, і таму я сыходжу.

Я шукаю чужое каханне, а ўспамінаю сваё. Можа быць, мне ўсё ж не трэба было згаджацца ехаць сюды, ды яшчэ ўвосень. А можа быць, таму я і пагадзілася — менавіта сюды і ўвосень.

...Гэта было даўно. Але я так думала, калі далёка. А калі я тут, зараз, стаю ў

гэтым панадворку сярод сонечна-жоўтай вільнюскай восені, мне здаецца: нічога не заканчвалася. Зараз адчыніцца акно, і знаёмы голас крыкне:

— Polauke! (Пачакай!)

І я чакаю. Гляджу на старыя зялёна-жоўтыя дрэвы, на кветнічак ля аркі, праз якую бачна, як праязджаюць тралейбусы; уверх на кроны высокіх клёнаў, на старыя вежы замка ўдалечыні ў сонцы; уніз — на сухі дыван лісця ў агароджы суседняга — жоўтага, як восень, — дома. Стаю і чакаю, хоць чакаць мне няма чаго. Але мне не сумна, мне дзіўна цёпла: гэта было... І гэта засталося — у светлай, як восень, памяці...

Выявы прыходзяць і сыходзяць. Жыццё застаецца. Прымай не прымай — яно застаецца такім, якое ёсць, а не якім яго жадаем бачыць мы…

Я сумую, мне балюча, і ўсё ж я разумею, што ніколі не вярнуся і не вярну тое, што страчана назаўжды. А гэты чалавек жадае вярнуцца. І я павінна яму ў гэтым дапамагчы. І зараз, у гэтым маленькім панадворку ўспамінаў, мне раптам стала шкада яго, майго моцнага работадаўцы. Мне ўпершыню стала шкада яго, і ўпершыню я сапраўды задумалася, што ж мне зрабіць, каб дапамагчы яму.

Лёгкі жоўты лісток, сарваўшыся з галінкі, даверліва ўпаў мне на руку, і яго цёплае святло быццам азарыла і мяне.

Я прайду па гэтых мясцінах, я паспрабую стаць ёю, я сыграю яе, і ў выніку я зразумею яе, а значыць, змагу зразумець і тое, дзе ж яна можа быць. Для гэтага мне прыйдзецца самой прачытаць гэты зялёны нататнік, перайсці мяжу прыстойнасці і даверу. Аднак калі я хачу сыграць яе — мне трэба гэта зрабіць…

Я вярнулася ў парк, прысела на лаўку і пачала чытаць.

«Спачатку — бессань, а потым страшная стомленасць пачалі адольваць мяне. Днём яшчэ было нічога, а вось да ночы паднімалася тэмпература. Я ляжаў і спрабаваў заснуць, але нічога не атрымлівалася. Не дапамагалі і таблеткі. Галава гудзела, цела станавілася ватовым, я ляжаў і глядзеў у акно на хутка цямнеючае зімовае неба ў бездапаможных водблісках ліхтароў. Я саслабеў і быў ні на што не прыдатны. І нават асцерагаўся, што псіхіка мая парушана…

І тады з'явілася гэтая ідэя напісаць пра яе — усё пра яе, усё, што я памятаў. Мне так было лягчэй, а яшчэ, мусіць, я вельмі хацеў, каб яна не сыходзіла ад мяне. Таму што я ведаў: такой, як яна, больш няма ў гэтым вялікім і вар'яцкім свеце. І калі яна знікне з маіх думак, я звалюся ў пустэчу — цёмны і страшны калодзеж адзіноты і адчаю. Я звалюся туды і тады памру ўнутры, стану хадзячым трупам.

Так я пачаў збіраць свае ўспаміны. Можа, гэта выратавала мяне ад хваробы або ўтрапёнасці…

Такім чынам, я сустрэў яе тады, калі яна яшчэ не ведала ўсёй улады сваёй прыгажосці, дадзенай ёй прыродай.

Гэта адбылося, як я цяпер разумею, даволі звычайна: папулярны рэстаранчык на ўскраіне Вільнюса. Сябры жадалі паказаць мне каларыт краіны: мясцовыя стравы, танцы, песні. Я прыехаў у камандзіроўку, звычайны рэпарцёр — не без некаторай славы, але і без пачатковага рамантызму. Я паспеў пастарэць душой, што сведчыць аб некаторым стажы ў гэтай працы. Не, я не стаў чэрствым, хутчэй папоўніў шэрагі самых няшчасных рамантыкаў гэтага свету. Журналісты здаюцца чэрствымі, але на самай справе яны не такія: яны мараць і адчуваюць, можа, нават глыбей, чым усе, таму што ведаюць жыццё, а значыць, ведаюць, што нашы мары нязбытныя. Або — будзем літасцівей — лічаць, што ёсць адзін-два шанцы на тысячу, што мары спраўджваюцца. У парадку выключэння.

Праўда аб жыцці не праходзіць бясследна. Але ўсе ж мы горача жадаем хаця б выключэнняў, таму што ведаем: менавіта яны, гэтыя выключэнні, выратуюць свет і не дадуць яму памерці.

Магчыма, са мной здарылася нешта падобнае — нешта з гэтых выключэнняў.

Зрэшты, нішто гэтаму не спрыяла: я нудзіўся, ветліва ківаючы галавой і ўсміхаючыся сваім спадарожнікам, якія намагаліся дагадзіць мне. Толькі мне ўсё гэта было чужым: песні, танцы, гутаркі за спінай на чужой мове.

Усё спляталася ў рознакаляровыя яркія малюначкі, і можна было сказаць, што мы проста весела забівалі час. А можа, я тады ўнутры чакаў… Не ведаю. Шкада, што я не памятаю да таго моманту, калі да нас прыскокнула гэтая дзіўная кампанія — некалькі дзяўчат і амаль ушчэнт п'яны хлопец.

— Колькі мужчын нудзяцца адны!.. Ай-я-яй! — весела зашчабятала пухленькая брунетка.

Самы галоўны з дэлегацыі адразу ж ускочыў.

— Дзяўчаты, пакіньце нас у спакоі! Гэта журналіст з іншай краіны. Ганаровы госць, што ён падумае! — і яшчэ дадаў па-літоўску. Нешта не вельмі прыемнае.

Зрэшты, я таксама не прэч быў ад іх адвязацца, але, вядома, больш ветліва. Я азірнуўся і раптам убачыў яе. Не ведаю, што на мяне найшло: мы глядзелі адно на аднаго, а можа, гэта толькі я глядзеў…

Раптам, нечакана нават для сябе, я падхапіў яе і закружыў у танцы.

— Адпусці мяне! — яна ірванулася ад мяне прэч, але я дужа трымаў яе.

— Адпусці мяне! — паўтарыла яна, і голас у яе быў хрыплаваты, з акцэнтам. — Там дзве дзяўчыны, ідзі да іх.

— Я табе не спадабаўся?

— Не ведаю.

— Тады чаму?

— А я занятая.

— З гэтым п'яным хлопцам? — я пагардліва ўсміхнуўся. — Ён нават не зможа цябе дадому праводзіць, не тое што танчыць. Хутчэй, табе прыйдзецца цягнуць яго з рэстарана.

І тут я злавіў яе пагляд — цвёрды, моцны, нават фанатычны пагляд, і мая ўсмешка чамусьці знікла.

— Не турбуйся, ён возьме таксі.

Але я не здаваўся.

— Гэй, ты возьмеш таксі? — крыкнуў я хлопцу.

Ён паглядзеў на мяне п'янымі, нейкімі бездапаможнымі вачыма.

— Не, у мяне няма грошай…

— А як жа твая дама? Зараз жа позна.

— Дама?.. Якая дама?.. А… Дабярэцца. На таксі не дам грошай.

— А ты не джэнтльмен! — з'едліва сказаў я і, звярнуўшыся да яе, прамовіў: — Ён не жадае даць табе грошай на таксі. Вось тып!

— Тады ты дасі мне грошай! — упэўнена сказала яна і паглядзела мне ў вочы. — Ты ж дасі мне грошай?

І я пад гэтым паглядам, нібы дрэсіраваны ўдаў, палез у кішэнь і дастаў кашалёк. Яна не зводзіла з мяне засяроджанага погляду, быццам я сапраўды быў ёй нешта павінен і яна сачыла, каб я яе не абдурыў.

— Годзе?..

— Годзе, — упэўнена сказала яна і нядбайна кінула купюры ў сваю мініяцюрную сумачку.

А потым махнула рукой хлопцу:

— Кяйстус, пайшлі!..

Але ён не рухаўся. Тады яна сама падышла да яго, падцягнула, каб ён стаў на ногі, і так павяла да выхаду. А я назіраў за гэтым усім, як дурань. Ля дзвярэй яна абярнулася ў мой бок:

— Арэвуар, джэнтльмен! — паслала мне лёгкі паветраны пацалунак і знікла.

Не ведаю, што гэта было, — падзяка або насмешка.

Здаецца, у той вечар я моцна напіўся.

А вось раніцай, наглытаўшыся аспірыну, кінуўся тэлефанаваць у агенцтва таксі. Я знайшоў яе, заплаціўшы таксісту кругленькую суму.

Знайшоў і стаў назіраць за ёй. Неўзабаве я вывучыў яе нескладаны распарадак: раней пяці вечара яна не з'яўлялася на вуліцы. Я часам крочыў услед за ёй. Часцяком яна спынялася каля вельмі смешнага дзядка — прадаўца шчасця — і купляла ў яго яркія шары або пра штосьці гаварыла, а часам і смяялася разам з ім.

Нарэшце я наважыўся — спыніў яе недалёка ад парку.

Яна пазнала мяне. Нахмурыла бровы і строга спытала:

— Што ты хочаш?

Я збянтэжыўся, не ведаў, з чаго пачаць — з праўды або хлусні.

— Ну?

Яна не давала мне падумаць.

— Усяго толькі хачу папрасіць у цябе прабачэння, што… — я адчуў: пачынаю мямліць. Раней за мною такога не назіралася.

— Прабачэння… — яна ўсміхнулася. — Ты вельмі ветлівы. Ведаеш, усе ветлівыя такія сумныя.

Я разгубіўся ад гэтых слоў. А вось яна спакойна глядзела на мяне.

Вочы ў яе былі прыгожыя, ясныя і строгія.

— Так ты хацеў папрасіць прабачэння?

— Т-так…

— Так прасі. Ну што ты стаіш, як балван! Прасі! — яна ўсміхнулася.

— Прабач, што быў няветлівы.

— Усё?

— Наогул-то я хацеў пазнаёміцца. Як вас завуць?

Яе звалі Эстэль. Бацькі прыдумалі ёй зусім французскае імя. Яна дала мне свой нумар тэлефона — лёгка і проста. Я, акрылены, тэлефанаваў, але вось толькі ніхто не падыходзіў да тэлефона. Без усякай надзеі я патэлефанаваў у апошні раз — перад ад'ездам. І яна падняла трубку. Я сказаў, што з'язджаю, мая камандзіроўка скончылася.

— А калі ты з'язджаеш?

— Праз гадзіну.

— Я прыеду цябе праводзіць, — сур'ёзна заявіла яна.

Гэтага я не чакаў. Не схлушу, калі скажу, што мне было прыемна. Слабы агеньчык надзеі загарэўся ў маёй душы.

І яна прыехала на вакзал — за дзесяць хвілін да адпраўлення майго цягніка. Прыехала, як абяцала.

— Цябе не было ў горадзе? — асцярожна спытаў *я*. — Ніхто не падыходзіў да тэлефона. Мне так хацелася пагаварыць з табой. Мне было вельмі цяжка без цябе.

— Ты думаеш, усім лёгка? Усім цяжка. І мне, — позірк яе раптам стаў далёкім і бляклым, нібы хтосьці ў цемры загасіў апошнюю лямпу.

— Прабач, я нешта не тое сказаў. Дзякуй, што прыйшла мяне праводзіць.

— Калі ласка, — яна пацiснула плячамі.

Я не ведаў, пра што яшчэ з ёй размаўляць. Бездапаможна аглядаючыся вакол, я ўздыхнуў і сказаў банальнасць:

— Восень прыйшла.

— Так, — яна адвяла светлую пасмачку валасоў ад твару, і ён стаў адкрытым і светлым. — Восень… — чамусьці паўтарыла яна. — Восень у Вільнюсе заўсёды прыгожая…

…Вярнуўшыся дадому, я сустрэў дзяўчыну, з-за якой гэтулькі пакутаваў да гэтай маёй паездкі ў Вільнюс. Яна хацела працягваць нашы адносіны. Раней, мусіць, я быў бы на сёмым небе ад шчасця.

— Ты? — здзіўлена-радасна спытала яна, сустрэўшы мяне.

— Я, як бачыш.

— Ты не адказваў на мае званкі!

— Быў заняты.

— Раней ты ніколі не быў заняты, калі я тэлефанавала, — крыўда адчулася ў яе голасе.

— Раней…

Цяпер жа яна здавалася мне нейкай безгустоўнай, нібы мяса без солі або кава без цукру.

Проста я яе ўжо не кахаў.

Я, мусіць, вельмі жорсткі, калі так мог падумаць пра яе.

Але тады я не думаў пра гэта. Кожны перапынак я званіў у Вільнюс. Памятаю як цяпер: дождж стукае ў акно кабінкі, а я крычу ў тэлефон:

— *Эстэль*, ты чуеш мяне? *Эстэль*!..

Яна павінна быць у гэты час дома. Ну вось, нарэшце!..

— Так. Што ў цябе здарылася, чаму ты тэлефануеш?

— Нічога не здарылася. Проста хацеў пачуць твой голас.

— Пачуў?

— Так.

У яе ледзь хрыплаваты, але па-дзіцячаму чароўны голас. Можа, з-за акцэнту. Я і зараз уздрыгваю, калі чую такі голас.

— Так, яшчэ… Я прыеду ў пачатку кастрычніка ў Вільнюс.

— Навошта?

— Паглядзець на восень. Яна заўсёды такая прыгожая ў Вільнюсе. Так яна там не скончылася?

— Не. Лісце падае і падае, падае і падае… — яна ўздыхнула.

І я зноў прыехаў у Вільнюс. Я прывёз ёй кнігу сваіх нарысаў. Хоць цяпер разумею, што наўрад ці яе маглі цікавіць мае нарысы. Але да самой кнігі ў цвёрдай вокладцы з мноствам старонак яна паставілася паважліва.

— А ты знакаміты, — сказала яна нават з некаторым гонарам. — Ніколі яшчэ не знаёмілася з вядомымі людзьмі.

Гэта былі нашы самыя мірныя дні.

Мы чакалі сеанса ў «Forume». І яна папрасіла пірог з малінай.

Глядзелі фільм «Ключ» — даволі страшны, містычны фільм, так што яна спалохалася і ўчапілася ў падлакотнік крэсла. Але ж менавіта яна абрала гэты фільм.

— Чаму ты глядзіш такія фільмы, калі табе страшна? — спытаў *я*.

Яна задумалася, потым адказала:

— Лепш спалохацца ў кіно, чым у жыцці. Калі паглядзіш вельмі страшны фільм, не так жудасна тое, што вакол.

— Што цябе палохае?

— Галеча, дрэнныя сны, удары ў дзверы, не тыя словы, развітанне... Няўжо ты гэтага не баішся?

— Чаму ж. Але я не думаю пра гэта. Я забяспечаны, у мяне нядрэнная праца, кватэра, я здаровы, нарэшце.

— Ты маеш рацыю. А вось я вельмі баюся. У дзяцінстве ў нас была такая гульня: побач маляваліся квадраты, адзін зваўся «шчасце», а другі — «няшчасце». Трэба было падняць руку, заплюшчыць вочы і мякка апусціць кубік зверху на гэтыя квадраты. Куды ён упадзе — значыць, тое і будзе. Я вельмі не хацела гуляць у

гэтую гульню, але аднойчы мяне ўгаварылі. І кубік зваліўся прама на рысу. Гэта здаралася так рэдка, што ўсе здзівіліся. А я цешылася, што хоць усё гэта скончылася. Бо самае страшнае — калі заплюшчыш вочы і адпускаеш кубік. Сэрца так б’ецца-б’ецца! Не моцна, а страшна хутка. Таму што гэтая мяжа паміж квадратамі такая тонкая — усяго адна палоска крэйды... Мяжа паміж шчасцем і няшчасцем... — яна змоўкла і задумалася, міжволі прыціснуўшы руку да сэрца, нібы толькі цяпер згуляла ў гэтую гульню. — Пра што гэта я?.. Ах да, вось таму я вельмі баюся... усё такое нетрывалае... Нават камень — таму што яго могуць падарваць за секунду...

— Няўжо ўсё так дрэнна? — усміхаючыся, каб падбадзёрыць яе, спытаў *я*.

— Не, я не пра гэта, — яна звярнула да мяне цалкам сур’ёзны, засяроджаны твар. — Я пра трываласць. Ты не разумееш.

— Чаму ж, разумею. Але я не лічу, што ўсё вось так проста можна разбурыць. Старыя гарады стаяць стагоддзямі. Самы просты прыклад трываласці...

— Старыя гарады... На самай справе старых гарадоў няма — усё іншае, адны камяні засталіся.

— Так ты лічыш, што няма нічога трывалага?

— Можа, толькі сэрца... — вочы яе глядзелі кудысьці ўдалячынь. — Так, мусіць, толькі сэрца. Страшна падумаць, што яно выносіць...

Мы павольна ішлі па праспекце Гедымінаса. Шарэла. Вецер зрываў жоўтае лісце і кідаў пад ногі. Яно гарэла, нібы ў агні, у водблісках першых ліхтароў. Я не пытаў, куды мы ідзём. Мне было ўсё роўна, абы ісці побач з ёй. Праспект скончыўся, мы выйшлі да вежы.

— Пойдзем уверх?

Я кіўнуў, і мы пачалі ўзбірацца наверх па каменных прыступках.

Адсюль адкрываўся цэнтр Вільнюса — старыя дамы і новыя гмахі. І адсюль зусім не было відаць восені — толькі дахі, бясконцыя дахі, цэрквы, вежы замкаў.

— Я прыходжу сюды, калі мне дрэнна, — раптам сказала яна. — І палю, хоць гэта забаронена.

Мы моўчкі стаялі і глядзелі ўніз. Халадала, і я накінуў ёй на плечы сваю куртку. Яна захуталася ў яе, нібы птушачка ў цёплыя пёры.

— Пойдзем! — раптам схамянулася яна. — А то ён сыдзе.

— Хто? — здзівіўся *я*.

— Прадавец шчасця! — і яна пацягнула мяне за руку. — Ну, пойдзем жа!

І я падпарадкаваўся ёй. Неўзабаве мы прыбеглі на адну з вуліц старога горада.

...— Дзесяць літаў за паветраны шар шчасця! Дарослыя і дзеці, журботныя і смешныя, маленькія і высокія, рудыя, лысыя, разумныя, тоўстыя, смелыя, чорныя, белыя!.. Паветраны шар шчасця! Адправімся за шчасцем?..

Так я ўпершыню сустрэўся з ім — прадаўцом шчасця на старой вільнюскай вуліцы.

— Ты верыш ва ўсё гэта? — спытаў я, купіўшы шары.

Яна паціснула плячамі.

— Не ведаю. Можа, і веру. Калі сумняваюся, што не веру, — значыць, трохі ўсёткі веру, — і яна засмяялася.

Так, гэта былі нашы самыя мірныя дні. Я нават наважыўся спытаць, як яна да мяне адносіцца.

Яна прымярала нейкую пярэстую накідку, якая рабіла яе падобнай да маленькай птушачкі.

— Вельмі добра адношуся, — адказала яна, разглядаючы мяне ў люстэрку. — Ты прыгожы. Надзейны. Разумны. Да цябе нельга дрэнна ставіцца.

— Ну, а той хлопец?..

Яна не дала мне дагаварыць: раптам рэзка абярнулася, звяла бровы. Голас яе стаў ледзяным.

— Ніколі не пытай пра яго! Ты зразумеў?!

— Так...

І я не пытаўся пра яго ніколі.

— Добра, мне пара ў клуб, — сказала яна, спехам прыхарошваючыся перад люстэркам.

— Навошта? — здзівіўся *я*.

— А я там працую. Танчу. Я і іншыя дзяўчаты.

— Можна прыйсці паглядзець?

— Прыходзь.

І мы пайшлі ў клуб. Яна — працаваць. Я — глядзець на яе і думаць аб тым, што дні гэтай восені, нібы хуткая вада, цякуць скрозь пальцы, уцякаюць ад мяне апошнімі восеньскімі дажджамі і лістападамі, а я разумею гэта і нічога не магу зрабіць...

...Яна любіла танчыць і ў танцы нібы забывала ўсё — сябе, жыццё вакол. Яна акуналася ў свет рухаў, аддаючы яму ўсю сябе. Можа быць, яна любіла танчыць менавіта таму. Таму, што ў танцы ў яе атрымлівалася ўцячы ад усяго. Мне здаецца, яна пастаянна спрабавала ўцячы ад чагосьці вельмі самотнага ўнутры сябе, што не давала ёй спакою...

А я глядзеў. Колькі мінула часу? Не ведаю, мусіць, не вельмі шмат, але яна раптам з’явілася побач і рэзка кінула:

— Збірайся, мы сыходзім!

— Ты так мала працуеш?

— Я ўжо тут не працую. Усё!

Я зірнуў на яе: яна была чымсьці засмучаная.

— Нешта здарылася?

Яна завагалася, потым усё ж вырашыла расказаць:

— Гаспадар прычапіўся да адной дзяўчыны, якая з намі танчыць. І мы вырашылі аб’явіць яму байкот. Ну, а ён яе звольніў. І тады я таксама сышла.

— А ты пры чым?

— А я сышла таму, што несправядліва. Добра, хопіць гаварыць. Мы спяшаемся.

І яна накіравалася да выхаду з рэстарана, а я — за ёй.

Яна стаяла і паліла недалёка на вуліцы.

— Дык ты ўжо не спяшаешся? — спытаў я, здзіўлены пераменай у ёй: то яна імчалася з рэстарана, а цяпер наогул нікуды не збіраецца — стаіць і паліць.

— Ты не разумееш: галоўнае было вырвацца адтуль, з усяго гэтага — пахаў, гэтых сталоў, крэслаў, дзвярэй — з усяго, што яму належала. Я не магла ні хвіліны там заставацца!

Тут да нас падышла другая дзяўчына.

— А, вось і ты. Пазнаёмся — гэта мая сястра.

Я здзівіўся, так яны былі непадобныя, нават можна сказаць — процілеглыя адна адной. Далікатная, мініяцюрная *Эстэль* і поўная чарнавалосая яе сястра. Яны загаварылі пра нешта на сваёй мове, гучна і абурана: мусіць, абмяркоўвалі здарэнне ў клубе. *Эстэль* не звяртала на мяне ўвагі — і я ішоў за імі да самага дома. Толькі ў пад’ездзе яны і заўважылі мяне. Ад развітання мяне выратавала толькі тое, што сястра *Эстэль* забылася зайсці ў аптэку: у яе было маленькае дзіця, і яно зараз хварэла. Я прынёс патрэбныя лекі, і мы яшчэ пасядзелі ўсе разам на кухні: пілі гарбату і гаварылі. Дакладней, гаварылі больш яны, а я слухаў. Але ўсё-ткі прыйшоў час развітацца.

— Можна, я заўтра зайду? — папытаў я без асаблівай надзеі.

— Вядома, заходзь, — раптам ажывілася яе сястра.

— Ну добра, прыходзь, — пагадзілася і *Эстэль*.

І я прыйшоў. З размовы з яе сястрой я даведаўся, што *Эстэль* страціла вельмі добрую працу, і незразумела, дзе яна цяпер будзе выступаць. Мусіць, ізноў будзе матацца па прыгарадах. А яе грошы так дапамагалі ёй і «маленькаму»...

Праз дзень я прыйшоў, нагружаны падарункамі: новая калыска, цацкі, адзежа і ўсё, што мне сказалі, трэба дзіцяці.

— Ты з глузду з'ехаў! — абурылася *Эстэль*. — Я забараняю табе ўмешвацца ў маё жыццё!..

— *Эстэль*, гэта ўсяго толькі ганарар за кнігу. Гэта грошы, якія маглі быць або не быць.

Яна недаверліва паглядзела мне ў вочы. Я вытрымаў гэты пагляд.

— Ну добра... — з неахвотай пагадзілася яна.

І я прайшоў у гасціную.

У «маленькага» — так мы яго ласкава звалі — была тэмпература.

— Няма на каго пакінуць... — пажалілася сястра. — А нам тэрмінова трэба ў горад.

— Я пасяджу.

Яны здзіўлена паглядзелі на мяне. І тады *Эстэль* сказала:

— Так, іншыя мужчыны не такія, як ты. Яны не будуць нянькамі. Відаць, ты моцна мяне кахаеш.

З тых часоў я кожны дзень праседжваў у іх, клапоцячыся аб «маленькім», падмяняючы іх, калі яны сыходзілі ў горад. Я прывязаўся да іх, нібы да сваёй сям'і. Мы не гаварылі ні слова пра каханне, але я спадзяваўся, што яна за гэты час абвыкне і пакахае мяне. Я вельмі ладзіў з яе сястрой, і ў доме панаваў супакой, мір і зычлівасць. Я прыходзіў раніцай, сястра *Эстэль* гатавала мне кашу на сняданак — такая ў іх была традыцыя. З сястрой мы абмяркоўвалі планы на дзень: калі купаць, карміць «маленькага», калі выклікаць лекара і іншыя няцяжкія, але важныя рэчы. Да абеду прачыналася *Эстэль*; яна была «сава»: не магла рана класціся спаць, — таму дапазна затрымлівалася ў клубе або ў сяброў: мы яе трохі разгрузілі, ды і ёй неабходна адпачыць... І яна з'яўлялася да абеду, які мы чэсна — напапалам — гатавалі з яе сястрой. Пасля абеду ў мяне атрымоўвалася трохі пагуляць па горадзе з *Эстэль*: яна любіла прагулкі. У гэты час мы мала размаўлялі — зусім як людзі, якія даўно ведаюць адно аднаго, якім не трэба выконваць этыкет... А вечарамі мы ўладкоўваліся ля тэлевізара, разам глядзелі які-небудзь фільм, абмяркоўвалі яго, часта смяяліся.

Я палюбіў гэтую кватэру, можна сказаць, прыжыўся ў ёй. І восень праляцела, як птушка, кружляючы жоўтымі, нібы крылы, лісцямі. Можна сказаць, жар-птушка.

Але вось гэты дзень прыйшоў. Яе сястра і «маленькі» з'ехалі ў паліклініку. Мы засталіся адны. Я здзівіўся, чаму яна сёння рана прачнулася.

— Прывітанне, добрай раніцы! — весела сказаў *я*.

Але яна не ўсміхнулася ў адказ. Яна спынілася побач са мной і паглядзела мне ў вочы. Я заўсёды баяўся такіх вось яе паглядаў: гэта значыла, што ёй нешта прыйшло на розум, яна нешта ўбачыла не па сабе. Або ў яе пачалася дэпрэсія.

— Падумала, што гэта ўжо пара табе сказаць.

— Што?

— Нам трэба развітацца, — сказала яна, сур'ёзна гледзячы мне ў вочы. — Дзякуй табе за ўсё. Але ад'язджай.

— Чаму? Што здарылася?

— Ведаеш, гэта нельга растлумачыць. Потым ты зразумееш, што я маю на ўвазе, аб чым гавару. Часам ты, бывае, маеш рацыю, а зараз я. Я не такая разумная, як ты, у мяне няма адмысловых талентаў, але я ведаю: мы не можам быць разам.

Я не стаў пытацца, чаму. Я раптам здаўся сабе такім нікчэмным... Нібы бярозавы лісток, што патануў у шумным лістападзе гэтай восені. Восені ў Вільнюсе.

— Буду цябе помніць, — толькі і змог сказаць *я*. — Ну, бывай.

Яна абняла мяне — вельмі далікатна, неяк вельмі мякка і асцярожна — і пацалавала. Каб не заплакаць, я адвярнуўся і пайшоў праз парк да ракі.

Потым, калі сляды супакоіліся на дне душы, я азірнуўся.

Яна ўсё яшчэ стаяла, і ў яе вачах я заўважыў здзіўленне. Так, здзіўленне. Чаму? Столькі салодкіх і горкіх пытанняў я пакінуў у ёй, што на гэтае няма сіл адказваць. Можа, таму, што яна ўсё-ткі кахала мяне — толькі другім каханнем. Банальнае параўнанне: у сумкі ёсць другое дно, але ім карыстаюцца рэдка. Так і другое каханне: яно ёсць, але не абуджаецца ў сэрцы, таму што не сыходзіць, не саступае першае...

І таму я купіў шар на шчасце і з’ехаў.

Два гады прайшло, а я ўсё не мог забыць яе. І не вытрымаў — зноў прыехаў у Вільнюс, калі надышла восень.

Мне споўнілася трыццаць гадоў, але ўнутры я пачуваў сябе чамусьці значна старэйшым. Я стаў больш стрыманы, прывык больш разважаць. Я не стаў ёй тэлефанаваць: яна магла раззлавацца. І я заняўся тым, што сустракаў і праводзіў святло ў вокнах яе кватэры, часам ішоў за ёй па вуліцы, чуў, як яна напявае, бачыў, як запальвае цыгарэту або танчыць на пару з жоўтым лістком у старым парку. Я глядзеў на яе, і ўва мне гучала нябачная музыка: яна і восень, восень і яна...

Але вось аднойчы музыка калі не скончылася, то замерла на некаторы час: я ўбачыў яе з ім, гэтым хлопцам, зараз яшчэ больш худым, але не менш бесцырымонным. Яны пасварыліся. Ён замахнуўся яе ўдарыць. Кроў закіпела ў мяне ў жылах. Не ведаю, што здарылася б, калі б ён яе ўдарыў. Але ён яе не ўдарыў: яна схапіла яго за руку, а ён раптам прыціснуў яе да сябе, і яны пацалаваліся. З хвіліну яны так і стаялі ў абдымках адно аднаго.

Мабыць, гэта былі самыя пакутлівыя імгненні ў маім жыцці.

...Ёсць каханне, якое аднаўляе  жыццё.

А ёсць каханне, якое спыняе яго назаўжды. Спыняе назаўжды твой час. Яно нікога не шкадуе і не дае ўрокаў. І ўсё ж чамусьці мы больш за ўсё баімся, што яно знікне...

Здаецца, я падумаў гэта, разгублены, стоячы ля паліц нейкай кнігарні, куды пайшоў услед за *Эстэль*.

...Яна любіла блукаць каля паліц з кнігамі, але заўсёды купляла толькі вясёлыя паштоўкі. Тлумачыла так: дома кнігі навяваюць сум, а вось паштоўкі — наадварот. Ад іх сцены становяцца пярэстымі і вясёлымі. Так яна лічыла.

— Што ты тут робіш?

Я задумаўся і не заўважыў, як яна падышла. Я паглядзеў на яе: яна нісколькі не змянілася. Усё такая ж маленькая светлавалосая птушачка, якая па-ранейшаму любіць пярэстыя ўборы...

— Так навошта ты прыехаў? — яна працягвала свой сур’ёзны допыт.

— Я тут праездам і ненадоўга, — сказаў *я*.

Па сутнасці, гэта была праўда. Аднак калі раней я горача імкнуўся, каб яна мне паверыла, то зараз мне было ўсё роўна. Яна можа абурацца, вінаваціць мяне, можа смяяцца, пасварыцца са мной — усё роўна яна па-ранейшаму застанецца ў мяне ўнутры, таму што яна ўжо даўно настолькі ўжылася ў мяне, нібы гэта мая кроў. Можа, нават добра, што яна падышла: я змагу яшчэ імгненне паглядзець на яе рысы.

— Я ж цябе прасіла... — яна ўздыхнула. — Я ж сказала табе «дзякуй» за ўвагу і клопат, але я не збіраюся сябе прымушаць: спадзяюся, ты зразумееш.

Яна незадаволена павярнулася і пайшла да выхаду.

— Эй! — крыкнуў я наўздагон.

— Чаго яшчэ?

— А «бывай»? Ты не сказала «бывай»!

— Дурань... — і яна грукнула дзвярамі...

Услед за ёй выйшаў і гэты хлопец, капаючыся ў кішэні сваёй выцвілай курткі. Ён упусціў нейкія паперкі, а з імі — фота, але не заўважыў.

Яны пайшлі далей па вуліцы — да прыпынку бела-чырвоных тралейбусаў. Яна ўсміхалася яму. І я зразумеў: яна ўсё яшчэ кахае яго.

Яго, няшчаснага...

Што гэта? Комплекс пакут? Адкупленне віны? Нянавісць да спакою і шчасця? Пошукі прыгод? Выпрабаванне лёсу?

Або проста: заўсёды незразумелае, заўсёды невытлумачальнае, заўсёды няўмольнае, што прыходзіць да ўсіх, як гэтая восень, каханне...

Але ці было маё каханне да яе такім жа, як яе каханне да яго? І тут я здзівіўся супадзенню.

Навошта мы жадаем таго, што нам недаступна ніколі?

НІКОЛІ — гэтае слова можна напісаць вялікімі ці малымі літарамі, усё роўна яно будзе самым страшным словам на зямлі. НІКОЛІ...

Але я ўжо прыехаў у гэтую восень, у гэты горад, у гэтую восень у гэтым горадзе. Прыехаў, і не было маіх сіл з’ехаць адгэтуль. Прыехаў паглядзець на яе. Я цешыўся такой драбніцай, пакуль яна мяне не заўважыла яшчэ раз: відаць, я занадта дрэнны канспіратар.

— Ізноў?

— Так.

— Ізноў у камандзіроўку — праездам і ненадоўга, прыкладна на месяцы два? — спытала яна з іроніяй.

— Падобна на тое, — я падыграў ёй, толькі вось пры гэтым і ў мяне, і ў яе вочы былі занадта самотныя для жартаў.

— Ну што ж, працуй...

Я кіўнуў у адказ, не зводзячы з яе вачэй: яна стаяла так блізка ад мяне, што я адчуваў дзівосны пах яе парфумы, мяккую, з лёгкай пульсуючай венкай, скуру яе тонкай шыі, бачыў яе рукі, што сціскалі мініяцюрную сумку, куртку, накінутую на простую майку, — усё яе стройнае, поўнае жыцця цела; усю яе — такую блізкую і такую недаступную мне...

Толькі вось сёння яна здавалася зусім невясёлай, нават крыху разгубленай. Мне не хацелася яе пакідаць адну са змрочнымі думкамі.

— Можна, я цябе трохі праводжу? — пасля некаторага маўчання спытаў *я*.

— Толькі недалёка.

— Добра.

І мы пайшлі па вуліцы, якая выходзіла на праспект.

— Хачу зайсці ў краму. Проста паглядзець.

— Ну чаму ж, — запярэчыў *я*. — Выберы сабе, што больш спадабаецца.

— У мяне няма грошай.

— Я куплю.

Але яна адмоўна паківала галавой.

— Не.

Мы яшчэ трохі моўчкі пабадзяліся з ёй: па старым восеньскім парку, ля ракі Нерыс, зусім зарослай рудай, пажухлай травой, наведалі маленькае стыльнае кафэ на праспекце, і прыйшла пара развітвацца.

— Пакуль, — сказала яна. — І едзь ты дадому. Не зводзь сябе.

— Добра. Але адкажы мне на адно пытанне: чаму ты не кахаеш мяне, чаму гоніш прэч?

Яна ўздыхнула.

— Проста я дзіўлюся, калі мы бываем страшна падобныя або раптам жудасна розныя. Ідзі сваёй дарогай, у кожнага яна свая.

— І ўсё ж бываюць перасячэнні.

— Больш іх не павінна быць. Я доўга думала, вельмі доўга. І так вырашыла. Было б несумленна змяняць гэтае рашэнне, калі я табе ўжо даўно сказала праўду.

...За што я пакахаў яе?

Яна трохі жорсткая, але сумленная: яна ніколі не стане хлусіць; яна баіцца, але не стане ратавацца за кошт іншых; яна будзе пакутаваць, але не стане шукаць простага і спакойнага; яна не дазволіць купляць ёй дарагія падарункі, таму што не збіраецца ілгаць, плаціць сваім сумленнем. Больш за ўсё яна жадае быць сумленная з сабой і іншымі. І яшчэ ў ёй ёсць боль: яна адчувае ўсё занадта востра. Боль — ад далёкага і нешчаслівага дзяцінства. Ці таму, што яна сапраўды хацела зразумець гэты свет?.. Альбо проста ўбачыць яго нарэшце добрым, але гэта ў яе ніяк не атрымлівалася.

Яна не падобная да ўсіх, яна дзіўная, але другой такой няма ў гэтым вялікім і вар'яцкім свеце...

Ці варта гаварыць, колькі разоў я яшчэ ездзіў увосень у Вільнюс... Ці варта гаварыць, што я адчуваю, калі надыходзіць восень...

Далёкі горад вабіць мяне, таму што яе вобраз нячутна і нябачна — над ім: яго пагоркамі, купаламі цэркваў, чырвонымі дахамі дамоў... Дзесьці там, у танцы лёгкіх рознакаляровых аблокаў; там, дзе нараджаюцца дажджы і лістапады, — у самым сэрцы восеньскага неба...

Хачу сказаць, што я не стаў вядомым чалавекам. Нешта не склалася, чагосьці не хапіла... Проста стаў даволі багаты. Я мог бы ашчасліўціць шмат каго, але... Калі я вось-вось памкнуся змяніць сваё жыццё, разагрэты песнямі вясны і гарачай радасцю лета, толькі-толькі памкнуся — і прыходзіць яна, восень... І вяртаецца яно, маё каханне... Я думаю пра яе — і вось што ў мяне атрымліваецца:

...Каханне не цырымоніцца. Забірае свае рэчы з камеры захоўвання сэрца — і сыходзіць.

Куды ж ты сыходзіш?

Пакінь мне хоць нешта на памяць аб сабе --- маё каханне. Стаўлю пункціры — нібы працягваю рукі. Але мне ўжо не дацягнуцца да цябе. Ты развярнулася і сышла. І зараз ідзеш, глядзіш наперад. І, вядома, таму не бачыш, што я стаю і працягваю да цябе рукі. Таму што ты не з тых, хто азіраецца.

І я зноў іду, рухаюся без мэты.

…Я ўсё думаю, думаю пра яе. Я ведаю, што ў гэтых думках няма ніякага сэнсу, але гэта не спыняе мяне.

Я гляджу, і мне здаецца, што я бачу яе сілуэт праз акно моднай крамы. Я кідаюся за ёй, у арку. Але не, гэта не яна.

Ад гэтага мне хочацца ў халодную восеньскую раніцу, якая абвальваецца на цябе ледзяным душам, выносіць нервы і пачуцці, пакідае толькі халодны спакой.

А час ідзе...

Куды спяшаецца гэты час?

Куды сыходзіць восень?

Вось ужо пайшлі дажджы. А так восень ціхая-ціхая, і ў гэтым нешта павінна нарадзіцца харошае ў думках. Я чакаю... Можа быць, проста хачу, каб маё жыццё для яе што-небудзь значыла...»

Ну вось я і прачытала гэтую гісторыю. І усё зараз становіцца ясным. Ясным і ў чымсьці безнадзейна падобным на свет, які мы вынаходзім самі — рамантыкі гэтага жыцця...

І восень... Восень па-ранейшаму пышная і светлая. Яна нічога не ведае пра нас — жоўта-чырвонае палатно, на якім мы малюем сваё каханне...

Чаму ж яна заўсёды вяртаецца, восень нашага кахання? Што ж гэта, як гэта растлумачыць?

Можа, проста сыходзіць час. Сыходзіць час мары, потым час кахання, і прыходзіць час успамінаў і спроб усё пачаць зноў. Часам гэтыя сумныя спробы забіваюць у нас веру нашай наіўнай юнацкасці, і нам пачынае здавацца здалёк, што гэта быў проста сон, нейкі вельмі выдатны сон, падобны на прыгожыя старыя кінафільмы. Вальс, які мы бачылі, але так і не танчылі. Вальс з жоўтага лісця, вальс з першых лёгкіх рухаў, вальс з віхуры нейкіх невытлумачальна дакладных слоў...

Але вось гэтая восень, я прыехала ізноў — і вось жа гэтая восень... І вось вальс гэтай восені зноў гучыць у маім сэрцы... І я нават не ведаю, да чаго ён падобны — да шчасця ці болю, суму ці радасці. Толькі адчуваю, што ён вярнуўся. Значыць, усё гэта было. Было нешта дзівоснае і харошае і ў маёй душы. А значыць, можна і адпусціць гэты хуткі, вечна таропкі час. Больш ён не забярэ нічога і нікога з маёй стомленай памяці...

Я абавязкова скажу яму гэта, абавязкова... Бо гэта тая праўда, якая не зневажае суцяшэннем.

Зазвінеў тэлефон.

— Я слухаю.

— Такім чынам, як жа наша дамоўленасць?

— Прайсці па ўсіх месцах, дзе яна была?

— Менавіта так.

— Добра.

— Вы ўжо не злуяцеся на мяне. Чаму?

Не, не варта казаць яму аб тым, што я прачытала гэты зялёны нататнік. Прачытала і зараз шкадую яго — майго работадаўцу. І яшчэ: мы з ім у чымсьці вельмі падобныя. Толькі наўрад ці варта прызнавацца ў гэтым.

— Чаму? Проста... проста восень такая светлая...

Ён маўчыць, але я адчуваю яго дыханне. Што ж ён скажа ў адказ гэтым разам? Мне ўжо цікава — таму што я ўсё ведаю і, быццам чытач рамана, чакаю працягу. Але ён маўчыць, змаўкае і тэлефон...

Што ж, пара і мне адпраўляцца ў шлях чужой гераіняй. І я іду — спачатку да вежы Гедымінаса. Паднімаюся па тых жа прыступках, гэтак жа затрымліваю дыханне. І вось ён, восеньскі Вільнюс. Лісце ляціць над горадам, і я запальваю цыгарэту, быццам я — гэта яна. Вецер зносіць лёгкі дым — нібы нязбытныя мары. Але яны не журботныя, не, хутчэй светлыя і чыстыя, як гэты лістапад...

Дагарае цыгарэта, і я адчуваю, што я — гэта яна. Зараз я гэта выразна адчуваю. Я імкнуся зразумець яе. Вядома, я ведаю, што чалавека да канца зразумець немагчыма, але я вельмі імкнуся.

Я іду па праспекце і, нечакана для самой сябе, збочваю на гэтую вузкую вулачку старога горада, дзе павінен быць прадавец шчасця. Яна ж таксама любіла прадаўца шчасця.

І тут я чую яго голас, і нешта радаснае ажывае ўва мне.

...— Дзесяць літаў за паветраны шар шчасця! Дарослыя і дзеці, сумныя і смешныя, маленькія і высокія, рудыя, лысыя, разумныя, тоўстыя, смелыя, чорныя, белыя!.. Паветраны шар шчасця! Адправімся за шчасцем?..

Я не іду — я бягу да яго, нібы, як у дзяцінстве, баюся, што ён нечакана знікне, таму што ён — амаль чараўнік: ён дорыць людзям шчасце.

— Добры дзень! — крычу я, зусім задыхаўшыся.

— А! Рады вас бачыць! — ён абарочваецца да мяне, і яго смешныя сівыя вусы падскокваюць ва ўсмешцы.

— Няўжо вы мяне помніце? — дзіўлюся *я*.

— Я шмат каго памятаю, вас таксама. Мне здаецца, я запамінаю тых людзей, якія таксама памятаюць мяне і вераць, што я недарма тут стаю. Яны носяць у сваёй душы цеплыню, каханне, а без гэтага шчасцю не бываць, колькі ні купляй маіх шароў. І шчасце да іх прыйдзе, абавязкова прыйдзе. А сёння і я нарэшце шчаслівы. У мяне ўжо сівыя вусы, але толькі зараз я шчаслівы! Я дачакаўся свайго шчасця.

— Што ж адбылося?

— У мяне нарадзілася ўнучка! Уяўляеце — унучка! Доўгі час у маёй дачкі не было дзяцей — і вось нарэшце: унучка! Мая ўнучка...

Слёзы шчасця з'явіліся ў яго на твары. Усмешка і слёзы на сівых старэчых вусах. Яму будзе для каго жыць. У яго нібы пасялілася ў душы маленькае сонца. І гэта выдатна.

— Ну, раз сам прадавец шчасця стаў шчаслівым чалавекам, тады сапраўды шчасце ёсць. Мабыць, я і далей буду купляць у вас шары.

Я ўсміхнулася, а ён уручыў мне шары. Паглядзеўшы на іх, я ўбачыла, што яны аранжавыя, такія ж, як гэтая восень.

І я ўжо сама набрала нумар.

— Нешта здарылася? — спытаў ён.

— Не. Проста я купіла шары ў прадаўца шчасця.

Ён доўга маўчаў, пачуўшы гэтую навіну. Потым не вытрымаў, спытаў:

— Якія яны?

— Восеньскія.

Я пачула, што ён уздыхнуў. Або ўсміхнуўся. У любым выпадку гэта былі ўспаміны. І я падумала: самыя шчаслівыя нашы з ім успаміны — гэта ўспаміны аб нашых сустрэчах з прадаўцом шчасця. Або — з нашай надзеяй, што, у прынцыпе, адно і тое ж.

— Куды вы цяпер накіроўваецеся?

— Буду блукаць па горадзе. Зайду ў крамы, дзе яна бывала, можа, хтосьці яе ўспомніць...

— Так, мабыць, зайдзіце ў крамы... — у яго голас ізноў вярнуўся сум, і ён выключыў тэлефон.

Зрэшты, такое наша жыццё — пярэстае покрыва, шытае рознымі ніткамі радасці і смутку...

За гэтыя некалькі дзён я прайшла тымі мясцінамі, дзе магла быць яна — гэтая дзіўная дзяўчына чужой восені. Ніхто нічога не чуў пра яе, але адзін чалавек сказаў, што я да яе вельмі падобная. Вонкава. Мусіць, гэта быў жарт, але ўсё ж я прыгледзелася да сябе і параўнала з тым фотаздымкам. Гэта стала для мяне адкрыццём — сапраўды, мы падобныя ў шматлікіх рысах. Вось толькі ў сутнасці сваёй мы — розныя.

Потым я дастала фота і зноў, але ўжо больш уважліва, паглядзела на гэтую дзяўчыну. Яна ўсміхалася ў камеру, але ўсміхалася нібы не для сябе. І раптам я зразумела — яна ўсміхалася таму, хто фатаграфаваў яе. Але хто гэта быў? Той хлопец? Я зусім на яго забылася. Як жа гэта далікатна распытаць пра яго — здалёку, быццам я не чытала зялёнага нататніка?

Я набрала нумар, хоць было даволі позна.

— У мяне ёсць ідэя, як знайсці яе. Ідэя, якую я жадаю праверыць. Мне здаецца, гэта дакладны ход.

— Што?

— Справа ў тым, што я цяпер уважліва вывучыла фотаздымак. Хачу спытаць: хто іх здымаў?

Я пачула, як ён уздыхнуў — цяжка і стомлена.

— Вы думаеце, я дурань? Я і сам гэта зразумеў. І таксама хацеў бы ведаць, хто быў гэтым чалавекам. Гэта тупік. Лепш прайдзіцеся яе мясцінамі — раптам хтосьці чуў пра яе.

— Але я пабывала амаль усюды.

— Амаль? — у яго голасе чулася ці то крайняя стомленасць, ці то раздражненне, выкліканае маім пытаннем. Або нешта яшчэ, невядомае мне, мучыла яго.

— Так, я безвынікова пабывала амаль усюды, акрамя таго начнога рэстаранчыка...

Ён не даў мне дагаварыць, перабіў, нават крыху рэзка:

— Тады адпраўляйцеся. Якраз патрэбны час: поўнач. Яны толькі пачынаюць працу. У вас усё?

— Так.

— Ну дык едзьце.

— Добра. Але толькі яшчэ адно, апошняе пытанне: вы сапраўды па-ранейшаму жадаеце знайсці яе?

— Вядома.

— Вы ўпэўненыя?

— Так.

— А калі... — дзікая думка раптам прыйшла мне ў галаву.

— Калі што? — і раптам яго голас загучаў трывожна, нібы ён ужо здагадаўся, пра што я хацела яго спытаць.

— Калі... Калі яна мёртвая? Вы захочаце даведацца пра гэта?

— Яна не можа быць мёртвая!.. Не можа, вы зразумелі?! — ён амаль крычаў у трубку.

— Адкуль жа вы гэта ведаеце? Усякае можа быць...

— Яна жывая. Працягвайце пошукі! — і ён выключыў тэлефон.

Гэтая гутарка пакінула дзіўны асадак у мяне ў душы. Мне здавалася, што я разгадала ўсе тайны, але цяпер у мяне ўзнікла адчуванне, што самае галоўнае мною не толькі не разгадана, але я нават не мяркую, у чым яно можа заключацца. Нейкая дзіўная, глыбокая загадка, быццам падвойнае дно ўсёй гэтай гісторыі.

Але цяпер мне ўжо няма калі разважаць над усім гэтым: я павінна выконваць умовы — збірацца ў гэты начны рэстаранчык, хоць у мяне пасялілася дзіўнае перакананне, што і там я яе не знайду...

Але я ўсё ж адправілася ў гэты рэстаранчык, дакладней, начны клуб. Дэманстратыўна захапіла аранжавыя шары, набытыя напярэдадні ў прадаўца шчасця, і адправілася адбываць час у гэтай малацікавай мне ўстанове.

Як я і меркавала, дзяўчыну на фота пазналі пастаянныя наведвальнікі, але сказалі, што даўно яе не бачылі і не ведаюць, дзе яна можа быць.

Я села за стойку, заказала напой. Грукатала музыка, у танцы выгіналіся бясконца зменлівыя пары, і праз гадзіну-паўтары я злавіла сябе на адчуванні, што рытмы і шум цалкам супакоілі мае нервы. Яны страцілі адчувальнасць, усё ўнутры было расслабленым і млявым. Музыка ўжывалася ў свядомасць, мітуслівыя рознакаляровыя агні больш не білі ў вочы. Свет здаваўся такім спакойным і вясёлым таму, што тут усе адпачывалі ад напружанага жыцця...

Можа быць, менавіта гэтага яна шукала тут, праседжваючы астатак ночы пасля танцаў?..

Але, каб спытаць пра гэта, трэба знайсці яе. Або таго хлопца, пра якога я даведалася з зялёнага нататніка. Няўжо мой работадаўца ніколі так і не пагаварыў з ім? Або ён нешта хавае? Штосьці, звязанае з гэтым хлопцам. Але каб раскапаць усё гэта, давядзецца прызнацца, што я прачытала-такі гэты зялёны нататнік. Не вельмі прыемнае рашэнне, але ўсё ж я — дэтэктыў. І мне плацяць грошы зусім не за ўрокі па этыкету.

З гэтай думкай у шэсць гадзін я пакінула гэты начны клуб, чэсна дасядзеўшы да яго закрыцця.

Над Вільнюсам праразалася звычайная халаднаватая восеньская раніца. У апошніх астываючых агнях раставаў бялявы туман, асоўваючыся на шэрыя камяні старых будынкаў. Мая млявасць паступова знікала, саступаючы жаданню проста спаць — спаць доўгім восеньскім сном. Мне будзе сніцца лістапад над Вільнюсам, аранжавыя шары шчасця і гэтая дзіўная дзяўчына, якая дзесьці ёсць у гэтай вільнюскай восені. Я заўважыла яе — яна бяжыць, не, хутчэй ляціць над яшчэ сонным горадам, і ў смузе праступаюць яе лёгкія сляды. Яна абарочваецца, я гляджу на яе твар. Яна хітае галавой, нібы забараняе мне ісці за ёю. І прыціскае палец да вуснаў, быццам гэтым знакам просіць мяне: маўчы, нікому нічога не гавары, табе трэба спаць, спаць...

Я працягваю да яе рукі і раптам упіраюся ў спінку сядзення: я ў таксі, я задрамала і ўбачыла яе. Зрэшты, нічога дзіўнага ў гэтым няма: я так шмат думаю пра яе...

Але ні сон, ні мае разважанні над яе характарам — нішто не дапамагло мне здагадацца, дзе ж яе шукаць.

Такім чынам, давядзецца тэлефанаваць і прызнацца ў тым, што я чытала нататнік. Можа, ён раззлуецца і загадае мне з’язджаць: каму падабаецца залішняя цікаўнасць у такіх справах. Але я — дэтэктыў. Я зрабіла ўсё, што магла. І нават гэты, не вельмі прывабны, учынак.

Што ж, варта прызнаць, што я яшчэ і са шкадаваннем развітваюся з гэтым нататнікам, бо ён у некаторай ступені дапамог і мне зразумець сябе і тое, што здарылася са мной адной вільнюскай восенню... І я, не вытрымаўшы, вырашыла перачытаць самае светлае — пачатак гэтай гісторыі.

І тут... Тут я раптам зразумела, дзе я не пабывала. У найважнейшым месцы — тым рэстаранчыку ў літоўскім квартале, дзе ён упершыню сустрэў яе.

І я з нататнікам у руцэ пабегла лавіць таксі. Таксіст павінен падказаць мне, яны ведаюць усе гэтыя ўстановы.

Я аказалася на правільным шляху і неўзабаве ўжо заходзіла ў адзін стары рэстаран.

— Раней тут была выдатная ўстанова, а потым пабудавалі побач шыкоўны начны клуб з казіно і дыскатэкай, так і састарэў гэты рэстаранчык, — растлумачыў мне таксіст. — Зараз сюды мала хто заходзіць, толькі што заўсёднікі. А ў гэты час дык і наогул, мусіць, пуста.

Але таксіст не адгадаў: у зале было некалькі наведвальнікаў. Я падышла да старога бармена: ужо калі ён не памятае, то не памятае ніхто, — і паказала фотаздымак. Ён надзеў акуляры, зірнуў на фота, а потым паказаў рукой углыб залы:

— Дык вось жа яна.

— Дзе?

Я не заўважыла нікога падобнага.

— Вось, за столікам каля акна.

Я яшчэ раз азірнулася і ўбачыла невысокую худзенькую жанчыну.

Я з цяжкасцю яе пазнала. Яна моцна змянілася, я нават не паверыла, што гэта яна: худая, пастарэлая, з выцвілымі вачамі, якія не міргаючы глядзяць у акно.

— Добры дзень, — я назвала сябе і яго імя.

Яна павольна павярнулася да мяне.

— Вы яго помніце? — я зноў назвала імя майго работадаўцы.

Яна кіўнула.

— Ён прасіў з вамі сустрэцца.

— Няўжо? — пагляд яе быў па-ранейшаму абыякавым.

— Давайце прысядзем і пагаворым. Прабачце, але чаму вы ўсё стаіце ля акна?

— Я гляджу, як заканчваецца мой дзень нараджэння. Сыходзяць хвіліны, ужо хвіліны. Усё. Пачаўся новы дзень, а мой дзень нараджэння скончыўся.

Усё ж яна прысела за столік — бруднаваты і стары, як усё ў гэтым бары, які дажывае свой век. Дастала «траву». Убачыўшы мой здзіўлены твар, яшчэ раз з незадавальненнем патлумачыла:

— Паўтараю: у мяне дзень нараджэння, так што няма чаго на мяне глядзець. Я з дзяцінства ў свой дзень нараджэння раблю тое, што хачу. Кажуць, што наркаманы — дурні, паляць усякую дрэнь. Насамрэч яны робяць сабе самыя дарагія падарункі: набліжаюць да сябе людзей, якіх з табой няма, але ты да болю жадаеш, каб яны былі побач. Асабліва ў твой дзень нараджэння. Людзі робяцца выразней, набліжаюцца да цябе, ты можаш іх абняць, нават калі іх няма ў жывых. Ты можаш смяяцца з імі, бегаць навыперадкі па летніх сцежках, плыць у марскіх хвалях, цалаваць, спрачацца, марыць... Яго няма, але праз хвіліну ён будзе са мной.

Яна набівае ў лёгкую папяросную паперу здробненую «траву», змешваючы з тытунем. Пальцы яе дрыжаць. Яна зацягваецца глыбока-глыбока, злёгку затрымлівае дыханне, каб усё патрапіла ў лёгкія, а потым — у кроў...

— А потым?..

Яна смяецца.

— Потым усё губляецца. Нельга дарыць сабе падарункі бясконца. Потым трэба ўсё больш паліць, каб дасягнуць шчасця. Ну, а яшчэ потым — паліць для таго, каб хаця б хадзіць, расплюшчваць вочы, рухаць рукамі... За ўсё трэба плаціць. Вы асуджаеце мяне?

— Ніхто не мае права нікога асуджаць.

— А што ж вы адчуваеце? — з цікавасцю пытае яна.

— Мабыць… Як гэта ні дзіўна, я рада, што знайшла вас. Я адчуваю палёгку, што мне не прыйшлося шукаць мёртвага чалавека.

Яна раптам стала сур’ёзнай.

— Так мне ніхто не гаварыў. Мне, відаць, занадта шмат гаварылі вельмі добрых або вельмі дрэнных слоў. І я з абыякавасцю ставілася да любові і нянавісці астатніх.

Я працягнула ёй нататнік.

— Ён прасіў перадаць. Гэта ўсё пра вас.

— Нататнік? Не. Мабыць, мне не варта браць яго, — яна з сумненнем пахітала галавой.

— Чаму? — здзівілася *я*. — Гэта ж усё пра яго каханне да вас. Вам нецікава?

— Не. Занадта шмат слоў. А словы прымушаюць задумацца аб жыцці. А я гэтага не люблю.

Нешта жорсткае раптам з’явілася ў яе вачах, але потым яны зноў пацяплелі, і яна працягнула: — Але вы не засмучайцеся: ён зразумее. Ён ведае, што я наогул дзіўная. Не разумею толькі, навошта ён перадаў для мяне нататнік. Няўжо гэта можна ўявіць: я задуменна чытаю пра час, якога даўно няма.

Яна хрыпла засмяялася, а потым закашлялася.

Бармен прынёсактэйлі.

Яна пачала сутаргава піць. Потым ёй стала лепш, яна зірнула на мяне, і тут раптам яе твар на імгненне асвяціла тая самая азартная, яркая, скіраваная ў мару і палёт усмешка — як тады, на фота. Асвяціла — і згасла.

— Ідзіце, мне трэба пабыць адной. У кожнага свае ўспаміны, — глуха сказала яна і адвярнулася да акна, за якім аблятала вільнюская восень.

Аблятала восень, як наша маладосць і каханне. І таму лепш ніколі не вяртацца да ранейшага.

Я выйшла з рэстарана. У маіх руках быў усё той жа стары зялёны нататнік.

Я паглядзела на яго і, нібы рэха, ізноў пачула гэтыя словы, сказаныя яе хрыплаватым, кплівым голасам: «Дзіўлюся, навошта ён перадаў для мяне нататнік. Няўжо гэта можна ўявіць: я задуменна чытаю пра час, якога даўно няма...»

Сапраўды, як жа я не падумала аб гэтым раней? Аб тым, што ўсё гэта выглядала даволі надумана і дзіўна — перадаць гэты нататнік. Нататнік аб тым... Яна гэта вельмі правільна сказала — аб часе, якога няма. Але мой работадаўца — не той чалавек, які не адчуў бы фальшу. Тады навошта ён усё гэта прыдумаў? Або... Тут новая, не меней шакіруючая здагадка нарадзілася ў маёй свядомасці. Або гэты нататнік быў прызначаны не для яе?..

Тады для каго?..

У разгубленасці я скіравала ў незнаёмы стары завулак. Тут, мабыць, даўно не працавалі дворнікі: лісце вольным дываном рассыпалася пад нагамі, і нават не відаць было прыступак, што вялі на вялікую вуліцу, дзе шумелі машыны і не было цішыні — выратавальнай восеньскай цішыні, у якой так добра нашым успамінам. І няма дзіўных думак, няма дзіўных супадзенняў, ад якіх не схавацца... А так хацелася б сысці, забыцца на ўсё і думаць, як стары прадавец шчасця, што ўсе мы знойдзем сваё каханне і радасць...

Я спынілася — проста паслухаць цішыню, шоргат восеньскага лісця, што гуляла ў свае гульні з ветрам. Але... Хутчэй інтуітыўна я ўлавіла крокі. Хтосьці ідзе следам за мной. Я адчула яго прысутнасць. І нечакана рэзка абярнулася. Якое было маё здзіўленне, калі я ўбачыла... яго.

— Гэта вы, мой работадаўца?

— *Я*.

— Вы ў Вільнюсе? Навошта?

Ён усміхнуўся, але я заўважыла, як ён пастарэў і зніякавеў за той час, што мінуў з нашай першай сустрэчы.

Пашукаўшы ў кішэнях, ён знайшоў цыгарэты і запаліў.

Я разумела, што яму нялёгка, але ўсё ж чакала тлумачэнняў. І ён гэта разумеў.

— Няўжо вы думаеце, што я наняў бы вас, калі б мне сапраўды трэба было знайсці яе? Я наняў бы кучу дэтэктываў, я перавярнуў бы ўсё. Прычына ў іншым: я ўбачыў вас, вы вельмі падобныя да яе вонкава. І я хацеў, каб вы прайшлі яе мясцінамі ў гэтым горадзе, быццам яна — гэта вы. І яшчэ: мне здалося, што вы таксама кагосьці страцілі ў гэтым горадзе. Гэта зблізіла мяне з вамі. Я навёў даведкі: вы жылі раней у Вільнюсе. Увосень 19.. — і ён сапраўды назваў год, звязаны з маім Вільнюсам.

— Я знайшла яе ў клубе, — я наважылася сказаць яму праўду.

— Я ведаю. Я ішоў за вамі ўвесь гэты час. Вы — нядрэнны дэтэктыў. Але гэта не галоўнае. Вы знайшлі яе, але гэта не яна. Дакладней, яна, але не тая, якую я так доўга захоўваў у памяці. Вы падобныя вонкава.

Я глядзеў, куды яна каціцца. Я сам вырак сябе на пакуты. Як я жадаў вярнуцца ў той час, калі мы былі маладыя і ўсё толькі пачыналася! І тады я прыдумаў усё гэта. Таму я вас і наняў — прайсці замест яе і яе маладосці гэтымі вуліцамі... Раней я не да канца разумеў, навошта я вырашыў гэта зрабіць. Зараз я ведаю: гэта было маё развітанне з ёй. Больш мы не ўбачым адно аднаго. Буду ёй дапамагаць, але бачыцца мы не павінны, інакш больш я не вытрымаю.

Ён змоўк і паглядзеў кудысьці ўдалячынь, быццам на хвіліну зазірнуў у мінулае. Я не прыспешвала яго.

— Так, яшчэ... Вы прачыталі гэты зялёны нататнік?

— Прачытала. Зрэшты, вы і не думалі, што яна яго возьме.

— Вы не памыляецеся. Можа, я хацеў, каб яго прачыталі вы. Каб хтосьці мяне зразумеў — вечнае жаданне чалавека не застацца сам-насам з сабой, знайсці калі

не ўважлівага слухача, то хоць бы ўважлівага чытача. А вы не жадаеце даведацца працяг гэтай гісторыі?

— Чаму ж? Нават вельмі.

— Тады прысядзем. Туды, на гэтую цалкам замеценую восенню лаўку. Так сказаць, будзем цалкам ва ўладаранні гэтай вільнюскай восені, — ён злёгку ўсміхнуўся. — Такім чынам, усё не скончылася, як вы ўжо здагадаліся. У гэтай гісторыі, як у шматлікіх гісторый кахання, ёсць працяг па адной простай прычыне: мы не жадаем, каб усё скончылася, і тады гісторыя становіцца даўжынёю ў жыццё...

Ці варта гаварыць аб тым, што кожную восень я прыязджаў у Вільнюс? Ці варта гаварыць, якія пачуцці прачынаюцца ўва мне, калі прыходзіць восень? Зрэшты, мы не бачыліся пяць гадоў, а потым патэлефанавала яе сястра: *Эстэль* патрапіла ў бальніцу. Я прыехаў і пачаў ім дапамагаць, інакш не ведаю, за што яны жылі б наогул. «Маленькі» падрос за гэты час, але я яго па-ранейшаму так заву і вельмі люблю. Ведаеце, ён неяк спытаў, чаму дарослыя ходзяць хутчэй, чым дзеці. Бяскрыўднае пытанне, але я нечакана падумаў: таму што дарослыя робяць нашмат большыя крокі. І ганарацца гэтым. А калі б мы рабілі ў жыцці нашмат меншыя крокі, мы ішлі б павольней, і маладосць заставалася б з намі даўжэй. Але мы занадта позна разумеем гэта, ды і, уласна кажучы, змяніць нічога нельга... Вось і *Эстэль*... Ужо і дзесяць гадоў мінула, як яна не падобная да той *Эстэль*, якую я ведаў. Я думаю пра гэты час, і мне здаецца, што мы пражылі апошнія гады з гэтых дзесяці, як я калісьці жадаў: разам, як муж і жонка, — у горы і радасці, ведаючы ўсё адно аб адным, у падтрымцы і суцяшэнні. Пражылі, нават не падазраючы аб гэтым. Яна ўжо не праганяла мяне, але мяне не пакідала адчуванне, што яна мяне нібы не бачыць, не заўважае. Гэта павольна забівала мяне. А можа, яна трохі пагарджала мною за тое, што я не знаходзіў у сабе сілы сысці ад яе. Зрэшты, я сам ва ўсім вінаваты. Я сам вінаваты ў тым, што прызвычаіў сябе да неіснуючага кахання... Кахання, якое не магло быць. І гэтым разбіў сваё жыццё ды яшчэ прымусіў сябе назіраць, як згасае тая, якую я кахаў. І вось зараз, гэтай восенню, я вырашыў развітацца. Але ў гэтым развітанні я хацеў запомніць яе іншай — маладой, ранейшай. Вы падобныя вонкава. І таму я папрасіў вас прайсці мясцінамі нашай маладосці і майго кахання. Вы злуяце на мяне?

Але я не стала злавацца на яго. Я паглядзела ў яго вочы — вочы чалавека, які глыбока сышоў у мінулае. Паглядзела і падумала: «Каханыя нашы дзесьці ходзяць па гэтым восеньскім вільнюскім лісці. І мы ходзім зараз, атрымліваецца, таксама. Нібы па нябачнай сцежцы, адно да аднаго. І ад гэтага цяплей. І чамусьці вельмі хочацца радавацца». І я сказала:

— Пяць хвілін таму я на вас нават раззлавалася: вы прымусілі мяне шукаць чалавека, які не знікаў. Пагадзіцеся, гэта ненармальная сітуацыя. А цяпер... Не, мабыць, я на вас не крыўджуся. Мне нават прыйшла ў галаву дзіўная думка, калі я чытала гэты зялёны нататнік, думала пра *Эстэль*, хадзіла яе любімымі вуліцамі: справа ў тым, што мы ведалі шматлікіх людзей у гэтым горадзе, блукалі тымі ж мясцінамі, дыхалі і любаваліся той жа восенню, і нашы лёсы нібы спляліся разам... Дарэчы, прадавец шчасця стаў нарэшце шчаслівы і сам: у яго нарадзілася ўнучка.

— Што ж, мабыць, гэта самая лепшая навіна за ўсю гэтую пакутлівую і ўсё ж пранізліва-радасную восень у Вільнюсе. Прапаную адзначыць гэтую падзею.

Мы злавілі таксі.

— Куды вас адвезці? — спытаў таксіст.

Шчыра кажучы, мы і самі не ведалі. Ведалі толькі адно: гэта павінна быць зусім новае месца.

— Скажыце, можа быць, сёлета дзесьці адкрыўся новы рэстаран?

Неўзабаве мы ўваходзілі ў невядомы нам рэстаранчык. Усё тут было ультрамодным, прэзентабельным і — што самае галоўнае — зусім незнаёмым.

Мой работадаўца па маёй просьбе заказаў стравы на свой густ. Мы моўчкі елі, але я заўважыла, што ён хацеў пагаварыць. Але... Раз мы з’ехалі ад успамінаў, значыць, мы не павінны гаварыць аб мінулым. Гэта нібы новая гульня, і, здаецца, я знайшла ў ёй рашэнне.

— Ведаеце, — сказала я, — давайце гаварыць пра цяперашняе ці будучае. Мы пра гэта так і не пагаварылі. Што ж вы маўчыце?

— Проста ў мяне цяпер такі стан, які цяжка растлумачыць у некалькіх словах. Зрэшты... Вы калі-небудзь блукалі па маленькім мястэчку ў першых праблісках світанку? Нікога няма, пуста, ціха, сонна... Вось так і ў мяне зараз на душы.

— З’язджайце з гэтага горада.

— Куды?

— У горад, дзе няма восені.

— А вы можаце назваць горад, у якім ёсць толькі вясна?

— Ну, дзе-небудзь далёка на поўдні. У Афрыцы, напрыклад.

— Вось-вось... У Афрыцы. Не, з Афрыкай у нас нічога няма агульнага. Я вырас у такіх вось паўночных месцах. Я рос і жыў у гарадах, дзе заўсёды былі восень і зіма, дзе ў доўгае змярканне і халады прывыкалі чакаць вясну. І я буду яе чакаць, як у дзяцінстве і юнацтве. Зрэшты, не ведаю. Можа быць, стану калі-небудзь іншым і з’еду. У вашу хвалёную Афрыку, — ён памарудзіў, нібы сузіраў будучыню. — Зрэшты, вось ваш ганарар. І дзякуй. Не крыўдуйце на мяне… — а потым, усміхнуўшыся, дадаў: — Да сустрэчы вечнай вясной у Тунісе.

І ён сышоў. Я не стала яго ўтрымліваць.

Над горадам прайшоў дождж. Было цёпла, і ўсё дыхала свежасцю — ад чыстага неба і абмытай зямлі — як вясной, калі мы зноў будзем маладыя, прыгожыя і поўныя сіл і надзей...

Тут я ўступіла ў лужыну, і да чаравіка прыліп маленькі жоўты лісток, які напомніў, што восень яшчэ не скончылася. Восень у Вільнюсе.

А *я*... Калі я думаю пра каханне, я прыязджаю восенню ў Вільнюс. Не ведаю, сустрэнемся мы калі-небудзь ці не, але восень у Вільнюсе застанецца з намі назаўжды. Восень над усімі яго пагоркамі, віядукамі, старымі вежамі. Халаднаватая на світанні, сонечная і нават гарачая днём, астываючая і спакойная ўвечар, у перадначных агнях.

Таксі нясе мяне па гэтым старым горадзе, так і не зразуметым мной — горадзе, у якім засталася частка і майго жыцця.

Калі я ад’язджала з Вільнюса, пайшоў першы снег...





*Віктар Шніп нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў у часопісе «Беларусь», газеце «Літаратура і мастацтва», цяпер — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар зборнікаў паэзіі «Гронка святла», «Пошук радасці», «Шляхам ветру», «Горад Утопія» і інш. Лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за 2008 год.*

Віктар ШНІП

# БАЛАДЫ КРЫВІ І ЛЮБОВІ

## БАЛАДА ГРУНВАЛЬДСКАЙ БІТВЫ (15.07.1410)

Пад латамі стальнымі крыжакоў
Жывыя душы і жывая кроў,
І ім, як нам, жыццё таксама міла,
Але палюбіць сёння іх магіла,

Бо з намі Вітаўт наш, над намі Бог,
І коп'яў лес, і нашых стрэлаў хмары,
Што ў небе над самотаю дарог
Лятуць і лётам абуджаюць мары

Аб перамозе, да якой ідзём
За Вітаўтам, нібыта за агнём
Праз ноч у дзень, дзе нашыя магілы,
Нібы прыступкі лесвіцы, з якой
Нам воляй дыхаць, бачыць край наш мілы,
Нібыта Храм бялюткі, прад сабой...

Звіняць мячы, крывавяцца шаломы,
І коп'яў лес трашчыць, нібы трыснёг.
І ўжо адказ ёсць на пытанне: «Хто мы?»,
Але яго яшчэ не чуе Бог...

## БАЛАДА АНТОНІЯ ТЫЗЕНГАЎЗА (1733—31.03.1785)

Для краю тутэйшага, а не для ўласнае славы
Будуеш палацы, купляеш друкарню, і кнігі
Друкуюцца, хоць вырастаюць на могілках травы,
І пыл асядае на ўсё адзінокі і ціхі,

І дом разбураецца, ды камяні застаюцца,
Нібыта радзімкі на целе, на землях Радзімы.
І сёння ў тэатры тваім плачуць больш, чым смяюцца,
Але перамены, ты верыш, патрэбны й магчымы.

І ты не дрыжыш над грашыма, багацце — не грошы,
А людзі, якім родны край у любую часіну
І самы найлепшы на свеце, і самы прыгожы,
І гонар для ўсіх за ягоную вечнасць загінуць.

І ты ганарышся народам тутэйшым і краем,
І сам ты тутэйшы, і ты не ўцякаеш ні ў Прагу,
Ні ў Лондан, ні ў Вену, ні ў ціхі Парыж, бо ты знаеш,
Што там табе будзе заўсёды самотна і блага

Без гэтых садоў, што цяпер за вакном — маладыя,
Без жытніх палёў, на якіх васількі, нібы слёзы
Жанчын беларускіх і нашых анёлаў, якія
Нас помняць і ў спёку, і ў дождж, і ў марозы,

Як помніш і ты, што для роднага любага краю
Патрэбна жыць сёння, і будуць твой край і Паставы
У цэнтры Еўропы, не ў некага з самага краю,
І будзе ў нас слава, і будуць для славы падставы.

І ўсё ж ты самотна глядзіш у вакно, бо цямнее
І восень дажджамі з палацаў святочнасць змывае.
І ў краі тутэйшым не кожны пакуль разумее:
Без мовы, без волі краіны жывой не бывае...

**БАЛАДА
АЛЯКСАНДРА ЕЛЬСКАГА
(16.06.1834—10.09.1916)**

У снягах задрамала світанне,
І паўдня пачынаецца дзень.
Для кагосьці за волю паўстанне —
Гэта кроў, для кагосьці — прамень,
Што асвечвае новыя далі,
За якімі жыве Беларусь.

Ля іконы ты свечку запаліш,
На стале ты рассцеліш абрус
Для гасцей, што не прыйдуць зімою,
Бо дарогі паліты крывёю
І ў фальварку замецены сцежкі,
Што нікуды не выйсці табе.

А ў суседа дымяць галавешкі,
Воран вочы суседу дзяўбе.
І ты дома, нібыта ў няволі,
Малады, адзінокі, сядзіш.
Як ваўку, табе хочацца ў поле,
Хоць і сніцца начамі Парыж.
Ды вясна хутка будзе ў Замосці,
І тут жыць і тварыць будзеш ты.
І ў музей твой з Еўропы ўсёй госці
Будуць ехаць, бы ў Храм залаты.

А пакуль што з-пад снегу світанне
Прарастае, як кроў праз бінты.
І душу тваю паліць паўстанне,
І душу тваю студзяць вятры.

**БАЛАДА АДАМА КІРКОРА
(21.01.1818—23.11.1886)**

Па ціхіх вулках Вільні да цябе ізноў
Прыйшлі сябры агучыць музыку
і вершы.
А ў музыцы і ў вершах, як агонь, любоў
Да Беларусі,
для якой штодня жывеш ты,

Як і сябры твае, паэты і музыкі,
Якім Радзіма — як матуліна цяпло.

І кожны, хто Радзіму любіць, —
той вялікі,
Як вежаў замкавых спакойнае святло,

Што, ў душы зацякаючы людзей
тутэйшых,
Нібы малітва ў Храме велічным, жыве
І будзе жыць і прыбліжаць
наш час святлейшы,
Які яшчэ як росы ў маладой траве

На курганах, дзе спяць героі славы нашай
І будуць спаць, бо ёсць каму край
бараніць
І ёсць той, хто пра іх легенды
нам раскажа,
Каб мы змаглі Радзіму, як яны, любіць…

І вершам з музыкай да раніцы гучаць,
І марам не губляцца ў цыгарэтным дыме,
Пакуль сябры з табою за сталом сядзяць
І светла думаюць аб долі і Радзіме.

**БАЛАДА**
**ЭМЕРЫКА ЧАПСКАГА**
**(5.11.1828—23.12.1896 (4.01.1897))**

Ля возера ў парку няспешна ідзеш
Па лісці счарнелым і па залатым.
Ты вершаў не пішаш.
Тут восень, як верш
З той кнігі, якую, чытаючы, ты

Кладзеш прад сабой — і святлее ў душы
Ад слоў беларускіх, ад сонечных слоў.
І сумна, што хутка пачнуцца дажджы,
І добра — наедзе ў маёнтак сяброў,

І вершы і музыка будуць гучаць,
І будуць у Станькава зноў мужыкі,
Засеўшы ў карчомцы, зноў думаць-
гадаць:
«Чаму гэта пан у нас дзіўны такі —

Ён зброю збірае, карціны, і кніг
Сабраў, што за век яму не прачытаць?»
А ты — усміхнешся і ўсмешкай на міг
Асвеціш жыццё, да якога шукаць,

Крыжамі свой шлях пазначаючы, нам
Дарогу сваю і якая для нас
Не горшая ў свеце — вядзе яна ў Храм.
Да Храма мы дойдзем! Мінецца ўсё ж час,

Дзе сум несусветны, дзе крык і вайна,
Дзе паляцца кнігі, дзе здрада і тло…
І скончыцца восень, зіма, і вясна
Зноў прыйдзе, і нехта прыпомніць:
«Было

Іх мала, але яны ўсё-ткі былі…»
Ты вершаў не пішаш. Жыццё, нібы верш,
Рассыпаным лісцем на чорнай зямлі,
І ты, як чытаючы вершы, ідзеш,

І ў шораху лісця плывуць караблі,
З якімі да Бога і ты адплывеш…

**БАЛАДА**
**МІХАЛА ЦЮНДЗЯВІЦКАГА**
**(1836—2.06.1863)**

«Мужыцкую праўду» сялянам чытаеш
У дымнай карчме каля пыльнай дарогі.
Чытаеш, нібыта агонь раздзімаеш,
Агонь, што асвечвае многае многім

У гэтай краіне, дзе роднае гіне,
Бо волі няма і яна не даецца
Нікому за слёзы, крывёю павінен
За волю плаціць, калі ж трэба, то й сэрца

Пад кулю падставіць і быць не героем.
Цябе ж за чытанне газет расстраляюць
У Менску, і неба, яшчэ не начное,
Счарнее, і птушкі ў яго паўзлятаюць,

Нібыта нязбытныя мары, якімі
Ты жыў малады і жыла ўся Айчына,
Якая ў крыві патанае і ў дыме,
Шукаючы ў бойцы да волі сцяжыну,

Што стане дарогай і будзе дарогай,
Але не цяпер, бо цяпер яшчэ рана...
Цябе расстралялі...

Ды «Праўда мужыцкая» не расстраляна.

**БАЛАДА**
**КАМІЛЫ МАРЦІНКЕВІЧ**
**(Каля 1837 — пасля 1886)**

Ты ў высылцы за кінутыя кветкі
Паўстанцу на яго апошні шлях
Глядзіш на свет з усмешкай вельмі
рэдка,
Часцей за ўсё — праз слёзы на вачах,

Бо тут забыцца пра Шапэна, Ліста,
Пра Менск і Вільню, пра сваіх сяброў —
Нібыта ўсё, што ёсць, спаліць дачыста,
Каб праз хвіліну аднаўляць ізноў…

І помніш Вільню ты і Менск, вядома,
І мовы беларускай — прыгажосць.
Праз дваццаць год ты вернешся дадому,
Не вернецца ніколі маладосць.

Ды не шкадуеш, што букет праз краты
Для інсургента кінуць ты змагла, —
Не хлопца прад табой вялі салдаты, —
Айчына нескароная ішла.

**БАЛАДА ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ**
**(06.06.1841—1910)**

Магілы паўстанцаў травой заплываюць
І Нёман не спіць між сівых берагоў,
Дзе сумныя людзі тутэйшага краю
У сэрцах хаваюць да краю любоў,

Якому і ты па крыві не чужая,
Бо ты нарадзілася тут і жывеш
І лепшае долі сабе не жадаеш,
Як — лепшага сонца, што ў небе плыве

Над мілаю сэрцу шляхетнай Гародняй,
Дзе замкі і Храмы, дзе ціша і тлум,
Дзе думкам, як птушкам у небе, свабодна,
Дзе самы гаючы бярозавы шум,

Якім ацяляюцца душы людскія,
Што мараць аб волі на роднай зямлі,
Дзе слёзы і кроў, над якімі воўк вые,
Нібыта ўсіх моліць, каб людска жылі

І не адракліся ад песень і казак,
Якія прыйшлі праз стагоддзі да нас,
Якія й пра нас праз стагоддзі раскажуць,
Калі захаваем мы іх у наш час.

І ты, каралева народнага слова,
Збіраеш не золата, золата — тло,
А песні і казкі тутэйшаю мовай,
У мове тутэйшай жывое святло,

Што дадзена Богам і не забярэцца
Нікім і ніколі, бо тут — ёсць народ,
І ён, хто тут свой, хто чужы, разбярэцца,
Калі не цяпер, дык праз тысячу год.

І, нібы з нябыту, з травы паўсплываюць
Магілы паўстанцаў, курганні дзядоў.
Не будзе нідзе прыгажэйшага краю,
Чым край,
да якога спазнана любоў...

**БАЛАДА ЗМІТРАКА БЯДУЛІ**
**(23.04.1886—3.11.1941)**

Вайна за спінаю і прад табою.
Цягнік сівы ў зіме, як кол, стаіць.
І ўсім жыццё жыццём, вайна вайною,
І, быццам пахаронкі, снег ляціць
І на зямлю, і на цябе, слабога,
І ты нясеш, нібы жыццё, ваду,
Што замярзае, нібы ў нежывога —
Яшчэ жывыя вочы, што бяду
Краіны, у якой ты быў не лішні,
Усё яшчэ не выпілі да дна,
А дна не знае нават Усявышні,
І ты не будзеш знаць, бо ўжо вайна
Цябе дагнала і спыніла сэрца,
Дзе беларускае жыло святло.
І ўпала на зямлю з вадой вядзерца,
І ў снег тваё жыццё з вадой сцякло,
І лёдам стала, па якім спяшацца
Жывым далей ад чарнаты вайны.
Табе ж застацца тут, душы вяртацца
У родны край, дзе продкаў валуны,
Дзе кожную вясну буслы гняздзяцца,
Нібы ў табе аб Беларусі сны…

## БАЛАДА МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА (17.12.1886—9.03.1953)

Шумяць знаёма ясень і каліна.
Але не родны край тут, тут — чужына.
І ты не вернешся дамоў ніколі,
Як ліст з бярозы, што ляціць над полем,
Ніколі ўжо не вернецца на голле…

І плача скрыпка, і душа галосіць,
Анёлы песню аж да зор узносяць,
І чуе песню наш Магутны Божа.
І не знайсці краіны больш прыгожай,
Чым Беларусь, якая добра помніць
І востры чорны штык, і сонца промні,
І кожнага, хто нарадзіўся тут
І зразумеў, што гэта родны кут,
Адзін, як крыж, што на магіле будзе…

Струна ірвецца. Нібы мора, людзі
Бясконца б’юцца душамі аб неба,
Дзе воблакі, нібы сумётаў срэбра,
Што музыкай навеяны тваёю
Зямной, як мы, як зоры, незямною
У гэтым свеце, дзе трава пад снегам
Не паміраe, а вясну чакае,
Дзе Беларусь — і Альфа, і Амега,
І ўсім, яе хто любіць, — не чужая…

## БАЛАДА АНТОНІЯ ЛЯШЧЭВІЧА (30.09.1890—17.02.1943)

Ворагам холадна. Ворагі паляць
Хаты і Храмы, старых і дзяцей.
Паляць усё, ды не спаліцца памяць,
Памяць любога агню наймацней.

Молішся ты і малітваю шчырай
Душы ратуеш, што ў неба, бы ў вырай,
Следам за дымам лятуць і лятуць,
Потым у небе ўначы зацвітуць
Зорамі шчырымі, быццам бы слёзы,
Зорамі светлымі, быццам бярозы,
Нашы бярозы, што ўвесну заплачуць,
Бо ўжо цябе ля касцёла не ўбачаць
І не пачуюць малітвы тваёй,
Толькі пабачаць цябе над зямлёй
У аблачынцы, якая сумуе…
Мог ты застацца пажыць, не схацеў,
Бо адзін Бог нам жыццё ўсім даруе,
А не чужынец, які азвярэў.

Ворагам горача — ворагі паляць
Хаты і Храмы, старых і дзяцей.
Паляць Айчыну, не спаліцца ж памяць,
Памяць любога агню наймацней.

## БАЛАДА КАНСТАНЦЫІ БУЙЛО (2.01.1893—4.06.1986)

Жыццё на чужыне, нібы — у палоне,
Дзе ты прывыкаеш да сонца, якое
Халодна-далёкае, як нежывое,
У воблаках, нібы ў снягах, светла тоне,
Світае, нібы ва ўспамінах Айчына,
Якую ты любіш, якой ты жывеш.

І сніцца табе каля хаты рабіна
З лістотай счарнелай, як спалены верш,
Якога душа адляцела ў нябёсы
Іскрынкай тваёй адзінокай душы.

І пройдуць дажджы, і мінуцца марозы,
І будуць чарнець на магілах крыжы
Паэтаў, якіх растралялі за тое,
Што сонца над намі ўсё ж не залатое,
А проста чырвонае, быццам бы кроў…

Пакуль ты жывеш, ты не прыйдзеш дамоў
У ціхае Вішнева, дзе ўсё святое
І любае, блізкае і дарагое,
А будзеш здалёку глядзець на Айчыну,
І сумныя вершы Айчыне пісаць,
І плакаць ты будзеш, як плачуць жанчыны,
Калі ўжо не могуць нічога сказаць…

Юлія ЗАРЭЦКАЯ



*Юлія Зарэцкая нарадзілася ў 1978 годзе ў вёсцы Дунілавічы Пастаўскага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка з адзнакай. Працавала рэдактарам і загадчыкам аддзела фельетонаў і пісьмаў часопіса «Вожык», намеснікам галоўнага рэдактара, цяпер — галоўны рэдактар альманаха. Празаік, публіцыст, сатырык. Член Саюза журналістаў Беларусі, Саюза пісьменнікаў Беларусі, выконвае абавязкі сакратара секцыі сатыры і гумару. Друкавалася ў часопісах «Вожык», «Маладосць», газетах «Чырвоная змена», «ЛіМ», «Звязда», «Настаўніцкая газета» і інш.*

***Апавяданні***

# БАЦЬКАЎ ЯБЛЫК

### З цыкла «Дунілавіцкія былі»*

*Ці далёка падае яблык ад яблыні?* Бывалыя людзі кажуць, як калі. Здараецца, што сапраўды недалёка. Бывае іншы раз, адкоціцца ад яе які далей за іншыя плады-круглякі, а ўсё адно яблыкам застаецца.

Так і чалавек. Блізка ён ці за сотні і нават тысячы вёрст ад роднай хаты, адгукаецца штодзень бацькам ці зацята маўчыць, памятае ці не згадвае, але заўсёды ёсць і застанецца іх дзіцем, дзіцем сваіх бацькоў. Добра гэта або не, справядліва ці прарочыць чалавеку ў жыцці нямала слёз і расчараванняў, мы вырашаць не можам. Вырашана за нас. Даўно і навекі. Усё ж яблык ад яблыні падае недалёка, а вось адкочваецца, здараецца…

Лёшык Вайцяхоўскі жыў у мястэчку на Свіднаўскай вуліцы. Бацькоўская хата была вялікай, бацькі — нестарымі, а Лёшык — адзіным сынам. Таму тут і гадаць не выпадае, дзе і з кім ён жыў. Так, Лёшык Вайцяхоўскі быў маладым, ды ўсё ж бабылём (усяго толькі трыццаць сем зім сустрэў) і стала прапісаўся ў бацькоўскай хаце. (Нярэдка здараецца, што адзіныя сыны — найчасцей, чым дочкі, — незаўважна ўпусціўшы свае лепшыя вёсны, што вельмі хутка пралятаюць на крылах векавечнага часу, так і застаюцца векаваць пры бацьках).

Гэтыя абставіны нікольні не засмучалі хударлявага, надзіва рухавага і энергічнага Лёшыка. Сумна жыць ён не ўмеў.

— Ты б жаніўся, сынок! — у каторы раз паўтарала маці свой няхітры сказ. — Хай сабе яна і з дзіцем будзе — такой бяды. Чуеш, Лёшак? Памром — з кім застанешся? — і ясна-блакітныя вочы ціхай, памяркоўнай Сабіны вільгатнелі.

Сынаў адказ быў заўсёдным і лаканічным: «Неяк пражыву!»

Цяпер ён жыў шавецкім рамяством. Паколькі надзвычайная рухавасць, няўседлівасць і нецярплівасць проста ўнадзіліся хадзіць за Лёшыкам па пятах ці не з самага маленства, дэталёва ўнікнуць у справу ён не меў часу.

* Дунілавічы — вёска ў Пастаўскім раёне, радзіма аўтара.

Толькі што з трэскам развалілася арцель, якую малады Вайцяхоўскі сабраў для лоўлі рыбы (гэта ж толькі ў адным мястэчку два возеры і рака, а колькі вады побач!). Што стала прычынаю хуткага краху такога прыбытковага гешэфту — гісторыя маўчыць. А мястэчка тым часам пляткарыць. Пра занадта гарачы нораў «рыбнага» начальніка (такому гарачаму бліны трэба пячы, а не з халоднаю рыбаю важдацца!), пра недахоп рыбных сецяў і іншых прычындалаў (вядром, думаў, будзе рыбу чэрпаць, а тая — сама скакаць туды!), пра дбайных работнікаў, што першы ўлоў (які там набытак — тры шчупакі ды жменя карасёў!) тыдзень адзначалі ды будавалі — не без удзелу начальніка — вялікія пражэкты, пра… Ай, не будзем перадаваць гэтыя недарэчныя бабскія плёткі, што зайздросцяць чужому шчасцю ці смяюцца з чужой нядолі.

Галоўнае, што Лёшык Вайцяхоўскі зрабіўся шаўцом. Набыў неабходны струмант, пачапіў над дзвярыма з вуліцы саматужную шыльду са сціплаю назваю «Лепшая майстэрня па рамонту і шыццю ботаў і тухляў» і — стаў чакаць заказчыкаў. Але нясцерпныя местачкоўцы, як змовіўшыся, чамусьці не спяшаліся, пабраўшы пад пахі свае стаптаныя боты і «тухлі», тоўпіцца перад дзвярамі вялікай, чатыры шырокія вакны на дарогу, хаты Вайцяхоўскіх.

— Ой, сынок, зноў мястэчка смяяцца будзе! — уздыхала маці. — Чаму ж ты за два дні ў старога Зімермана навучыўся? Адно толькі як скуру на капыл нацягваць!..

Ну вось, не хапала яшчэ, каб родная маці так падсмейвалася з сына! (І адкуль яна толькі ўведала, што ўся шавецкая навука яе Лёшака пачыналася і канчалася тым капылом?) Напраўду, трох дзён, можа, і крыху малавата, каб асвоіць гэты, на самай справе, просты і немудрагелісты занятак, ды як жа можна вытрываць адно сядзець і глядзець, як стары Зімерман так спрытна спраўляецца з ботам. Гэта ж так лёгка! Лёшык збег ад майстра на другі дзень…

— Нешта, сынок, ніхто да нас не ідзе, — сумна казала маці, пазіраючы праз шырокае акно на гаманлівую вуліцу. — Мусіць, слаба вераць, што ты…

— І ты?

— Не, Лёшак, я веру…

Маці змаўкала. А чулае, спагадлівае сэрца падказала:

— Сынок, пашый бацьку боты.

— Я? — вырвалася ў Лёшыка.

Ён хутка спахапіўся:

— А скура ёсць?

— Ёсць, Лёшак, ёсць…

Цяпер, калі нехта з местачкоўцаў грукаў дзвярыма ў хаце Вайцяхоўскіх (цікаўнасць усё-ткі ўзяла верх над наўмыснай абыякавасцю), дык Лёшык на скрут галавы кідаўся да лаўкі. Умомант садзіўся, хапаў у рукі капыл, на які была нацягнута скура, і шыў боты, ну, ці бот.

Праўда, злыя языкі (а іх нямала перахадзіла ў вялікую хату Вайцяхоўскіх) плявузгалі, што ў «Лепшай майстэрні па рамонту і шыццю ботаў і тухляў» усяго і меўся адно капыл з нацягнутаю на яго (ці не рукамі старога Зімермана) скурай. Плялі яшчэ, што шыццё ботаў рухалася марудна («А гэта вам не цукеркі ў паперкі на фэст заварочваць!» — агрызнуўся б Лёшык), а найбольш злыя языкі прыкмячалі сваім злым вокам, што капыл увогуле знаходзіўся ў стадыі спакою, і ўмелая Лёшыкава рука ніяк не парушала гэтай скуранай ідыліі. І што ім, недаверлівым, тлумачыць, што шавецкая справа — нялёгкая. Тут трэба добра памергаваць, усё разлічыць. Нездарма ж кажуць: «Адзін раз адрэж, сем — прымер». Вось Лёшык і прымяраўся.

Ды і майстру спакой патрэбны, у рэшце рэшт! І каб не зміналі. А тут — адзін вэрхал. Неспакой Лёшыку надоўга забяспечыў бацька, стары Вайцяхоўскі. Сухі,

няўрымслівы Вінцук, калі быў малады, здзейсніў нямала пражэктаў. І адзін з іх нават прынёс яму прыбытак. Гандаль пярэстымі рагулямі заблішчэў звонкімі манетамі (было гэта яшчэ за царскім часам).

Чалавечая рухавасць не выключае разважлівасці. Прынамсі, так лічыў Вінцук. Таму, памагаваўшыся, вырашыў зберагчы свой набытак у расійскім банку і зрабіў туды значны для селяніна ўклад.

Але ўсё ў гэтым жыцці цячэ, усё мяняецца. Няма ні вечнага гора, ні вечнай радасці. Прыйшла грымлівая рэвалюцыя, цар пазбавіўся прастола, яго нашчадкі — спадчыны, а Вінцук Вайцяхоўскі — свайго ўкладу. Шкада, вядома, але… Але не паміраць жа з-за гэтага, дальбог! Трэба жыць... І Вінцук жыў. Покуль жыццё не падкінула яму цікавы фінт у выглядзе суддзі Валынчыка. Жыў ён у суседняй ад мястэчка вёсцы Свідна, але стары Вайцяхоўскі яго ведаць не ведаў. (І не дзіва: Валынчык быў прышлым, нетутэйшым чалавекам). Ды аднаго дня планіды на небе сышліся ў нейкай мудрагелістай камбінацыі — і прыкладна так стрэліся Вінцук Вайцяхоўскі і Мікола Валынчык. Лёсавызначальная сустрэча адбылася каля сталовай на мястэчковай плошчы. Якая нагода была тады ў мужчын, што сабраліся за будынкам страўні, каб пагутарыць і крыху прамачыць горла, цяпер узгадаць цяжка. Ды і неістотна гэта. Выпадкова (хаця некаторыя сцвярджаюць, што нічога выпадковага ў нашым жыцці і блізка няма) адзін закрануў другога, слова аднаго зачапілася за слова другога — і мужчыны сталі добрымі знаёмцамі…

— Я, Вінцук, хоць і былы суддзя, — казаў Мікола, трымаючыся за надзейнае плячо новага сябра, які больш устойліва стаяў на нагах, — а табе дапамагу. Бо, — прыпыніўся і са значэннем паглядзеў на Вайцяхоўскага, — закон ведаю!

— А закон… — уздыхнуў Вінцук і безнадзейна махнуў рукою ў цемру.

— Не дышла! — даводзіў былы суддзя і стаяў на сваім. — Як бачыш, дапамагу!..

Дапамога пачалася ўжо назаўтра. Праўда, гэтым разам патрэбу ў помачы меў не Вінцук Вайцяхоўскі, а Мікола Валынчык.

— Вінцусь, сябар, памажы! Памру! Дальбог, памру!

Адзінае і надзейнае, як швейцарскі (а не царскі!) банк, выратаванне стаяла ў кутку за ложкам гаспадара і ўжо хутка забулькатала ў трох стограмовіках…

Ды суддзя хоць і былы, а не п’яніца і не пустабрэх, як некаторыя маглі пра яго падумаць. Ён слова трымае. І вось недзе праз гадзіну Мікола Валынчык, паспяхова выратаваны ад смерці, седзячы за ладным сталом на добрай палове хаты, дапісваў астатнія словы. «І таму патрабую, не, прашу, вярнуць мне ўкладзеныя мною сто царскіх манет. Усё. Чысло і подпіс».

Стары Вайцяхоўскі расправіў плечы і з прыдыханнем спытаў:

— І куды яго цяпер?

— У банк! — упэўнена адказаў суддзя. — І хутчэй…

Неўзабаве сябры мусілі спаткацца зноў. Вінцук і так, і сяк круціў у руках іх канверт, адпраўлены ў саму Расію, і дапытваўся ў Валынчыка: «Чаму назад прыйшло?» Мікола крахтануў, узяў пісьмо і, таксама пакруціўшы яго ў руках, сур’ёзна і коратка патлумачыў, як адрэзаў: «Не па адрасу».

Шчыра кажучы, адрас тут быў ні пры чым. Кемлівы чытач адразу здагадаецца, у чым сапраўды была загвааздка. Так, банк атрымаць і прачытаць гэтае пасланне ніяк не мог: царскага банка не было, не існавала!

— Усё, напісалі? — апусціў плечы гаспадар.

Былы суддзя ўсхадзіўся:

— Напішам! І куды трэба!

І хоць наступныя гнеўныя словы не прамаўляліся, а пісаліся на паперы, прамачыць горла ўсё ж патрабавалася. І горла былога суддзі Валынчыка прамочвалася

штотыдзень. Калі пісалася пісьмо ў царскі суд, у рэвалюцыйны суд, проста ў суд, у разнастайныя камітэты і высокія органы ўлады. Пасля чарговага адказу з чарговай установы, які тлумачыў: рэвалюцыя спісала ўсе царскія даўгі, сябры ўздыхалі і... пачыналі зноўку. Галоўны і бяспройгрышны аргумент, які ўласна прыдумаў дасведчаны юрыст, гучаў так: «Рэвалюцыя адбылася дзе? У Петраградзе. А грошы ў царскі банк Вінцук Вайцяхоўскі паклаў дзе? У Дунілавічах. А ў Дунілавічах рэвалюцыі не бы-ло! Дзе Петраград — дзе Дунілавічы… Аддайце грошы! Вярніце ўклад!»

На жаль, гэты выдатны, бясспрэчны аргумент юрыста ніяк не дзейнічаў на службовых людзей. Відаць, іх чыноўніцкія галовы зразумець гэтых простых і ясных як божы дзень ісцін не маглі. Мажліва, яны проста сапраўды не ведалі, дзе знаходзяцца Дунілавічы? Калі б зналі, што ад Дунілавіч да Петраграда — добрых, можа, шэсць — сем соцень вёрст і што мястэчку ніякая петраградская рэвалюцыя патрэбна не была, дык адразу дапялі і вярнулі б грошы.

З той рэвалюцыі і так шмат непамыслоты адбылося. Спачатку рэвалюцыя, потым — калгасы. Вось табе і яшчэ адна крыўда старога Вайцяхоўскага.

— Давай памагу! — падахвоціўся, як толькі пачуў за бяседаю пра гэту несправядлівасць, шматвопытны юрыст. — Закон…

— Ага, ведаю! — ухмыльнуўся Вінцук.

— Не, тут іншае! — запярэчыў Валынчык. — Тут — савецкая ўлада. Яна прамаўчаць не можа! — і, скамандаваўшы: «Налівай!», папрасіў: — Давай падрабязна і па пунктах.

Вінцук нехаця паўтараў, можа, сто разоў збаеную гісторыю сваёй крыўды…

— Апусціш у тую скрынку, урна завецца, — у каторы раз павучаў яго былы суддзя, — гэтае пісьмо і — хуценька да дзвярэй. Ніхто табе ўжо нічога не зробіць!

— Зразумеў я! — адмахваўся Вінцук. — Я што, зусім дурны, ці што?..

І сапраўды, ніхто з членаў добраахвотнай народнай дружыны, што дзяжурылі ў сельсавеце на выбарах дэпутатаў, Вінцуку Вайцяхоўскаму на дарозе не стаў. Ды і хто з іх мог меркаваць, што стары Вайцяхоўскі, падышоўшы да урны для галасавання, укіне туды не бюлетэнь, а — нейкія лісткі паперы. Бюлетэнь ён лоўка ўпіхнуў у кішэню пінжака і задаў такога стракача з уладнага будынка, што адно наваксаваныя боты заблішчалі. (Стракач, праўда, не дапамог: Вайцяхоўскага дагналі маладыя, жвавыя добраахвотнікі і прымусілі-такі аддаць бюлетэнь назад: гэта ж страшэнная недастача афіцыйнага дакуманта, скандал на ўвесь раён!)

І толькі пасля, калі урны адкрылі, каб падлічыць галасы местачкоўцаў, адшукаліся і тыя лісткі. На іх прыгожым, каліграфічным почыркам была выкладзена просьба вярнуць таварышу Вінцуку Вайцяхоўскаму рэквізаваную савецкаю ўладаю маёмасць. Маёмасць — па юрыдычнаму парадку — заняла добры дзесятак пунктаў. У канцы паслання просьба нецярпліва пераходзіла ў настойлівае патрабаванне: «Вярніце!»

Ці трэба казаць, што ў адказ стары Вінцук атрымаў… дулю. І без масла.

Гэтая пісаніна Лёшыку надакучыла да смерці. Глядзець, як былы суддзя Валынчык у каторы раз садзіцца з бацькам за стол і — пачынаецца перапіска з банкам ці яшчэ якой трасцай, больш не ставала цярпення.

Неўтаймоўная Лёшыкава душа прагнула новых здзяйсненняў. А хто шукае, той знаходзіць.

Жыло мястэчка ў той пасляваенны час, вядома, небагата. Паўгалоднае жыццё было. А выпіць мужчынам... усё роўна хацелася! Не, Лёшык, дзякаваць Богу, п’яніцам ніколі не быў (ды і не так іх многа тады было, тых піткоў). Браў чарку пры якой нагодзе, здаралася, і без яе абыходзіўся, але — не злоўжываў. А вось некаторыя мужчыны, што не цураліся чаркі, калі яе не было, ледзьве не енчылі — так тады хацелася ім адчуць у роце знаёмы горкі смак.

— Без яе, заразы, ніякага жыцця няма, — скардзіўся гаспадару Мікола Валынчык. — А дзе ўзяць?

— Эге, — хітра ўхмыляўся Лёшык, — калі будзеш сядзець на зэдліку і енчыць, дык сама бутэлька да цябе не прыйдзе… Ну дык пішыце-пішыце, а я пакуль…

Неўзабаве «пакуль» вылілася ў незвычайную канструктарскую знаходку. Палёт інжынернай думкі Лёшыка быў падобны на маланку: імгненны і эфектны. Для першага разу на вопыты былі запрошаны Васька Шынец і Зыфрык Абуховіч. Каштоўнасць гэтых несумненна цікавых і каларытных асоб у дадзеным выпадку заключалася ў тым, што Васька меў ровар, а Зыфрык — мядзведжую сілу.

— Ты, Лёшык, дальбог, нешта абы-што кажаш, — круціў галавою цыбаты Васька, што цягнуў ровар па сцежцы. — Я толькі таго, што паважаю цябе, а ты папрасіў…

— Угу, — падтакваў яму Зыфрык, — выдумаў ты, Лёшык, а мы, дурні!.. Ды яшчэ з сярпамі гэтымі! Нарыхтаваў нам там нехта!

— Кажу вам, што знойдзем, і не адну! — пераконваў Лёшык сваіх скептычных сябрукоў.

Яны, праўда, паварочваць назад і не збіраліся. Цікава ўсё ж было пабачыць, як Лёшык знойдзе на калгасным полі абяцаную бутэльку ці нават некалькі. І на якую халеру Ваську перці туды ровар, а Зыфрыку — несці серп?

Калі сябры апынуліся ледзьве не пасярэдзіне поля, Лёшык жвава разаслаў на зямлі посцілку і скамандаваў: «Васька, стаў ровар уверх коламі! А ты, Зыфрык, не стой — жні!»

Нават дзіўна, чаму Васька Шынец і Зыфрык Абуховіч — дарослыя і не дурныя мужчыны — не паслалі камандзіра ў якую далёкую і няпэўную вандроўку, а пачалі паслухмяна выконваць яго загады. Ці то настолькі цалкам даверыліся дзелавому Лёшыку, ці то выказалі недавер свайму ўнутранаму голасу на пару з жыццёвым вопытам, але ўжо хутка… Зыфрык, як найбольш моцны і здаровы з гэтай кампаніі, імпэтна круціў рукою педаль, а Васька спраўна торкаў збажыну ў спіцы. Пад такім ціскам (па ўсіх фізічных законах) зярняткі мусілі высыпацца з калоссяў на разасланую посцілку.

Праз гадзіны дзве з «малацілкі» выйшла першае вядзерца зерня.

— Ну і га-ла-ва! — працягнуў Зыфрык, у захапленні гледзячы на прадпрымальнага верхавода.

— Ты, Лёшык, дальбог, праўду казаў, — круціў галавою Васька. — Тут жа бутэлек — заліся!

Лёшык паблажліва пасміхаўся.

— Дык я вазьму? — няўпэўнена запытаўся Васька і з імпэтам усклікнуў: — Ё-маё! У мяне ж — усё мястэчка ведае, ды і Еўдакімавіч пацвердзіць — самы лепшы апарат!

Спрачацца было марнай справай: пра выдатны самагонны апарат Ваські сапраўды ведалі і местачкоўцы, і Еўдакімавіч — мясцовы ўчастковы. «Хто ведае, а хто і спытаў», — з'едліва могуць удакладніць несупынныя злыя языкі, відавочна намякаючы на пэўныя стасункі ўладальніка найлепшага апарата з тым, хто павінен быў гэты агрэгат канфіскаваць. «Ат, зайздрасць людская не мае межаў!» — абурыцца ў адказ Васька Шынец і адно роспачна махне рукою.

— Ну, вядома, бяры! — прагучаў зладжаны адказ у два галасы. — А мы пачакаем…

І дачакаліся-такі. Таму аперацыі з роварам было наканавана паўтарыцца яшчэ і яшчэ…

Але Лёшык зажурыўся. «Малацілка», як і шавецкая справа, як і рыбалоўная арцель, як і шмат іншых выдатных пражэктаў, прыбытку не прынесла. Першае маральнае задавальненне ад здзейсненага хутка праходзіла, а наўздагон яму матэрыяльны падрахунак імчацца не спяшаўся і, відаць, не збіраўся…

Засумаваў і бацька. Памёр яго добры знаёмец, які быў частым госцем у вялікай хаце Вайцяхоўскіх, — былы суддзя Мікола Валынчык. Тоўсты стос пісьмаў з разнастайных дзяржаўных установаў, што ніяк не хацелі вырашыць «банкаўскае» пытанне, сіратліва ляжаў на стале…

Маркотна і цёмна жыць на свеце, калі ніякая справа не займае тваіх думак, рук ці сэрца. І стары Вайцяхоўскі згубіў інтарэс да жыцця. А калі няма інтарэсу — няма і жыцця. Неўзабаве ён пакінуў гэты свет.

Мажліва, сустрэўшыся на тым свеце з юрыстам Валынчыкам, яны моцна абняліся, пагаманілі ды аднадушна пастанавілі не кідаць пачатую справу на паўдарозе. Але паколькі пісьмаў з неба не атрымлівала і дагэтуль ні адна дзяржаўная ўстанова ці хаця б просты чалавек (прынамсі, нам пра гэта невядома), дык ажыццявіць сваю задуму ім не ўдалося.

Што ж сталася з яблыкам роду Вайцяхоўскіх? А што магло зрабіцца з маладым, здаровым і няўрымслівым Лёшыкам Вайцяхоўскім? Сум і жалоба прайшлі, як мінаецца ўсё ў гэтым чалавечым жыцці, а іх месца надзейна занялі нястомнасць і бадзёрасць.

Лёшык вырашыў наладзіць у мястэчку пашыў шапак. Бо які мужчына — ці ўлетку, ці зімою — зможа абысціся без аблавухі, кучомкі ці кепкі. Разлік быў слушным: не спі ў шапку — і шапкі прынясуць дакладны, гарантаваны набытак. Не сядзі склаўшы рукі — і гэтыя рукі зробяць цябе шчаслівым. Не сумуй — і радасць паселіцца ў тваім сэрцы…

А яблык ад яблыні сапраўды падае недалёка…

## ДРУГІ СМЯРОТНЫ ГРЭХ

*Сярод сямі галоўных* смяротных грахоў чалавека ён цямнеецца другім. Калі ж нехта забыў, як ён завецца, дык тут адно з двух: ці чалавек блага ведае пералік галоўных чалавечых грахоў, ці ўвогуле не знае гэтай правіны. Што больш верагодна, вырашайце самі…

Антусь жыў у суседняй ад мястэчка вёсцы Глінішчына. Векаваў адзін. Відаць, зоркі, лёс ці анёл-апякун не паспрыялі таму, каб ён знайшоў сабе пару і жыў поруч з ёю ў горы і радасці, пакуль не згасне на небе яго свечачка. Антусь нябрыдкім быў: высокі, хударлявы, з шапкаю светла-русых валасоў. І хоць твар яго выдаваў драбнаватым, на ім хапіла месца бойкім вяснушкам: яны шчодра месціліся і на носе, і на шчоках, і нават на вушах гэтага мужчыны…

Свайму суседу Генусю ён, праўда, неяк падчас бяседы пажаліўся: «Вазілі мяне неяк раз на агледзіны. І дзеўка мне як быццам спадабалася. Хацеў быў ужо сватацца, ды — адумаўся. Загану адну яна мела: доўгі нос. На халеру яна мне, насатая, здалася, думаю. Даўся ў дзверы — і дахаты… А праз шмат гадоў убачыў яе выпадкова на кірмашы. Ага, пазнаў. З мужыком са сваім была, і хлапчук з імі. Схаваўся я за вуглом ды разгледзеў Марылю яшчэ раз добра. І знаеш, братка, не такі той нос і доўгі быў…»

Але гэтая невясёлая акалічнасць ніяк не паўплывала на любімы занятак старога

кавалера Антуся. Так, ён ахвотна вадзіў усіх жадаючых хлопцаў, якія вельмі прагнулі займець гэты хамут на шыі, у сваты. Злыя языкі сцвярджалі, што за тры дні да чарговага сватання Антусь нічога не еў, разлічваючы (і ў гэтым ён, прынамсі, яшчэ ні разу не памыляўся) на шчодры пачастунак у гасцях. Хай сабе так было і напраўду. Што з таго?

З гэтага шкоды, вядома, нікому не было. Як ні дзіўна, акрамя як самому Антусю. Звычка ўсё падлічыць, выгадаць, займець рахубу часцей не выручала яго, а падводзіла.

Здарылася гэтак і тады, калі Антусь святкаваў Каляды. Аднаму адзначаць такое светлае свята — ніякавата. Сам з сабою не абдымешся, не пажартуеш і не падпяеш сам сабе; нават чарку браць аднаму не ў смак… Такія невясёлыя думкі, што раіліся ў Антусевай галаве, прыпыніў стук у дзверы.

— Здароў, Антусь! — у парозе стаяў вясёлы чырванашчокі сусед Генусь. — З Калядамі!

— Ага, і цябе таксама, — усхапіўся з лавы гаспадар. — Праходзь, суседзе, пасядзім, пагамонім…

Госць прайшоў у хату, зняў шапку, расшпіліў кажух.

— Пагаварыць, вядома, можна, але ж — свята, як-ніяк…

Нават хцівы чалавек, апошні скнара і жмот на свята, тым больш на Каляды, дазваляе сабе паслабіць, а каторы — дык і распеперазаць папругу ды прыстойна, палюдску, адзначыць яго. А Антусь што, горшы?

— Ну дык што, у складчыну? — запытаў гаспадар.

— Ага, у складчыну, — згодна кіўнуў галавою Генусь і сам сабе не на жарт узлаваўся: «Ну і куркуль! Я да яго на скварку прыцягнуўся, ногі біў, думаў павесяліць бабыля: усе сем’ямі святкуюць, а ён адзін, як воўк, сядзіць. Дык замест таго, каб добры стол прыстроіць ды суседа ўважыць, от што надумаў — у складчыну!.. Ну, я цябе навучу, як з госцем у складчыну піць!..»

А сам устаў з лаўкі і бадзёра скамандаваў: «Давай, Антусь, бяжы за бутэлькай, а я — дахаты, за закуссю!» Узрадаваны Антусь, які хуценька ў думках прыкінуў, што яда (хай сабе і свая, не куплёная, але калі ўсё ж падлічыць у пенёндзах) абыдзецца суседу даражэй, чым яму — бутэлька га́ры, ускінуў на плечы нейкі лапсардак і выскачыў з хаты. Генусь тым часам кінуўся за правіянтам.

Калі вы раптам сустракалі ў сваім жыцці мужчын, зборы якіх на застолле доўжацца больш за паўгадзіны, дык вам надзвычай пашанцавала: такіх незвычайных і рэдкіх істот выпадае назіраць, як сцвярджаюць вучоныя, не часцей, чым адзін раз у сто гадоў. Але нашы героі мала падобныя на тых, мякка кажучы, дзівакоў. Таму недзе праз пяць, ну, дзесяць, хвілін запыханы Антусь прыджгаў у хату з бутэлькай за пазухай, а Генусь ужо кроіў пачастунак. Нос неміласэрна казыталі вэнджаны кумпяк, духмяная кілбаса, сухенькая, з часнікам, паляндвіца…

«Шчодры стол, — крутнуў галавою Антусь і сударгава праглынуў сліну. — Пануе сусед».

Гаспадар таксама праявіў панскія адзнакі, стукнуўшы пляшкаю самагону па стале — на, трымай!..

Седзячы за сталом, на якім удосталь было для двух мужчын і ежы, і піцця, Антусь і Генусь няспешна гаманілі.

— Эх, добрая, зараза! Бярэ! — крахтануў Антусь, глынуўшы яшчэ адну чарку самаробнай.

— Ага, братка, харошая! — падтакнуў яму таварыш і падсунуў бліжай талерку з ладнымі кавалкамі кумпяка. — Ты закусвай, Антусь, закусвай!..

— Эге, і кумпяк, халера, смачны! Ну, зусім як у мяне, — торкаў відэльцам у скрылі мяса Антусь і ўплятаў за двух.

— Ай, і не кажы, сусед, — згаджаўся Генусь. — Як у цябе…

— Добра сядзім!

— Ой як добра!..

Мужчыны, закусіўшы і выпіўшы ў ахвоту, прыціхлі. Сытая лянота ўзяла іх у свой палон. І толькі замысліла падаслаць ім таго, хто здольны прысільваць заплюшчваць вочы і салодка сапці, як Антусь схамянуўся:

— Ты ж, Генусь, памятаеш майго бацьку?

Генусь нават крыху пакрыўдзіўся.

— Што ты кажаш! Чаму ж гэта я не памятаю дзядзьку Вальдака? Ён мяне, падшыванца, аднаго разу дубцом па пятах до-о-о-бра сцебануў. І табе ж, Антусь, тады таксама нядрэнна перапала. Хіба забыўся?

— Ага, забудзешся!.. — ухмыльнуўся той. — Але ж і дадумаліся мы тады з табою дзе схавацца — на стажарні. Ведама, дзеці яшчэ былі, які там розум?

— Ай, і не кажы — пакурылі… Затое пасля, памятаеш, як дзецюкамі сталі, бацька ў свята за сталом і чарку даваў пакаштаваць.

— Пэўна ж. Лепш у хаце, пры старэйшых, га́ры той паспытаць, чым пазавуголлю смактаць!..

Мужчыны прымоўклі, уздыхнулі. Відаць, кожны прыгадаў тую веснюю і шчаслівую пару, калі ты — малады і сонца свеціць табе найярчэй, чым каму, і зоркі ўночы зіхацяць, як брыльянты, і ўсё ў цябе яшчэ наперадзе…

Генусь раптам зарагатаў:

— А ты, Антусь, ці памятаеш?

— Каго?

— Не каго, а што. Чмут!

— Э-ге, — уздыхнуў той. — За гэты мой фокус бацькаў дубец не па пятах, а па с... добра прагуляўся, дый (што хавацца?) затрымаўся ладна.

— А што ты там заліваў: карасіну, ці што?

— Карасіну. І колькі я там зацадзіў: так, сербануў якую шклянку.

— А далей? — стрымліваючы смех, спытаў Генусь.

— Быццам бы не памятаеш? — успыхнуў Антусь. — Запаліў сярнічку ды плюнуў на агонь. Чмут!..

— Харо-о-ошы чмут атрымаўся! — засмяяўся Генусь. — Добра, што пыса цэлай засталася, а то быў бы, не раўнуючы, як парсюк асмалены.

— Угу, — пагадзіўся той. — А ўсё ж добры тады атрымаўся трук! Хоць мог бы і хату так спаліць!..

— Але, бацькаў дубец адвучыў, як той чмут рабіць…

Зласлівыя і ўсюдыісныя языкі прыгадалі б «чмуты» і з жыцця самога Вальдака, нядрэннага, але скупаватага чалавека. Як, прыкладам, ён, калі ўладкаваўся працаваць у сельпоўскім магазіне грузчыкам, мусіў паехаць аднаго разу на раённую базу за прадуктамі. Ну, гэта крыху перабольшанне: паехаў, вядома, не сам Вальдак, а — шафёр, лысаваты, мажны Томак, і правізію па паперах атрымлівала прадаўшчыца Гелена, нетаропкая і павольная, «пусці-павалюся» кабеціна. А вось што чыстая праўда, дык гэта тое, што каўбасу, селядцы, крупы ды іншы правіянт пёр на сваім гарбу ў кузаў машыны Вальдак. Калі ж усе прадукты былі спарадкаваны, шафёр Томак падсадзіў ладную Гелену ў кабіну, заскочыў за руль сам, і машына, як той конь (нездарма ж яе сілу вымяраюць цягавітасцю гэтай жывёлы), пакацілася ў бок хаты. Вальдак, як здагадаўся кемлівы чытач, калатырыўся тым часам у кузаве.

Месца не вельмі каб ганаровае, ды і сумнавата, прызнацца, аднаму. З той прычыны Вальдак акінуў позіркам свой часовы прыстанак ды затрымаўся чамусьці на скрынцы з кілбасамі. «Цікава, а колькі ж там кілбас ляжыць? — задумаўся Вальдак і стаў падлічваць: адна, дзве, тры, чатыры… — Але ж і пахнуць як, заразы! — пакруціў ён носам. — Смачныя, відаць!..» Прызнацца, Вальдак каштаваў у сваім жыцці і больш апетытныя стравы, чым куплёная кілбаса, але… Але Вальдак налічыў іх у скрыні (так, на вока) не менш за два дзесяткі, таму калі адна з іх раптам некуды дзенецца, разяватая цяцера Гелена наўрад ці заўважыць. Троху памергаваўшыся, Вальдак адчайна рашыўся і ўпохапкі ўцерабіў палку кілбасы. Без хлеба. «Нічога сабе, — пастанавіў ён, выціраючы рот рукавом. — Смачная. Асабліва калі дармовая». Грузавік каціўся далей, а Вальдак мусіў з новаю сілаю ўдыхаць пахі правіянту, што дражнілі нос. «Вось і селядцоў у бочцы да халеры! Ат, калі адзін і сплыве куды, Гелена не прыкмеціць!» — махнуў ён рукою. І селядзец мусіў «сплыць» туды ж, куды і пахучая кілбаса. Затым у гэтую спажыўную кумпанію далучыліся яшчэ адзін селядзец (добры, тлусты!), палка, не, дзве, кілбасы, дзесятак памідораў… Стрымацца Вальдак ужо не мог: мажлівасць падсілкавацца на дармаўшчынку, «за так» дазвання выцесніла пачуццё меры…

Калі Томак спыніўся нарэшце перад вясковай крамай і ладная Гелена выпхнулася з кабіны, каб дапільнаваць правіянт, з кузава не данеслася ні гуку.

— Гэй, Гелена, ці не зрабілася там якой бяды? — выгукнуў Томак і рушыў да хваста машыны.

— Ой-ёй-ёй! — залямантавала праз хвілю прадаўшчыца, зазірнуўшы ў кузаў. — Канец свету!..

«Канец свету» выглядаў наступным чынам: Вальдак, трымаючы ў адной руцэ абгрызак каўбасы, а ў другой — надкусаны памідор, ляжаў паміж скрынкамі і не варушыўся. Гелена (адкуль толькі спрыт браўся?) сiганула ў кузаў і ўзялася трэсці грузчыка за нагу.

— Не дыхае! Ой, не дыхае! — галасіла яна. — Я ж чую!..

І толькі паспела ўчапіцца за другую нагу нерухомага цела, як паслізнулася на памідорах, густа рассыпаных па кузаве, быццам іх хто тут пасадзіў, і пацягнула за сабою Вальдака.

— У-у, у-у, — адазваўся ён працяжна і жаласліва.

— Жывы! Ой, жывы! — радасна заверашчала Гелена, распластаўшыся на падлозе. — Я ж чую!..

— Эх, халера вас не возьме! — плюнуў мажны Томак, які моўчкі назіраў за гэтымі турбацыямі, ухапіў адной рукой за нагу Гелену, другой — Вальдака і пацягнуў іх уніз…

Словам, пасля таго казусу Вальдак атрымаў вусную вымову наўзамен грошай, заплачаных за з’едзены правіянт. Але пасады сваёй затое не пазбавіўся. Адно ездзіў цяпер не ў цёмным кузаве-будцы, а — у кабіне, побач з шафёрам. Як самы сапраўдны начальнік і добры пан…

Тым часам і Антусь з Генусем падчысцілі прысмакі на калядным стале. Пякучае змесціва бутэлькі памалу пералілася ў іх горлы. Прыемная бяседа мусіла скончыцца…

— Ну, дзякуй табе, братка! — ляпаў па плячы Генуся гаспадар. — Заўважыў суседа.

— Ага, Антусь, добра пасядзелі. Дзякуй табе за бяседу, за гаворку, за закусь!.. — узяўся абдымаць гаспадара Генусь, якога крыху вадзіла ў бакі.

— На здароўе, суседзе. На здароўе! — ківаў галавою задаволены Антусь. — Але ж закусь, братка, твая была, а мая — бутэлька, — і паблажліва засмяяўся: — Ну ты і ўрэзаў! Усё пераблытаў. Дарогу хоць дахаты знойдзеш?

— Знайду! — таксама засмяяўся Генусь і, нацягнуўшы кажух, пасунуўся да дзвярэй.

— Глядзі, жонку сваю, Марылю, з кім іншым не паблытай! — крыкнуў наўздагон Антусь і зарагатаў.

— Ты таксама таго… глядзі… — прамармытаў сабе пад нос сусед, выходзячы на вуліцу. — Глядзі і вучыся, як з суседам на свята ў складчыну гарэлку піць!..

І Антусь убачыў. Недзе праз тыдзень, калі палез на гарышча. Закарцела яму паласавацца кумпяком.

«Ай-яй-яй, людцы! Што ж гэта робіцца?! — залямантаваў быў Антусь, убачыўшы, што ад кумпяка і паляндвіцы адпаласаваны ладныя кавалкі, а дзвюх кілбас (самых тоўстых, між іншым) на шастку ўвогуле чорт мае, але ўраз спахапіўся і змоўк. Нядобрая, ды слушная здагадка цюкнула яму ў галаву. — Ну, сусед! Ну, гад! — прашаптаў ён, ківаючы галавой. І затрос кулаком: — Такое ўтварыць! Мяне маёй жа кілбасой ды кумпяком… Ну, пачаставаў!..»

А Генусь, які бачыў гэтую сцэну яшчэ тыдзень таму (вядома, у сваім уяўленні), толькі пасміхнуўся, седзячы дома на цёплай печы: і кілбас не краў, і смачна паеў ды выпіў на дурніцу, і суседа-жмінду правучыў!..

І меў на тое ўсміханне ўсе падставы. Не кожны зможа правесці такі фінт. Прыкладам, Лёньку з Нікадзімам, якія вырашылі аднаго разу падцвеліцца з хцівага Антуся, гэта не ўдалося.

Першая закусь у той час ведама якая была — сала, падсмажанае на патэльні, ды добра, калі яек колькі туды ўкасаецца. Вось такое ядзенне шкварчэла на стале і ў той раз, як Антусь, Лёнька і Нікадзім сабраліся ў Петрачковай хаце.

Чаму мелася збюрка, ніхто цяпер і не ўзгадае. Мабыць, сена прывезлі, можа, з дроў прыехалі, а мажліва, бульбу выкапалі. Словам, прычына была важнай (гэта цяпер мужыкі п'юць, збіўшыся ці ўтрох, ці ўдвух, ці большай кумпаніяй, а хто і адзін, без усялякай на тое прычыны, дакладней, з прычыны, што сышліся) і вымагала скваркі і чаркі.

Петрачкова Альбінка насмажыла сала з цыбуляй, убіла туды з дзесятак жоўценькіх яечак… Затым паставіла на стол яшчэ дзве місы: адну — з квашанаю капустай, другую — з салёнымі агуркамі, і пакінула мужчын адных.

Яны не сталі марудзіць — і «абезгаловілі» пляшку з саматужным напоем, выстаўленую на стол Петрачком. Праўда, драбнаваты Лёнька па мянушцы Багатыр ці не з трэцяга разу толькі здолеў выцягнуць з бутэлькі «галаву» з пакулля, што надзейна затыкала сабой пякучае змесціва.

— Эх ты, Лёнік! — пакпіў з яго Нікадзім. — Маца-а-ак!

— Ага, — падтакнуў яму Петрачок, які быў родам з Анцыпараў, невялікай лясной вёсачкі ў вярстах дзесяці ад мястэчка. — Не маюць цяпер мужыкі той сілы. Вось у нас у Анцыпарах жыў Антон, дык ён адной рукою ў тоўстую лаву цвік заганяў. Лясне далонню (а яна ў яго, не раўнуючы, як гусеніца ў трактары была) па цвіку — той і ўторкнецца па самую плешку. Вось гэта дужы мужык быў!..

Мужчыны паважліва замоўклі.

...Мінуў час. Тлушч на патэльні застыў. І покуль Антусь, які дасюль спрытна цягаў з патэльні дармовыя скваркі, усё яшчэ аб нечым задуменна маўчаў, Нікадзім падміргнуў Лёньку. Той няўцямна лыпнуў вачыма. Тады Нікадзім паказаў на корак: маўляў, падсунь бліжай. І зіркнуў на Антуся. Ледзьве крутнуў галавою: глядзі, каб

не заўважыў. Лёнька паклаў руку на стол і як быццам незнарок папхнуў жмуток пакулля. Нікадзім увішна падчапіў яго на відэлец і апусціў у патэльню.

Петрачок скасавурыўся, але прамаўчаў. Свайго пагляду ад стала ён, праўда, больш не адводзіў. Нікадзім тым часам абкатаў корак у тлушчы, падсунуў яго на Антусеву палову патэльні, падняў на відэлец скварку і скамандаваў:

— Ну што, па чарцы!

Петрачок з гатоўнасцю напоўніў чаркі і стаіў дыханне…

Мужчыны прымасцілі палягчэлыя чаркі на стол, са смакам крахтанулі і ўзяліся за відэльцы. Антусь уперад заўважыў каля сябе ладную скварку (і адкуль яна толькі ўзялася: усе ж лепшыя ўжо выцягнуў?) і, таропка падчапіўшы яе на відэлец, укінуў у рот.

Лёнік спалохана зірнуў на Нікадзіма, які адно ціхенька шчэрыў зубы. Петрачок жа паглядаў то на перапуджанага Лёньку, то на вясёлага Нікадзіма, аж пакуль не спыніўся нарэшце на Антусю. Скнарлівы, карыслівы Антусь не меў часу назіраць за гэтымі пераглядамі. Ён, як здагадаўся кемлівы чытач, быў заняты сур'ёзнаю справаю. Ага, не ўсміхайцеся, простая на першы погляд справа насамрэч можа аказацца надзвычай складанаю.

Ужо колькі тых скварак пераеў Антусь са сваіх і чужых (з'едлівыя языкі як піць даць папpавяць: чужых і сваіх) патэльняў, а гэткая трапіла на зуб упершыню. Антусь спачатку спрабаваў яе жаваць, потым нядоўга патрымаў на языку, перакінуў на кутнія зубы, зноў пажаваў і… праглынуў. Але, узяў і з'еў.

Гэтым разам Нікадзім спудзіўся, Лёнік шырока заўсміхаўся, а Петрачок у захапленні крутнуў галавою і чмыхнуў. Хцівы Антусь (знарок ці не — здагадайцеся, шаноўныя, самі) не толькі выйшаў сухім з вады, але і змусіў замачыцца іншых.

Смяротны грэх пад нумарам два здолеў зноўку завалодаць нядошлай чалавечай душою…





*Мікола Мятліцкі нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна. Скончыў філфак БДУ. Працаваў у рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Полымя». Аўтар зборнікаў вершаў «Абеліск у жыцце», «Мой дзень зямны», «Бабчын», «Палескі смутак» і інш. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы.*

Мікола МЯТЛІЦКІ

# КРАСЫ АГНІСТАЙ ПРЫБЫВАЕ…

* * *

Ужо прарэджаны лясы
Зубастаю пілою.
І сёння, як ва ўсе часы,
Бор дыхае смалою.

Высока ўзнесліся камлі,
Што выстаялі ў сечы,
А побач — выверты зямлі,
Глум вечны чалавечы.

Устане тут магутны бор —
Прамень чыйгось маленства.
І будзе ў ім птушыны хор
Гарланіць да шаленства.

І будзе свет дабра і зла
Гушкацца, стогалосы,
І будзе новая піла
Крамсаць камлі, як лёсы.

У гэтым лесе, дзе святло
Сцякае ўніз праз кроны,
Багата хвой не парасло.
Напэўна, іх мільёны.

У гэтым свеце, што вакол
Грыміць расстайна-бегла,
Не меней нас у хмуры дол,
Як хвой у лесе, легла.

Ці лес прарэджаны ці лёс?
Іду сцягой грыбною.
А колькі вышаю нябёс
Ступае ўслед за мною?!

Зіхцяць смалістыя камлі,
У нетрах стогнуць совы,
Нібы гавораць: на зямлі
І ты, хадок, часовы.

* * *

А раніца — усёй святлынню
Па-над рачной бруістай плынню
Зямны пазначыла прыход.
І ветрык першы вее стынню
Ад прасвятлела-сініх вод.

Яшчэ рака з туманнай дымкі
Святлу кідаецца ў абдымкі,
Спатольна-прагна промні п'е.
Нібы фатограф робіць здымкі, —
З-за лесу сонца паўстае.

Красы агністай прыбывае.
І бор пахмуры ажывае,
У кронах птушак галасы.
І тое ў свеце прабывае
Ва ўсе вякі, ва ўсе часы.

* * *

Як вогнішча, дзе стыне вуголле,
Памяць сваю зварухні.
І закрасуе жарам, уколе
Бляск чысціні.

І адгукнуцца былога струны
Над прахалодай лет.
І закрасуе сардэчна юны
Зрошаны свет.

Пройдуць далёка-высока хмары
Дзесь па-за ім.
Будуць валошкамі ўспыхваць мары
Ў вусцішы зім.

Стане святочным звычны будзень —
Сонца ірдзень.
Будзе ўсё там. І зноўку будзе
Ясніцца дзень.

Будзе сцяжына віцца ў полі,
Ранак расу дап'е…
Ды толькі не будзе ў тым свеце ніколі
Болей Яе.

Ты дыхаеш тым забытым летам.
Шэпчаш каханню гімн.
Яна ж засталася ў свеце гэтым
З другім.

* * *

Гэтае неба і гэтае поле —
Далеч і выш.
Сонца праменнае вочы мне коле,
Слых пружыць ціш.

Сёння, падобна зыркай камеце,
Што прыблукала на міг,
Ты заблудзіўся ў вусцішным свеце,
Сэрцам спасціг —

Мудрасць налітага сонцам прыволля,
Сонную ціш,
Гэтага неба і гэтага поля
Далеч і выш.

* * *

У цьмянай восеньскай пары
Бываюць хвілі прасвятлення,
Калі ўздымаюцца вятры
І чорных хмар тугое звенне

Ірвецца раптам. І блакіт
Прагляне сонечнай яснотай,
І вод зялёны малахіт
Зірне таемна-свежай цнотай.

На мокрай выстылай зямлі,
Што у паўзмроку вечаруе,
Гулліва раптам — скуль? калі? —
Прамень, сваволячы, царуе.

Лісця шарэчу казытне,
Кульнецца над рачною плынню,

І разгарыцца ува мне
Душы раз’ясненай святлынню.

* * *

Час абкрадае пакрысе —
Брыдзе пуцінаю зямною.
Як след на ранішняй расе,
Жыццё знікае за спіною.

Нібы з лясістай нематы
Павыйшаў сцежкаю — з глушэчы.
І вось у новым часе ты,
Вітаеш поступ чалавечы.

Радком багата не сказаў,
І вочы пільна адкрываеш,
Як ацалелы дыназаўр
Сябе між юных пачуваеш.

Як непадобны з іх любы
На тых уяўных з далячыні.
Адно, што русыя чубы
Ды воч пагляд блакітна-сіні.

А дзе ж душа? Даўно не той
Яна прасякнута шчымотай.
Буяе чэзлай глухатой,
Змарнела вее адзінотай.

Адмежавалася спаўна
Ад болю свету і трывогі.
Брыдзе ў навушніках яна,
Глядзіць адно сабе пад ногі.

* * *

Курган за Быстрыцай… Глухотай
Ахутаны з забытых дзён.
Ды па-над Віліяй употай
Вядзе гаворку з борам ён.

І час мінулы набягае,
Зіхотна выблісне — агонь!
І вось над рэчкаю Ягайла,
Хрыпіць пад ім буланы конь.

І моўкне гул дружыны-стражы,
Зарой яснее далягляд.
І ў дол сыры упіўся княжы,
Блакітнай яснасці, пагляд.

І сапажок ступае чынна
На сухадолы жаўтапёс.
І — адкрываецца Айчына:
З шырэчы свету — да нябёс.

Стагоддзяў чуецца залева,
Грымот раскатных галасы.
Яшчэ аднойчы будзе Крэва
І уніяцкія часы.

І польскі круль сядзіць на троне —
Пачне дынастыі разбег.
А тут, за Быстрыцай, сягоння
Снуецца першы светлы снег.

Раздольна, вольна і святліста —
Краса чаруе седака.
Плыве парывіста і чыста,
Вякі нітуючы, рака.

І князь узрушаны вясёла
Махне дружынніку рукой.
І ўстануць звонніцы касцёла
Над самай Віліяй-ракой.

* * *

Перагартае каляндар дуброва
І скіне позна зжоўклае лісцё.
Ну вось ужо ты болей за палову
Пражыта, як прагортана, жыццё.

У весніх снах блакітам сон-травы
Мне падае маленства голас зычна.
І росхлістам нябеснай сінявы
Зірне праз памяць чуйную нязвычна.
І я стаю — пачуццяў вартавы.

Юнацкі свет… Азорыцца красой
Тае дзяўчынкі, што, як промень цноты,
За часу згубна-стратнай паласой
Жыве пад небам юні і пяшчоты.

Астатняе — адзін нясходны тлум,
Дзе многа горкіх, сіратлівых дум.

* * *

Голасна спеўнаму ветру
Па-над зямлёю соннай.
Ён адмахаў кіламетры
Ядзернай зонай.

Голасна птушцы ранняй —
Радасць жыцця вяшчуе.
Толькі яе спяванне
Вёска мая не чуе.

Дзень сваю думае думу
Сонечна і узвышана.
Толькі адно майму суму
Сцішана.

* * *

Гонкі хвойнік на дзялянцы
Кметна вымахаў-падрос.
Побач з хвойкамі, бы ў танцы,
Плечы белыя бяроз.

Спешна мну нагамі верас —
Мне б убачыць хвойнік-цуд.
Ды зубастая сякера
Пагуляла ўпраўна тут.

Як нямыя адгалоскі
Той калішняй светлыні,
Палі замертва бярозкі.
І тырчаць-шарэюць пні.

Лёс іх згубны, незайздросны,
Лёс трагічны, лёс зямны.
Засамочаныя сосны
Ў неба цягнуцца адны.

А было так шчасце блізка,
Ды прывід за лесам знік.
«Санітарная расчыстка!» —
Горда вымавіў ляснік.

* * *

Нібы забытая прагрэсам,
У змрок схаваная рака.
Над плёсамі, над стромым лесам
Агністы рог маладзіка.

І неба выша — росхрыст зорны,
Надрэчнай вёсачкі агні.
Час заспакоены вячорны
Ступае мякка ў цішыні.

Сыходзіць дзённая утома,
Садзіцца волка высеў рос.
І цэдзіць прэлая салома
Свой пах аржаны ў высь нябёс.

Працята шыр даспелым летам,
Бяростай, мытай у гаях.
І чуеш зноў, як з белым светам
Душа зліваецца твая.

* * *

Я не першы ўзіраюся ў зорную выш,
Дзе мільгаюць агністыя грывы камет.
Нада мною, закуты ў сусветную ціш,
Расхінуўся халодна бясконцы Сусвет.

Ён адзінае толькі — забава вачам,
Неабдымна-шырокі, канае ў глушы,
Паўстае прада мной, быццам
Госпада храм,
Дзе раздольна і светла ўзвышацца душы.

І вядзе службу ў ім непадкуплівы Час,
Падзяляе на грэшнікаў нас і святых.
І віднеецца з долу, як іканастас,
У цямрэчы начной россып зор залатых.

Храм-Сусвет…
І які ўжо прыземлены век,
Прагна чуючы сэрцам забаву тваю,
Непрыдатны для ўзлёту, зямны чалавек,
Я з пакораю звычнай пад зводам стаю.

* * *

*Памяці Максіма Філіпава*

Я чуў твой спеўны юны голас
У школе сцішаных Варнян.
І вось упаў, бы ў жыце колас,
Папоўніў часу акіян.

Юнак-паэт… Спадзеўны, весні.
Жыццё — атрутная іртуць.
І ўжо тваёй нязбыўнай песні
Нікому ў свеце не пачуць.

Зляцела зорка з небасхілу —
З высокім небам не ў ладах.
Твая заўчасная магіла
Слязьмі умыта на кладах.

І час, імглісты і залеўны,
Сцякае ў вечны акіян.
А я ўсё чую голас спеўны
У школе сцішаных Варнян.

* * *

Аблога белая снягоў —
Сцябае сіверам пагода.
Рачных не бачна берагоў,
І плынь ракі скавана лёдам.

Трашчаць начамі маразы
У хат старых драўляных сценах,
Саней скрыгочуць палазы —
Гружоныя духмяным сенам.

У вечным клопаце сяла
Аб цеплыні жаданай мары.
Хутчэй бы ты, зіма, сышла
І пашарэлі ў небе хмары.

Зялёнай гойстраю травой
Вясна азвоніцца ў ваколлі.
А зараз сцюжай ветравой
Адна бялота вочы коле.

А то загразне ўраз сама,
За дзень-другі падчас растане.
Сыдзі, капрызная зіма,
Лягчэй душы змарнелай стане.

* * *

Яшчэ не выстыла раса,
Не пабялелі ў лузе травы.
І яснай восені краса,
І свежы ветрычак рухавы.

Вышэча сшэрхлая аблок,
Шырэча светлай далячыні.
І пачуцця жаданы крок —
Хлапец спяшае да дзяўчыны.

Яшчэ пад вязамі дваім
І мройна-соладка, і светла.
І свет здаецца раем ім,
Глядзіцца сонечна, прыветла.

Ды грымне ў лёсе ураган,
І прыйдзе скрушная хвіліна.
Ягоны горычны Афган,
Яе сляза над дамавінай.






Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА*

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»

## ГОД ГАСПОДНІ 1391

**КНЯЗЬ ВІТАЎТ, ПРЫБЫЎШЫ Ў ЛІТВУ З ВЯЛІКІМ ПРУСКІМ ВОЙСКАМ, БЕСПАСПЯХОВА АБЛОЖВАЕ ВІЛЕНСКІ ЗАМАК І СПАЛЬВАЕ ВІЛЬКАМІР І НАВАГРАДАК, УЗЯЎШЫ Ў ПАЛОН ЗНАЧНУЮ КОЛЬКАСЦЬ ПАЛЯКАЎ.**

У пачатку лета князь Вітаўт і магістр Прусіі[1], сабраўшы новае моцнае войска, зноў ідуць паходам на Літву і спяшаюцца да віленскіх замкаў, якія яны спрабавалі аблажваць і ўзяць прыступам у папярэднім годзе, разлічваючы, што зараз лёгка і без якой-небудзь небяспекі для сваіх людзей захопяць іх, дзякуючы здрадзе літоўцаў і рускіх, падрыхтаванай князем Вітаўтам. Аднак стараста літоўскі Яська з Алясніцы, кіруючыся дальнабачным разлікам, спаліў горад Вільню, каб ён не мог служыць апорай і прыстанкам ворагу. Затым ён размясціў у шматлікіх месцах засекі з дубоў, якія завуцца «шранкі» або «кабылене»[2], каб лягчэй было адбіваць непрыяцеля ад замкаў.

Калі ж князь Вітаўт і магістр Прусіі з войскам наблізіліся, то атрад рыцараў, выступіўшы пешым строем ім насустрач, да царквы святой Марыі, кінуўся на варожае войска і, пакінуўшы шмат ворагаў забітымі або параненымі, не страціўшы ніводнага са сваіх загінуўшымі або палоннымі, вярнуўся ў замак.

Князь Вітаўт і магістр Прусіі, разумеючы, што пасля адхілення князя Скіргайлы падстроеная імі здрада з мэтай перадачы або падпалу замкаў літоўцамі і рускімі, вельмі варожымі Скіргайлу, на якога яны спадзяваліся, ніякім чынам не здзейсніцца, гэтак жа як з-за шматлікага стойкага абароннага атрада польскіх рыцараў не адбудзецца і рашучы прыступ, — праз некалькі дзён здымаюць аблогу. Але каб не паказаць, што такое вялікае войска не здзейсніла нічога значнага, яны, зрушыўшы станам, накіроўваюцца на Вількамір і Наваградак, замкі, збудаваныя на рацэ Віліі князем Скіргайлам, і ў некалькі дзён прыступам авалодваюць імі, бо палякі, якія трымалі абарону замкаў, ніяк не ў сілах былі супрацьстаяць магутнасці ворагаў. Пры гэтым многія былі забіты, а Клеменс Бірова, Ян Лось, Земя і многія іншыя польскія рыцары, узятыя ў палон і выведзеныя ў Прусію, на працягу цэлых сямі гадоў трывалі ганебны палон у замку Эльбінге. Разбурыўшы і спаліўшы згаданыя замкі Вількамір і Наваградак, магістр Прусіі і князь Вітаўт вярнуліся ў Прусію. Тым жа летам князь Вітаўт разам з ваярамі крыжакоў, якіх вёў крыжак Марквард[3],

---

* *Працяг. Пачатак у нумарах 1, 2 за 2010 г.*

[1] Магістрам Прусіі ў гэтыя гады (1391—1393) быў Конрад фон Валенрод.

[2] Circulationes — уласна «кругавыя хады», «абыходы». Польск. szranki, kobylenie азначае «агароджы», «перагародкі».

[3] Марквард фон Зальцбах — у 1396—1401 гг. комтур Рагнеты, затым, у 1402—1410 гг., — Брандэнбурга.

двойчы ўрываючыся ў Літву, спаліў Меднікі і Вельшу і забраў з сабою палонных і здабычу.

**КНЯЗЬ ВІТАЎТ РАЗАМ З МАГІСТРАМ ПРУСІІ БУДУЕ ТРЫ ЗАМКІ НА РАЦЭ НЁМАН, А МЕНАВІТА: НАЎГАРДЭР, РЫТЭРСВЕРДЭР І МЕТЭМБУРГ. КНЯЗЬ АЛЯКСАНДР, БРАТ КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА, З ВЯЛІКАЙ МУЖНАСЦЮ НАПАДАЕ НА ЗАМАК НАЎГАРД, ЯКІ ЗАЙМАЎ ВІТАЎТ, АЛЕ АДЫХОДЗІЦЬ, НЕ ЗДЗЕЙСНІЎШЫ СПРАВЫ.**

Пасля малапаспяховага летняга паходу, здзейсненага імі на Літву, князь Вітаўт і Конрад фон Валенрод, магістр Прусіі, распачалі другі паход узімку і, дайшоўшы да замка Коўна, абарону якога трымаў каралеўскі атрад, пабудавалі ў яго наваколлях тры драўляныя замкі — усе на рацэ Нёман. Аднаму, размешчанаму бліжэй да Ковенскага замка, яны далі назву Наўгардэр, што азначае «Новы востраў»; другому — Рытэрсвердэр, што значыць «Рыцарскі востраў»; трэцяму — Метэмбург, што значыць «Памежны замак»[1]. Пры гэтым двума новымі замкамі, менавіта Наўгардэрам і Метэмбургам, кіраваў магістр Прусіі з дапамогай камандораў і братоў свайго Ордэна, змясціўшы туды моцную рыцарскую ахову. Замак жа Рытэрсвердэр атрымаў у надзел і валоданне князь Вітаўт. Размясціўшыся ў ім з князямі, баярамі і рыцарамі, якія былі яго прыхільнікамі, Вітаўт часта здзяйсняў таемныя набегі на літоўскія землі (разлічваючы авалодаць імі такімі варожымі дзеяннямі або хоць бы вярнуць сваю долю спадчыннага валодання, адабраную польскім каралём Уладзіславам), наносячы страты пастаяннымі рабаваннямі і падпаламі, прычым крыжакі з двух згаданых замкаў аказвалі яму дапамогу.

Каб спыніць яго дзёрзкасць, Яська з Алясніцы, стараста літоўскі, сабраўшы значнае войска з палякаў, літоўцаў і рускіх і паставіўшы на чале яго князя Аляксандра, інакш Вігунта, брата польскага караля[2], адпраўляе яго аблажваць замак Наўгард.

Вігунт прыбыў туды і, не даўшы яшчэ адпачыць войску, так настойліва і адважна пайшоў на прыступ замка, што ледзь не захапіў яго, як гэта паказвалі рыданні і ляманты мужчын і жанчын, якія там знаходзіліся і плакалі, чакаючы немінучай сваёй гібелі; ды таму, што абаронцаў было вялікае мноства, замак і гэтым разам абаранілі, але з вялікай цяжкасцю, што і князь Вітаўт часта пасля прызнаваў […]

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ВЫМУШАНЫ ПАСЫЛАЦЬ У ЛІТВУ ВАЯРОЎ І ХАРЧАВАННЕ, ПАКУЛЬ НЕ СПЫНІЛАСЯ ВАЙНА ПАМІЖ ІМ І КНЯЗЕМ ВІТАЎТАМ.**

Увесь час, пакуль доўжылася вайна з князем Вітаўтам, кароль польскі Уладзіслаў, каб захаваць і падтрымаць існаванне зямель Літвы і Русі, замкаў і ўмацаванняў у іх і ўсіх жыхароў, знатных і сялян, вымушаны быў накіроўваць з Польшчы баявыя прыпасы, ваяроў, зброю і вялікае мноства хлеба, сала, быдла, проса і іншага харчавання, і прытым кожны месяц у вялікай колькасці і ўласнымі абозамі (з-за пажараў і спусташэнняў, якія здзяйснялі князь Вітаўт і прускае войска). Усё гэта прадбачліва размяркоўвалася паміж замкамі і асобнымі жыхарамі старастам літоўскім Яськам з Алясніцы. Сапраўды, калі б кароль польскі Уладзіслаў не клапаціўся аб забеспячэнні хлебам і не ўвозіў у Літву неабходнай колькасці харчавання, то яна

[1] Пераклады нямецкіх назваў гэтых замкаў вельмі недакладныя.

[2] Вігунт — князь керноўскі.

была б пакінута і сялянамі і рыцарамі, а крыжакі лёгка маглі б уварвацца і заняць яе; бо рыцары не маглі б заставацца на ахове замкаў, а сяляне — засяваць палі, калі б не было арганізавана агульнае і роўнае забеспячэнне з Польшчы. Страшны голад распаўсюдзіўся на ўсіх, і, пакутуючы ад яго, як знатныя, так і сяляне сцвярджалі, што яны пакінулі б Літву, калі б ім не аказалі дапамогі з Польскага каралеўства ўсякага роду харчаваннем […]

## ГОД ГАСПОДНІ 1392

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ПАМІРАНЫ З КНЯЗЕМ ВІТАЎТАМ ПРЫ ПАСРЭДНІЦТВЕ ГЕНРЫКА, КНЯЗЯ МАЗАВЕЦКАГА, АБРАНАГА БІСКУПАМ ПЛОЦКІМ (І ПАСЛЯ ЗЯЦЯ ТАГО Ж ВІТАЎТА), СТАВІЦЬ ЯГО НА ЧАЛЕ ЎСЁЙ ЛІТВЫ, АБЫХОДЗЯЧЫ СВАІХ РОДНЫХ БРАТОЎ. КАРОЛЬ ВЫДАЛЯЕ АДТУЛЬ ЯСЬКУ З АЛЯСНІЦЫ, СТАРАСТУ ЛІТВЫ, ПАСЛЯ ТАГО ЯК ВІТАЎТ РАЗБІЎ КРЫЖАКОЎ, ЯКІЯ ПЕРАШКАДЖАЛІ ЯГО ВЯРТАННЮ Ў ЛІТВУ, І СПАЛІЎ ТРЫ ІХ ЗАМКІ.**

Страціўшы князя Аляксандра-Вігунта[1], самага прыязнага з братоў, Уладзіслаў, кароль польскі, клапоцячыся першым чынам аб дабрабыце і спакоі роднай літоўскай зямлі, з якой яго звязвала вялікая любоў, а затым і аб бяспецы астатніх сваіх братоў, каб і яны не падвергліся атручванню, задумаў памірыцца з князем Вітаўтам. Кароль уручае Вітаўту стырно валодання літоўскімі і рускімі землямі, бо яго ўласныя родныя браты, якія, у большасці, аддавалі перавагу паляванню і п’янству, лічыліся малапрыдатнымі для кіравання народам.

Такім чынам, Генрык, князь мазавецкі (які быў абраны разам з тым біскупам плоцкай[2] царквы і два гады карыстаўся яе прыбыткамі, але нарэшце адмовіўся ад царкоўнай нівы і ўзяў у жонкі сястру князя Вітаўта, Рынгалу)[3], быў таемна пасланы да Вітаўта і як аддaны пасрэднік склаў замірэнне паміж Уладзіславам, каралём польскім, і князем Вітаўтам. Прыбыўшы спачатку да камандора Бальгі[4] і Крыстберга і быўшы сустрэты ім добразычліва, Генрык накіраваўся затым у замак Рытэрсвердэр да Вітаўта. За тры тыдні знаходжання там ён ажаніўся з Рынгалай, сястрой Вітаўта, па звычаю адсвяткаваў вяселле і тады ж памірыў Вітаўта з каралём Уладзіславам.

Князь жа Вітаўт, які пераканаўся ў міласцівым прымірэнні з ім караля Уладзіслава, загадаў схапіць і звязаць крыжакоў і купцоў, якія знаходзіліся ў яго замку Рытэрсвердэр. Затым, спаліўшы замак, вярнуўся ў Літву з усімі князямі, баярамі, чэляддзю, з усім рыштункам, бамбардамі і балістамі і быў добразычліва сустрэты і прыняты Яськам з Алясніцы, старастам літоўскім, які атрымаў наконт гэтага ўказанне ад караля.

Між тым крыжакі, якія знаходзіліся ў астатніх двух замках, менавіта Наўгардзе і Метэмбургу, даведаўшыся аб адпадзенні Вітаўта, выступілі са зброяй супраць яго. Уступіўшы ў бой, крыжакі пацярпелі паражэнне, а князь Вітаўт, завалодаўшы новай здабычай, падступіў да замкаў, з якіх выйшлі на яго крыжакі, і, лёгка завалодаўшы імі, спустошыў іх і падпаліў.

---

[1] Вігунт памёр у пачатку года, атручаны сваімі дамачадцамі. Некаторыя падазравалі, што дачыненне да гэтага меў Вітаўт.

[2] Генрык — брат Земавіта і Януша, біскуп плоцкі ў 1391—1392 гг.

[3] Рынгала (пам. у 1434 г.) — дачка Кейстута, яе хрысціянскае імя было Лізавета.

[4] Відавочна, камандорам Бальгі быў Конрад фон Кібург (1392—1396).

Даведаўшыся аб вяртанні Вітаўта, Уладзіслаў, кароль польскі, у канцы ліпеня адправіўся ў Літву. Сёмага жніўня, падчас знаходжання караля ў Востраве, князь Вітаўт разам з самымі знатнымі са сваіх прыхільнікаў з'явіўся да яго і з паўторнымі і жаласнымі просьбамі і нават са слязамі пакорліва ўмольваў караля дараваць яму і ўсім яго прыхільнікам.

Пасля таго як кароль Уладзіслаў дараваў князю поўнае прабачэнне за яго правінна-сці, яны адправіліся ў Вільню, дзе кароль, адхіліўшы Яську з Алясніцы ад літоўскага старастава, перадаў кіраванне Літвой князю Вітаўту. Пры гэтым кароль не толькі вярнуў князю спадчынную долю[1] і адабраныя землі, але і падпарадкаваў яго ўладзе ўсе замкі Літвы і Русі з правам поўнага распараджэння згаданымі землямі. Князь Вітаўт абавязаўся клятвай і граматай, патрабуючай абвяшчэння, валодаць згаданымі зямлямі ад імя караля і каралеўства Польскага, захоўваючы вернасць, і ніколі не пакідаць каралёў і каралеўства Польскага ні ў шчаслівых, ні ў няшчасных акалічнасцях[2].

Бо Уладзіслаў, кароль польскі, па ранейшым і даўнім сяброўстве з князем Вітаўтам у юнацтве ведаў, што князь Вітаўт быў мужам вялікага і гнуткага розуму і што нельга знайсці іншага, больш здольнага кіраваць Літвой і аднавіць яе разбурэнні і спусташэнні, прычыненыя мінулымі войнамі. З прычыны гэтага ён і паставіў Вітаўта кіраўніком Літоўскай зямлі, абмінуўшы чатырох сваіх братоў, а менавіта: Скіргайлу, Карыбута, Любарта[3] і Свідрыгайлу.

І кароль Уладзіслаў не падмануўся ў сваіх надзеях. Бо ў хуткім часе клопатам і стараннямі князя Вітаўта наступіла прыкметнае аднаўленне Літвы, і яно пайшло б яшчэ больш плённа, калі б Баляслаў-Свідрыгайла, брат караля, бачачы, што замест яго перавагу аддалі Вітаўту, з зласлівай зайздрасці не перабег да крыжакоў. З дапамогай апошніх ён, аднавіўшы вайну, стаў нападаць на Літву […]

## ПРУСАКІ ЗДЗЯЙСНЯЮЦЬ ДВА ПАХОДЫ НА ЛІТВУ І ЗАХОПЛІВАЮЦЬ НЕКАЛЬКІ ЗАМКАЎ.

Раздражнёныя адпадзеннем князя Вітаўта і спаленнем трох замкаў, крыжакі з вялікім мноствам іншаземных і ўласных рыцараў, пад правадырствам маршала Энгельгарда Раве[4], прыбываюць у замак святога Іаана. Адсюль, пасля дадзенага ў гонар іншаземных рыцараў балю, яны адпраўляюцца да літоўскага замка Сураж і ў сутычцы, што завязалася з літоўцамі, якія спусціліся з замка, каб пазмагацца з імі, многіх забіваюць і займаюць замак. Пры гэтым лёгка магло здарыцца, што ў палон быў бы захоплены і Генрык, князь мазавецкі, зяць Вітаўта, калі б ён загадзя не падбаў пра ўцёкі.

Узімку крыжакі робяць яшчэ адзін набег[5] пры ўдзеле мноства іншаземных рыцараў, пад правадырствам Вернера Тэцінгера, захопліваюць два занятыя літоўцамі замкі, менавіта Бартэн і Страмель, і, забіўшы некаторых жыхароў, адводзяць у Прусію тры тысячы палонных мужчын і жанчын.

---

[1] Г. зн. княства Трокскае, аддадзенае ў свой час Ягайлам брату Скіргайлу.

[2] Аб умовах Астроўскай дамовы гл. 1386 г., заўв. 7.

[3] Уключаны Длугашам у лік братоў Уладзіслава-Ягайлы Любарт, князь уладзімірскі, насамрэч быў яго дзядзькам, малодшым сынам Гедыміна. Пры хрышчэнні прыняў імя Зміцер. Пам. каля 1384 г. Замест Любарта тут павінен быў быць згаданы Лінгвен-Сямён, «служылы князь», г. зн. начальнік вайскоўцаў, «апякоўнік» (як заве яго летапіс) Вялікага Ноўгарада, які неаднаразова ўзначальваў яго абарону ад шведскіх і нямецкіх інтэрвентаў. Пазней — князь мсціслаўскі.

[4] Энгельгард Рабе быў маршалам у 1387—1392 гг.

[5] У Длугаша «faciunt et aliam Reszam», г. зн. «здзяйсняюць і другую рэйзу». Рэйзамі палякі і літоўцы называлі наезды крыжакоў (ад ням. Reise).

# ГОД ГАСПОДНІ 1393

### З ПРЫЧЫНЫ ЎЗНІКЛЫХ РАЗЛАДАЎ ПАМІЖ СТРЫЕЧНЫМІ БРАТАМІ (ПА БАЦЬКУ), КНЯЗЯМІ ВІТАЎТАМ І СКІРГАЙЛАМ, КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ З КАРАЛЕВАЙ ЯДВІГАЙ, АДПРАВІЎШЫСЯ Ў ЛІТВУ, УЛАДЖВАЮЦЬ НЯЗГОДУ, САСТУПІЎШЫ СКІРГАЙЛУ КІЕЎСКАЕ КНЯСТВА.

У дадатак да ворага-выгнанніка, Баляслава-Свідрыгайлы, які ўцёк (з Літвы), у Аляксандра, інакш Вітаўта, князя літоўскага, аказаўся яшчэ і другі, хатні вораг, тым больш небяспечны, што ён вылучаўся розумам, адвагай і красамоўствам, а менавіта князь Скіргайла, другі брат караля Уладзіслава. Скіргайла з незадавальненнем і варожасцю пераносіў тое, што кіраванне і распараджэнне літоўскімі і рускімі землямі даручылі Вітаўту, а яго абышлі, і таемна падбухторваў адданых яму рыцараў да сварак і дзёрзкіх спрэчак з Вітаўтам; і сваркі гэтыя ўжо дайшлі да таго, што можна было чакаць адкрытага мяцяжу.

Даведаўшыся аб такой бядзе, кароль польскі Уладзіслаў разам з каралевай Ядвігай спешным шляхам прыбыў у Літву. У іх прысутнасці на шосты дзень пасля свята святога Міхала, пасля спрэчак, у якіх абодва варагаваўшыя князі выступалі з рознымі прамовамі і скаргамі (прычым аказалася, што справа князя Скіргайлы і яго скаргі на Аляксандра-Вітаўта несправядлівыя), праклятая іх цяжба, якая б згубна адбілася на іншых, калі б яе хутка не задушылі, была ўладжана стараннямі караля і каралевы. Згаданыя князі, рассеяўшы воблака ўзаемнага незадавальнення, злучыліся вузамі братэрскай любові і згоды.

Каб цалкам улагодзіць вялікі гнеў і крыўду князя Скіргайлы, кароль польскі Уладзіслаў у дадатак да Кіеўскага княства дае яму ў кіраванне яшчэ Крамянец, Старадуб і Старыя Трокі, пад умовай ва ўсім падпарадкоўвацца князю Аляксандру-Вітаўту. І было вырашана з ухвалы абодвух бакоў, што калі паўстануць паміж імі новыя сутыкненні, саперніцтва і варожасць, то яны звернуцца для вырашэння спрэчак да польскай каралевы Ядвігі, якую яны абодва абралі сабе трацейскім суддзёй; гэтае рашэнне і было змацавана граматамі […]

### КРЫЖАКІ ДРУГІ РАЗ СПАЛЬВАЮЦЬ АДНОЎЛЕНЫ ЛІТОЎЦАМІ ЗАМАК БАРТЭН.

Вітаўт, князь літоўскі, паслаўшы шмат будаўнічага матэрыялу і майстроў, аднаўляе разбурэнні, прычыненыя ў папярэднім годзе крыжакамі літоўскаму замку Бартэну. Даведаўшыся аб гэтым, прускі магістр рыхтуе крыжацкае войска са шматлікімі іншаземнымі рыцарамі пад правадырствам маршала Вернера Тэцінгера, якое, з вялікай цяжкасцю перайшоўшы раку Мемель[1] і страціўшы ў вірах шмат знатных рыцараў, авалодвае замкам Бартэнам і аддае агню яго ўмацаванні.

Згаданы маршал аднаўляе пасля гэтага свой рух на Літву, маючы ў сваёй світе валадара Вірцембурга і шмат іншых французаў і немцаў. Пераправіўшыся затым праз раку Мемель на судах, на працягу некалькіх дзён ён спусташае Самагіцкую зямлю забойствамі і рабаваннямі і адводзіць у палон чатырыста душ.

Памірае Конрад Валенрод, магістр Прусіі; на гэтай пасадзе яго змяняе Конрад фон Юнгінген[2], вылучаны аднадушна […]

---

[1] Пад назвай Мемель быў вядомы Нёман у сваёй ніжняй плыні, які праходзіў па прускіх землях.

[2] Конрад фон Юнгінген — вялікі магістр Ордэна ў 1393—1407 гг.

# ГОД ГАСПОДНІ 1394

**ПРУСКІ МАГІСТР З КНЯЗЕМ СВІДРЫГАЙЛАМ СПУСТАШАЮЦЬ ЛІТВУ. ВІТАЎТ НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ УСТУПАЕ З ІМІ Ў БІТВЫ, АЛЕ ЗЫХОД АПОШНІХ ЗАСТАЕЦЦА НЯВЫРАШАНЫМ. КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ПАСЫЛАЮЧЫ ЯМУ Ў ПАДМОГУ РЫЦАРАЎ З ПОЛЬШЧЫ, ВЫЧАРПАЎ КАЗНУ КАРАЛЕЎСТВА, І ЯМУ ПРЫЙШЛОСЯ ПАДАРАВАЦЬ РЫЦАРАМ, ЯКІЯ СЛУЖЫЛІ Ў ЛІТВЕ, ШМАТ УЛАДАННЯЎ У ПОЛЬСКІМ КАРАЛЕЎСТВЕ.**

Прускі магістр Конрад фон Юнгінген і Ордэн крыжакоў моцна ўгневаліся на Аляксандра, інакш Вітаўта, князя літоўскага, за сыход з замка Наўгардэра, забранне ў палон крыжакоў і гвалт над імі. Імкнучыся адпомсціць за гэты пераход на бок караля, названы імі здрадай, крыжакі да канца чэрвеня-месяца ўрываюцца ў Літву з новым войскам і рыцарамі, якія былі ў іх. У свіце магістра знаходзіўся родны брат польскага караля Уладзіслава, Баляслаў-Свідрыгайла, якога суправаджала нямала літоўскіх і рускіх перабежчыкаў, а таксама шмат французскіх і нямецкіх рыцараў і сто пяцьдзесят стралкоў з Жэневы. Затым крыжакі двума атрадамі спусташаюць Літву, не сустракаючы ніякага супраціўлення (бо ў князя Вітаўта не было столькі сіл, каб, не падвяргаючы сябе відавочнай небяспецы, запрацівіцца прускаму войску з-за сумнеўнай вернасці літоўцаў). Магістр абклаў аблогай віленскія замкі і на працягу двух месяцаў прыкладаў вялікія, але дарэмныя намаганні, каб узяць іх прыступам.

Паміж тым князь Вітаўт зрабіў засады па ўсіх лясных дарогах, каб лягчэй цясніць войска магістра ў невыгодных для яго месцах. Даведаўшыся аб гэтым ад палонных, магістр павёў войска па багністых і бездарожных месцах, насцілаючы на сваім шляху гаці. Захапіўшы тут аднаго з літоўскіх баяр, рыцара Шудзімунта, ён забівае яго, павесіўшы за ногі на дрэве. Войска крыжакоў страціла ў паходзе шмат уючных жывёл і коней, якія патанулі або ўгразлі ў балотах. Таксама шмат рыцараў пала ад стрэл літоўцаў, якія нападалі на войска крыжакоў у кожным небяспечным месцы. Кароль польскі Уладзіслаў загадзя паслаў у Літву на дапамогу князю Вітаўту супраць крыжакоў шмат спрактыкаваных польскіх рыцараў, бо было вядома, што крыжакі гэтым летам пойдуць вайной на Літву пад выглядам аказання падтрымкі Баляславу-Свідрыгайлу, а насамрэч — з мэтай захопу краіны. З Польшчы таксама прыбыло шмат добраахвотнікаў — польскіх рыцараў. Акрамя таго, шматлікія польскія вяльможы на ўласныя сродкі паслалі свае ўзброеныя атрады, якія хоць і не ўступілі ў агульную бітву, бо гэтаму запрацівіўся Вітаўт (які не зусім давяраў сваім), аднак рабілі такія частыя і дзёрзкія набегі на варожыя станы і прывалы, што гэтыя сталыя сутычкі амаль ураўноўваліся агульнай бітве.

У Баляслава-Свідрыгайлы і прускага магістра заставалася адзіная надзея на здраду абложаных у замках рускіх, адданых забабонам, якіх яны на сваёй мове завуць калойрамі[1], бо апошнія, абсыпаныя шчодрасцю і падахвочваемыя абяцанкамі Баляслава-Свідрыгайлы, які вельмі прыхільна ставіўся да рускай веры, узяліся падпаліць замкі. Але калі крыжакі пазбавіліся і гэтай надзеі, бо здрада была адкрыта князю Вітаўту адным з калойраў, якія збіраліся яе здзейсніць, і Вітаўт пакараў калойраў рознымі карамі і смерцю, — магістр Прусіі, зняўшы аблогу, вярнуўся разам з Баляславам-Свідрыгайлам у Прусію. На зваротным шляху магістр ад частых нападаў князя Вітаўта і яго людзей страціў шмат рыцараў у багністых і

[1] Kaloyri — ад грэч. kalogeros (пачцівае найменне старцаў), руск. калугер, у Пушкіна — калоер («Песні заходніх славян»). Па Длугашу — адмысловая секта, але дакладней — праваслаўнае духавенства ў Літве.

нязручных месцах, бо літоўцы нападалі на ворага і ўначы і многіх забівалі. Аднак і літоўцам напад каштаваў крыві: яны страцілі пяцьсот ваяроў; але яшчэ больш пала рыцараў у магістра, бо ён неаднаразова быў змушаны ваяваць, падвяргаючыся нападу і спераду, і з тылу. Яго страты былі настолькі вялікія, што прыйшлося на доўгі час спыніць паходы на Літву як згубныя для сябе і сваіх.

Аднак, нягледзячы на гэта, кароль польскі Уладзіслаў не пераставаў пасылаць кожны год новых рыцараў з Польшчы на дапамогу князю Вітаўту, паколькі ўвесь час чакалася, што крыжакі пойдуць вайной на Літву. Па гэтай прычыне кароль раздаў скарбы, сабраныя яго папярэднікамі, каралямі, у рахунак жалавання рыцарам, якія баранілі Літву ад крыжакоў, і на аплату зброі і прылад абароны, якія пасылаліся туды. Рыцарам жа, што служылі ў Літве, кароль вызначыў яшчэ большыя дараванні і адчужэнні з каралеўскіх маёнткаў.

У той час, як доўжылася аблога, аб якой мы сказалі вышэй, людзі князя Вітаўта, літоўцы і рускія, імкнучыся перашкодзіць спусташэнню з боку непрыяцеля, уступілі з ім у няўдалую бітву. У гэтай бітве, хоць яны і адчайна ваявалі, усё-ткі былі пераможаныя войскам магістра, прычым шмат іх загінула або патрапіла ў палон. Не менш страт аказалася і сярод ваяроў магістра, якія знайшлі смерць або ў бітве, або патрапіўшы ў засаду, калі хадзілі здабываць корм для коней.

### ТРОХРАЗОВЫ ПАХОД ПРУСАКОЎ У ЛІТВУ, НЕ БЕЗ СТРАТ ДЛЯ ЛІТОЎЦАЎ.

Магістр Прусіі Конрад фон Юнгінген, бачачы, што яго ўласны паход аказаўся няўдалым, паслаў зімой у Літву маршала Ордэна Вернера Тэцінгера з войскам уласных і іншаземных рыцараў (бо шмат рыцараў прыбыло на дапамогу з краін Францыі і Германіі). Маршал спачатку падступае да замка Наўгардэна, але знаходзіць яго спаленым літоўцамі. Адтуль ён ідзе да Ліды, але і жыхары Ліды, застрашаныя яго прыходам, падпальваюць замак і разбягаюцца. Тады маршал, здзейсніўшы значныя спусташэнні (бо ніхто ў ранейшы час не ўрываўся так глыбока ў літоўскую зямлю), зганяе мноства палонных і адводзіць іх у Прусію.

У сваю чаргу, пасля гэтага з моцным войскам сваіх і іншаземных рыцараў выступае Ульрых фон Юнгінген, фогт самбійскі і брат магістра[1], шукаючы славы і здабычы ў спусташэнні Літвы. У той час, як фогт стаяў ля Росітэн з вялікай здабычай, ён быў раптам ахоплены моцным страхам. У сілу гэтага, спыніўшы спусташэнні і пакінуўшы здабычу, ён у бязладзіцы вяртаецца назад. Бо князь Вітаўт увайшоў са шматлікім войскам у Прусію і пачаў спусташаць агнём і мячом усю вобласць вакол Інстэрбурга, і Ульрых фон Юнгінген асцерагаўся, што будзе ім пераможаны і захоплены. Пасля яго сыходу Конрад фон Кібург, камандор Бальгі, уступае ў Драгічаўскую зямлю і, заспеўшы яе жыхароў знянацку, захоплівае вялікую здабычу і адводзіць трыста палонных […]

### ЯНУШ, КНЯЗЬ МАЗАВЕЦКІ, СА ШМАТЛІКІМІ РЫЦАРАМІ ЗАХОПЛЕНЫ КРЫЖАКАМІ Ў ПАЛОН У ТОЙ ЧАС, КАЛІ ЁН БУДАВАЎ ЗАМАК ЗЛАТОРЫЮ.

Януш, князь мазавецкі, узвёў на рацэ Нарэве, на зямлі і ў княстве свайго надзелу, новую крэпасць, якую назваў Златорыяй. І ў той час, калі для завяршэння пабудовы, каб зрабіць працу хутчэй і лепш, ён знаходзіўся тут са сваімі рыцарамі, не баючыся

[1] Брат магістра — Ульрых фон Юнгінген, фогт Самбіі ў 1393—1396 гг., вялікі маршал у 1397—1407 гг., вялікі магістр Ордэна ў 1407—1410 гг.

ніякіх варожых праяў, раптам з'яўляюцца граф Рудольф, камандор Бальгі, і Вальродэр, камандор Рэйна[1], з вялікай колькасцю людзей, пасланыя магістрам Прусіі, Конрадам фон Юнгінгенам. Як ворагі, яны нападаюць на рыцараў князя Януша, на самога князя і на тых, хто будаваў замак. І, авалодаўшы самім замкам (які будаваўся з дрэва і не быў яшчэ скончаны), крыжакі аддаюць агню ўсе яго ўмацаванні. Князя ж мазавецкага Януша саджаюць на кабылу і, звязаўшы яму пад пузам той кабылы ногі, хоць ён настойліва патрабаваў прызначэння яму тэрміну яўкі, разам з іншымі мазавецкімі рыцарамі, таксама звязанымі, адвозяць, каб прадставіць прускаму магістру Конраду фон Юнгінгену, не пабаяўшыся нанесці дзёрзкую і несправядлівую абразу княжай крыві і праўнуку Конрада, першага заснавальніка Ордэна[2]. Ім падалося малым набыць землі, Кульмскую і Прускую, а таксама гвалтоўна і вераломна авалодаць Памеранскай зямлёй, яны жадалі распаўсюдзіць сваю волю і ўладу і на мазавецкія вобласці.

Уладзіслаў, кароль польскі, пазнаўшы аб паланенні Януша, адправіў паслоў да прускага магістра і дамогся неадкладнага вызвалення таго, скардзячыся магістру на парушэнне вечнага міру[3]. І хоць кароль быў раздражнёны паланеннем князя Януша, ён усё ж утрымаўся ад усякай вайны з крыжакамі, якую многія прагнулі здзейсніць супраць прускай ганарыстасці ў помсту за такую вялікую і абуральную крыўду і парушэнне саюза […]

## ГОД ГАСПОДНІ 1396

### УЛАДЗІСЛАЎ, КНЯЗЬ АПОЛЬСКІ, ЗАКЛАДВАЕ МАГІСТРУ ПРУСІІ ДАБЖАНСКУЮ ЗЯМЛЮ ЗА СОРАК ТЫСЯЧ ФЛАРЫНАЎ.

[…] Уладзіслаў, князь апольскі, раздзіраемы надзвычайнай горыччу і болем і баючыся быць пазбаўленым услед за іншымі землямі таксама і зямлі Дабжанскай, якая яшчэ заставалася ў яго валоданні, для здаволення свайго раздражнення і крыўды на караля аддае яе са змешчанымі ў ёй замкамі Дабжынам, Баброўнікамі, Рыпінам, Ліпна і Златорыяй у заклад за сорак тысяч фларынаў магістру Конраду фон Юнгінгену і Ордэну крыжакоў Прусіі[4]. Заклад гэты аддаваў відавочным ліхвярствам і з'яўляўся прамой крыўдай і стратай для Польскага каралеўства: магістр і Ордэн крыжакоў ніякім чынам і ні на якой падставе не маглі і не павінны былі прымаць гэтую зямлю ў заклад, калі б выконвалі справядлівую павагу да Боскага закона і да дамовы аб вечным міры, заключаным імі з Польскім каралеўствам[5] […]

---

[1] Длугаш зблытаў тут двух братоў, Конрада і Рудольфа фон Кібургаў. Першы быў комтурам у Бальзе (гл. вышэй, 1392 г., заўв. 4), другі ў 1391—1402 гг. — комтурам у замку Рэдэне. Поўнае імя комтура Рэйна было Фрыдрых фон Валенрод (1394—1396), пасля ён быў вялікім маршалам Ордэна (1407—1410).

[2] Пад заснавальнікам Ордэна маецца на ўвазе князь мазавецкі Конрад (нар. у 1187 г. — пам. у 1247 г.), які запрасіў у 1225 г. крыжакоў для абароны межаў свайго княства з боку прусаў, у выніку чаго ўзнікла Ордэнская дзяржава.

[3] Г. зн. міру, заключанага каралём Казімірам III з Ордэнам у 1343 г. у Калішы.

[4] Уладзіслаў, князь апольскі (Сілезія), атрымаў у 1372—1379 гг. ад караля польскага і венгерскага Людовіка шэраг польскіх зямель у леннае валоданне, у тым ліку і Дабжанскую. Спрабуючы вярнуць гэтыя землі Польшчы, Уладзіслаў-Ягайла пачаў у 1396 г. вайну супраць князя апольскага. Саступка Уладзіславам апольскім Дабжанскай зямлі крыжакам была выклікана поспехамі Уладзіслава-Ягайлы ў гэтай вайне.

[5] Гл. вышэй, 1394 г., заўв. 5.

# ГОД ГАСПОДНІ 1397

**КАРАЛЕВА ЯДВІГА СУСТРАКАЕЦЦА З МАГІСТРАМ ПРУСІІ Ў ЮНІЎЛАДЗІСЛАВІІ. ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ТАМ БЫЛІ ПРАВЕДЗЕНЫ ПЕРАМОВЫ АБ ВЯРТАННІ ЗЯМЛІ ДАБЖАНСКАЙ І КРЫЖАКІ АДМОВІЛІСЯ ВЯРНУЦЬ ЯЕ, АБОДВА БАКІ РАЗ'ЯЗДЖАЮЦЦА, НЕ ДАСЯГНУЎШЫ ДАМОВЫ.**

Кароль польскі Уладзіслаў, будучы вельмі незадаволеным перадачай Уладзіславам, князем апольскім, Дабжанскай зямлі ў заклад магістру і Ордэну крыжакоў Прусіі і прадбачачы, што дамова аб вечным міры будзе парушана магістрам і Ордэнам, душой і целам і ўсімі сваімі імкненнямі звяртаецца да вайны. Але яму прыйшлося адмовіцца ад гэтага намеру з-за супраціўлення саветнікаў, бо тыя шукалі выпадку пачаць вайну з крыжакамі хутчэй для таго, каб вызваліць і вырваць з іх рук Самагіцію, чым дзеля помсты за несправядлівы захоп Дабжанскай зямлі. Таму, каб не падавалася, што кароль і саветнікі пакідаюць без увагі і аддаюць забыццю захоп згаданай Дабжанскай зямлі, было вырашана пачаць перамовы аб гэтым з магістрам і Ордэнам у Юніўладзіславіі. Таксама было вырашана, што на гэтыя перамовы лепш адправіцца каралеве Ядвізе, чым каралю Уладзіславу, каб ён, душа якога плакала ад ранейшых і нядаўніх спусташэнняў, прычыненых яго радзіме — Літве, рэзкай прамовай не распаліў вайну, узнікнення якой усяляк пазбягалі.

Пасля таго, як каралева прыбыла туды з вялікай пышнасцю і з мноствам прэлатаў і вяльможаў, на працягу некалькіх дзён ішлі спрэчкі з магістрам Конрадам фон Юнгінгенам і камандорамі Прусіі аб вяртанні Дабжанскай зямлі. Але ўсе старанні былі дарэмныя, бо магістр і камандоры адхілялі ўсе законныя і справядлівыя прапановы, якія рабілі каралева Ядвіга і польскія саветнікі. Па сваім звычаі, крыжакі агучвалі то адны, то другія адгаворкі, каб, утрымліваючы даўжэй занятую імі Дабжанскую зямлю ў сваім валоданні, прысвоіць яе па праве даўнасці, падобна Памераніі і іншым землям Польскага каралеўства. Упікнуўшы магістра і камандораў за такую іх сквапнасць і дамаганне чужога, благаслаўлёная жанчына, акрыленая нейкім чароўным прадчуваннем, дадала, што «пакуль жывая, яна будзе стрымліваць ваяўнічы запал палякаў, узбуджаны сапраўднымі і мінулымі крыўдамі, нанесенымі Польскаму каралеўству; але хай ведаюць крыжакі, што, калі смерць яе забярэ, іх чакаюць, па справядлівейшаму рашэнню Госпада, найвялікшыя паразы, бо яны сталі злаславымі ворагамі сваім валадарам, апекунам і заснавальнікам свайго Ордэна, міласцю, падаяннямі і ахвяраваннямі якіх яны жывуць і дыхаюць, і за атрыманыя імі дабрадзействы, за прадстаўленыя землі і валоданні адплацілі несправядлівасцямі. Не задаволіўшыся здзейсненым імі захопам Памеранскай зямлі, якая належала Польскаму каралеўству ад самога яго заснавання, яны накіравалі свае сквапныя і ненасытныя намеры на захоп Дабжанскай зямлі, якая падлягае вяртанню ў адзінае цэлае Польскага каралеўства, сапраўды гэтак жа, як і Вялюньская і Астжэшоўская землі[1], калі крыжакі не створаць хітрых і няправых перашкод». І хоць Конрад фон Юнгінген, магістр Прусіі, са сваімі камандорамі не адмаўлялі, што дакорлівая прамова каралевы Ядвігі пры гэтых перамовах у Юніўладзіславіі адпавядала ісціне, і самі прынеслі каралеве Ядвізе тады надзвычайную падзяку за тое, што знайшлі ў ёй такую высакародную гатоўнасць да захавання ўзаемнага міру, аднак жа іх нельга было заахвоціць да звароту Дабжанскай зямлі інакш як на несправядлівых умовах: менавіта, калі ім аддадуць спачатку сорак тысяч фларынаў. З прычыны гэтага польскія саветнікі раз'ехаліся пасля гэтых перамоў з варожымі пачуццямі і ў моцным гневе [...]

---

[1] Велюньская і Астжэшоўская землі былі ў 1372 г. аддадзены Людовікам, каралём польскім, у леннае валоданне Уладзіславу Апольскаму.

## ГОД ГАСПОДНІ 1401

**ВІТАЎТ, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ, ПРАСЛЕДУЮЧЫ НАПАЎШАГА НА ЛІТОЎСКІЯ ЗЕМЛІ ЛІВОНСКАГА МАГІСТРА (КАЛІ ТОЙ ВЯРТАЎСЯ Ў ЛІВОНІЮ І ЛІЧЫЎ СЯБЕ Ў БЯСПЕЦЫ), НАНОСІЦЬ ВЯЛІКУЮ ШКОДУ ЛІВОНЦАМ, А ТАКСАМА РУЙНУЕ І СПАЛЬВАЕ ЗАМАК ДЗВІНУ З МОЦНА ЎМАЦАВАНЫМ ГОРАДАМ.**

[...] Калі паміж вялікім князем літоўскім Аляксандрам[1] і крыжакамі Прусіі і Лівоніі ўзніклі новыя разлады, магістр лівонскі[2], уварваўшыся як вораг з войскам у Літву, пачаў усяляк яе спусташаць. Вялікі князь літоўскі Аляксандр-Вітаўт не вырашаўся аказаць супраціўленне, ведаючы, што яго сілы слабейшыя, а яго падданыя няўстойлівыя і ненадзейныя. Аднак ён трымаў напагатове сваіх рыцараў і ваяроў, загадаўшы ім сабрацца ў Вільні. Але калі лівонцы, зрабіўшы спусташэнні, не асцерагаючыся ворага, вярталіся з Літвы дахаты, Аляксандр, вялікі князь літоўскі, папоўніўшы свае сілы рыцарамі, дасланымі на дапамогу каралём польскім Уладзіславам, стаў праследаваць іх. Пры гэтым князь так умела хаваўся, што, ашукваючы ўсіх іх дазорцаў, ішоў прама па слядах ворага і займаў на наступны дзень іх учарашнія стаянкі, дзе знаходзіў яшчэ не затушаныя агмені і астаткі сена і аўса.

Калі лівонскае войска дасягнула сваёй зямлі і рыцары пасяшаліся разысціся па хатах, каб пабачыць жонак і дзяцей, вялікі князь літоўскі Аляксандр, уступіўшы ў Лівонію, пасля спусташэння шматлікіх лівонскіх паселішчаў і гарадоў забойствамі, рабаваннямі і пажарамі захоплівае ўмацаваны горад Дзвіну. Аддаўшы горад у здабычу сваім рыцарам, ён ідзе на прыступ крэпасці, куды збеглася шмат гараджан. Хоць захапіць крэпасць уяўлялася справай цяжкай і небяспечнай, але князь авалодвае ёю, бо крыжакі і рыцары, якія яе ахоўвалі, здаліся і вышлі з хрэсным ходам, несучы святыя дарункі, каб князь не выявіў да іх жорсткасці. Войска Вітаўта ўзбагацілася захопленай здабычай, бо там было сабрана шмат markup рознага дабра.

Паранены стралой пры гэтым прыступе, Пётр Рытэрскі з Пізар, польскі рыцар герба Тапор[3], тры гады, трываючы наймацнейшыя болі, насіў у назе жалезнае лязо, бо майстэрства лекараў няздольна было выняць яго; нарэшце яно, прабіўшы мяса, само выйшла на падэшве нагі.

Вітаўт жа з асцярогі быць заспетым варожым войскам, аддаўшы замак і горад агню, цэла і шчасна вярнуўся ў Літву […]

## ГОД ГАСПОДНІ 1403

**ПРУСКІ І ЛІВОНСКІ МАГІСТРЫ ПРЫЧЫНЯЮЦЬ ШМАТ ШКОДЫ ЛІТОЎЦАМ ПА ЎКАЗАННЯХ СВІДРЫГАЙЛЫ.**

[…] Напярэдадні  свята святой Даратэі прускі магістр Конрад фон Юнгінген і крыжакі, сабраўшы значнае войска з уласных і іншаземных рыцараў, урываюцца як ворагі ў літоўскія землі, маючы ў сваёй свіце Баляслава-Свідрыгайлу, брата польскага караля Уладзіслава, чалавека хітскага і вельмі пераменлівага нораву, схільнага

[1] Па уніі 1401 г. Вітаўт атрымаў тытул вялікага князя літоўскага. Гл. 1386 г., заўв. 7.

[2] Магістрам лівонскім у 1401—1413 гг. быў Конрад фон Віцінгоф.

[3] Магчыма, што гэта той Пётр Рытэрскі, які ў 1420—1434 гг. займаў пост падкаморыя пры каралеўскім двары.

да мяцяжоў. Выгнаны князем Аляксандрам з Літвы (хоць кароль Уладзіслаў дарэмна імкнуўся перашкодзіць гэтаму), Свідрыгайла выдаліўся да крыжакоў.

Саступаючы ворагам па сіле і не ўпэўнены ў адданасці сваіх людзей, князь Вітаўт больш назіраў з Віленскага замка і цярпеў напад, чым процідзейнічаў яму. Крыжакі спачатку прыходзяць да замка Мерачу і пасля ўзяцця і спалення яго, збіўшыся са шляху, паварочваюць на Трокі (тады як усе думалі, што яны ідуць на Гародню). Затым, затрымаўшыся на адну ноч ля возера Даўген, яны накіроўваюць шлях да Заменікаў і там два дні стаяць лагерам. Адтуль яны прыходзяць да мястэчка Алава, у адной мілі ад Трок. І хоць князь Вітаўт асцерагаўся, што яны з Алавы накіруюцца абложваць замак Трокі, аднак крыжакі, пакінуўшы гэты замак справа, праходзяць да паселішча Штэйгвік, якое знаходзілася на рацэ Страве. Адгэтуль праз Сядмілішкі, Стоклішкі і Няровена, спусташаючы агнём і рабаваннем усе месцы, па якіх ішлі і якіх толькі маглі дасягнуць, за сем пераходаў яны дасягаюць ракі Нёман. Лёгка пераправіўшыся праз яго (бо рака была скаваная лёдам), крыжакі вяртаюцца каля Рагнеты ў свае землі, адводзячы з сабою з Літвы тысячу душ палонных. Апошнія, аднак, былі адпушчаны па запатрабаванню князя Вітаўта, які паручыўся, што яны з’явяцца ў тэрмін для прызначэння ім выкупу. Але і князь Вітаўт вызваліў з няволі такі ж і яшчэ большы лік палонных з прускіх зямель па просьбе магістра і пад яго паручыцельства. Аднак, калі прускае войска выйшла з літоўскіх зямель, новае войска лівонскага магістра нечакана ўварвалася ў Літву і, учыніўшы шмат рабаванняў, пажараў і іншага спусташэння, на наступны дзень пасля свята святой Агнеты з мноствам захопленых у палон людзей вярнулася каля Тураўна і Лаканары ў Лівонію [...]

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ВЫКЛІКАЎШЫ СВАЙГО БРАТА СВІДРЫГАЙЛУ З ПРУСІІ, ДАРУЕ ЯМУ ПАДОЛЬСКІЯ ЗЕМЛІ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗІЛІСЯ Ў ВАЛОДАННІ СЫНОЎ СПЫТКА З МЕЛЬШТЫНА, І ШМАТ ІНШЫХ УЛАДАННЯЎ КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАГА; ТЫМ НЕ МЕНШ СВІДРЫГАЙЛА ІЗНОЎ БЯЖЫЦЬ, А ЯГО СТАЎЛЕНІКІ Ў ПАДОЛІІ ВЫЯЎЛЯЮЦЬ НЕПАКОРЛІВАСЦЬ КАРАЛЮ УЛАДЗІСЛАВУ.

Каб спыніць спусташэнне літоўскіх зямель, якое дагэтуль здзяйсняў Баляслаў-Свідрыгайла, кароль польскі Уладзіслаў праз пасланых да гэтага князя ганцоў выклікае яго з Прусіі. Кароль выплачвае вялікія сумы за даўгі, у якія князь увайшоў, знаходзячыся ў Прусіі; затым прызначае на яго ўтрыманне Падольскую зямлю, выкупленую па дамове ад удавы Спытка з Мельштына[1], Лізаветы, і сыноў нябожчыка, Яна і Спытка, за пяць тысяч шырокіх чэшскіх грошаў, а таксама Зыдачоўскую зямлю і паветы Стрый, Шыдлаў, Стобніцу, Другню, Усце; акрамя таго, дае тысячу чатырыста марак у год з каралеўскіх саляных капалень[2].

Аднак і гэтымі вялікімі дабрадзействамі, літасцямі і шчадротамі кароль не змог суняць нясталую натуру Свідрыгайлы. Не зведаўшы ніякай крыўды, князь перабег да крыжакоў у надзеі авалодаць Літоўскім княствам (якое крыжакі яму хітра абяцалі), разлічваючы пры гэтым на падтрымку размешчаных у падольскіх замках ахоўных атрадаў палякаў і рускіх. Калі ж пасля ўцёкаў князя кароль польскі Уладзіслаў запатрабаваў вяртання падольскіх замкаў, то рускія і польскія начальнікі гэтых замкаў дзёрзка адказалі яму адкрытым мяцяжом [...]

---

[1] Спытка з Мельштына — ваявода кракаўскі, адзін з ініцыятараў Крэўскай уніі, загінуў у паходзе, распачатым Вітаўтам у 1399 г. супраць татараў.

[2] У Длугаша «in zuppis regiis» — «з каралеўскіх жуп». Жупы (польск.) — саляныя капальні ў Вялічцы і Бохне. Усе прыбыткі з іх ішлі ў каралеўскую казну, складаючы адну з найважнейшых крыніц яе сродкаў.

# ГОД ГАСПОДНІ 1404

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ВІТАЎТ І МАГІСТР ПРУСІІ СУСТРАКАЮЦЦА У РАЦЁНЖЫ. ПРЫЗНАЧЫЎШЫ ЎПАЎНАВАЖАНЫХ, ЯНЫ ПАСТАНАЎЛЯЮЦЬ АДДАЦЬ САМАГІЦІЮ КРЫЖАКАМ, А ДАБЖАНСКУЮ ЗЯМЛЮ ВЫКУПІЦЬ У ІХ ЗА СОРАК ТЫСЯЧ ФЛАРЫНАЎ.**

З надыходам свята Сёмухі ў біскупскім горадзе Рацёнжы[1] быў праведзены агульны з'езд для ўсталявання міру паміж каралеўствам Польскім і Вялікім княствам Літоўскім, з аднаго боку, і землямі крыжакоў — з другога, і для ўзгаднення спрэчак, што ўзніклі з нагоды валодання Дабжанскай і Самагіцкай землямі. Калі на з'езд прыбылі асабіста Уладзіслаў, кароль польскі, з польскімі і літоўскімі саветнікамі і магістр Прусіі Конрад фон Юнгінген са сваімі камандорамі, абодвума бакамі былі прызначаны ўпаўнаважаныя для перамоў аб міры і ўладжвання рознагалоссяў, а менавіта: з боку караля польскага Уладзіслава — архібіскуп гнезненскі Мікалай[2], біскупы — кракаўскі Пётр[3] і пазнанскі Альберт Ястшэмбец[4], каштэлян Ясько з Тэнчына[5], ваявода кракаўскі Ян з Тарнова[6], каштэляны — люблінскі Міхал з Багумілавіц[7], вісліцкі Клеменс з Машкажова, падкаморый кракаўскі Гневаш з Далевіц[8] і плябан царквы святога Фларыяна, падканцлер каралеўства Польскага Мікалай Тромба[9]; з боку ж магістра Прусіі і яго Ордэна — біскупы кульмскі і памезанскі Арнольд і Іаан[10], вялікі камандор Конрад фон Ліхтэнштэйн, камандоры — эльбінгскі Іаган фон Румпенгейм і торуньскі Фрыдрых фон Вендэ[11], брат Ордэна, канонік вармійскі Іаган фон Рогетэлен, рыцары Пётр фон Лапідэ і Пётр фон Бейзен і бургамістр Торуня Готфрыд Рэбер.

Пасля нарады, якая доўжылася некалькі дзён, упаўнаважаныя складаюць дамову аб міры на тых умовах, каб кароль польскі Уладзіслаў і вялікі князь літоўскі Аляксандр-Вітаўт саступілі сваю родную Самагіцкую зямлю магістру і Ордэну крыжакоў, адмовіўшыся ад яе ў іх карысць граматай, і прымусілі самагітаў даць магістру і Ордэну сыноў сваіх заложнікамі і прынесці прысягу ў вернасці. Таксама каб кароль польскі Уладзіслаў выкупіў у магістра і Ордэна Дабжанскую зямлю за сорак тысяч фларынаў і зацвердзіў падараванні, зробленыя магістрам у гэтай зямлі. Таксама каб не аказваць заступніцтва перабежчыкам і выгнаннікам ні з таго, ні з іншага боку і не прымаць іх, а палонных вызваліць і адпусціць[12].

---

[1] Рацёнж уваходзіў ва ўладанні біскупства Плоцкага.

[2] Мікалай Куроўскі — архібіскуп гнезненскі ў 1402—1411 гг.

[3] Пётр Выш — біскуп кракаўскі ў 1392—1412 гг.

[4] Альберт (Войцэх) Ястшэмбец — біскуп пазнанскі ў 1399—1412 гг., канцлер Польскага каралеўства ў 1411—1423 гг.

[5] Ясько з Тэнчына — каштэлян і стараста кракаўскі ў 1398—1405 гг.

[6] Длугаш памыляецца, называючы Яна з Тарнова ваяводам кракаўскім. Гэтую пасаду ён займаў у 1410—1432 гг. Да таго, у гады 1406—1409 быў каштэлянам кракаўскім.

[7] Міхась з Багумілавіц на пасадзе каштэляна люблінскага па іншых крыніцах вядомы ў 1406—1410 гг.

[8] Гневаш з Далевіц быў падкаморыем у 1397—1405 гг., у 1410—1426 гг. — падстоліем.

[9] Мікалай Тромба — падканцлер Польскага каралеўства з 1403 па 1413 або 1414 г. Адзін з найболей набліжаных да Уладзіслава-Ягайлы дзяржаўных дзеячаў. З 1410 г. — архібіскуп галіцкі, у 1412—1422 гг. — гнезненскі.

[10] Арнольд быў біскупам хелмінскім у 1402—1418 гг., Іаан — памезанскім у 1378—1409 гг.

[11] Фрыдрых фон Вендэ быў комтурам торуньскім у 1397—1407 гг.

[12] На Рацёнжскім з'ездзе, які адбываўся 23 мая 1404 г., акрамя пытанняў аб Жмудзі і Дабжанскай зямлі яшчэ стаяла пытанне аб Памор'і. У дачыненні Жмудзі былі пацверджаны ўмовы Салінскага міру, заключанага ў 1398 г. паміж Ордэнам і Вітаўтам, аб якім не згадвае Длугаш у яго «Гісторыі», у дачыненні Памор'я — умовы Калішскага міру 1343 г., які пакінуў Памор'е за Ордэнам.

Хоць гэтыя ўмовы міру і падаваліся цяжкімі, аднак кароль польскі Уладзіслаў і князь літоўскі Вітаўт, усімі сіламі жадаючы адхіліць вайну, прымаюць іх, абяцаючы зацвердзіць іх граматамі. Бо ўжо на працягу некаторага часу ў караля Уладзіслава і яго саветнікаў адбывалася нарада аб тым, ці варта заваяваць Дабжанскую зямлю сілай зброі або выкупіць грашыма, каб яе заваяванне не стала прычынай вайны, а выкуп не паслужыў бы падахвочваннем да новых несправядлівых захопаў. Усё ж вырашылі лепш выкупіць яе, чым падаваць падставу да вайны, хоць гэта было ганебна і цяжка для каралеўства.

**КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА, ЗАПРОШАНАГА МАГІСТРАМ У ТОРУНЬ, УШАНОЎВАЮЦЬ НА ПРАЦЯГУ ТРОХ ДЗЁН. ДАБЕСЛАЎ З АЛЯСНІЦЫ ВЫХОДЗІЦЬ ТАМ ПЕРАМОЖЦАМ НА РЫЦАРСКІХ ГУЛЬНЯХ, КАРАЛЯ Ж ЖАНЧЫНА АБЛІВАЕ БРУДАМ.**

З Рацёнжа кароль польскі Уладзіслаў, саступаючы шматразовым настойлівым просьбам прускага магістра Конрада фон Юнгінгена і яго камандораў, з большай часткай сваіх саветнікаў прыбывае ў Торунь, дзе яму на працягу трох дзён магістр аказвае бліскучы прыём і наладжвае ў яго гонар рыцарскія спаборніцтвы. На іх польскі рыцар Дабеслаў з Алясніцы (інакш з Сенна) звяртае на сябе позіркі ўсіх гледачоў сілай цела і духу. Па гэтай прычыне польскаму волату, які аказаўся пераможцам над усімі ўдзельнікамі спаборніцтваў, была прысуджаная ганаровая ўзнагарода. Бо калі Уладзіслаў, кароль польскі, убачыў, што яго палякі маюць мала поспеху, ён загадаў выступіць у спаборніцтвах згаданаму Дабеславу. Такім чынам, сеўшы на каня па каралеўскаму загаду, Дабеслаў настолькі пераўзышоў сваіх сапернікаў, што вымусіў усіх іх пакінуць поле. Нават а трэцяй гадзіне ночы толькі ён адзін заставаўся на арэне, хоць супраць яго некалькі разоў выступалі, змяняючы адзін аднаго, усё новыя і новыя прыдворныя рыцары магістра Прусіі.

Акрамя таго, у адзін з тых трох дзён, калі кароль польскі Уладзіслаў разам з прускім магістрам аб'язджаў вуліцы горада Toруня, аглядаючы яго размяшчэнне, нейкая жанчына абліла караля Уладзіслава з кухні кухоннымі памыямі. Па загаду магістра яе схапілі і прысудзілі да ўтаплення, але па літасці караля ёй было захавана жыццё. Застаецца няясным, ці здзейсніла яна гэты ўчынак наўмысна або выпадкова. Многія, аднак, выказвалі падазрэнне, што згаданая жанчына знарок плюхнула згаданыя памыі па навучэнню крыжакоў для пасаромлення караля, што пацвярджаецца тым, што сярод такога мноства людзей, якія ехалі наперадзе і трымаліся за каралём і магістрам, нікога іншага, акрамя караля Уладзіслава, не закранулі выплеснутыя памыі.

**КРЫЖАКІ, УВАРВАЎШЫСЯ ЯК ВОРАГІ Ў КНЯСТВА МАЗОВІЮ, ГАНЕБНА ЎТРЫМЛІВАЮЦЬ У ПАЛОНЕ ЗАХОПЛЕНАГА ІМІ КНЯЗЯ ЯНУША З ЯГО ПРЫДВОРНЫМІ, ЯКОГА, НАРЭШЦЕ, АДПУСКАЮЦЬ ПА ЗАПАТРАБАВАННЮ КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА.**

Камандоры і крыжакі прускія, без усякай крыўды або прыгнёту, але кіруючыся адной толькі зайздроснай і напышлівай злосцю, вялікім войскам, не абвясціўшы наперад пра разрыў мірных адносін, таемна і варожа ўступаюць у землі Мазовіі, у княства Яна, інакш Януша, князя мазавецкага, чэрскага і варшаўскага. Яны нападаюць на згаданага князя Януша, які спакойна і без асцярогі пражываў у сваім пала-



*Конны воін Вялікага княства Літоўскага.*

Малюнак У. КІСЛАГА.

цы разам з жонкай, сынамі, вяльможамі і прыдворнымі, слугамі і рыцарамі, паколькі ён не адчуваў за сабою віны і ні ў чым не прычыняў шкоды крыжакам. Крыжакі захопліваюць яго самога і ўсіх яго вяльможаў, рыцараў і саветнікаў, а таксама дваровых людзей. Яны адводзяць у падуладныя ім замкі і гарады згаданага князя Януша, мужа высакароднага, дабрадзейнага і цудоўнага (не гавару ўжо аб тым, што ён з’яўляўся заснавальнікам і дабрачынцам іх Ордэна[1] і што яны павінны былі яго шанаваць нават і па асабістым абавязку); затым, ганебна звязаўшы яго і ўсіх яго людзей вяроўкамі ў забыцці ўсякай чалавечнасці і прыстойнасці, падвяргаюць іх ганебнаму абыходжанню.

Кароль польскі Уладзіслаў, атрымаўшы праз спешных ганцоў паведамленне аб такім новым акце, пасылае да магістра Прусіі Конрада фон Юнгінгена знатных паслоў са скаргай на абразу і крыўду, нанесеныя паланеннем згаданага князя Януша і яго двара асабіста каралю і ўсяму каралеўству Польскаму. Кароль дамагаецца хуткага вызвалення князя і яго людзей, хоць згаданы магістр Прусіі подла і хлусліва ўпэўніваў, быццам гэтае злачынства здзейснена без яго ведама.

### ДЛЯ ВЫКУПУ ДАБЖАНСКАЙ ЗЯМЛІ ЎСТАЛЁЎВАЕЦЦА ПАДАТАК, ЯКІ СКЛАЎ, ЯК ГАВОРАЦЬ, СТО ТЫСЯЧ МАРАК ГРАШЫМА.

Каб здабыць для выплаты абяцаныя магістру і Ордэну прускаму сорак тысяч фларынаў на вызваленне і выкуп Дабжанскай зямлі, кароль польскі Уладзіслаў, выехаўшы з Торуня і знаходзячыся на працягу цэлага лета ў землях Вялікай Польшчы, распарадзіўся склікаць мясцовыя з’езды[2], каб на іх уся шляхта ўнесла грашовую дапамогу са сваіх доляў прыбыткаў для выплаты гэтага выкупу. Увосень жа, адбыў-

[1] Длугаш няўдала выказаўся. Князь Януш заснавальнікам Ордэна не быў, але ён з’яўляўся праўнукам князя Конрада Мазавецкага, які адыграў вядомую ролю ў стварэнні Ордэнскай дзяржавы (гл. 1394 г., заўв. 4).

[2] Мясцовыя з’езды (соймікі) — з’езды ў асобных землях краіны. На іх збіралася мясцовая шляхта для вырашэння пытанняў, якія тычыліся дадзенай зямлі.

шы з земляў Вялікай Польшчы, кароль правёў у Новым горадзе Корчыне напярэдадні дня святога Марціна агульны сойм усяго каралеўства. На ім па жаданню і згодзе ўсіх біскупаў, вяльможаў і рыцараў усяго каралеўства было пастаноўлена для выкупу Дабжанскай зямлі выплаціць каралю з кожнага занятага лана па дванаццаць грошаў (уключаючы два звычайныя каралеўскія грошы, якія плацілі і раней)[1], аднак так, каб гэтая добраахвотная дапамога не паслужыла ў шкоду правам і вольнасцям рыцараў і не была б пасля звернута ў абавязковую павіннасць. І з таго часу пачалі спаганяць падатак адпаведна дастатку сялян і вёсак, а таксама сумленнасці зборшчыкаў, і перадаваць у рукі прызначаных каралём польскім Уладзіславам зборшчыкаў у галоўных гарадах. Пасля падліку аказалася, што сабраная сума дасягнула ста тысяч марак […]

**ВІТАЎТ АДМАЎЛЯЕЦЦА АДДАЦЬ САМАГІЦКУЮ ЗЯМЛЮ КРЫЖАКАМ ПА ДАМОВЕ, І ТАМУ КРЫЖАКІ СПУСТАШАЮЦЬ ЛІТВУ, АЛЕ ХУТКА КІДАЮЦЦА Ў БЕГСТВА, ДАВЕДАЎШЫСЯ АБ НАБЛІЖЭННІ ПОЛЬСКАГА ВОЙСКА.**

Вялікі князь літоўскі Вітаўт не выканаў рашэння аб аддачы Самагіцкай зямлі магістру і Ордэну Прусіі, прынятага на з’ездзе, які адбыўся ў горадзе Рацёнжы, таму магістр Прусіі і крыжакі з моцным войскам па-варожаму ўрываюцца ў літоўскую зямлю. Яны паляць яе і спусташаюць, а князь Вітаўт, хоць і трывожыць непрыяцельскае войска з засад, але ўсё ж асцерагаецца выступіць супраць яго ў крайне небяспечным адкрытым баі.

Даведаўшыся аб цяжкім становішчы князя, кароль Уладзіслаў накіроўвае яму на дапамогу нямалы лік рыцараў з Польшчы. Апошнія, адшукаўшы князя Вітаўта толькі па абыходных і непралазных дарогах, натхняюць яго выпрабаваць ваеннае шчасце ў баі з ворагамі. Але магістр Прусіі і крыжакі, даведаўшыся, што на дапамогу князю Вітаўту прыйшло польскае войска, і мяркуючы, што яно больш моцнае і шматлікае, чым было на самой справе, адразу ж хуткім ходам бягуць у свой край.

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Працяг будзе.***

[1] Лан — участак зямлі, адзінка абкладання. Паводле Кошыцкай прывілеі, выдадзенай каралём Людовікам у 1374 г., шляхта была вызвалена ад усіх падаткаў на карысць дзяржавы, акрамя двух грошаў з лана, прычым гэтым апошнім падаткам абкладалася не асабістая зямля шляхціца, а зямельныя ўчасткі яго сялян.



*Уладзімір Папковіч нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Дварэц Вілейскага раёна. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Выкладаў у гэтай ВНУ. Працаваў інжынерам-перакладчыкам патэнтнага бюро Інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прапаганды пры Савеце Міністраў БССР. З 1966 года жыве ў Віцебску. З 1982 года — выкладчык Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Машэрава. Аўтар зборнікаў вершаў «На досвітку», «Зерне», «Самы кароткі цень» і інш. На беларускую мову ў яго перакладах з нямецкай выйшлі кнігі «Закаханы вандроўнік: паэзія нямецкага рамантызму», «Тры таварышы» Рэмарка і інш. На нямецкую мову пераклаў «Тараса на Парнасе», вершы Давіда Сімановіча.*

Уладзімір ПАПКОВІЧ

# ДУША СПАГАДЫ ЧАКАЕ

## НАДЗЕЯ

***Сяргею Макарэвічу***

У працы, у сяброўстве, у каханні
Не абыходзіцца ніколі без тугі.
Шчаслівы быў... і вось расчараванні...
Усё сплялося
У клубок тугі.

Ты волю страціў,
Ты не бачыш выйсця,
І на падмогу аніхто не йдзе.
Ты забываешся,
Што моцны быў калісьці
І мог супрацьстаяць любой бядзе.

Цябе пужаюць змрочныя падзеі,
І страх жыве, стаіўшыся ў грудзях.
... Каб не іскрынка кволае надзеі,
Хто вывеў бы цябе на светлы шлях?

* * *

Люблю я прасцякоў і дзівакоў,
Хто да жыцця не змог прыстасавацца.
Паміж авечак і паміж ваўкоў
Жывуць яны,
Не ўмеючы хавацца.

Штурхаюць пад бакі іх, б’юць і кпяць,
Балюча наступаюць ім на ногі.
Яны ж заўсёды рады саступаць
І толькі пасміхаюцца, нябогі.

Ад тых усмешак адступае злосць,
Бяссільная нянавісць адступае.
Ёсць тайна ў гэтых людзях,
Ёсць
Такое, чаго хітрым не хапае.

* * *

Люблю падацца ў белы свет,
У шлях нязнаны і няблізкі,
Сабраць на харч і на білет,
Жыць без нагляду і прапіскі.

Пакінуўшы свой родны дах,
Пакуль душа зноў не заные,
Павандраваць па гарадах,
Дзе ёсць музеі і піўныя.

Худым, счарнелым, з барадой
Вярнуцца і паспавядацца…
Піць роднай мовы сырадой
І ад зласліўцаў адбівацца.

* * *

Я не чакаю падзякі
За кожны прыстойны ўчынак.
Важныя толькі адзнакі
У дзённіках школьніц-дзяўчынак.

Я выйшаў з наіўнага ўзросту,
Калі нас слава шукае.
Жыву па дурасці проста:
Душа спагады чакае.

* * *

Ты кажаш, злосць?
Ты кажаш, кпіны?
Табе баліць, а ты трывай.
Шапчы сабе: я вінны, вінны —
І боль душэўны прыхавай.

Няхай сабе яны злуюцца,
Што ты не гэткі, не такі.
Няхай сабе мячы куюцца,
Куюцца для крыжа цвікі.

І ладзяцца табе спакусы:
Спужаць, купіць, захамутаць...
За ўзор сабе ты ўзяў Ісуса.
Не дай святое растаптаць...

* * *

Прамаўчыш, калі хочацца крыкнуць.
Пашукаеш спагадных вачэй,
І пачвары агідныя знікнуць,
Раптам сонца заззяе ярчэй.

Ты ж прасветленым нанава зрокам
Свет убачыш, які адкрыў.
І адчуеш сябе прарокам,
Быццам з небам пагаварыў.

* * *

Няўмольны час прыходзіць —
Развітацца,
Сказаць «бывайце» ўсім,
Каго любіў.
Пара ў сябе самога
Запытацца:
«Навошта ты, няпрошаны,
Тут быў?»

Дзеля чаго ты пнуўся і стараўся?
Ты дух бярог ці бруха напаўняў?
Ты жыў сумленна альбо прытвараўся?
Ты чысціню душы абараняў?

Цяпер сябе не варта біць у грудзі.
Гляк апусцеў.
Даедзены пірог.
Мы толькі людзі.
Мы сабе не суддзі.
Суддзя адзіны ёсць над намі —Бог.



Генадзь ПАЦЫЕНКА

# ПАКУЛЬ КУЛЯ ЛЯЦІЦЬ*

***Аповесць***

**Окружи счастием душу достойную…**
*М. Ю. Лермонтов*

**Частка пятая**

## БАЦЬКОЎСКАЯ РАДА. СУНІЦЫ ЗА ВОЗЕРАМ. ТРЫВОЖНАЯ НОЧ

*Што ні дзень* узмацнялася з нарастальным чаканнем навіна: у суседніх вёсках немцы расклейвалі загады — здаваць яйкі, мяса, малако... Бацька з маці занепакоіліся. Пра намер новых улад бацька нейкім чынам даведаўся першым. На яго погляд, замышлялася горшае, да чаго трэба было рыхтавацца.

Познім вечарам бацькі раіліся. Газу эканомілі, і фарфоравая лямпа пад столлю гарэла прытушана. Вырашаць жа бацьку з маці было што.

Спаць нас з Федзькам адправілі рана. Цяпер я клаўся на ложак Васіля, а не ўдваіх з Федзькам, як раней. Ложак старэйшага брата быў не ў звычку, і я не мог адвыкнуць ад думкі, што Васіль вось-вось прыйдзе.

Бацька начаваў у тарцовай прыбудове хлява, куды прадбачліва прынёс ён некалькі бярэмяў свежага сена. Матрац быў набіты палявой пшанічнай саломай і засланы льняной прасцінай з вытканага бабкай Войціхай зімовага палатна. Бываць у бярвеністай прыбудове нам з Федзькам падабалася.

На мяккім сене можна ўдосталь скакаць і скрозь заткнутую ў сцяне шчыліну панаглядаць, выняўшы затычку, за дарогай, возерам, гародам і нават Віцязем... Федзьку — яшчэ і павалтузіцца, падужацца з бацькам на ложку, атрымліваючы кожны раз перамогу. Беручы такім чынам верх, брат рагатаў і весяліўся. Мне не хацелася валтузіць бацьку ці тузаць за вус, як дазваляў сабе малодшы брат. Я лічыў сябе ўжо досыць сталым.

Ды і пакажы я прыклад, Федзька яшчэ смялей прыняўся б церабіць і мучыць бацьку. Іншая справа бестурботныя скокі ў сене. Сена ад нашай валтузні валілася за парог, падграбалася і складалася назад у прыбудову.

Цяпер скрозь нацягнутую на галаву коўдру міжволі пранікала начная бацькоўская гутарка. Маці накрывала бацьку вячэраць. Пасля пахавання Васіля яна ўсё рабіла павольна, а часцей за ўсё адкладала справу і задуменна садзілася да акна, апускаючы рукі. Федзька навучыўся адгадваць яе стан і ўсяляк адцягваў ад нялёгкіх дум.

Летняя задуха паступова змянялася начной прахалодай і свежасцю. Па валтузні і гуках я вызначаў, калі выцягваўся з печы чыгунок, апускаліся вілкі і калі разлівалася ежа.

* Працяг. Пачатак у № 2.

Я, здавалася, бачыў і тое, як бацька, не спрабуючы суп, цягнецца звыкла да сальніцы, зачэрпваючы з яе гэтулькі солі, колькі патрабавалася на кончык алюмініевай лыжкі. Потым ён памешвае суп, наладжваючыся на гутарку, і стомленымі марудлівымі жэстамі круціць кончыкі вусоў.

Гэтым разам бацькоўская гутарка з самага пачатку дзівіла.

— Ты дакладна-то пра загад ведаеш? — пыталася маці.

— Куды ўжо дакладней.

— Ты яго бачыў?

— Паказвалі, — коратка і адцягнута адказваў бацька.

— Немцы, ці што?

— Свае.

— У нас-то, здаецца, яшчэ не вывешвалі...

— Вывесяць.

— А ў каго бачыў?

— Сустрэўся незнаёмец, дарогай і даў прачытаць.

— Дзе ж ён узяў?

— Зняў у нейкай вёсцы.

— І ў загадзе тым што?

Маці, як звычайна, стаяла са скрыжаванымі рукамі і занепакоена глядзела на бацьку, які вячэраў. Я не бачыў іх, але ўяўляў бацькоў у дакладнасці такімі, якімі яны ў гэтую хвіліну былі.

— Сказана, што за няздачу прадуктаў будуць расстрэльваць.

Адказваў бацька скупа, не адразу, як і належыць сталаму мужыку, ён марудзіў і ўзвешваў. Звычка, якая ўзнікла ў яго ў ваеннае лета. Так ён трымаў сябе і са мной, калі даведаўся пра зніклую лодку-камягу. Бацькаву стрыманасць я ўспрымаў пакуль за кошт ягонай стомленасці.

Але галоўнае з пачутага я зразумеў трохі пазней. І не спаў затым, хоць лямпу неўзабаве і патушылі. Палохаў лёс каня, на якім я цяпер звыкла і штодня катаў Інгу.

З канём гаспадарка папоўнілася грунтоўна. Карова, авечкі, чатырохмесячная цялушка ды ў дадатак армейскі конь — на зіму звыклым стажком сена не абысціся. Якая прорва працы пажылому бацьку!

Цялушку-то ўвосень бацькі звычайна здавалі на мяса. Яна пасвілася ў агародных прысад, яе маглі забраць немцы, як і Віцязя, калі даведаюцца ці заўважаць.

Конь — найпершая ў гаспадарцы падмога. Да калгасаў, па расказах, трымалі іх паўсюдна. Але потым чамусьці пазабіралі, абагулілі. Коней, што заставаліся ў стайні, забралі часці, якія прабіраліся з акружэння — цягнуць гарматы, везці параненых, а некаторых асядлалі пад камандзіраў высокага рангу.

Бацькаў конь у вёсцы — адзіны. У хуткім часе бацька намерваўся перавозіць на ім дахаты лясное сена. Федзька і я з нецярпеннем чакалі гэтага дня, упэўненыя, што кагосьці з нас бацька возьме па сена. Бацькоўская разважлівасць міжволі зводзілася да таго, што разумней расстацца з цялушкай, збыць яе, перш чым пакваняцца немцы.

Жвавую, з белай плямкай, яе было лепш адвесці і падарыць сваякам у вёсцы за чыгункай. Хай гадуюць. І гэта было правільна, разумна — узімку сваякі страцілі карову.

Нам з Федзькам, папраўдзе кажучы, расставацца з цялушкай не хацелася. У гаспадарцы чым больш жывёлы, тым цікавей і весялей. Адно на аднаго яна не падобна, як і людзі. Да яе нораву і паводзін так прывыкаеш, што потым яна робіцца табе наўздзіў зразумелай.

Да маці цялушка тулілася асабліва. Вось яна-то і адвядзе яе. Па меркаванні бацькі, справа паўсюдна заварочвалася крута, і лепш не марудзіць. Ісці да сваякоў больш бяспечна палявой, хмызняковай сцежкай, знаёмай адным мясцовым людзям, праз нябачны ўбаку ад шашы чыгуначны пераезд…

Заадно маці і адцягнецца, развеецца ад пахавання Васіля.

— А хата? А хлапчукоў-то з кім пакінем?

— Ягор дагледзіць, зробіць як трэба. У крайнім выпадку бабку Войціху папросім, — адказаў бацька за вячэрай. Маці ж не сунімалася:

— Карову-то Ягор не падоіць.

Бацька, здавалася, і гэта прадугледзеў.

— Падоіць бабка, — сказаў ён як само сабой зразумелае.

— Ды як жа яна ведаць будзе?

— Я раніцай скажу.

— Не забудзь толькі. І пастарайся сам не затрымлівацца, — наказвала маці. — Адных-то дзяцей пакідаем. Ці мала што...

Бацька запэўніваў і супакойваў яе, кажучы, каб таксама не прападала доўга.

— А то разгаворыцеся там і пра хату забудзеце.

— Мне-то чаго затрымлівацца?

Абмеркавалі, разважылі пра ўсё бацькі і змоўклі пасля таго, як пракрычаў трэці раз певень. Я ляжаў у цішыні, усхваляваны і напоўнены нязвыкла хуткім днём. Мяне ўпершыню пакідалі ў хаце за старэйшага. Смутныя, невытлумачальныя прадчуванні да самага досвітку перашкаджалі заснуць.

**Частка шостая**

## ТРАВА СМОЛКА. ІНГІНЫ ПРЫПЕЎКІ. ЗНОЙДЗЕНАЯ КАМЯГА. ХЛЯВЫ. КРОЎ НА ЗЯМЛІ. ЧАЛАВЕК З БАРАДОЙ. ДЫМ ЗА ВЁСКАЙ. ТРЫВОЖНАЯ НОЧ

Прачнуцца раніцай мне самому не атрымалася.

— Уставай, Ягор. Уставай, сынок, — катурхала маці.

Я з цяжкасцю адкрыў вочы і неахвотна злез з ложка. Бацькі не было.

— Вам з Фёдарам сёння адным прыйдзецца пабыць. — І маці распавяла пра свой намер адвесці цялушку. Па прыкідках, да вечара яна вернецца.

Я, не марудзячы, апрануўся. Не трывожачы Федзьку, выйшаў у двор. Пра цялушку і яе знікненне брат даведаецца пазней і вельмі расстроіцца. А пакуль яна стаяла прывязанай на стылай прахалодзе. Я пагладзіў, і цялушка ў адказ лізнула мне руку. Сонца ўзыходзіла заспана, нехаця. Над возерам крычалі крумкачы і чайкі, дзелячы, відаць, здабычу. Верхавіна вяза хавалася ў смузе.

Маці павяла хутка цялушку з двара. Левай рукой яна трымала вяроўку, якая свабодна боўталася на яе шыі, а правай злёгеньку падганяла галінкай, як бы абмахваючы ад сляпнёў, камароў і мух.

Зарослая сцежка — кароткі і бяспечны шлях. Машыны і вазы па ім не праедуць. Да вайны гэтай сцежкай часцей за ўсё і спяшаліся да цягніка.

Бацька світанкам выгнаў у статак авечак і карову. Зараз ён у Снегірыным лесе, глухім, старым, дзе за ўвесь-то дзень, па словах бацькі, пракрычыць толькі крумкач і ніколі не прасыхаюць вадой напоўненыя імшыстыя балоты і дрыгва, сярод якіх ёсць і пагоркі з гушчарамі, а па краях лесу растуць немагчымых абхопаў нечувана тоўстыя дубы.

Аднойчы ён браў мяне ў Снегірыны лес. Мы ездзілі на возе па бярвенне, што ляжала на паляне, акружанай пахмурнымі елкамі. Сонца пасылала на высечаную дзялянку палосы шыза-блакітнага змроку, і я зачаравана, заварожана глядзеў на казачнасць, што акружала нас. Пазней сонца паднялося вышэй, агаліўшы зараснікі небывала буйной маліны. Дзеля яе бацька, верагодна, і ўзяў мяне.

— Паласуйся пайдзі, — абвёў ён рукой густыя зараснікі, перш чым узяцца за працу.

Некранутыя на дзялянцы малліннікі быццам прызапашваліся для мяне знарок. І пагатоў такой буйной ягады блізу хаты не траплялася. Я амаль разгубіўся, калі ўбачыў сярод чырвонай маліны і кусты цукровай, жаўтлява-празрыстай, надзвычай салодкай, амаль рассыпістай.

— Еш, не стой, — нагадаў бацька, важдаючыся з бярвеннем.

Сонца нібы знарок падсвятляла маліннікі, дзівячы небывалым багаццем ягад. Ад казачнасці замшэлага лесу ахоплівала невядомая весялосць.

Я еў і дзіваваўся, як дасведчана разбіраецца бацька ў Снегірыным лесе, як лёгка знаходзіць ягадныя месцы і неабходныя дрэвы, не баючыся звяроў і без асцярогі заблудзіцца... Я рваў, еў прахалодныя ягады і думаў, што бацьку магло быць і боязна, калі спілоўваў у адзіночку старыя елкі. Як-ніяк, а з лясной глухмені заўсёды цягне хутчэй на палявы ўзлесак, дзе прасторна і далёка відаць. І цяпер здавалася дзіўным, навошта косіць ён у такіх глухіх і аддаленых месцах? Але з іншага боку, якраз у Снегірыным лесе цяпер спакойна і ціха.

Сёння я разлічваў на вяртанне бацькі крыху раней. Зрэшты, маці таксама магла вярнуцца хутка.

А пакуль можна забрацца на вяз і агледзець, даведацца, ці няма чаго асаблівага на блізкіх і далёкіх дарогах. У лопухах каля лазні неўзабаве засакатала курыца, якая неслася ў нейкім патайным месцы замест гнязда ў кошыку, у хляве. Самавольнае яе месца, як толькі Федзька ўстане, давядзецца адшукваць. Забаўны ў брата абавязак.

Па ствале і звыкла знаёмых галінах я хутка дасягнуў верхавіны вяза. Сонца распраўілася са смугой і асвяціла не толькі ўзгоркі, а і лагчыны. Дзень абяцаў быць гарачым.

Я вывучальна аглядаў возера. Яно было маўклівым. Ні ў чаратах з трыснягамі, ні на самай сярэдзіне не бачылася ні душы. Гэтым летам возера магло вымерці пасля аднаго з абстрэлаў нямецкім лётчыкам. Ці то ён прыняў тых, хто купаўся, за чырвонаармейцаў, ці то на пацеху сабе, але, пакружыўшы, нечакана шаснуў па вадзе з кулямётаў і здаволена ўзняўся ў бок горада, дзе, па чутках, быў аэрадром.

На возеры перасталі з’яўляцца як дарослыя, так і дзеці. У спякоту нават статак на вадапой стараліся ганяць неўпрыкметку. Хмызнякі ж на берагавых узгорках прыцягвалі мяне асабліва.

У іх-то, думалася, і хаваўся невядомы, які ў лівень паквапіўся на лодку. Успомніўшы пра яго, я пільна ўглядзеўся ў процілеглы бераг, у дарогу за ім і пакінутыя гаспадарчыя будынкі. Нічога прыкметнага, ніякіх дзіўных людзей ранкам. У кожнай з пабудоў мы да вайны пабывалі. Пакінутыя, не араныя даўно поруч іх узгоркі перарадзіліся ў сунічнікі і розныя травы. Ягад за адзін прысест набіралася цэлая конаўка, не лічачы тых, што прыгаршчамі адпраўляліся ў рот. Цяперашнім летам іх нямала абсыплецца, знікне некранутымі — выпадак недаравальны і небывалы...

Хутарскія хлявы, скляпы і гумны прыцягвалі дзяцей увесь час. Уяўлялася, што да іх абавязкова хтосьці вернецца: чуткі пра схаваныя, закапаныя скарбы «кулакоў» да самай вайны зацята трымаліся. Будынкі нагадвалі старыя рассохлыя шпакоўні.

Не прыпаміналася выпадку, каб хлапчукі іх абмінулі, апынуўшыся за возерам. Цераз прадзіраўленыя саламяныя дахі мы залазілі на драўляныя бэлькі, што ўвесь час пахлі мякінай і мышыным прыплодам.

Па восені ў прадзімальных вятрамі хлявах спыняліся начаваць гарадскія рыбаловы, размяшчаючыся на сене, што захоўвалася там. Іх начлегаў вёска не ўхваляла, асцерагаючыся, што неасцярожным курэннем прыезджыя спаляць будынкі, якія прыносілі ўсё ж нейкую карысць. Да рыбаловаў у такім разе пераплывалі на лодцы і прапаноўвалі пераначаваць у вёсцы.

Хаджэнне ў сярэдзіне хлявоў па бэльках славілася самай рызыкоўнай забаўкай і забавай. Такога роду ліхацтва сярод хлапчукоў лічылася за ўдаласць, з асцярогай сарвацца долу і пакалечыцца на вытаптанай да цвердзі падлозе. Кроквы і бэлькі з унутранага боку любоўна абляпляліся шчабятлівымі даўгахвостымі ластаўкамі, трывожыць гнёзды якіх мы ніколі адзін аднаму не дазвалялі.

На бэльках усярэдзіне хлява мы аднойчы заспелі рысь, якая адпачывала. І напалохаліся не менш за яе. Яна здалася велізарнай коткай, якая спрытна і хутка кінулася ў дзірку на даху.

Заставалася поўнай загадкай, што адбывалася ў хлявах цяпер, ваенным летам. Якія людзі блукалі вакол іх?

Хлявы ўсё гэтак жа глядзеліся асірацелымі. З вяза я ўбачыў, як ледзь лявей пагорка мільганула чыясьці сукенка, якая з’явілася ля возера на ўжо абагрэтым сонечным схіле. І пашкадаваў, што хтосьці пускае дзятву пасля сагнанай лодкі да возера. Сукеначка на час знікла, а потым ізноў паўстала, але ўжо на сцежцы ля плёса, і я без высілкаў распазнаў Інгу, якая ішла, несумненна, да нас. Толькі прыезджая і магла легкадумна блукаць адна. Я хутка спусціўся на зямлю.

— Ты чаму адна шнырыш?

— Глядзела ягадкі. Пазбіралі ўсё. Затое якіх я кветак нарвала! Хочаш, табе падару? Як называюць, не ведаеш? — спытала Інга, паказваючы густа-бардовы, на доўгіх сцеблах, букецік. — Мне вельмі падабаюцца.

— Вось і пакінь сабе.

Я агледзеў кветкі. Яны былі рэдкімі, пальцы і далоні ад іх сцеблаў зліпаліся, нібы вымазаныя смалой. І чым мацней смажыла на прыпёках, тым больш ліпучымі станавіліся сцеблы.

— Ты іх больш не рві.

— Чаму?

— Гэта — смолка. Рэдкая кветка.

— А я і не ведала. Несла табе, за рыбу.

— Ну і дзівачка! Я ж выпадкова злавіў!

— Як лепш хацела. Табе, Ягор, не дагодзіш.

— Смажылі ляшча?

— Вядома! І такі смачны. У муцэ і смятане.

— Можа, яшчэ злаўлю, а кветкі лепш Федзьку падары, дарма не выкідвай, калі сарвала. І рукі вымый, інакш выпацкаешся, — параіў я Інзе, як звычайна кажуць нездагадлівым.

Яна не спрачалася і, матнуўшы галоўкай, нечакана гулліва праспявала і ледзь не падскоквала:

— Міленькі, прыгожанькі, пакатай на сівенькай!

— Што гэта ты раптам? — здзівіўся я. — Развесялілася...

— Цётка навучыла. Праспявай, кажа, Ягору. Павозіць.

— Перш пад рукамыйнік схадзі.

— Калі ласка, — адказала Інга, пакорліва кіруючыся да рукамыйніка ў двары.

Віцязя я праведваў штораніцы. Ці жарт, толькі ў адных нас — свой конь! Ідучы да яго, я акрапляў расой ногі, распутваў яго і праціраў спіну, заўсёды цёплую, якая прыкметна ласнілася. Так я рыхтаваў каня да прыходу Інгі, пра што яна, магчыма, здагадвалася. Я не зважаў на свае цыпкі і на парэзы, на драпіны, ведаючы, што ад травы і вільгаці яны хутка загояцца. Галоўнае — не выпусціць, не празяваць лета. Я заўсёды быў у адных і тых жа портках, у адной і той жа сацінавай кашулі, пашытай маці на швейнай машынцы «Зінгер». Вядома, абноўкі нам з Федзькам не перашкодзілі б, але дзе іх узяць? Што было, то і даношвалі.

Федзька пакуль з хаты не паказваўся, і павазіць Інгу на Віцязю — самы час.

Закілзаўшы каня, я дапамог ёй узлезці. Я вадзіў яго ўзад-наперад, пакуль Інга сядзела на ім, апранутая сёння ў светлую сукеначку-безрукаўку.

— Выдатна я ўжо трымаюся, так? Зусім не трымаюся за карак.

— Вось і дарма.

Сядзела ж Інга сапраўды ўпэўнена. Неўзабаве яна злезла і, завёўшы руку назад, звыкла схіляючы галоўку, прамовіла:

— Ты мяне, Ягор, абавязаны заахвоціць.

— За што?

— Калі ў мяне штосьці атрымлівалася — тата з мамай хвалілі і штосьці дарылі.

— Але ты ж не дома.

— Хочаш, я сама прыдумаю, што для мяне зрабіць?

— Цікава, — толькі і паспеў я сказаць.

— Давай сёння сунічак пазбіраем? — прапанавала яна, ківаючы на возера, на палеткі на тым беразе. — Махнём, Ягорчык?

— Не магу.

— Чаму?

— Ды таму, што мы з Федзькам дома адны.

— І выдатна, — спахапілася раптам Інга. — У іншы час цябе і не пусцяць.

— Пусцяць. А цяпер я не магу пакінуць Фёдара.

— Хочаш, я сама з ім пагавару?

— Пры чым тут ты? Проста няма на каго хату пакінуць.

— Пайшлі, — пацягнула мяне Інга ў хату. — Пайшлі.

Я, прызнаюся шчыра, не супраціўляўся. Міжволі падпарадкоўваючыся, паплёўся за ёй. Брат ужо ўстаў і сядзеў на ложку, разважаючы, чаму нікога няма.

— Федзечка, — загаварыла з ім Інга, — ты снедаў? Ягор, даставай і стаў малако, ці лепш да нас пойдзем? Хадземце ўсе да нас! — прапанавала яна, быццам была гаспадыняй. Брат са здзіўленнем паглядзеў на мяне.

— Ягор, ты на дрэва лазіў? — спытаў ён.

— Лазіў.

— І што бачыў?

— А нічога. Вакол спакойна. Ідзі есці.

— А вы самі-то чаму не ясцё?

— Мы, Федзечка, паснедалі ўжо, — патлумачыла Інга. — Але заадно можам папіць і з табой малачка.

— А што будзеце потым рабіць?

— Пакуль не вырашылі. Можа, ягад табе прынесці? — адказала Інга, дапамагаючы брату апрануцца.

— Ягад? А якіх?

Інга зірнула на мяне. Я працягваў маўчаць, упэўнены, што Федзька адзін ніколі не застанецца.

— Ты нам дазволіш на той бераг сплаваць? — казала яна, зазіраючы брату ў твар. — Дазволіш?

— Надоўга? — спытаў брат роздумна.

— Ну гадзінкі на дзве. Туды і назад. На лодцы ж блізка.

— А калі вецер падымецца?

— Які вецер? Ты паглядзі ў акно. Спякота!

Я зірнуў на насценныя ходзікі — пачатак дзесятай. У абодва канцы — гадзіны паўтары.

— Ты б лепш кніжку мне паказала, што прывезла, — разважыў Федзька.

— Як вернемся, то і прачытаю, — паабяцала Інга.

— Добра, плывіце, толькі вяртайцеся хутчэй, — пагадзіўся брат на маё немалое здзіўленне. — Я з ганка буду назіраць за вамі.

— Мы табе таксама будзем махаць, — паабяцала Інга.

Справа ўладзілася, як і не чакалася. Інга нават абняла і расцалавала брата, і нам заставалася толькі збірацца. Я зняў з цвіка ключ ад лодкі, з тасьмой і бяроставым коркам, каб не патануў, калі зваліцца ў ваду. Федзька ўручыў Інзе эмаліраваны кубак, мне ж параіў узяць на загарадзі вымыты збан, які сушыўся. Мы не спрачаліся. Распараджэнні брата выконваліся як належнае.

Заставалася знайсці ў двары весла. Бацька яго звычайна хаваў, каб без неабходнасці не плавалі. Прыбіралася яно і ад чужых вачэй. Я адшукаў весла пад павеццю хлява.

З вяслом, збанам і дзвюма конаўкамі мы накіраваліся да лодкі. Федзька, прысеўшы на ганку, глядзеў нам услед. Пакуль не вернемся, так і будзе сядзець, не зводзячы з возера вачэй.

Сонца старанна прасушыла лодку, і дно яе было як вымытая падлога. Інзе я параіў сесці на папярочную лаўку і адапхнуўся вяслом. Лодка, падмінаючы чараты, паплыла на абшар, у пах вадзяной свежасці. Хвалі мякка пляскалі ў насавую частку. Слабы вецер з процілеглага берага нёс травяныя пахі прагрэтых палян. Злятаючыся, кружылі чайкі. Аддаляючыся ад берага, Інга памахала брату рукой.

Возера вабіла свежасцю і прасторам, а далей, далей жа за ім — палеткі і абшар, яшчэ большыя... Як прыкметна вымахалі па беразе лопухі, як рэзка пахне аер і само возера! Выключна светла вакол, над намі нерухома перасоўваюцца аблокі, з берага збянтэжана глядзяцца ў ваду хмызнякі. Горача, напалена ад амаль паўдзённага сонца.

Змясціўшы між каленяў конаўку, Інга напружана трымалася за лаўку. Ледзь прыкметны нахіл лодкі пужаў яе.

Я стараўся кіраваць раўней, грэбці без рыўкоў, нібы не плыў, а ехаў, набраўшы хуткасць, па роўнай дарозе. Лодка рухалася наперарэз хвалям, што павольна пляскаліся. Бераг процілеглы абяцаў радасны ласунак ягадамі і знаёмства з нябачанымі Інгай будынкамі...

Я ж з набліжэннем да яго спрабаваў прадбачыць, што на ім чакае нас, што абяцае? Я павярнуў лодку ўздоўж чаратоў, выглядваючы месца, куды б прыстаць. Чараты стаялі некранутымі, утвараючы казачна-зялёную сцяну, пяшчотна-шумлівую нават ад самага асцярожнага ветрыку. Нарэшце заўважыўся след, хтосьці праплыў па чаратах, пакінуўшы іх зламанымі і прымятымі. Па чужым следзе і было зручней прычальваць да берага. Прабірацца скрозь зараснікі не патрабавала вялікіх высілкаў. Я паклаў весла і ўзяўся рукамі за чараты, падцягваючы лодку да берага.

— Ягор... — прамовіла Інга паўшэптам, седзячы на носе лодкі.

Па голасе я здагадаўся пра штосьці важнае, ёю ўбачанае.

— Ты чаго?

— Ведаеш, там хтосьці ёсць... — паказала яна на бераг.

Я падняўся і перайшоў з кармы на нос. На беразе пад навіслай ракітай цямнела нешта даўгавата-масіўнае.

— Ды гэта ж наша камяга! — усклікнуў я. — Тая самая, на якой вы плавалі.

— Вады-то ў ёй колькі! Ягор, а як жа яна патрапіла сюды?

— Хтосьці пераплываў...

— А хто?

— Адкуль мне ведаць. Можа, па ягады...

— Значыць, спазніліся.

— Хопіць і табе.

— Ты думаеш, не ўсё абабралі?

— Упэўнены.

— Лодка так і будзе стаяць тут?

— Камягу пусцім цяпер па хвалі, а сваю — пакінем.

Я саскочыў у ваду і памяняў лодкі месцамі. Затым вывеў камягу ў чаротавую пратоку і адапхнуў на чыстую паверхню, перадаручаючы ветру.

Невычарпаная вада азначала, што камягай карысталіся даўно. Пушчаная па ветры на свой бераг, яна пазбаўляла кагосьці магчымасці пераплысці назад. Заганяючы і хаваючы яе, хтосьці не пакідаў надзеі, што лодка можа спатрэбіцца. Але хто? Хто гэты незнаёмец? Камяга, як усплылае бервяно, павольна-павольна аддалялася.

І, аднак жа, куды сышоў невядомы? Хутчэй за ўсё, да станцыі. Да яе праз возера — шлях самы кароткі. Як ні разважай, ні мяркуй, а невядомы, падобна, добра кеміў у асаблівасцях нашых мясцін.

Я не дзяліўся з Інгай сваімі меркаваннямі, яна і ведаць не ведала пра сагнаную ў дождж камягу. Распавядаць ёй азначала б толькі марна трывожыць. Я быў рады, што так раптам адшукалася старая вясковая камяга.

І ўсё ж здагадкі не давалі спакою. Не забываўся, падсцёбваў і дзіўны агеньчык у поглядзе бацькі... Чамусьці бацька раіў не ламаць галаву, забыцца на нават хутчэй непатрэбны, па яго меркаванні, выпадак. У рэшце рэшт, хто б ні зганяў лодку, толькі б быў ён добрым. Хоць... навошта б добраму хавацца ў кустах ды пераплываць на чужой лодцы?

— Ягор, а яна не патоне?

— Хто?

— Ды камяга.

— Яе на плёс да нас прыб’е.

— А пра што ты ўвесь час думаеш? — спытала Інга. — Маўчыш і думаеш.

— На які груд нам пайсці.

— На той, дзе ягад больш. Але ты, Ягорчык, пра нешта іншае думаеш?

— Табе гэта здаецца.

— Мяне не ашукаеш. Можа, да клуняў спачатку сходзім? — спытала Інга.

— Як хочаш.

— Не, як ты лічыш?

— Я — як ты.

— Не, як ты скажаш, — заўпарцілася яна.

— Я думаю, што перш бы лепш ягад набраць. А там будзе відаць. Федзьку вось абяцалі? На зваротным шляху і клуні паглядзім.

Інга пагадзілася, і мы дружна падцягнулі нашу пласкадонку на бераг, заваліўшы яе нарваным чаротам і альховымі галінкамі. Вясло ж прыхавалі ў кустах асобна. Калі каму захочацца лодку сапхнуць — давядзецца павазіцца, да таго ж і грэбці няма чым. Інга дзівілася маёй прадбачлівасці і не разумела — ад каго і навошта я старанна маскірую лодку, калі ні душы ж вакол...

Мы пайшлі праз поле да забытай уздоўж берага хутарской дарогі. Перш колавая, добра аб'езджаная, яна цяпер парасла мурагом. За дарогай адразу ж па лагчынах маячылі будынкі, з рэшткамі раскіданых там і сям падмуркаў. З пачаткам вайны ніхто ўжо не хадзіў за возера. Не пасвілі тут і кароў з авечкамі. Ціша ды супакой панавалі і ў задуменным заазерным баку...

Дзіўна, аднак, але ў лодцы я сябе адчуваў куды больш упэўнена. На вадзе ніхто знянацку не заспее, не падбярэцца незаўважаным. Тут жа, у некранутай густой траве, мог сустрэцца і чалавек, і звер. Інтуіцыя падказвала да хлявоў пакуль не набліжацца, перш пазбіраць ягад, панаглядаць з боку, прыгледзецца.

Інга, блытаючыся ў траве, раз-пораз здымала сандалікі, просячы пачакаць. Наўрад ці паверыла б, калі б я сказаў, што чым цішэй, спакайней вакол, тым асцярожней трэба быць. Навучыць маскоўскую дзяўчынку гэтым сакрэтам і правілам было немагчыма. Улоўліваць, адчуваць стан кожнай травінкі можна толькі таму, хто вырас поруч яе.

Хлявоў было пяць, пабудаваных без асаблівай фантазіі і крытых саломай. Вароты дашчаныя, з жалезнымі палоскамі папярок. Некаторыя ад ветру пагойдваліся. У якія з іх перш совацца, я не ведаў.

Самым моцным будынкам лічыўся той, у якім хлапчукі неяк спудзілі рысь. Ён выглядаў больш трывалым. Хлеў невядомы гаспадар збудаваў з бярвеністых плах, знутры гладка абчасаных і тарцамі ўстаўленых у пазы дубовых стввалоў, укапаных у зямлю. Будаваў надоўга і па-майстэрску. На чатырохкутныя бэлькі пад дахам клаліся дошкі, каб хлеў выкарыстоўваць і пад зімоўку скаціны. Для цяпла на дошкі навальвалі салому, сена ці асот уперамешку з высушаным бульбоўнікам.

Хлявы ўстойліва захоўвалі змяшаны пах жытняй саломы, канопляў, конскай збруі, птушынага прыплоду і, мабыць, яшчэ гаспадарскага кажуха...

У хлявах заўсёды звыкла трымаліся прахалода і сухасць.

Па лугавых западзінах мы ўзышлі на самы высокі грэбень касагора. Суніцы паспявалі тут звычайна раней і лічыліся асабліва духмянымі, салодкімі.

Поспех нас чакаў і зараз.

Інга так і ахнула сярод рассыпанай, пунсавелай чырвані. Яна прысела, апусцілася на кукішкі і нагадвала белага матылька на зялёнай траве. Яна клала ягаду за ягадай у рот, забыўшыся пра конаўку.

— Гэта табе не Паўднёвая Амерыка, — пакепліваў я.

Інга толькі адмахвалася. Я для яе па сутнасці быў забыты. Але не-не ды ўчэпіста паглядаў з грэбня касагора на хлявы — і нічога быццам бы характэрнага не выяўляў...

Федзькаў збанок я напаўняў буйнымі, у большасці пераспелымі ягадамі, што ападалі ад аднаго лёгкага дакранання. Мы літаральна даілі касагор. Пальцы насычаліся чырвоным пахкім сокам, пахам суседняга чабора, святаянніка, палыну... Дух летняга абшару нябачна кружыў над намі. Мы, безумоўна, былі на касагоры першымі. Збанок хутка напоўніўся. Я не замінаў Інзе ласавацца і цешыць душу. Хай клюе сабе. Я як мог спяшаўся, памятаючы пра пакінутага дома брата. Але ў нейкі момант думкі пра Федзьку раптоўна зніклі.

У некранутай дагэтуль траве я разглядзеў чыйсці свежы след, пракладзены хутчэй за ўсё росным ранкам, калі зеляніна была абцяжарана вільгаццю. Чалавек быццам баразніў нагой па траве, падобна, ён не збіраў ягады і нібы нёс неймаверную ношу, прыпадаючы на правую нагу. След вёў да хлявоў.

Імгненна знікла жаданне збіраць ягады.

Я зірнуў на самы вялікі хлеў. Паўдзённы вецер варушыў яго расчыненыя рассохлыя вароты. Яны парыпвалі, і ў слабых гуках складалася нешта такое, што

насцярожвае і прыцягвае. Ад іх зыходзілі няўпэўненасць і жаданне вяртацца дахаты неадкладна. Адзін бы я не трывожыўся. Адзін бы я ў любым выпадку схаваўся і ўцёк бы. Але з Інгай...

Каля лодкі нас магла чакаць нечая засада.

— Паслухай, — сказаў я нягучна, — ці не памяняць нам месца? Пяройдзем у іншае?

— Ягор, ты што? Пакідаць гэтулькі ягад?! Ты ж абяцаў паказаць клуні! Можа, Баба Яга ў іх жыве?

— Выдумшчыца. Там хутчэй чэрці.

— Вось і паглядзім чарцей, — засмяялася Інга. — Якія яны з сябе.

— А хочаш, я цябе правяду дарогай у абыход возера? Там гэтулькі цікавага, чаго ты ніколі не бачыла, хочаш?

— Гэта, Ягор, несумленна. Казаў адно, а прапануеш іншае. Ты слова не трымаеш.

Інга, несумненна, пакрыўдзілася.

— Добра, ідзём да тваіх клуняў. Ідзём. З-за цябе Федзька будзе трывожыцца.

Інга паднялася з паўнюткай конаўкай з кукішак.

— Можна паглядзець, колькі ў цябе? — пацягнулася яна да майго збанка. — Ого! Але ён жа не поўны? — схітравала яна, хоць ягад у маім збане была, напэўна, не адна конаўка.

— Высыпай свае — і будзе да краёў.

— Чаго захацеў. Я дарогай яшчэ паласуюся.

Яна несла конаўку перад сабой, здымаючы раз-пораз спадаўшыя на спацелы лоб валасы. Я нёс збанок, абхапіўшы растапыранымі пальцамі гарлавіну.

Маю няўпэўненасць Інга ў нейкую хвіліну ўсекла. Хацелася развеяць яе сумневы, і я вырашыўся схітраваць. Выяўлены ў сунічніку нечы след мне не даваў жыцця. Цягнуўся ён прама да хлявоў...

— Аднекуль падлай нясе, — прамовіў я, водзячы носам. Інга спынілася і таксама пашморгала, паглядзела на мяне ў здзіўленні:

— А я не ўлоўліваю.

— Ды нясе ж здыхляцінай. Відаць, з хлява, штосьці ў ім гніе...

Інга пацягнула яшчэ раз носам:

— Можа, ты спачатку адзін зазірнеш?

— Добра, ты прысядзь і пачакай тут. А хочаш — пазбірай яшчэ.

— Добра, — пагадзілася яна.

Я апусціў збан у траву і павольна пайшоў да рассохлых варот, якія мерна парыпвалі на ветры. Імі быццам хтосьці сваволіў. Я не спяшаўся ісці ў хлеўны змрок. Спачатку пільна, прыдзірліва трэба было прыгледзецца.

Хлеў усярэдзіне пуставаў. У ім і намёку не было на тое, каб сюды заходзіла жывёла. Але нага мая раптам адчула ліпкасць, і я разглядзеў на зямлі кроплі нядаўняй крыві... Атрымлівалася, што хтосьці зазіраў сюды, пакуль мы былі на касагоры. Нічога сабе! З’явіся чалавек ці жывёла раней, кроў на зямлі засохла б. Аднак яна чамусьці накапала ў адным-адзіным месцы, пад бэлькамі, ля самага ж уваходу яе не відаць...

Я ўжо збіраўся паклікаць, крыкнуць Інзе, калі маю ўвагу прыцягнула ціўканне ластавак, што скучана замільгалі ў праёме варот і чамусьці не вярталіся назад у гнёзды пад стрэхамі. Падобна, усярэдзіне хлява гаспадарыла драпежная птушка.

Я падняў хутка пад сценамі засохлы камяк зямлі, каб кінуць у няпрошанага нахабнага драпежніка. Задраўшы галаву, я адшукваў яго. Але адразу заўважыў, як з бэлек пасыпалася мякінная і сенечная пацяруха. Я памарудзіў кідаць камяк зямлі і адышоў у кут, прымяраючыся, каб кінуць як мага дакладней.

найлепшых яго прадстаўнікоў. Цяпер практычна ўсё тое, што не супадае з агульнапрынятымі нормамі, памылкова называюць постмадэрнізмам. І ўсялякае глупства, якое ніякага дачынення да яго не мае, праз адсутнасць іншага тэрміна для акрэслення таксама адносяць да постмадэрнізму.

**— З чым бы вы параўналі сваю творчасць? Як адным словам ахарактарызавалі б яе?**

— Калі адным словам, то — залева.

**— Як бы вы вызначылі лейтматыў усёй сваёй творчасці?**

— Мая паэзія — гэта ўласная філасофская сістэма, якую я дапрацоўваю, дапаўняю, пашыраю і карэкцірую кожным сваім вершам, кожнай сваёй кнігай.

**— Хто для вас з’яўляецца найвялікшым і бясспрэчным ідэалам у літаратуры?**

— Ідэалы — асобы і рэчы надзвычай небяспечныя, бо маюць уласцівасць расчароўваць. Таму ўзяла за звычку сабе іх не заводзіць. Я люблю паэтаў з усёй іх «паднаготнай», схільнасцямі, комплексамі і г. д. Уладзімір Караткевіч мне блізкі, яго крывёю адчуваю. Максіма Багдановіча, Уладзіміра Жылку люблю. У Янкі Купалы асобныя творы (п’есы перадусім, «Ворагам Беларушчыны» ў маленстве любіла, да гэтага часу на памяць ведаю, — хоць сярод ночы разбудзі — раскажу). З сучасных — Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Някляева. З маленства засталіся Алесь Разанаў і Уладзімір Арлоў; з падлеткавага ўзросту — Адам Глобус і Леанід Дранько-Майсюк. З замежных — А. Рэмбо, Г. Апалінэр, Ж. Както, Ш. Бадлер (многія французскія паэты). Таксама А. Міцкевіч, К. І. Галчыньскі, С. Лем прыцягнулі маю ўвагу. Цікавяць Ф. Г. Лорка, Р. М. Рыльке, Ф. Кафка, Э. По, О. Уайльд... Па сваёй спецыяльнасці шмат чытала антычных драматургаў, паралельна наведвала заняткі па філасофіі.

І абавязкова ж, як заўсёды, каго-небудзь вартага ды не назавеш, забудзешся…

**— Ці ёсць нейкая мяжа і розніца паміж Валерыяй Куставай і паэзіяй Валерыі Куставай?**

— Вядома, што ёсць. Хоць лічу, што не вельмі адстаю ў сваіх паэтычных паводзінах ад сваёй паэзіі. Але часам здаецца, што ў сваіх тэкстах я разумнейшая, чым у жыцці.

Да прыкладу, калі мяне запрашаюць выступаць у якую-небудзь школу альбо універсітэт, то пасля сустрэчы вельмі здзіўляюцца: «У вас такія сур’ёзныя, складаныя вершы — мы думалі, што вы ходзіце ў чорным і ніколі не ўсміхаецеся і што вы намнога старэйшая!.. А насамрэч усмешка не сыходзіла з вашага твару на працягу ўсёй сустрэчы». Вось такія канкрэтныя супярэчнасці, якія мне асабіста абсалютна такімі не падаюцца.

А яшчэ ў мяне ёсць мой уласны жыццёвы псеўданім (за які вялікі дзякуй спадару Генадзю Тумашу!) — Валярына. Сябры называюць Валярынка, Валярыначка… Калі да мяне звяртаюцца так, то гэта ўжо знак, што людзі пра мяне больш за астатніх ведаюць, ведаюць маю творчасць, мае прыхільнасці… Таму і паводжу я сябе з імі з большым даверам. І, вядома, калі да мяне звярнуцца паводле пашпартнага імя: Валерачка ці Валерушка — на мяне гэта моцна дзейнічае, на гэта мяне можна купіць. Люблю сваё імя і ўсе ягоныя (нескарочаныя!) формы.

Мяне трэба ведаць і мацаць ужывую, каб добра зразумець. *(Смяецца.)*

**— Ці пішаце вы мастацкую прозу? Вашыя драматычныя творы вершаваныя ці празаічныя?**

— Так, у мяне ёсць каля пятнаццаці апавяданняў, якія я напісала яшчэ падчас вучобы ў школе і на першым курсе універсітэта. Пакуль што іх ніхто не бачыў, бо перад тым, як аддаць творы ў часопіс, іх трэба передрукаваць на камп’ютэры, а апроч мяне, гэта ніхто не здолее зрабіць, бо напісаныя яны ад рукі. А почырк у мяне такі, што толькі я — і тое не заўсёды — магу зразумець, што там напісана. А ў стане натхнення, калі слова паганяе словам, — і пагатоў. Спадзяюся ў хуткім часе ўзрадаваць імі Андрэя Федарэнку, якому іх даўно абяцала.

Напісана мною і пяць п’ес (сярод іх ёсць адна вершаваная), шэраг сцэнарыяў. Цяпер працую над новымі. Усяму свой час.

**— Вашыя шматлікія «эксперыменты» над паэтычным сінтаксісам, рытмікай, лексікай — гэта для вас проста гульня са словам ці імкненне схаваць глыбінны сэнс у форме або ўсё разам?**

— Так сталася, што я ніколі не рабіла гэтага наўмысна. Неяк само атрымлівалася, прыдумлялася натуральна. Я заўжды аддавала перавагу інтуітыўным сэнсам перад формай. Мне, напрыклад, падабаецца (я так і раблю з самага маленства) пісаць вершы ў радок і без знакаў прыпынку. Тады, спалучаючы часткі асобных сказаў, маеш месца для фантазіі і можна нават прачытаць у вершы больш і інакш, чым там напісана. Ствараецца пэўная шматсэнсоўнасць успрымання адных і тых жа слоў, вобразаў.

Што да лексікі. Беларуская мова — жывы арганізм, які і цяпер яшчэ расце, развіваецца, фарміруецца. Трэба яму дапамагаць, тым больш калі сама мова таго вымагае… Таму, мне здаецца, аказіяналізмы мусяць толькі вітацца ў нашай мове. Безумоўна, з часам носьбіты стыхіі беларускасці самі адфільтруюць няўдалае, а вартае застанецца шляхам натуральнага адбору.

**— Ці памятаеце вы свой самы першы верш, першае натхненне?**

— Першым маім вершам была паэма, як ні дзіўна. Называлася яна «Дзіцячая сляза і жабрак». Гэта быў мой першы асэнсаваны твор, які я пісала з разуменнем таго, што пішу верш. Дакладней, не пісала, а дыктавала. Паклікала сваю бабулю Валю і сказала: «Я буду верш казаць, занатуй, калі ласка». Мне тады было каля чатырох гадоў. Прынамсі, гэта першы ўспамін пра вершаскладанне, які найярчэй урэзаўся ў памяць. А яшчэ да таго я прамаўляла ўначы розныя «сказы дзіўныя» (невялікія верлібры, філасофскія замалёўкі), як казалі бацькі і знаёмыя. Гадоў з трох. Не магла заснуць, пакуль мама іх не занатуе. Словы мяне мучылі, пакуль я іх не прамоўлю. А тут я ўпершыню па ўласнай ініцыятыве ўдзень звярнулася да бабулі па дапамогу ў запісе верша. Мо таму, што было без пакуты і ўдзень, дык запомнілася. А то я была прывыкла пакутаваць. *(Смяецца.)*

А першае натхненне… Гэта, хутчэй за ўсё, было адчуванне палёту. Мне прымроілася восеньская прысада і я пасярод дарогі, а ў галаве думка: я чалавек, я паляцеў… Таму, дарэчы, некаторыя свае вершы (не інтымную лірыку, вядома) я пішу ад імя чалавека, бо такім было першаснае разуменне паэзіі ўва мне. Менавіта не ад імя мужчыны (як часам памылкова лічаць), а ад імя чалавека — у маленстве я ўсе вершы так пісала.

**— Што вы можаце назваць сваім найвялікшым дасягненнем на сучасным этапе?**

— Любоў. Я люблю любіць, але наўрад ці гэта можна назваць дасягненнем. Проста мне вельмі светла ад таго, што ўва мне ўсё так складзена, што пяшчоты і радасці ўва мне не бракуе. А пра астатнія дасягненні — хай людзі самі скажуць.

**— Якія ўражанні пакінулі выступленні за мяжой? Як вас прымала тамтэйшая публіка? Дзе вам найбольш спадабалася?**

— За мінулы, 2009, год мне пашанцавала гасцяваць і выступаць у сямі краінах, у пяці сталіцах: у Мінску, Вільні, Варшаве, Кіеве, Берліне. А таксама ў гарадах Львове і Дрэздэне. Варшаву я люблю даўно — і еду туды з радасцю заўсёды. Вельмі цешаць мяне студэнты Варшаўскага універсітэта сваёй непадробнай захопленасцю беларускасцю. Берлін зрабіў на мяне невымоўнае ўражанне, там нават паветра вальнейшае: ідзеш, наперадзе — адны перспектывы, толькі бяры, скарыстоўвай! Дзверы метро адчыняюцца, і перад табой — нібы Ноеў каўчэг: цэлы натоўп людзей абсалютна рознай камплекцыі, вопраткі, нацыянальнасцей, густаў. Цябе проста паглынае гэтая разнастайнасць, а потым ты выплываеш з яе і ўсміхаешся. У Берліне я выступала ў галерэі-клубе АКУД з праграмай «Кахай мяне па-беларуску», якая мела на мэце весела-весела прыручыць (нават выкарыстоўваўся такі кампанент, як сапраўдныя беларускія дранікі!) немцаў да беларускай культуры, зацікавіць усім, чым толькі можна, што ў нас ёсць найлепшага. Таму імпрэза, якая расцягнулася па ініцыятыве той самай публікі на некалькі гадзін, складалася не толькі з паэтычнай часткі, але і з аповедаў пра саму нашу краіну, яе культуру і г. д. У легендарным доме авангарднага мастацтва «Тахелес»

адбылася мая вечарына «Прыручыць святло». Атрымаліся сапраўдныя паэтычныя спектаклі, у якіх былі задзейнічаны таксама нямецкія акцёры і перакладчыкі. Зала была поўная; і немцаў, што цікава, было нават больш, чым беларускіх эмігрантаў. Гледачы ўсмешлівыя і разумныя — мяне вельмі ўзрадавала тая сустрэча.

У казачным Дрэздэне выпала жыць у гатэлі-караблі на самой Эльбе побач са знакамітай Дрэздэнскай галерэяй (якая на мяне зрабіла каласальнае ўражанне, але гэта ўжо асобная вялікая гісторыя). Я шчаслівая, што ў такім узросце жыццё дало мне шанц выступіць у той казцы. Таксама гэтым летам давялося трапіць у беларускую зборную і абараняць гонар Бацькаўшчыны на міжнародным слэме «Беларусь — Украіна» — хуліганскім турніры паэтаў, які праходзіў на Андрэеўскім спуску ў Кіеве, а таксама ў літаратурнай кавярні ў Львове... Шмат чаго было. Я вельмі ўдзячная маім сябрам, якія дапамагаюць мне спраўджвацца! А таксама, вядома, я вельмі ўдзячная сваім перакладчыкам, якія ўзяліся за мае вершы і зрабілі ўсё вельмі якасна.

Шмат удалых праектаў, у якіх пашанцавала браць удзел, адбылося і ў Мінску, што проста цудоўна: «Францыя ў сэрцы Беларусі», «Дні шведскай і беларускай паэзіі», разнастайныя слэмы... Усяго і не пералічыш!..

А ў апошнім квартале 2009-га трапіла на Міжнародную кніжную выставу ў Ашхабад, на Міжнародны літаратурна-мастацкі пленэр у Палангу, месяц працавала над новай кнігай у адмысловым творчым доме на выспе Готланд у Швецыі. І завяршыў мой год удзел ва ўнікальным літаратурным семінары «Бязмежжа», што ладзіцца на Беласточчыне беларусамі Польшчы.

**— Наколькі высокая цікавасць да беларускай паэзіі ў іншых краінах?**

— Я магу рабіць высновы перадусім са свайго досведу. І скажу, што беларускай паэзіяй цікавяцца. Пра гэта сведчаць хаця б поўныя залы, якія збіраюцца дзеля таго, каб паслухаць беларускую паэзію, больш даведацца пра нашу краіну. Канцэнтрацыя гледачоў і журналістаў на адзін квадратны метр кажа ўжо сама за сябе. Перадусім успамінаю свае аўтарскія вечарыны ў Польшчы і Германіі. У мяне засталіся самыя прыемныя ўспаміны пра сустрэчы з тамтэйшай публікай! Пры вялікай колькасці іншых вялікіх імпрэз, якія ладзяцца ў еўрапейскіх сталіцах ці не штодня, на маіх выступленнях людзі стаялі ў праходах — і не было мне большага падарунка, чым гэты!

**— Якія творчыя планы на бліжэйшы час?**

— Жыць, любіць, пісаць, кахаць. Хаця такое хіба сплануеш?

*Гутарыла Святлана БОГУШ.*



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# А Ў СЛУЦКУ — УСЁ ПА-ЛЮДСКУ

## КАБ І ХАЦЕЎ, НЕ ПРЫДУМАЕШ

Колькі непрыемнасцей меў я з-за таго, што падводзіць мяне зрокавая памяць. Той-сёй, з кім дзень назад размаўляў, калі праходжу міма, не пазнаўшы яго, гатовы часам і пакрыўдзіцца. Толькі ад гэтага, як кажуць, нікуды не дзенешся: колькі памятаю сябе, падобнае за мною назіраецца пастаянна. Вось і гэтым разам...

Убачыў на стале начальніка аддзела культуры Слуцкага райвыканкама Алены Камоцкай здымак мілавіднай маладой жанчыны, якая ў нацыянальным строі ўпэўнена крочыць па зжатым палетку — не ўтрымаўся, каб не запытацца:



*Алена Камоцкая.*

— Хто гэта? — паглядзеў я ўважліва на выяву, у думках адзначаючы, што здымак выкананы вельмі прафесійна.

— Не пазнаяце? — засмяялася Алена Міхайлаўна.

— А чаму павінен пазнаць яе? — сумеўся я. — Мы ж з ёю нідзе не сустракаліся.

— Вы так думаеце? — Камоцкая працягвала смяяцца. — А калі зірнуць больш пільна?

— Не, — настойваў я на сваім, — бачу яе ўпершыню.

Аднак калі ўсё ж зірнуў уважлівей — не, не на здымак, а на саму Алену Міхайлаўну, штосьці прымусіла мяне засумнявацца ў катэгарычнасці такога сцверджання.

— Няўжо, — вырвалася ў мяне, — гэта...

Алена Міхайлаўна не дала мне дагаварыць:

— Не няўжо, а так...

Сапраўды, на здымку была сама Камоцкая.

— То адкуль вы такая?

— Якая?

— Удзельніца мастацкай самадзейнасці, — адказаў я, бо па здымку было відавочна, што аб'ектыў фотаапарата (як пазней даведаўся, здымак гэты зрабіла Людміла Салодкая, якая працавала ў мясцовай газеце «Слуцкі край», а цяпер так захапілася фотасправай, што пайшла на творчы хлеб) «схапіў» Алену Міхайлаўну ў той момант, калі яна ішла з нейкага выступлення самадзейных артыстаў, тут жа на палетку.

— Мясцовая, — адказала Камоцкая, — у вёсцы Казловічы нарадзілася.

— Значыць, землякі.

— Ведаю, што вы таксама са Случчыны, — адказала Алена Міхайлаўна.

— Не проста са Случчыны, — удакладніў я, — а таксама родам з Казловіч.

— Сур'ёзна? — здзівілася Камоцкая.

— А што тут дзіўнага?

— Ды няма прозвішча Марціновіч у Казловічах.

— Бацька мой родам з Селішчаў, — патлумачыў я і, каб не заставалася ніякага сумнення, дастаў з кішэні пашпарт.

— Вось гэта сустрэча! — здзівілася Алена Міхайлаўна, зірнуўшы ў яго.

— Сапраўды, знарок не прыдумаеш, — пагадзіўся я з ёю.

## УСЮДЫ ДОБРА, А Ў КАЗЛОВІЧАХ...

У Казловічах я-то нарадзіўся, але жыў у гэтай вёсцы толькі некалькі гадоў, бо бацькі мае — мама настаўнічала ў пачатковых класах, а бацька выкладаў старшакласнікам гісторыю — хутка перабраліся ў вёску Вялікая Сліва, а адтуль — на Капыльшчыну. Аднак, дзе б мне ні даводзілася бываць, я ўвесь час успамінаў пра Казловічы. Канечне, памяць гэтая была толькі на ўзроўні ўсведамлення, што ёсць такая вёска, якую, як ніякую іншую, я маю права называць сваёй.

Пабываў жа ў Казловічах толькі пасля службы ў арміі, працуючы ў рэдакцыі тагачаснай слуцкай аб'яднанай газеты «Шлях Ільіча». Дарэчы, адной са старэйшых на Беларусі — у сакавіку мінулага года яна адзначыла сваё 90-годдзе.

Ды і пазней даводзілася бываць. У тым ліку і тады, калі ў Казловічы прыязджала прадстаўнічая пісьменніцкая арганізацыя на чале з тадышнім сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іванам Чыгрынавым. Ды як не прыехаць было, калі мясцовы калгас імя Кірава славіўся сваімі працоўнымі набыткамі. Ён быў адзін са старэйшых у раёне.

Пачатак яму паклала арцель імя Вілічэўскага, заснаваная ў пасёлку Грады ў 1927 годзе, пазней перайменаваная ў калгас «Вольная Беларусь». А праз два гады ў саміх Казловічах была арганізавана калектыўная гаспадарка «Чырвоная ніва». У 1934 годзе яны аб'ядналіся, і атрымаўся калгас імя Кірава — пра Сяргея Міронавіча, пазверску забітага, тады ведала ўся краіна.

Першым старшынёй гэтай гаспадаркі быў Фёдар Жываглод. Ды свайго росквіту калгас імя Кірава дасягнуў тады, калі з 1959 па 1991 год яго ўзначальваў Сяргей Лямешчанка. Пры ім гаспадарка стала перадавой не толькі ў раёне, а і ў вобласці, а сам Сяргей Дзмітрыевіч быў удастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы.

Было ў Слуцкім раёне яшчэ два старшыні — Васіль Козел і Сяргей Паляшчук, якія таксама атрымалі Залатую Зорку. Усе трое — сапраўдныя гаспадары на зямлі і сапраўдныя гаспадарнікі, а сапраўдны гаспадарнік — той, хто ні пры якіх умовах не аддасць суседу ні кавалка зямлі.

З гэтым звязаны анекдатычны выпадак. Землі калгасаў імя Кірава і імя Калініна, які і ўзначальваў Паляшчук, знаходзяцца поруч. Адзін з механізатараў, апрацоўваючы глебу, з-за няўважлівасці заехаў на тэрыторыю калгаса-суседа. Трэба ж было так здарыцца, што ў той момант якраз у гэтым «спрэчным» месцы аказаліся два старшыні-героі. Сяргей Дзмітрыевіч і Сяргей Сямёнавіч, даказваючы сваю праваты, не знайшлі нічога лепшага, як узяцца за грудкі.

## ВЫРАСЛА... У КЛУБЕ

Пра гэты выпадак па сённяшні дзень памятаюць як у Казловічах, так і ў Мялешках, што з'яўляліся цэнтрам калгаса імя Калініна. Чула пра яго і Камоцкая. З таго моманту запомніла, калі яшчэ і не Камоцкай была, а Драбушэвіч. Ды хто б ні згадваў пра тое, што здарылася недзе ў канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, захапляюцца тым, наколькі Лямешчанка клопатна ставіўся да таго, каб людзям жылося лепей. І як стараўся зрабіць усё для таго, каб раслі набыткі грамадскай гаспадаркі, а значыць, і павышалася зарплата. Тое самае кажуць у Мялешках і пра Палешчука.

— Калі б не Сяргей Дзмітрыевіч Лямешчанка, — роздумна сказала Камоцкая, — хто ведае, як бы яшчэ склаўся мой лёс.

— У якім сэнсе?

— Гэта ж ён даў мне накіраванне на вучобу ў культасветнае вучылішча. За кошт гаспадаркі паслаў на вучобу.

— Значыць, вы з'яўляліся актыўнай удзельніцай мастацкай самадзейнасці?

— Яшчэ школьніцай пачала спяваць. Дый хто ў Казловічах не спявае?!

Што праўда, то праўда. Асаблівай вядомасцю карыстаецца мясцовы хор, які нядаўна адзначыў сваё 75-годдзе. І ўжо сорак гадоў носіць ганаровае званне народнага. Дзе толькі за гэты час не пабывалі казловіцкія артысты — і ў Мінску, і ў Ленінградзе, і ў Кіеве. З задавальненнем слухалі іх госці з Англіі, Аргенціны, Германіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі, Японіі, якія ў розны час прыязджалі падзівіцца мясцоваму сельскагаспадарчаму цуду і з радасцю для сябе ўпэўніваліся, што ў Казловічах ёсць не толькі хлеб, а і да хлеба. Прытым па сваёй важкасці культурны каравай нічколькі не меншы, чым працоўныя набыткі.

— Я са спяваючай сям'і, — расказвае Алена Міхайлаўна. — Цудоўна спяваў мой

бацька Міхаіл Георгіевіч. Не менш цудоўны голас і ў мамы Марыі, таксама Георгіеўны. І ўсе мае цёткі — як па мамінай, так і па татавай лініі — добра спявалі. Дый, без перабольшання, у кожнай казловіцкай сям'і былі людзі, якія прайшлі праз наш хор. Мая сястра Наташа таксама ў ім спявала. Яшчэ школьніцай, з пятага класа.

— А вы самі калі песняй захапіліся?

— Ды ў класе восьмым.

Але актыўным удзельнікам мастацкай самадзейнасці Лена Драбушэвіч стала яшчэ раней. Да таго, пакуль аддала перавагу спевам, і танцавала, і ў драматычным гуртку займалася. Тады дырэктарам Казловіцкага сельскага клуба была Людміла Калядка, якая любіла сваю справу і прыкладала ўсе намаганні для таго, каб кожны жадаючы мог як мага лепей раскрыць свой талент.

— Я, можна сказаць, у клубе вырасла, — на твары Камоцкай праступае тая непрыхаваная радасць, якая звычайна з'яўляецца тады, калі чалавек прыгадвае нешта, для яго асабліва прыемнае. — І Людміле Кузьмінічне вельмі ўдзячна, якая ажно сорак чатыры гады ўзначальвала гэтую ўстанову культуры. І Алегу Васільевічу Далжонку, які кіраваў хорам, калі я прышла ў яго.

Далжонак узначальваў хор з 1963 года. Цяпер жа, пяць гадоў ужо, гэты самабытны калектыў узначальвае Марына Баскакава. І гэтаксама, як і раней, казловіцкія артысты заўсёды выступаюць паспяхова.

— А цяпер таксама ў хоры спяваеце? — пацікавіўся ў Алены Міхайлаўны.

— Не толькі ў хоры, а і ў ансамблі «Ячаўскія вячоркі».

## БЕЗ «ЯЧАЎСКІХ ВЯЧОРАК» І ЖЫЦЦЁ НЕ ЖЫЦЦЁ

Фальклорны ансамбль «Ячаўскія вячоркі» — таксама адзін з самых слынных на Случчыне. Дарэчы, ён створаны ў 1981 годзе Калядкай. Вёска Ячава, што ўваходзіла ў склад калгаса імя Кірава, а цяпер — у СПК «Казловічы», гэтаксама як і Казловічы, надзіва спеўная. То Людміла Кузьмінічна і вырашыла, што будзе здорава, калі мясцовыя жанкі змогуць не проста спяваць для сябе, для сваёй душы, а і на радасць іншым. Так і з'явіўся новы ансамбль, які Калядка сама і ўзначаліла.

Цяпер жа, калі Калядка па ўзросту развіталася з Казловіцкім Домам культуры (прыгожы сучасны будынак з'явіўся ўзамен вясковага клуба), талент свой і сілы аддае толькі «Ячаўскім вячоркам». Ансамбль гэты — з шэрагу тых, якія з павагай ставяцца да народнай творчасці.

Ягоны рэпертуар складаецца з беларускіх нацыянальных абрадаў. Такіх, як зажынкі і дажынкі, Купалле, Сёмуха. Не абдзены ўвагай і ўваходзіны — гэта калі пераступаюць парог новай хаты, новага жытла. Не кажучы ўжо пра вяселле, якое здаўна было адным з самых урачыстых, непаўторных абрадаў.

Хораша выконваюць вячоркаўцы і народныя песні «Каліна-маліна», «Вярба», «У суботу», «Хмарушка». Танцы ж «Гапак», Лявоніха», «Кракавяк» хоць і добра вядомыя, ды ў іх уносяцца свае, ячаўскія нюансы. «Матлот» жа, ці, іначай, «Матлёт», зафіксаваны па ўсёй Беларусі, не сказаць каб быў добра вядомы, хоць і адносіцца да беларускага гарадскога бытавога танца. Адсюль цікаўнасць да яго яшчэ большая.

«Ячаўскія вячоркі» таксама шмат дзе гастраліравалі — і ў Германіі, і ва Узбекі-стане, і на Украіне. Зразумела, не лічачы выступленняў па нашай краіне і ўдзелу ў розных абласных і рэспубліканскіх святах, фальклорных фестывалях і конкурсах, з якіх нязменна вяртаюцца пераможцамі. Летась жа, калі ў Паўднёва-Усходняй акрузе сталіцы Расійскай Федэрацыі Масквы праходзілі Дні Мінскай вобласці, таксама парадавалі масквічоў сваім майстэрствам. Ганарацца вячоркаўцы і тым, што іхняму калектыву ў 1992 годзе было прысвоена званне народнага. І пастаянна даказваюць, што носяць гэты тытул заслужана, бо спачываць на лаўрах не збіраюцца.

Праўда, у гэтым фальклорным ансамблі Камоцкая выступае не з дня ягонага заснавання. Тым не менш даўно яго ўспрымае сваім.

— Скажу шчыра, — прызнаецца Алена Міхайлаўна, — без «Ячаўскіх вячорак» я проста жыць не магу. Як-ніяк, а з гэтым калектывам звязана ўжо шаснаццаць гадоў майго жыцця. Хоць, калі чарговы раз выходжу на сцэну, — працягвае яна, — паранейшаму вельмі хвалююся. Нібыта адбываецца для мяне гэта ўпершыню. Нават дрыжыкі бяруць. Але калі пачынаю спяваць, пра ўсё забываю.

— І якая песня вам падабаецца больш за іншыя?

— «Сонца»... Напісана яна ўдзельнікамі Казловіцкага народнага хору яшчэ на пачатку ягонага існавання.

Голас у Камоцкай цудоўны. Пра гэта даводзілася чуць ад многіх, з кім размаўляў. Хоць загадзя даведвайся, калі будзе чарговае выступленне «Ячаўскіх вячорак», і зноў збірайся на Случчыну. Не каб матэрыял чарговы пісаць, а каб упэўніцца, які гэта цудоўны, самабытны калектыў. Калі сказаў пра гэта Алене Міхайлаўне, яна засмяялася:

— Спецыяльна ехаць, каб мяне пачуць?

— А чаму б і не.

Камоцкая становіцца сур'ёзнай:

— Ды ў нас такіх пяюх шмат.

— Няўжо і сапраўды шмат? — не паверыў я.

— Калі б вы ведалі, якія галасы ў Зінаіды Пятроўны Чухонскай, Зінаіды Георгіеўны Клекі, Марыі Ануфрыеўны Пупкевіч, Ніны Віктараўны Троцкай, Серафімы Ільінічны Светаш. — Камоцкая называе ўсё новыя і новыя прозвішчы, потым дадае: — Адно шкода, што з-за ўзросту ўжо не ўсе яны спяваюць у ансамблі.

— Аднак, мабыць, усё ж ёсць хтосьці з тых, на каго вы як бы раўняецеся? — мне захацелася ўдакладніць, каго з ячаўскіх спевакоў яна лічыць свайго роду настаўнікам.

— Бадай, Валянціну Кузьмінічну Варывончык, яна так вяла альтовую партыю, што заслухаешся. Таму і стараюся падмяніць яе. Ва ўсякім разе, выконваю тыя песні, якія дагэтуль спявала гэтая цудоўная і, канечне ж, таленавітая жанчына.

Адточваць жа майстэрства ёсць калі. «Ячаўскія вячоркі» штогод даюць каля 60 канцэртаў. А калі ўзяць яшчэ рэпетыцыі... Праўда, у гэтага медаля ёсць і зваротны бок. Усё ж Камоцкая як начальнік аддзела культуры пастаянна загружана на асноўнай рабоце, а тут яшчэ выступленні. Алена Міхайлаўна прадугадала маё пытанне.

— Сказаць, што лёгка ўсё гэта даецца, — сказала яна, — пакрывіць душой. Але будзе правільным і тое, што...

— Песня вам жыць дапамагае?

— Што праўда, то праўда.

## ПОДСТУПЫ ДА ГАЛОЎНАГА

Спачатку, праўда, Алена Драбушэвіч паступала не ў вучылішча — падала заяву ў Мінскі дзяржаўны інстытут культуры. Аднак не пашанцавала. Як гэта даволі часта бывае сярод абітурыентаў, неабходную колькасць балаў часам не набіраюць і тыя, хто добра падрыхтаваны. Уступныя экзамены ў нейкай ступені тая ж латарэя, а ў латарэі, як вядома, далёка не ўсім выпадаюць шчаслівыя білеты.

Акурат пасля няўдачы і аказаў ёй дапамогу Лямешчанка. Сяргей Дзмітрыевіч, даведаўшыся, што адной з лепшых пяюх калгаснага хору так не пашанцавала, супакоіў яе і прапанаваў атрымаць сярэднюю спецыяльную адукацыю. Паколькі выбару не было, адразу згадзілася. Прыглянулася гэтая прапанова яшчэ і тым, што гаспадарка збіралася аплаціць вучобу. Тым самым атрымліваўся варыянт, лепшага за які не знойдзеш.

Каб не сорамна было потым глядзець землякам у вочы, імкнулася вучыцца так, каб не падвесці іх. Таму і закончыла вучылішча з чырвоным дыпломам. Набыла спецыяльнасць «Харавы дырыжор». Зразумела, вярнулася ў Казловічы. Але калі б і не па накіраванню вучылася, усё адно папрасілася б у родную вёску, настолькі яна блізкай была для яе, як і людзі, якія там жывуць.

Гэта асабліва адчула падчас вучобы. Не ставала чагосьці такога, што не заўсёды і словамі магчыма выказаць. У пэўным сэнсе было тое, што патрапляе пад вызначэнне настальгіі. Між іншым, і цяпер, працуючы ў Слуцку, яна часта бывае ў роднай вёсцы. Балазе, ад райцэнтра недалёка — усяго восем кіламетраў. Разам з мужам выхоўвае дваіх дзяцей. Дачка Ірына вучыцца ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка на гістарычным факультэце, а сын Ілья — пакуль у шостым класе.

Замуж выйшла, будучы студэнткай Мінскага інстытута культуры. Адпрацаваўшы год пасля заканчэння вучылішча мастацкім кіраўніком Казловіцкага сельскага клуба, вырашыла атрымаць вышэйшую адукацыю. Ды на стацыянары вучылася ўсяго два гады, пакуль не выйшла замуж, пасля чаго перавялася на завочнае аддзяленне і вярнулася на ранейшае месца работы. Быў, аднак, у біяграфіі Камоцкай перыяд, калі памяняла работу — шэсць гадоў працавала выхавацелем у дзіцячым санаторыі «Случ». Але, па яе прызнанню, гэта нельга назваць выпадковым эпізодам у жыцці.

— Люблю гэты час, — гаворыць Алена Міхайлаўна. — За тое люблю, што прайшла вялікую настаўніцкую школу.

— У якім сэнсе?

— Трапіла ў жаночы калектыў, а ў ім, бадай, гэта ні для каго не сакрэт, усё ж цяжэй працаваць, чым у мужчынскім. Як бы вам сказаць.... Жанчыны больш эмацыянальныя, патрабуюць для сябе большай увагі. Жадаюць выказаць тое, што набалела, што на душы. Кожнага неабходна як мага тактоўней выслухаць. Кожнаму трэба дапамагчы добрым словам, парадай. Не менш важна і тое, ва ўсякім разе, менавіта так разумею гэта я, каб усё тое, пра што гаварылася, не выйшла далей за межы пакоя.

— Удавалася знайсці такі кантакт?

— Тое, што некаторыя наведвальніцы пасля прызнаваліся: «З вамі, Міхайлаўна, можна пра што заўгодна пагаварыць, і ўсё як у калодзеж упадзе», — бадай, само за сябе гаворыць.

Падобным чынам яна паводзіць сябе і цяпер:

— Я не шукаю якіх-небудзь спецыяльных падыходаў да падначаленых, нікога не імкнуся перарабіць. Хоць нярэдка і цяжка стрымацца, але стараюся не павышаць голас. Жаданнем абавязкова лішні раз напомніць, хто начальнік, нічога не дасягнеш і, наадварот, павагай, разуменнем чалавека, падтрымкай, уменнем зазірнуць у ягоную душу можна дамагчыся шмат.

Начальнікам аддзела культуры працуе з 2006 года. Пасля работы ў санаторыі «Слуцк» была вядучым метадыстам у раённым арганізацыйна-метадычным цэнтры. Паколькі на гэтай пасадзе зарэкамендавала сябе добра, то праз год, а было гэта ў 2000 годзе, прапанавалі стаць дырэктарам. І ўвесь час працягвала спяваць.

## АД МЯСАКАМБІНАТА — «ПАЧАСТУНАК»

Аб тым, наколькі паспяхова ў самім Слуцку і раёне развіваецца вакальна-харэаграфічны жанр, сведчыць ужо тое, што дванаццаць вакальных калектываў носяць званне «народны». Апроч ужо названых Казловіцкага хору і Ячаўскага фальклорнага ансамбля, гэта Вясейскі хор, ансамбль «Слуцкія паясы» і тэатр моладзі Лучнікоўскага цэнтра культуры, хор ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы гарадскога Дома культуры, ансамбль «Случчынскія святкі» гарадскога Дома культуры моладзі.



*Спявае галоўны спецыяліст аддзела культуры Мікалай Галадок.*

Ёсць свой народны хор і ў ТАА «Слуцкі мясакамбінат», а называецца ён «Пачастунак». Што ж, назва харошая, бо калі слухаеш выступленне гэтага калектыву, дык лішні раз упэўніваешся, што случане не толькі, жартам кажучы, ласы на каўбасы, а і могуць паднесці прыемны культурны пачастунак у якасці песні, якая за душу бярэ. Немалаважна і тое, што вопыт «Пачастунку» добра сведчыць на карысць таго, што не перавяліся яшчэ (ва ўсякім разе, на Случчыне) прадпрыемствы, кіраўніцтва якіх разумее, што не адзінай працай жывуць людзі. Правільней, чалавек лепей пачынае працаваць, калі ў вольную хвіліну можа заняцца тым, што для душы.

Усе названыя калектывы таксама пастаянныя ўдзельнікі абласных, рэспубліканскіх і нават міжнародных фестываляў і конкурсаў. Шмат у рабоце ім дапамагае раённы цэнтр народнай творчасці, пра што расказала ягоны вядучы метадыст Таццяна Яфрэмава:

— У нашым цэнтры створана камп’ютэрная база нотнай літаратуры, фанаграм для падбору рэпертуару калектываў мастацкай самадзейнасці. Увага надаецца і эстрадным спевам: на Случчыне арганізаваны 33 гурткі эстрадных спеваў. Салісты гарадскога

Дома культуры Алена Гудова і Мікалай Такалаў выступалі ў канцэртнай праграме абласнога конкурсу «Містэр Беларусбанк», што праходзіў у Старых Дарогах. Ансамбль жа цыганскай песні «Эльпіс», якім кіруе Вольга Гірэль, на Рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур стаў уладальнікам дыплома І ступені.

Гаворку працягвае Камоцкая:

— Вакальна-харавы жанр — гэта сапраўдная глыба. Случчына заўсёды спявала, пастаянна славілася сваімі харамі. Толькі гурткоў гэтага жанру ў нас 136, а ўдзельнічаюць у рабоце іх каля 1300 чалавек. Калі ж браць усе 367 клубных фарміраванняў, то гэта амаль чатыры тысячы. 28 калектывам прысвоена званне «народны» ці «ўзорны». У нас паспяхова развіваецца не толькі вакальна-харавы, а і харэаграфічны жанр. Праўда, гэта ў большай ступені тычыцца самога Слуцка.

Прычына відочная: адсутнасць у дастатковай колькасці фінансавых сродкаў. Далёка не кожны кіраўнік СПК можа дазволіць сабе падобныя выдаткі на самадзейнікаў. А для танцораў і касцюмы неабходны, і абутак. Дый упрыгожванні розныя, а гэта ўсё грошы. Прытым і немалыя. Тым не менш ёсць тыя, хто разумее неабходнасць далейшага развіцця харэаграфічнага жанру, стараецца дапамагчы.

## ШТО ВЫХАВАЕШ, ТОЕ І АТРЫМАЕШ

Алена Міхайлаўна адзначае такія калектывы, як узорны ансамбль «Дэмі-гран» пад кіраўніцтвам Антаніны Бялькевіч, «Канфеці», на чале якога Галіна Зданевіч, народны маладзёжны тэатр эстрады, над якім рупіцца Марына Бурчык.

— Асобна хочацца сказаць, — зазначае Камоцкая, — пра гарадскую музычную школу, якую ўзначальвае Наталля Сапелкіна.

На музычным выхаванні ў Наталлі Леанідаўны знаходзіцца 600 дзяцей. Да кожнага з іх выкладчыкам неабходна не проста знайсці індывідуальны падыход, а такі падыход, каб навучэнцы маглі засведчыць, на што кожны здатны як творчы чалавек. У немалой ступені гэта залежыць ад дырэктара школы, які спалучае ў адной асобе і кіраўніка, і арганізатара. Дый вопытнага педагога таксама.

Вынікі не прымушаюць сябе чакаць. На базе школы працуе толькі народных і ўзорных калектываў пяць. У некаторых з іх немалая біяграфія.

Летась сваё 30-годдзе адзначыў дзіцячы ансамбль «Радуга», што быў створаны выкладчыкамі школы Уладзімірам Трафімовічам і Леанідам Швядко. Уладзімір Мікалаевіч цяпер з'яўляецца кіраўніком гэтага калектыву. Ужо 10 гадоў ансамбль, у склад якога ўваходзяць удзельнікі рознага ўзросту — усяго 15 чалавек — носіць ганаровае званне «ўзорнага». У ягоным рэпертуары як песні для дзяцей школьнага ўзросту, так і складаныя джазавыя кампазіцыі. Паколькі выканаўчае майстэрства «Радугі» высокае, то калектыў неаднаразова выходзіў пераможцам у шмат якіх конкурсах і фестывалях.

У цэлым жа слуцкая музычная школа толькі летась атрымала сем міжнародных узнагарод. Яна прымала ўдзел у сямі міжнародных і рэспубліканскіх конкурсах, а таксама ў шасці абласных і шматлікіх рэгіянальных. Безумоўна, ёсць і навучэнцы школы, якія звярнулі на сябе ўвагу індывідуальна. Болей за іншых узнагарод, прынамсі, атрымала, удзельнічаючы ў розных музыкальных спаборніцтвах, конкурсах, Вікторыя Барадзіна, якая з'яўляецца намінантам спецыяльнай стыпендыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы маладых талентаў.

## АЖЫЛІ ПАДЗЕІ ДАЎНІЯ

Работнікі культуры Случчыны прымаюць самы чынны ўдзел у масавых мерапрыемствах, што праводзяцца ў горадзе і раёне. Тым больш у звязаных з юбілейнымі датамі. Прынамсі, так было летась, калі Слуцк адзначаў 85-годдзе раёна і Дзень горада. Пачаткам гэтага свята стала цырымонія ўскладання вянкоў і кветак да помніка воінам-вызваліцелям. Асноўныя ж урачыстасці пад назвай «Квітней, родная Случчына!» прайшлі на цэнтральнай плошчы горада, дзе з нагоды гэтага юбілею была ўзведзена спецыяльная сцэна.

Канечне, да таго, каб свята стала відовішчным мерапрыемствам, дало мажлівасць

адчуць, якая вялікая і багатая гісторыя ў горада над Случчу, а таксама лішні раз пераканацца ў цяперашніх важкіх набытках ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, спрычыніліся многія. Але ўклад работнікаў культуры ўсё адно адчувальны і значны.

Гэта яны пад кіраўніцтвам Камоцкай узялі на сябе асноўныя клопаты па арганізацыі і правядзенні тэатралізаванага прадстаўлення «Слуцк у эпохах», якое не магло пакінуць нікога абыякавым: ні саміх гараджан, ні гасцей, якія прыбылі на ўрачыстасці, а то і проста прыехалі ў гэты час у горад. Нібыта гадзіннік жыцця краіны імгненна павярнуў свае стрэлкі назад. Ды так зрабіў гэта, што ажылі падзеі даўнія, а на сустрэчу да гледачоў завіталі тыя, хто праславіў Слуцк у вяках.

Дзе яшчэ можна пабачыць знакамітую Анастасію Слуцкую, якая мужна дала адпор татарскім заваёўнікам, разграміўшы іх ля сцен горада! Але не толькі гэтая «жанчына-амазонка», як яе называлі многія, прайшлася вуліцамі Слуцка. Упэўнена крочылі і прадстаўнікі славутага магнацкага роду Радзівілаў, якія ў розны час валодалі гэтым горадам.

Безумоўна, сярод іх ёсць і супярэчлівыя асобы, ды ў адным ім нельга адмовіць. У тым, як клапаціліся яны аб працвітанні Слуцка. Як спрыялі развіццю ягонай прамысловасці, ствараючы розныя мануфактуры, у тым ліку тую, што выпускала слуцкія паясы, якія сёння вядомы ва ўсім свеце. А яшчэ дзякуючы Радзівілам Слуцк ператварыўся ў значны для свайго часу асяродак культуры, дзе працавалі тэатры, быў свой балет.

Вяртаннем у часы даўнія і слаўныя стаў турнір, які ладзілі тыя, хто ўваходзіць у Мінскі рыцарскі клуб. Дарэчы, гэта таксама добрая традыцыя: калі праводзяцца важныя мерапрыемствы, то на іх абавязкова запрашаюцца прадстаўнікі з іншых гарадоў. Калі ж «пець і гудзець», то лепей у хаўрусе. Таму калі вечарам урачыстасці заканчваліся канцэртам «З любоўю да Радзімы», то на ім выступалі не толькі мясцовыя самадзейныя артысты, а і зоркі беларускай эстрады.

Аднак і да наступлення вечара тыя, хто ва ўрачысты дзень не адседжваўся дома, не сумавалі. Працавалі выстаўкі «Случанскі сувенір» і «Узор радзімы васілька», экспазіцыя лепшых работ, выкананых дзецьмі, «Зямлі маёй хараство». Ладзілася таксама і экспрэс-выстаўка «Мы — случане!», віноўнікамі якой сталі навучэнцы мастацкай школы і дзіцячых школ мастацтваў.

## ЖНІВО — СПРАВА АГУЛЬНАЯ

Адно з няпісаных правілаў, якога пастаянна прытрымліваюцца работнікі культуры, заключаецца ў тым, каб працаваць не ізалявана, жывучы толькі сваімі турботамі, уласнымі праблемамі, а і актыўна супрацоўнічаць з мясцовымі сельскагаспадарчымі арганізацыямі. Гэтыя кантакты асабліва выразна праяўляюцца ў час асноўных работ на вёсцы.

Сярод іх, несумненна, на першы план выходзіць жніво, якое, хоць сёння і працуе на палетках сучасная высокапрадукцыйная і надзейная тэхніка, тым не менш патрабуе ад тых, хто шчыруе ў гэты час, асаблівых намаганняў. Таму людзі заняты работай на працягу ўсяго светлавога дня. Падняць настрой ім, пазбавіцца стомы дапамагаюць канцэрты, што ладзяцца непасрэдна на палявых станах. Непасрэдны ўдзельнік іх і сама Камоцкая, якую, куды б яна ні завітала, заўсёды сустракаюць з нецярпеннем і радасцю.

Ці не ў кожнай гаспадарцы ведаюць ужо, што мясцовы начальнік культуры зусім не кабінетны работнік, а з тых, хто паказвае іншым прыклад ва ўсім. Дзякуючы намаганням Алены Міхайлаўны на палетках, а таксама на таках прайшло больш як сто канцэртаў. Летась работа ў час жніва набыла і сваю адметнасць. Правільней, калі быць дакладным, на завяршаючай стадыі яго, пры падвядзенні вынікаў рупнай працы.

Як вядома, у 2009 годзе абласныя «Дажынкі» праводзіліся ў Любані, а таму дэлегацыі некаторых раёнаў, накіроўваючыся туды з боку Мінска, праязджалі праз Слуцк. Вось і вырашылі дарогу, што вяла ў цэнтр «Дажынак», аздобіць такім чынам, каб удзельнікі падвядзення жніва пастаянна адчувалі прысутнасць свята. Дзеля гэтага на трасе размясцілі больш за 20 пунктаў, што нагадвалі сабой імправізаваныя сялянскія падвор'і. Усё было як у жыцці. З адной хіба розніцай: ля кожнага такога падвор'я дэлегацыі сустракалі з песнямі, танцамі. А яшчэ добрымі сялянскімі пачастункамі.

Так было ў Гацуку, Шышчыцах, а калі бліжэй да Слуцка, то ў Леньках і Бокшыцах. Ля самага ж уезду ў райцэнтр размясціліся тры вялізныя, амаль у рост чалавека, лялькі — гэта пастараліся ўжо майстры Квасыніцкага цэнтра рамёстваў. Калі глядзелі на іх, у кожнага яшчэ больш падымаўся настрой. Здавалася б, нічога складанага ў тым, каб размясціць такія лялькі, але спярша трэба было паставіцца да ўсяго творча, падысці, па-руску кажучы, з «изюминкой». Што і было паспяхова зроблена, бо ў Алены Міхайлаўны фантазія, выдумка багатыя, а гэта не можа не спрыяць цікавым знаходкам у рабоце.

Квасыніцкі цэнтр рамёстваў павёз калекцыю лялек, выраблених мясцовымі майстрамі, і ў Любань. Прынялі ўдзел у абласных «Дажынках» і калектывы гарадскога Дома культуры — ансамблі «Лабірынт», «Кордэс», салісты Ігар Уранцаў і Людміла Хрыпачова, а таксама юная ўдзельніца Машачка Хрыпачова, для якой падрыхтавалі спецыяльную сцэнку на актуальную тэму.

Дый вядучая на свяце ў Любані была слуцкая — Наталля Барцэвіч з маладзёжнага цэнтра, якой, дарэчы, заўсёды даручаюць весці масавыя мерапрыемствы.

## ВАДЗІЦА З ДУХОЎНАЙ КРЫНІЦЫ

Дарэчы, пра сам Цэнтр рамёстваў. Адкрыты ён быў у 2001 годзе, калі старшынёй Слуцкага райвыканкама (тады ў Слуцку былі дзве адміністрацыйныя вертыкалі — раённая і гарадская) працаваў Зянон Ломаць. Наколькі шмат зрабіў Зянон Кузьміч для Случчыны — асобная гаворка. Ставіўся да ўсяго клопатна, падыходзіў па-дзяржаўнаму, рабіў так, каб пакінуць у людзей пасля сябе добрую памяць. Таму случане і ўспамінаюць яго з такой удзячнасцю.

Дзякуючы Ломацю я, працуючы на той час першым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Беларуская думка», змог пасля доўгага перапынку зноў пабываць у Казловічах. Калі гаворка зайшла пра тое, пра якія вёскі расказаць у матэрыяле, я і назваў Казловічы, патлумачыўшы прычыну сваёй цікаўнасці. Разам з Зянонам Кузьмічом і паехалі туды. Уражанні засталіся самыя добрыя. Цудоўны Дом культуры, плавальны басейн, школа, дзіцячы сад і яшчэ многае-многае іншае сведчылі на карысць таго, что мая родная вёска цудоўна жыве і развіваецца.

З адкрыццём Цэнтра рамёстваў з’явілася ў раёне яшчэ адна важная ўстанова культуры, што знаходзіцца ўсяго кіламетрах у трох ад Слуцка, а гэта выгадна пры правядзенні мерапрыемстваў з удзелам многіх наведвальнікаў, бо дабрацца ў Квасынічы нескладана.

Дарэчы, усе майстры, а гэта пяць накірункаў творчасці, — свае, мясцовыя. Выдатна працуюць з глінай, могуць вырабіць прыгожыя нацыянальныя лялькі. Паспяхова займаюцца салома- і лозапляценнем... Дый ткуць так, што адно заглядзенне. І гэта пры тым, што да адкрыцця Цэнтра вёска гэтая асаблiва і не славілася майстэрствам сваіх жыхароў. Атрымліваецца, што таленты ў людзей да пары да часу драмалі, пакуль іх не «разбудзілі».

З ткачых найбольш вядомая Наталля Барынь. Таццяна ж Алехнік займаецца лозапляценнем. Іна Пісарык робіць беларускія нацыянальныя лялькі, а Ларыса Рамановіч — гліняныя цацкі. Дый і ў іншых вёсках ёсць свае майстры, без твораў якіх не абыходзіцца ніводная выстаўка на Случчыне. Некаторыя з іх, як Алена Матыліцкая з Мусіч, працуюць у розных жанрах. Алена Іванаўна аднолькава ўмела працуе і з саломкай, і з пластыкам, і са стужкай. А яшчэ выпальвае па тканіне, робіць вырабы са скуры. Дый алейным жывапісам займаецца.

Усе яны ўваходзяць у клуб народных майстроў «Крылы творчасці», з’яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі па сутнасці ўсіх конкурсаў, аглядаў, якія праводзяцца па лініі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, а таксама Мінскага абласнога ўпраўлення культуры і абласнога Цэнтра народнай творчасці.

Радасна і тое, што падрастае юная змена, неабыякавая да таго традыцыйнага занятку, які на працягу стагоддзяў быў блізкім беларусам. 76 школьнікаў пад кіраўніцтвам вопытных майстроў авалодваюць у Цэнтры сакрэтамі розных народных промыслаў.

Нялішне сказаць, што і ў гэтым пачынанні, як і ў іншых, шмат дапамагае случанам упраўленне культуры Мінаблвыканкама і асабіста яго начальнік Анатоль Акушэвіч,




*Так калядуюць артысты з Казловіч.*

пра што Камоцкая ўзгадвала неаднаразова, калі гаворка заходзіла пра культурныя набыткі горада і раёна.

Алена Міхайлаўна ўпэўнена, што традыцыйная народная культура — тая невычэрпная крыніца, да якой чым часцей далучаешся, тым вада ў ёй становіцца больш чыстай, свежай, наталяючы смагу духоўнасці, высокай маральнасці. Таму так шмат і робіцца па яе адраджэнню, дзеля таго каб моладзь памятала пра тое, што вечнае і ва ўсе часы не страчвае свайго значэння. Для прыкладу, у Балотчыцах, Вясеі, Леньках, Мялешках ствараюцца куткі сялянскага побыту. Пры падлескім жа Доме культуры адкрываецца майстэрня-музей. Яшчэ адзін музей — этнаграфіі — з'явіцца ў вёсцы Леніна.

## ПРА «КІТАЙСКУЮ ПТУШКУ» І ІНШЫХ

Кнігу на слуцкай зямлі шануюць здаўна. Выпадак з тых, падобных якому, бадай, больш не напаткаеш: слуцкі князь Юрый Алелькавіч, які правіў, уласнаручна перапісаў Евангелле, якое, на шчасце, дайшло да нашых дзён, а Выдавецтвам Беларускага Экзархата выпушчаны ягоны факсімільны выпуск. Шанавалі кнігу тут і пры Радзівілах. Прынамсі, Багуслаў Радзівіл, належачы да высокаадукаваных людзей свайго часу, падарожнічаючы па Еўропе, стараўся набыць цікавыя кнігі. Аснову ж яго багатай асабістай бібліятэкі склала калекцыя князёў Алелькавічаў, якой карыстаўся вядомы гісторык Мацей Стрыйкоўскі, які на аснове матэрыялаў, пачэрпнутых з іхняга кнігазбору, напісаў вядомую «Хроніку польскую, літоўскую і ўсяе Русі».

Больш за тое, у другой палове XVII — пачатку XVIII стагоддзяў у Слуцку існавала друкарня. Усяго вядома 29 назваў кніг, што выйшлі ў ёй на польскай мове. Добра вядомая з іх «Манархія Турэцкая» П. Рыко, выдадзеная ў 1678 годзе. Яна цікавая і тым, што з французскай мовы яе пераклаў сам слуцкі губернатар К. Клакоцкі. Апроч таго, выдатна ілюстравана — змешчана 18 гравюр вядомага беларускага графіка Максіма Вашчанкі.

У Слуцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы, зразумела, сваёй друкарні няма, але тым не менш уласныя кніжкі тут з'яўляюцца рэгулярна. Ёсць камп'ютэр, ёсць прынтэр, а галоўнае — прысутнічае жаданне сеяць «добрае, разумнае, вечнае», то чаму б і не даць зялёнае святло брашурам, якія, хоць наклад іх і невялікі, усяго некалькі асобнікаў, заўсёды запатрабаваны. Дый чаму б і не цікавіцца імі чытачам, калі гэта акурат тое, што не заўсёды напаткаеш у салідных выданнях, але надзіва багатае на фактычны матэрыял. Ён жа, матэрыял гэты, вабіць тым, што звязаны з пэўнымі падзеямі, што адбываліся ў слуцкім краі, а часцей расказваюць пра знакамітых землякоў.

Адна з кніжачак называецца «Птушка, якая першай да Кітая даляцела». Што ж гэта за «птушка» такая? Ды ўраджэнец Слуцка Кандрат Карсалін, які першы з беларускіх мастакоў пабываў у гэтай экзатычнай краіне. У сакавіку мінулага года з дня ягонага нараджэння споўнілася 200 гадоў. Канечне, Карсаліна не аднясеш да тых, хто патрапляе ў сузор'е першай велічыні, але гэта не значыць,

што ягоная творчасць не ўяўляе цікавасці. Тым больш для тых, хто па крупіцах збірае звесткі пра сваіх таленавітых землякоў. Гэта і выклікала з'яўленне згаданай брашуры.

Не выпадкова з'яўленне і брашуры «Слуцкія Афіны»: выхад яе быў прымеркаваны да 390-годдзя з дня заснавання старэйшай школы Беларусі, пачатак якой колісь паклаў Януш Радзівіл. Цяпер гэта гарадская гімназія № 1, са сцен якой за столькі гадоў яе існавання выйшла шмат знакамітых людзей, сярод якіх філосаф, паэт другой паловы XVII ст. Ян Белаблоцкі, асветнік і кнігавыдавец Ілья Капіевіч, пісьменнікі Альгерд Абуховіч, Язэп Дыла, Георгій Бярозка, Мікола Лобан і іншыя.

У ліку тых, хто выйшаў са сцен «Слуцкіх Афінаў», а менавіта так некалі называлі гімназію ў Слуцку, і вядомы далёка за межамі Беларусі, і канструктар авіяцыйных і ракетных рухавікоў Сямён Косберг, якому прысвечана брашура «Властелин космических высот». Імем Косберга, дарэчы, названы кратэр на зваротным баку Месяца.

Увогуле ж, хоць бяры ды адкрывай у Слуцку свой музей касманаўтыкі — горад стаў стартавай пляцоўкай не для аднаго Косберга. Шмат хто іншы таксама ў розны час меў дачыненне да гэтага віду дзейнасці. Яны таксама не абыдзены ўвагай бібліятэчных работнікаў, а ў выніку і з'явіліся брашуры, у якіх прасочваецца жыццёвы шлях гэтых людзей, расказваецца пра іхнюю дзейнасць.

У прыватнасці, летась выйшла брашура «Яго зорнае неба». Гэтае інфармацыйна-біяграфічнае выданне прымеркавана да 160-годдзя з дня нараджэння расійскага астранома Вітольда Цэраскага, які заснаваў навуковую школу астрафотаметрыі. Заслуга Цэраскага ў тым, што ён адзін з першых вызначыў зорную велічыню Сонца і ніжнюю мяжу ягонай тэмпературы. Усяго ж Цэраскі вызначыў бляск больш як 500 зорак. Ён адкрыў існаванне так званых серабрыстых воблакаў. Таму невыпадкова, што яму, як і Косбергу, за такую плённую працу «падораны» кратэр на зваротным баку Месяца.

Назва ж брашуры «Генерал Герчик — начальник Байконура» як нельга лепш перадае сутнасць таго, кім быў герой гэтага аповеду. Ураджэнец вёскі Сорагі з'яўляўся другім па ліку начальнікам звышсакрэтнага савецкага выпрабавальнага ракетнага палігона.

Усе кніжачкі, што выйшлі рупнасцю слуцкіх бібліятэкараў, і пералічыць цяжка. Таму згадаю яшчэ толькі некаторыя з іх. Брашура «Улицы помнят» прысвечана 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Такім чынам увекавечана памяць удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, якія назаўсёды прапісаліся ў назвах слуцкіх вуліц. Даніна памяці героям — і брашура «Іх імёны заўсёды ў страі»: адзінаццаць чалавек са Случчыны загінулі ў Афганістане, выконваючы свой інтэрнацыянальны абавязак. Нельга спакойна чытаць і брашуру «Память не покинет наши сердца», у якой расказваецца пра гісторыю канцлагера, які гітлераўцы стварылі ў першыя дні акупацыі ў 1941 годзе ў Слуцку на вуліцы К. Лібкнехта (цяперашняя Віленская) на тэрыторыі ваеннага гарадка.

«Гісторыі сумленны знаўца» — аповед пра вядомага навукоўцу Анатоля Грыцкевіча, якому летась споўнілася 80 гадоў. «Золотой век Слуцкого пояса» — расказ пра ткацкія вырабы, што таксама паспрыялі вядомасці Беларусі ў свеце. Герой жа брашуры «Збіральнік народных скарбаў» — фальклярыст, этнограф, публіцыст, мовазнаўца, асветнік Аляксандр Сержпутоўскі.

Выйшлі таксама кніжачкі і пра іншых знакамітых людзей, якія нарадзіліся на Случчыне. Адметнасць усіх гэтых выданняў і ў тым, што ў канцы кожнай брашуры змяшчаецца бібліяграфічны матэрыял, таму найбольш цікаўныя чытачы могуць пазнаёміцца і з іншымі крыніцамі, у якіх адлюстравана пэўная тэма.

Такая карпатлівая, можна сказаць даследчыцкая праца не толькі запатрабавана, але і належным чынам адзначана. Летась Слуцкая цэнтральная раённая бібліятэка стала пераможцам рэспубліканскага конкурсу «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры» ў намінацыі «За пошукавую і даследчыцкую работу». У 2008 годзе такую ж высокую адзнаку атрымала праца супрацоўнікаў гарадской дзіцячай бібліятэкі-філіяла № 3.

Пошукавая ж дзейнасць бібліятэчных работнікаў мае некалькі накірункаў: «Случчына літаратурная», «Случчына экалагічная», «Мастакі Случчыны», «Гісторыя ў асобах» і іншыя. Відавочна, што кожны з іх перспектыўны. Як відавочна і тое, што вынікам далейшай работы стануць новыя брашуры.



*Людміла Гурыновіч (справа ў першым радзе) з бібліятэчнымі работнікамі.*

шмат хто кнігай, на жаль, не цікавіцца і трэба па сутнасці пачынаць з таго, каб прывіваць ім гэтую любоў, як і ўвогуле любоў да друкаванага слова. Усе навыкі, набытыя падчас працы ў аддзеле адукацыі, і спатрэбіліся, калі ўзначаліла раённую бібліятэчную сістэму.

Усяго на Случчыне 45 бібліятэк, сярод якіх пяць гарадскіх філіялаў, у тым ліку і такі, у якім абслугоўваюць сляпых людзей, а таксама тых, у каго слабы зрок. У цэлым гэта 38 тысяч чытачоў, якім прапануецца кніжны фонд у 528 тысяч асобнікаў. Улічваючы і тое, што знаходзіцца на электронных носьбітах.

Асноўныя працэсы ў бібліятэчнай рабоце аўтаматызаваны. Усе бібліятэкі аграгарадкоў, а іх дзевяць, маюць сучасную камп'ютэрную тэхніку, выхад у Інтэрнет, карыстаюцца электроннай поштай. У задумках — адкрыццё цэнтральнай бібліятэкай свайго сайта, што, несумненна, прыцягне яшчэ большую колькасць наведвальнікаў і адначасова паспрыяе больш хуткаму атрыманню неабходнай інфармацыі, прытым у большым аб'ёме.

Бібліятэкі Случчыны стараюцца разнастаіць сваю работу, праводзіць такія мерапрыемствы, якія б прыцягвалі ўвагу. Так, дзіцячая, якая ў 2008 годзе атрымала прэмію-грант Мінскага аблвыканкама «Бібліятэка года», некалькі гадоў запар праводзіць Віткаўскія чытанні — вядомы беларускі дзіцячы пісьменнік нарадзіўся ў вёсцы Еўлічы Слуцкага раёна. На гэтыя чытанні прыязджае калектыў рэдакцыі часопіса «Вясёлка» на чале з галоўным рэдактарам, таксама знакамітым пісьменнікам Уладзімірам Ліпскім, галоўным рэдактарам якога Васіль Вітка з'яўляўся доўгі час, з дня ягонага заснавання.

Філіял жа бібліятэкі № 1 адметны тым, што супрацоўнікі яго, а гэта дружная каманда ў складзе загадчыцы Галіны Сасіновіч, а таксама Ірыны Лук'янавай,

## СЕМ ЦУДАЎ

Ініцыятарам усіх гэтых добрых пачынанняў з'яўляецца дырэктар Слуцкай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Людміла Гурыновіч. Людміла Васільеўна замяніла на гэтай пасадзе Людмілу Лазоўскую — вопытнага, дасведчанага спецыяліста, якая аддала бібліятэчнай справе 30 гадоў працы.

Гурыновіч хоць і ўзначальвае сістэму ўсяго трэці год, навічком яе не назавеш, бо ў сферы культуры Людміла Васільеўна з 1989 года. Спачатку працавала ў Працавіцкай сельскай бібліятэцы, потым была загадчыкам аддзела абслугоўвання цэнтральнай бібліятэкі. Аднак у 2005 годзе, калі горад Слуцк і Слуцкі раён аб'ядналі ў адну тэрытарыяльную адзінку, ёй прапанавалі пасаду метадыста ў новаўтвораным аддзеле адукацыі.

Як быццам у нечым работа і не «профільная», але таксама шмат дала ёй. Бываючы ў школах, Гурыновіч змагла лепей вывучыць запатрабаванні сённяшніх вучняў, больш даведалася, што яны любяць чытаць. Але разам з тым не магла і не адзначыць, што

Алены Осіпавай, рэгулярна запрашаюць пісьменнікаў-землякоў, дый увогуле пастаянна ладзяць прэзентацыі цікавых кніг з удзелам аўтараў.

Творча працуюць і іншыя філіялы, у прыватнасці, Лучнікоўскі (загадчык Лідзія Субаткоўская), Вясейскі (загадчык Надзея Губчык), Казловіцкі (загадчык Тамара Жук) і іншыя.

Тон жа ў рабоце задае цэнтральная бібліятэка. Гурыновіч адзначае загадчыка аддзела маркетынгу Таццяну Варанчук, а таксама загадчыка аддзела інфармацыі і абслугоўвання чытачоў Галіну Пенязь, пры гэтым заўважае, што асабліва творча працуе каманда бібліёграфаў.

Бібліятэка з'яўляецца ўдзельнікам рэспубліканскага кансорцыума па аналітычнай распісцы дакументаў. Летась выйшла таксама і пераможцам у абласным конкурсе па стварэнні відэапрэзентацый, прапанаваўшы відэафільм «Сем цудаў Случчыны».

З гэтым фільмам з задавальненнем пазнаёміўся і я. У ім расказваецца пра такія слуцкія адметнасці, як Свята-Міхайлаўскі сабор, слуцкія паясы, Евангелле, перапісанае князем Алелькавічам, краязнаўчы музей, пра Сафію Слуцкую, якая так шмат зрабіла на праваслаўнай ніве...

Праўда, здзіўленне ў мяне выклікала тое, што ў гэты спіс не трапіла мужная Анастасія Слуцкая. Канечне, усё ахапіць немагчыма, тым не менш... Аказваецца, як патлумачыла мне Людміла Васільеўна, сем цудаў Случчыны вызначалі самі жыхары горада і раёна. Калі дакладней — тыя з іх, хто прыняў удзел у апытанні, што ў пачатку 2007 года праводзіла газета «Слуцкі край». Яны і аддалі перавагу Соф'і Слуцкай перад Анастасіяй Слуцкай.

Над фільмам працавалі Варанчук і мастачка Алена Вязнікоўцава. Падабралі і адпаведны фонд, так што ўражанне ад яго прыемнае не толькі з-за зместу. Калі Гурыновіч прапанавала мне запісаць гэты фільм на флэшку, ахвотна згадзіўся.

Дарэчы, з рэдакцыяй газеты «Слуцкі край» у бібліятэчных работнікаў вельмі цесныя сувязі, таму на яе старонках яны рэгулярна вядуць рубрыку «Кніжны праспект», расказваюць пра навінкі літаратуры, пра вядомых пісьменнікаў, прапануюць і літаратурныя віктарыны.

## ЯКІ ПАДЫХОД, ТАКАЯ І АДДАЧА

Заслугоўвае ўвагі і вопыт случан па рабоце з кадрамі. У гэтым сэнсе тут таксама ёсць чаму павучыцца. Прытым гэта тычыцца як стасункаў з маладымі спецыялістамі, так і ўвогуле з культасветработнікамі. Поспехі, калі можна так сказаць, на кадравым фронце відавочныя. Не ў апошнюю чаргу таму, што гэтае пытанне пастаянна знаходзіцца на кантролі ў вопытнага і дасведчанага працаўніка, галоўнага спецыяліста аддзела культуры Марыі Несцярчук.

Марыя Васільеўна не проста сумленна працуе, а душой прыкіпела да той справы, што даручана ёй. У тым, што горад і раён на 92 працэнты забяспечаны спецыялістамі (толькі творчых работнікаў 471 чалавек, усяго ж у сферы культуры працуе іх 511), і яе заслуга таксама. Між іншым, паказчык забяспечанасці кадрамі на Случчыне вышэйшы, чым у цэлым па Мінскай вобласці.

— Мы, — расказвае Несцярчук, — яшчэ ў 2006 годзе распрацавалі праграму «Кадры культуры», разлічаную на пяць гадоў. Для таго, каб аптымізаваць работу са спецыялістамі, набылі і ўстанавілі электронную праграму «Кадры». Каштоўнасць яе ў тым, што створаны рэестр, падабраны кандыдатуры з ліку найбольш перспектыўных супрацоўнікаў. Пры гэтым галоўная стаўка робіцца на мясцовыя кадры, што цалкам сябе апраўдала, бо, як засведчыў шматгадовы вопыт, сярод тых, хто прыязджае з іншых раёнаў, працэнт адсеву куды большы, чым ва ўраджэнцаў горада і раёна. Дома ж, як кажуць, і родныя сцены дапамагаюць.

Толькі за апошнія тры гады працаваць на Случчыну прыехалі 37 маладых спецыялістаў. Сярод іх 25 чалавек — ураджэнцы горада і раёна. Дый тыя, хто не мясцовы, пакідаць работу не спяшаюцца. Гэтаму спрыяе рашэнне Слуцкага райвыканкама аб выплаце адначасовай матэрыяльнай дапамогі на першапачатковае ўладкаванне ў памеры 10 базавых велічынь, а таксама тое, што па меры магчымасці маладым спецыялістам прапануецца месца ў інтэрнаце.

Немалая работа праводзіцца і з рэзервам кадраў. Для павышэння іхняга прафесіянальнага ўзроўню шмат даюць заняткі ў «Школе маладога бібліятэкара» і ў «Школе клубнага майстэрства» з удзелам вопытных спецыялістаў-практыкаў.

Для таго, каб работнікі культуры адчувалі сябе ўпэўненымі ў заўтрашнім дні, у 2007 годзе створаны жыллёва-будаўнічы каапературы «Культработнік». Дзякуючы такому кроку мясцовай вертыкалі ў хуткім часе 38 чалавек з тых, хто мае неабходнасць у паляпшэнні сваіх жыллёвых умоў, усяляцца ў дом, будаўніцтва якога пачалося летась. Дзейсна пра работнікаў культуры клапоціцца і кіраўніцтва на вёсцы. У прыватнасці, у вёсцы Падлессе быў выдзелены дом сям'і Гасанавых — муж працуе дырэктарам мясцовага СДК, а жонка — мастацкім кіраўніком у гэтай установе культуры. У інтэрнаце ж аграгарадка «Вежы» пасяліўся дырэктар тамашняга Дома культуры.

* * *

У фондах Слуцкага краязнаўчага музея захоўваецца тэкст верша «Да Слуцка» на латыні. Гэты твор наўрад ці выклікаў бы да сябе такую цікавасць, калі б не быў напісаны... у 1625 годзе. У перакладзе на беларускую мову верш гучыць так:

Родны мой горад, ты
слаўны са слаўных
У небе паўночным.
Ты Радзівілаў-князёў
дыядэма,
Ты гонар і іх
прыгажосць.
Слуцк, ты багаты
на золата і ўраджаі.
Для гарадоў жа
суседніх –
Сапернік адзіны ты ёсць.
Сад ураджайны,
карміцель багоў
дабрачынны,
Правадыроў пералічым
тваіх,
Святы абавязак кіруе
тваімі сценамі...
Слуцк, пераўзыдзеш ты
сябе прыгажосцю
Сваіх перамог.

Невядома, як склаўся ў далейшым лёс аўтара згаданага верша, вучня Слуцкай гімназіі Аляксандра Бянецкага, але, незалежна ад таго, якую прафесію ён выбраў у далейшым, несумненна, што шчаслівы. Нездарма кажуць: напісанае застаецца. Таму засталося ў гісторыі, ва ўсякім выпадку гісторыі Слуцка, Случчыны і ягонае імя. Засталося, бо тое, што выказаў Бянецкі ў сваіх радках 385 гадоў назад, актуальна і сёння.

Случчына — адзін з самых квітнеючых куткоў нашай Бацькаўшчыны. Правільным будзе сказаць і тое, што заўсёды наканавана жыць і культуры. Асабліва той, якая звязана з багатымі нацыянальнымі традыцыямі, вытокамі сваімі сягае ў глыбокую даўніну. Такую культуру і прапагандуюць на Случчыне. За што ім і вялікае дзякуй!



*З гісторыі*



# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА НА ФОТАЗДЫМКАХ ЯЗЭПА СТАБРОЎСКАГА

Больш як 95 гадоў таму — 1 жніўня 1914 года — пачалася Першая сусветная вайна. З пачаткам яе ў Беларусі разгарнулася мабілізацыя вайсковаабавязаных беларусаў на вайну. З аб'яўленнем мабілізацыі 17 ліпеня 1914 і ў адпаведнасці з сакрэтным прадпісаннем камандзіра трэцяй грэнадзёрскай артылерыйскай брыгады на выпадак вайны за № 675, выдадзенае ў 1913 годзе, на вайну быў мабілізаваны і Язэп Стаброўскі (1870-1968) са Слоніма. Той самы Язэп Стаброўскі, які вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе, а потым працягваў вучобу ў Александрыйскім артылерыйскім вучылішчы, дзе пазнаёміўся з будучым вядомым рускім пісьменнікам Аляксандрам Купрыным. Той самы Язэп Стаброўскі, які перапісваўся з Львом Талстым. А ў час ганення Талстога царскім урадам напісаў яму шчырае пісьмо ў знак падтрымкі пісьменніка, што нават у палку, дзе ён служыў, гэтым учынкам былі ўсе здзіўленыя. Той самы Язэп Стаброўскі, які служыў на Каўказе і вёў баі з Шамілём. Той самы Язэп Стаброўскі, які даслужыўся да палкоўніка, меў шмат ордэнаў і медалёў, які скончыў Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце, быў членам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства. Той самы Язэп Стаброўскі, які восенню 1924 года арганізаваў у Слоніме выставу старадаўніх дакументаў і кніг, якія збіраў шмат гадоў. Выстава тады выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод моладзі. Пасля яе закрыцця ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Язэп Стаброўскі паклаў у аснову гісторыка-краязнаўчага музея, які расчыніў дзверы перад слонімскімі наведвальнікамі 20 верасня 1929 года. Той самы Язэп Стаброўскі, які прызнаны яго землякамі самым знакамітым слонімцам XX стагоддзя.



*Перадавая застава.*

Але гэта будзе пазней. А тады, з пачаткам Першай сусветнай вайны,





*1. Ачыстка акопаў гіпасульфітанам.*

*2. Ажыўленне кіслародам атручанага газамі.*

*3. Рускі аэраплан, падбіты немцамі вясной 1916 года.*

*4. Маленькі бежанец, які згубіў сваіх бацькоў.*





Язэп Стаброўскі прыступіў да фарміравання 55-й артылерыйскай брыгады, якую сам і ўзначаліў. Вайну ён сустрэў на паўночна-заходнім тэатры баявых дзеянняў. Нямецкія войскі наступалі на Маладзечна, а аўстрыйцы — у раёне г. Сокал. Таму дзве рускія арміі пачалі адступаць, каб не трапіць у акружэнне. Сярод адступаючых была і 55-я пяхотная дывізія, да якой належала 55-я артылерыйская брыгада пад камандаваннем Язэпа Стаброўскага. Пра гэта ён успамінаў: «І вось усе атрады, якія знаходзіліся на плацдарме каля ракі Раўкі ў Польшчы, пачалі ўцякаць, бо германа-аўстрыйскія войскі не паспелі нам адрэзаць адступленне, і мы, паражняком, без баявых прыпасаў, якіх не хапала, без адпачынку, прайшлі і праехалі







*5.* *Параненыя ў шпіталі.*

*6.* *Бліндаж.*

*7.* *Фотаздымак на памяць.*

*8.* *На могілках.*

900 км і дасягнулі мястэчка Турэц Мінскай губерні, дзе і размясціліся на зімоўку…»

Адной з галоўных прычын такога развіцця падзей Першай сусветнай вайны Язэп Стаброўскі называў шпіёнскую дзейнасць, якая была разгорнута немцамі на фронце і ў тыле арміі Расійскай імперыі. «Усім было вядома, што рускі фронт быў перапоўнены афіцэрамі нямецкай нацыянальнасці і прытым на вышэйшых камандных пасадах», — пісаў Язэп Стаброўскі ў сваіх запісах, якія захоўваюцца ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі. Язэп Стаброўскі ўзгадвае пра двух затрыманых пры яго непасрэдным удзеле шпіёнах. Адзін быў вельмі ветлівы і нават перад простымі салдатамі здымаў капялюш, які яго і выдаў. Як аказалася



пасля затрымання, ён даўно знаходзіўся ў вышуку. Другога позна вечарам Стаброўскі сам заўважыў. Невядомы чалавек размаўляў з салдатамі. Яго затрымалі, але ніякіх дакументаў пры ім не знайшлі, акрамя аднаго рубля, які Стаброўскі ўзяў як рэчавы доказ і пад канвоем адправіў затрыманага чалавека да каменданта штаба корпуса. Аказалася, што нумар рубля быў яго канспірацыйным нумарам. Пазней шпіёна адправілі ў камендатуру Варшаўскай крэпасці.

Калі 55-я артылерыйская брыгада знаходзілася каля горада Блонь недалёка ад Варшавы, адной з найважнейшых праблем, якая паўстала перад Стаброўскім, было наладжванне сувязі, якая пастаянна перарывалася. Кабель часта абрэзвалі спецыяльна падрыхтаваныя людзі. Аднойчы вайскоўцы затрымалі яўрэя з Блоні, які хацеў перарэзаць тэлефонны кабель. За гэта яго расстралялі. Але ўсе роўна тэлефонныя кабелі псавалі. Тады Язэп Стаброўскі знайшоў выйсце. Ён загадаў узяць трох заложнікаў: рабіна, настаўніка і аднаго простага яўрэя і сказаў, што калі будзе яшчэ абрывацца тэлефонная сувязь — заложнікі будуць расстраляныя. Мясцовыя жыхары-яўрэі забілі трывогу і накіравалі да Стаброўскага асобную дэлегацыю з прапановай дазволіць ім наглядаць і ахоўваць тэлефонную лінію. Язэп Стаброўскі адпусціў заложнікаў, а тым, хто сачыў за лініяй, выдаў асобныя нумары, якія нашываліся на вопратку, і гэтыя людзі прыступілі да аховы. З таго часу тэлефонная сувязь больш не псавалася.

У баі з немцамі на рацэ Раўка пад Баржынёвым 18 мая 1915 года Язэп Стаброўскі быў атручаны ўдушлівым газам. Але яго ўдалося выратаваць. У лістападзе 1915 года ён прымае актыўны ўдзел у баях каля Баранавіч, у 1916 годзе — у баявых дзеяннях каля возера Нарач. Загадам № 3307 галоўнакамандуючага арміяй Заходняга фронту Язэп Стаброўскі быў узнагароджаны ордэнам Святога Роўнаапостальскага князя Уладзіміра IV ступені, да якога дадалі яшчэ мячы і каснік. 7 чэрвеня 1916 года Стаброўскі атрымаў званне палкоўніка рускай арміі, а яго 55-я артылерыйская брыгада была перайменавана ў 55-ы паркавы артылерыйскі дывізіён. У канцы 1916 года Язэп Стаброўскі атрымаў яшчэ адзін ордэн Святога Роўнаапостальскага князя Уладзіміра III ступені, а таксама ордэн Святой Ганны II ступені з мячамі.

У войску Язэп Стаброўскі знаходзіўся ажно да красавіка 1918 года. А калі пайшоў у адстаўку, вярнуўся ў родны Слонім і да канца жыцця займаўся краязнаўствам.

У гады Першай сусветнай вайны Язэп Стаброўскі не толькі ваяваў, але вёў запісы і фатаграфаваў будні салдат, жахі вайны, людское гора. А калі прыехаў у Слонім, то зрабіў адмысловы альбом са здымкамі. Гэты альбом ён назваў «Крывавым следам». Ён налічвае 300 фотаздымкаў. Кожны здымак Стаброўскі падпісваў, рабіў невялікі каментарый. Альбом Язэпа Стаброўскага збярогся да нашых дзён. Ён захоўваецца ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага.

Фотаздымкі Першай сусветнай вайны Стаброўскага — гэта сведкі нашай нялёгкай гісторыі. Некаторыя здымкі прапануе чытачам «Маладосці». Усе яны друкуюцца ўпершыню. Упершыню друкуецца і здымак маладога Язэпа Стаброўскага.

***Сяргей ЧЫГРЫН***



*Займальнае мовазнаўства*

Іван ОСІПАЎ

# З РОДНАЙ ГАВОРКІ

Кожны з нас чуў размову сваіх бабуль і дзядоў і заўсёды пытаўся: «Пра што яны кажуць?» Мы добра разумеем іх, але здараецца, мы чуем незнаёмае слова, якое так і просіцца, каб хто патлумачыў яго. І гэта толькі адно слова, а колькі такіх слоў?

Але нярэдка ўзнікае пытанне: «А што азначае тое ці іншае спалучэнне слоў? Калі іх выкарыстоўваюць?» Вось так і нараджаецца прага да незнаёмага роднага слова, родных гаворак, прыказак, прымавак, выслоўяў і да ўсяго вуснага скарбу нашых бабуль і дзядоў.

Такімі пытаннямі быў зацікаўлены і я, пачынаючы вывучаць тапаніміку сваёй вёскі. З цягам часу вельмі цікавая тапаніміка зацягнула мяне ў вывучэнне слоў (частак хаты і печы, назваў жывелін і раслін, назваў страў і прадметаў побыту і гэтак далей). Вось і на гэтым этапе я заўважыў, што не толькі словы, назвы маюць магутную сілу гутаркі і вуснага скарбу маіх бабуль і дзядоў, але і выкарыстаныя ў пэўны час спалучэнні слоў — прыказкі, прымаўкі, выслоўі, параўнанні.

Дзякуючы таму, што я заўсёды зацікаўлена слухаў размовы вяскоўцаў, даводзілася пытацца: «А што гэта? А чаму так?» Так і пачалася мая малая, але і вялікая справа — запісаць, даведацца, пачуць усё, што тычыцца роднай вёскі і наваколля.

І вось ужо на летніх вакацыях я сабраў свой інвентар (сшытак, аловак) і пайшоў «шпацыраваць» па вёсцы, запісваючы ўсе, што трапляла мне ў вуха. Спачатку я вызначыў тых людзей, якія бліжэй да мяне па сваяцтву. Так было прасцей набірацца вопыту «апытання» і атрымаць шмат чаго цікавага і новага. Але праз колькі такіх «шпацыраў» здавалася, што ўжо ўсё, няма больш нічога… І вось тут адыграў сваю ролю выпадак. Я прыцягнуў з палігона адходаў гладышку, кошык і яшчэ розныя рэчы і паказаў сваёй бабулі — і адразу ж пачуў новую прыказку… Гэтыя абставіны паказалі мне, што прыказка, прымаўка сядзяць як грошыкі ў кішэні — пакуль няма чаго купляць, яны схаваны, а калі ёсць тавар — з’яўляецца і гэты скарб. Так я і пачаў яшчэ больш уважліва слухаць і прыслухоўвацца да кожнага слова і кожнага чалавека, выбіраючы месцы, дзе збіраецца шмат вяскоўцаў (на пачатку адкрыцця крамы, пры прыездзе аўтобуса, пры сустрэчы кароў з пашы).

Простая зацікаўленасць да «старога», роднага слова і роднага кута прынесла яшчэ шмат цікавага і «жывога». У такім разе трэба сказаць, што жывое слова, як крыніца падсілкоўвае ручай, жывіць сваёй непаўторнасцю і нас, цяперашніх беларусаў — жыхароў дваццаць першага стагоддзя.

**1. А не ж не!** *Высл.* А чаму не? Канечне!
*— Ты ўжо за грыбамі схадзіў? — А не ж не!*

**2. А то ж то!** *Высл.* Дакладна так! Так!
*— Яно, відно, тое добра так узараць! — А то ж то!*

**3. Бач!** *Высл.* Паглядзі! Увага!
*— Бач! Ляціць арол, ось тамака!*

**4. Вярнай!** *Высл.* Зварочвай, павярні ўправа (улева).
*— Вярнай! Чаго цябе нясе на палянку!*

**5. Каўтані!** *Высл.* Выпі вады!
*— Каўтані капку — лешай стане!*

**6. Прылабунься!** *Высл.* Выпі суп з міскі!
*— Чаго боршч не даеў? Прылабунься! Тады пойдзеш на двор!*

**7. Пагуляй!** *Высл.* Пачакай!
*— Пагуляй! Не чапай яго, хай ужо зробіць!*

**8. Цякай!** *Высл.* Адыдзі!
*— Цякай адсюляка! А то конь задавіць!*

**9. Якіся абы якіся.** Ніякі. Ні тое ні сёе.
*— Што з таго кабана? Ен жа ж якіся абы якіся, хай яшчэ расце!*

**10. Татачка мой!** *Высл.* Зварот да дзіцяці ці роднага чалавека.
*— Татачка мой! Для чаго табе тое смецце! Не цягні яго сюды!*

**11. Недасол на стале — перасол пад сталом (на галаве).** *Прык.* Вельмі салёнае снеданне ці вячэра (ежа).
*— А сягоння ў цябе недасол на стале — перасол пад сталом (на галаве)! Ну і так добра!*

**12. Дзюбку звярнуў!** *Высл.* Наеўся — што ўжо не можаш далей есці.
*— Што, дзюбку звярнуў! Казала я табе — не трэба столькі есці!*

**13. Ранняя, кажуць, не родзіць і насення не водзіць.** *Прым.* Калі рана пасееш — не будзе добрага ўраджаю.
*— Нешта сёлета рана сеем бульбу! — А што рабіць? Хоць і кажуць: ранняя бульба не родзіць і насення не водзіць!*

**14. Урэдку-ўсцежку топіцца печ.** *Параўн.* Пакінутае месца (хата).
*— Урэдку-ўсцежку топіцца тутака печ. Няма тут ужо нікога! Толькі прыезжае летам сын, да і то не кожан год.*

**15. Ладненькага ўзяў!** *Высл.* Поспех, добры выпадак.
*— А, я сягоння ладненькага ўзяў! Воз грыбоў прывёз!*

**16. Што згарыць — то не згніе!** *Высл.* Што ж тут зробіш? Хай яно ідзе як ідзе! Хужэй за гэта няма чаго!
*— Дык, я ж яго (цяля) лячыў, лячыў, зімой у хату забіраў, а ўсё адно памерла яно! Шкада! — Э-э, што згарыць — то не згніе!*

**17. Хай гніе!** *Высл.* Усё, больш няма сіл! Няма чаго тут парабіць! Усё тут!
*— Няма сілаў ужо жукоў (каларадскі жук) тых збіраць! Хай яно гніе!*

**18. Прыйдзе Ілля — прынясе гнілля.** *Прым.* Пры надыходзе Іллі (2 жніўня).
*— Ты ўжо сена пасушыў? — Не. — А паспееш? А то глядзі, казалі, прыйдзе Ілля — прынясе гнілля! Усё тваё сена згніе!*

**19. Штось мне рупіцца, каб вы ўсё ўзялі!** *Высл.* Турбота, клопаты.
*— Усё сабралі, моркву, буракі, капусту ўзялі? Штось мне рупіцца, каб вы ўсё ўзялі! Тады ўжо ў другі раз прыедзеце.*

**20. Не лаемся, не гамонім і адзін да аднаго не ходзім.** *Прым.* Ён мне не вораг, але і не сябар...
*— А, тая баба (баба Мархвачка) нам родзіч, а пракалісь яна нам шкоду утварыла… дак, мы і сягоння не лаемся, не гамонім і адзін да аднаго не ходзім.*

**21. Усе такія і адзін аднаму не вераць.** *Высл.* Усе маюць свой розум і робяць так, як лічаць, нават калі гэта няправільна.
*— Бацька яму казаў: болей рэж — а ён усё адно не так зрабіў. Усе такія і адзін аднаму не вераць!*

**22. Чаго цябе Хімці за коўбак давіць!** *Высл.* Чаго крычыш?! Што ты робіш?!
*— Куды лезеш (да сабакі)? Чаго цябе Хімці за коўбак давіць?!*

**23. Гора яго душу знае!** *Высл.* А хто яго ведае! Чорт яго ведае! Я не ведаю.
*— Гора яго душу знае, ад чаго так гэты лес называецца!*

**24. Лісічка-прамудрычка ямачкі капала — каменьчыкі хавала.** *Забаўл.*

**25. У полі крадзеш — і лес бачыць!** *Прык.* Усё патаемнае становіцца ясным.
*— Я бачыла, учора ты ступу прынес у двор. Каб хто не пабачыў! А то ў полі крадзеш — і лес бачыць!*

**26. Казалі: тры кароўкі худыя, тры гладкія — калі тры худыя з'ядуць тры гладкія — усё роўна худымі і застануцца.**

*Прым*. Што ні рабі, але ўсё роўна застанецца на сваім месцы.

*— Ты ўжо нічога не зробіш па-іншаму. Казалі: тры кароўкі худыя, тры гладкія — калі тры худыя з'ядуць тры гладкія — усё роўна худымі і застануцца.*

**27. Квокае, нача то дзіркач пад гарой.** *Параўн*. Параўнальны матыў нейкага гуку (скрып).

**28. Папрыходзяць — галаву дураць бабе.** *Прым*. Госці прыйдуць — ніякай працы нельга будзе зрабіць.

*— Да, прыходзіла баба Воля, дак я і не ўпарадкавала нічога. Папрыходзяць — галаву дураць бабе!*

**29. Мм, негадкі.** *Высл*. 1) пад'еў, што сыты і гатовы ісці, ехаць ці добра працаваць; 2) апрануўся так, што гатовы хоць на Поўнач ісці (калі халоднае надвор'е).

*— Ну, негадкі — ідзі гуляй зараз на двор, нічога табе не страшна!*

**30. Гора дый годзе нам!** *Высл*. Усё добра! Нічога страшнага! Сёння пагана — заўтра лепей будзе.

*— Дождж вялікі не дае нам сена пасушыць! Ды нічога, кажуць, заўтра ўжо сонейка выскаліцца. — Гора дый годзе нам! Будзем заўтра ўжо сена сушыць.*

**31. Гушча дзяцей не разгоніць.** *Прым*. Разам будзе лепей; у адзінстве — сіла.

*— А вы разам ідзеце, будзе спарней работа… Гушча дзяцей не разгоніць — управіцеся хуценька і пойдзеце гуляць.*

**32. Ніхто нічога такога!** *Высл.* Адкуль нам вядома? Неведама адкуль такое!

*— Так, яно тое даўно было, у нас у вёсцы ніхто нічога такога і расказаць не можа.*

**33. Няхай будзе грэчка, — казаў і той!** *Прык*. Не ўсе рэчы, праца простыя, як гэта бачыцца на першы позірк (на першы раз).

*— А што тое ён зрабіў? — Вырашыў свой хлеў накрыць рубероідам! — дак, яно ня харашэ, няхай будзе грэчка, — казаў і той, во яка яно!*

**34. Колькі ўклёку.** *Высл*. Тычыцца здароўя і азначае — які здаровы (дужы).

*— Ён мяшок у дзьвух руках мне прынёс — во колькі ўклёку ў яго.*

**35. Каб цябе пранцы з'елі!** *Высл. (праклён*). Пранцы — сіфіліс. Каб пакаралі за нядобры ўчынак.

*— Етае яны яблыкі кралі ў нас! Каб вас пранцы з'елі!*

**36. Чаго цябе гора за коўбак давіць?!** *Высл*. Чаго крычыш, брэшаш. Супакойся! Ідзі ў будку! (Да жывёліны.)

*— Чаго ты брэшаш? Каго пабачыў?.. Чаго цябе гора за коўбак давіць?!*

**37. Чаго цябе гарачка бярэ?!** *Высл*. 1) чаго крычыш, брэшаш?! 2) нешта не атрымалася ці нейкая рэч «пабегла» ад чалавека пры працы.

— Чаго ты коцішся (пра мяшок)?! Чаго цябе гарачка бярэ?!

**38. Чаго цябе гора панесла?!** *Высл*. Нешта не атрымалася ці нейкая рэч «пабегла» ад чалавека пры працы.

*— Чаго цябе гора панесла! Стой, не тупай, перsucc!*

**39. Скарынку астаўляеш — сілку пакідаеш.** *Прым*. Трэба даесці ўсе, што далі на снеданне, абед, вячэру.

*— Чаго не даеў? Пойдзеш у грыбы — сілаў не будзе! Скарынку астаўляеш — сілку пакідаеш!*

**40. Адна бяда не ходзіць — другую за сабой водзіць**. *Прык*. Ніколі не расслабляйся, бо па жыцці заўсёды ёсць нейкія праблемы. Сення адна праблема (бяда), а заўтра будзе другая — так было заўсёды.

*— Дык, тое ехалі мы ўчора — і аглобліна зламалася, тады знайшлі асінавую, замянілі яе і далей паехалі. Колькі метраў праехалі — хамут развязаўся! Да самай ночы так і ехалі! — так яно так, адна бяда не ходзіць — другую за сабой водзіць!*

**41. І адсюляка горача і адтуляка боляча**. *Прык*. Паўсюдна існуе нешта адмоўнае. Там нешта не так зрабіў, тут нешта не так атрымалася.

*— Да й не ахвота нічога рабіць — усё нешта не магу… і адсюляка горача — і адтуляка боляча!*

**42. Адзін з сошкаю, а сямёра з ложкаю.** *Прык*. На адным гаспадары іншыя трымаюцца.

*— А ў іх во толькі Іван за плугам і з касой. А яны дайжа не памагатыя! У іх, як казалі, адзін з сошкаю — а сямера з ложкаю.*

**43. Свет вялікі, але дзецца недзе.** *Прым*. Некалі дарогі прывядуць у адно месца (сустрэцца можна нават у нечаканы момант).

*— Я ж тое Хведара бачыў ў Арле! А што ён тамака рабіў? — Хату сабе купіў! Во яка яно, свет вялікі, але дзецца недзе!*

**44. З грамаці — хлеба не гамаці.** *Прык*. Адукацыя нічым не дапаможа.

*— Паеду вучыцца. — А яно табе тое трэба? Далёка ад хаты, ад бацькі. Э-эх, з грамаці — хлеба не гамаці. Аставаўся б тут.*

**45. Цешцеся тым рогам, якім дастаецеся.** *Прык*. Разлічвайце на свае ўласныя сілы.

*— Яны тое, машыну і багата яшчэ чаго хацелі! А ім кожан раз кажу — цешцеся тым рогам, якім дастаецеся!.. Не атрымліваецца — хай будзе што ёсцека.*

**46. Што шукаў, тое і знайшоў.** *Прым*. Што жадаеш — тое і здарыцца рана ці позна.

*— Яго кабыла капытом стукнула, дак ён перакуліўся колькі разоў, ды нічога, жывым застаўся. — Канечне, ён жа ж ускрозь лезе не туды, куды трэба, што шукаў — тое і знайшоў!*

**47. Хоць локаць блізка — але не ўкусіць.** *Прым*. **Н**а першы позірк проста, але трэба шмат працы зрабіць, каб нешта атрымалася.

*— Я ўчора думала: да кароў спраўлюся — але да самай вячэры ў паграбе прасядзела. — Хоць локаць блізка — але не ўкусіць, во табе і цыбуля!*

**48. Каб твае рэчы табе ў плечы.** *Высл*. Калі ты мне нядобрае гамоніш — каб яно да цябе ішло.

*— Ты глядзі, яблыкі так не рэж, а то парэжаш пальцы. — Каб твае рэчы табе ў плечы! Не кажы такое!*

**49. Прыйдзе Пятро — забярэ ўсіх мошак у вядро.** *Прым*. Прыйдзе час, калі не будзе ўжо мошак, бо дагэтуль было высыпана мяшок і тры мяшкі мошак.

*— Мошкі ўжо ўсю худобу паелі! — Не турбуйся, скора Пятро — тады мошак не будзе! Прыйдзе Пятро — забярэ ўсіх мошак у вядро!*

**50. Скрыпіць, нача то Аверкаў воз.** *Параўн.*

*— Штосьці дзверы ў хлеў скрыпяць, нача то Аверкаў воз.*

**51. Як трывога — тады да Бога.** *Прым*. Самі нічога не могуць зрабіць, а ходзяць заўсёды за дапамогай — як маленькія дзеці.

*— Калі што, дык да твайго бацькі адразу, самі нічога не могуць. Як трывога — тады да Бога!*

**52. Вуха адарвецца — глёк разаб'ецца.** Прым. Асцярожнасць ва ўсім.

*— Ты ціхенька етае рабі! А то, як казалі, вуха адарвецца — глёк разаб'ецца!*

**53. Ціпцюха малая.** *Параўн*.

**54. Грамату за плячыму(а) не насіць.** *Прым*. Колькі ні вучыся, усё роўна грамата нічога не важыць — і не клоніць чалавека да зямлі. Трэба вучыцца — каб хлеб свой мець.

*— Вучыся, вучыся — тады працаваць будзеш! Кажуць, грамату за плячыму не насіць!*

**55. Ляцелі граблі цераз балота… — яка плата — така і работа.** *Прык*. Кожная праца мае свой кошт. Першая частка азначае — усё будзе зроблена дарма (дрэнна), калі...

*— Ён так ёй дровы пакалоў, што самой яшчэ раз прышлося за калун брацца! Ось які работнічак! — Дак, яна ж толькі чарку і паставіла! — Казалі, ляцелі граблі цераз балота… — яка плата — така і работа.*

**56. Хадзіў бы ў золаце, кабы не было дыры ў роце!** *Прык*. Трэба мець розум у выкарыстанні грошай!

*— Ён жа ж добры хлопец! І зарабляе добра — а ўсё адно няма грошай у іх! Ён бы хадзіў у золаце, кабы не было дыры ў роце!*

**57. — Нашто іголку ўкраў? — Калі? — Ікаўку скалі!** *Замова ад ікаўкі.*

*Мая прафесія*

# ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



***На першы погляд нічога мудрагелістага ў гэтай прафесіі няма. У кожнай сям'і штодня гатуюць. І што складанага, каб падсмажыць яечню або зварыць кашу? Аднак, вывучыўшы гісторыю кухарскай справы, пачынаеш разумець, што гатаванне ежы — сапраўдная навука. І тады да чалавека, які авалодаў кухарскім майстэрствам, адчуваеш павагу. На працягу ўсяго нашага жыцця, пачынаючы ад дзіцячага садка і школьнай сталоўкі, а потым у кафэ, рэстаранах, мы адчуваем асалоду ад кулінарных вынаходніцтваў, бо там гаспадараць чараўнікі смаку і пахаў — кухары.***

***Сёння мы працягваем вас знаёміць з прафесійна-тэхнічнымі ўстановамі нашага горада і пагаворым пра Мінскі дзяржаўны ПТК кулінарыі, які рыхтуе кухараў, кандытараў, афіцыянтаў і барменаў. Але спачатку звернемся да гісторыі самога кухарскага мастацтва і яго асаблівасцей. Гэтая прафесія была запатрабаваная і папулярная ва ўсе часы, яна мае старадаўнюю гісторыю.***

## АЎГУСТ, ТЫБЕРЫЙ, ДЗЮМА-БАЦЬКА І ІНШЫЯ

Гісторыя развіцця чалавецтва са старажытных часоў і да нашых дзён ведае надзвычайныя ўзлёты мастацтва гатавання ежы. Дзесяткі тысяч страў стварыла сусветная кулінарыя. Калі ў старажытнай Спарце да харчавання ставіліся стрымана: у вайсковым паходзе трэба абыходзіцца простай ежай, — то ў суседніх Афінах удасканальваліся ў мастацтве гатавання розных страў. Да прыкладу, каб згатаваць незвычайную святочную страву, дробненькую масліну запякалі ўсярэдзіне голуба, голуба — у казляняці, казлянё — у авечцы, авечку — у быку. Усё гэта пяклося на ражне, і самы ганаровы госць атрымліваў тую самую масліну.

Свайго росквіту кулінарыя антычнасці дасягнула ў эпоху Старажытнага Рыма. Само слова *кулінарыя* паходзіць ад лацінскага *culina*, што азначае кухня. Прэстыж кулінараў у тыя часы ўзняўся на нечуваную вышыню: радавітыя патрыцыі і імператары проста абагаўлялі балі з пачастункамі! Пры імператарах Аўгусту і Тыберыю былі арганізаваны першыя школы кулінарнага мастацтва на чале з вялікім кухарам Апіцыем. Апіцый быў першым сапраўдным прафесіяналам у гэтай галіне: стварыў кулінарныя кнігі, навучаў на свае сродкі кухараў і нават утрымліваў у Рыме філасофскую школу.

Дарэчы, у развіцці кухарскай справы бралі ўдзел не толькі прафесійныя кулінары, але і навукоўцы, пісьменнікі, філосафы, дзяржаўныя дзеячы. Вядома, што вынаходнікамі новых страў былі кардыналы Рышэлье, Мазарыні. Мішэль Мантэнь напісаў кнігу «Навука харчавання». Дагэтуль у італьянскіх рэстаранах папулярныя стравы, вынайдзеныя кампазітарам Расіні. Францыя ганарыцца, што ўнёсак у нацыянальную кулінарыю зрабілі Дзюма-бацька і Бальзак. Між іншым, Дзюма-бацька сцвярджаў, што галоўны твор ягонага жыцця — «Вялікі кулінарны даведнік». Гэтую кнігу і сёння можна чытаць як захапляльны раман. Больш

таго, літаратура, як ён сцвярджаў, усё жыццё даводзіла яго да галечы, а кулінарыя зрабіла заможным чалавекам.

А што ў нас, у беларусаў?..

## НЕ ТОЛЬКІ ДРАНІКІ І БАБКА...

Калі пачала існаваць уласна беларуская кухня, дакладна ніхто не скажа. Гісторыя некаторых страў сягае ў глыб двух тысячагоддзяў. Нярэдка чуеш, што галоўнае месца ў меню беларусаў займае бульба. Яе вараць цалкам і парэзаную на кавалкі, запякаюць і смажаць. З цёртай бульбы гатуюць дранікі і бабку, клёцкі і калдуны. Налічваецца больш як 500 бульбяных страў, таму і называюць яе на Беларусі другім хлебам. Але не сакрэт, што бульба прыйшла да нас усяго тры стагоддзі таму — спярша з'явілася на магнацкім стале напрыканцы XVII ст., доўгі час была экзотыкай нават сярод шляхты. А паспаліты люд увогуле спачатку не ўспрыняў яе, ахрысціў «праклятым земляным яблыкам». І вельмі доўга нашай «бульбай» была рэпа! А цяпер яе вырошчваюць хіба што на корм жывёлам.

Калі пазнаёміцца з гісторыяй кулінарыі нашай краіны, можна ўпэўнена сказаць: гатаваць тут любілі заўсёды. Мастацтва кухараў часоў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай здаецца фантастыкай. Прыгатаванне ласіных губ у падсалоджанай поліўцы, якое ўзгадваецца ў «Дзікім паляванні караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча, для кухараў пры магнацкіх палацах і шляхецкіх сядзібах было звычайнай справай. У дадатак вам падалі б цэлага шчупака, траціна якога засмажана, траціна зварана, а траціна — запечана. Ну, і на заканчэнне — верх кулінарнага мастацтва. Праўда, на аматара: «жывая» запечаная курыца! Існуе паданне, што кухары экстра-класа, гатуючы курыцу да шляхецкага застолля, нейкім асаблівым чынам змазвалі яе галаву воцатам. У выніку ўжо запечаная, зразумела, што нежывая птушка нібыта квахтала, калі яе разразалі! І наогул, прыстойны кулінар на той час проста абавязаны быў ведаць, як прыгатаваць з каўбасы дванаццаць страў, а калі ён служыў магнату, то і дваццаць чатыры. Так у сваім дзённіку адзін беларускі шляхціч апісвае велікодны сняданак 1632 года ў маёнтку магната Сапегі. Да стала падалі: чатыры запечаныя кабаны — столькі, колькі пораў года; дванаццаць аленяў з залачонымі рагамі — колькасць месяцаў у годзе; пяцьдзесят два запечаныя парсючкі — колькасць тыдняў — і 365 кулічоў, прыгатаваных па асабліваму рэцэпту, — колькасць дзён на год.

Вельмі цяжка аддзяліць беларускую кулінарыю ад польскай, літоўскай ці ўкраінскай. Нашы народы доўгі час жылі ў адной дзяржаве, і большасць адрозненняў у культуры, у тым ліку і ў кухні, сцерлася. Аналагі класічных беларускіх страў, да прыкладу, мачанкі і верашчакі, ёсць і ў літоўцаў. Яны лічаць іх сваёй нацыянальнай ежай. Дарэчы, верашчака ўзнікла ў сярэдзіне другой паловы XVIII ст. і з'яўляецца адным з магчымых варыянтаў мачанкі — мясная поліўка з каўбас, у якую мачаюць бліны. Мяркуюць, што назва паходзіць ад прозвішча кухмайстра апошняга нашага манарха — Аўгуста Панятоўскага, які і вынайшаў гэтую страву. А папулярнасць страве ў XIX ст. прынесла супадзенне назвы з прозвішчам каханай Адама Міцкевіча — Марылі Верашчакі.

Калі хтосьці з народаў былой Рэчы Паспалітай рабіў нейкае вынаходніцтва ў кулінарыі, яно праз пэўны час непазбежна трапляла да суседзяў. Так адбылося і з халадніком — стравай, вынайдзенай у Вялікім княстве Літоўскім. Спачатку палякі кпілі з яе, лічылі варварскай і «хлопскай». Але недзе з XVIII ст. *chłodnik litewski* стала прапісаўся ў польскай кулінарыі. А вось мода на селядцоў прыйшла да нас ад палякаў, бо яны мелі бліжэйшы выхад да мора. Але і нашыя продкі пазнаёміліся са смакам балтыйскага селядца таксама досыць рана. Пэўны час манаполію на прамысловую лоўлю і гандаль селядцамі на Балтыцы мелі немцы, і Дзвіна была тым першым шляхам, па якім селядцы праз Рыгу траплялі ў Беларусь. Але гэтаму перашкаджалі войны з крыжакамі, імпарт быў нестабільны. Толькі пасля перамогі пад Грунвальдам і паражэння нямецкіх рыцараў сітуацыя ў гэтай зусім не геапалітычнай справе памянялася да лепшага.

Што тычыцца ўкраінцаў, боршч у іх на Радзіме лічыцца культавай нацыянальнай стравай, але насамрэч, як і суп з капусты — па-руску *щи*, а па-нашаму проста *капуста*, або *капуснік* — гэта агульнаславянская з'ява. Такая ж «беларуская» і грэчка. Яе амаль не спажываюць на захадзе Еўропы. А ў нас яна вядомая яшчэ з часоў Полацкага княства,

калі трапіла сюды з Візантыі, ад грэкаў — таму і назва такая. Усе, напэўна, памятаюць пра хрэстаматыйныя Бядулевы «пяць лыжак заціркі». Чамусьці традыцыйна лічыцца, што зацірка — тыповая страва беднага беларускага стала. Тым не менш яна можа быць таксама і багатай, і сытнай, і наогул яе нашмат больш шануюць у Венгрыі, чым у нашых краях. Там яна называецца «тархоня», з'яўляецца візітоўкай нацыянальнай венгерскай кухні і як паўфабрыкат нават прадаецца ў гіпермаркетах.



*Карчма ў Вялікім княстве Літоўскім (з «Касмаграфіі» С. Мюнстэра).*

З кавай беларусы ўпершыню пазнаёміліся яшчэ ў 1683 годзе, калі нашы рыцары ў бітве з туркамі пад Венай захапілі мяхі з трафеямі, сярод якіх апынулася экзатычнае зерне. Неўзабаве незвычайны напой набыў вялікую папулярнасць сярод шляхты і мяшчан, стаў адным з «сармацкіх» нацыянальных сімвалаў. Ніжэйшыя ж саслоўі імітавалі каву з пражаных жалудоў, ячменю, цыкорыі. Што тычыцца гарбаты, яшчэ ў XVIII ст. яе ўжывалі выключна як лекавы сродак, асабліва папулярнымі былі зялёныя гатункі. А ўжо ў 30-я гады XIX ст. Ян Баршчэўскі, апісваючы побыт роднай Полаччыны, дзівіўся: «Даўней гарбата была лекамі ад галавы, цяпер без яе і жыць не могуць, якія перамены ў свеце!» Масавы прыход гэтага напітку ў Беларусь адбыўся ў часы Расійскай імперыі. Хаця, як сведчаць некаторыя крыніцы, у Маскву чай завезлі ў пачатку XVII ст. ураджэнцы Беларусі, паслы рускага цара пры мангольскім хане.

Самымі старажытнымі алкагольнымі напоямі і славян, і балтаў былі піва і мёд. Піва выраблялася толькі верхняй ферментацыі і звычайна малога мацунку — 2-3 працэнты. Але спажывалася яно ў значнай колькасці і замяняла шляхце і мяшчанам прахаладжальныя напоі. Гэта тлумачылася недаверам да пітной вады, якая нярэдка станавілася крыніцай захворванняў. Піўныя поліўкі з жаўткамі, тварагом і смятанай да XIX ст. замянялі сярэдняму класу і каву, і гарбату. Пітны мёд называўся паўтарак, двайняк і трайняк, меў мацунак ад 12 да 15 працэнтаў, які залежаў ад прапорцый мёду і вады ды ступені перагонкі. Віно прыйшло да нас з паўднёвых краін, спачатку да заможных паноў, і толькі ў апошнія стагоддзі стала паспалітым напоем. Так званае «віно гарэлае», а па-простаму — гарэлка, патрапіла да нас ад немцаў з суседняй Лівоніі — сучаснай Латвіі — у канцы XV ст. Немцы ж запазычылі тэхналогію вырабу гарэлкі ў арабаў яшчэ ў XII—XIII стагоддзях, падчас крыжовых паходаў. У арабаў гарэлка завецца «арак» і першапачаткова выкарыстоўвалася адно з лекавымі мэтамі. У Расіі, дзе гарэлка лічыцца цяпер ледзь не нацыянальным сімвалам, з гэтым напоем пазнаёміліся толькі ў XVII ст. Але сёння менавіта рускае слова *vodka* ведаюць ва ўсім свеце без перакладу. Папулярнымі ж напоямі нашай шляхты былі розныя лікёры, настоянкі і наліўкі на аснове гарэлкі. Туды дадавалі зёлкі, мёд, спецыі, ягады і цукар. І цяпер у крамах прадаюцца такія старажытныя напоі, як зуброўка, крамбамбуля, траянкі і г. д. Паказальна, што ўсе гэтыя наліўкі і настоянкі, а таксама кава, гарбата і спецыі звычайна захоўваліся ў так званай «прыемнай аптэчцы» — адмысловай шафе, ключы ад якой мела толькі гаспадыня заможнага дому.

Як бачым, беларуская кухня мае даўнюю гісторыю. Самабытныя стравы, якія дайшлі да нас з глыбіні стагоддзяў, сведчаць пра багатыя культурныя і гістарычныя традыцыі беларусаў, рацыянальнасць, эканамічнасць і разнастайнасць харчавання нашых продкаў.



*Тамара Даліннік — дырэктар каледжа.*

Але мы з вамі жывём ужо ў XXI стагоддзі. Сотнямі адчыняюцца новыя рэстараны і кафэ. Шмат што змянілася, у тым ліку і нашы ўяўленні пра ежу, яе гатаванне і сервіроўку. А ці шмат у якіх айчынных рэстаранах і кафэ, ці, як іх яшчэ называюць, — аб'ектах грамадскага харчавання, знойдзеш сапраўдныя старадаўнія беларускія стравы? Ці жыве шматвяковая традыцыя? Пра гэта ведаюць спецыялісты і прафесіяналы, якія працуюць у кулінарных каледжах, тэхнікумах і іншых навучальных установах нашай краіны. Сёння мы, як і абяцалі, на прыкладзе Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа кулінарыі паспрабуем знайсці адказы на пастаўленыя пытанні. І ўвогуле пазнаёмімся з гэтай цікавай установай бліжэй.

## КАЛЕДЖ СЁННЯ

У снежні 2009 года ў каледжы адзначалі 55 год з дня яго заснавання. Ён быў створаны ў 1954 годзе як школа кулінарнага вучнёўства Міністэрства гандлю БССР. За гады існавання навучальнай установы ў ёй атрымалі кулінарныя прафесіі кухара, кандытара, афіцыянта, буфетчыка, бармена больш за 18 тысяч маладых спецыялістаў. Каледж кулінарыі — сучасная навучальная ўстанова, дзе на аснове агульнай сярэдняй адукацыі рыхтуюць як звычайных кухараў, так і кухараў дзіцячага харчавання, кулінараў мучных вырабаў, кандытараў, афіцыянтаў і барменаў. Усе яны пасля навучання ў каледжы атрымоўваюць прафесію кухара чацвёртага разраду. З верасня 2009 года ў каледжы адкрыты яшчэ адзін узровень навучання — сярэдні спецыяльны, які базіруецца на аснове прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Пасля яго выпускнікі каледжа атрымліваюць пяты разрад і кваліфікацыю тэхніка-тэхнолага. Гэта дае ім магчымасць займець пасаду шэф-кухара і ўзначаліць брыгаду кухараў у прэстыжным рэстаране, кафэ, піцэрыі ці бары.

Тыя, хто навучаецца на першым узроўні, а ён на бюджэтнай аснове, забяспечваюцца гарачым бясплатным харчаваннем. На другім узроўні вучыцца можна па дзённай форме або па завочнай. На дзённым аддзяленні навучэнцы атрымліваюць стыпендыю, а завочнікі самі плацяць за сваю вучобу. Сёлета аплата склала 800 тысяч за год. Ёсць магчымасць аплачваць яе трыма часткамі, што зручна як для саміх навучэнцаў, так і для іх бацькоў. Вялікая ўвага надаецца сувязям каледжа з прадпрыемствамі грамадскага харчавання, на якіх навучэнцы праходзяць практыку. Такіх больш за дзве сотні: дзіцячыя дашкольныя ўстановы, камбінаты школьнага харчавання, кулінарныя цэхі, рэстараны, кафэ, сталовыя, піцэрыі і г. д.

## НАВУКА ГАТАВАЦЬ

Праца педагагічнага калектыву каледжа заўсёды была заснавана на добрых традыцыях. Іх доўжыць і прыўносіць сучасныя патрабаванні па паспяховай дзейнасці ўсёй установы цяперашні дырэктар — **Тамара Міхайлаўна Даліннік.** Яна ўзначальвае калектыў з лютага 2004 года. Да прафесіі кухара і кандытара мае ўскосныя адносіны — па адукацыі выкладчык гісторыі і грамадазнаўства, у сістэме адукацыі працуе ўжо трыццаць гадоў. З боку здаецца, што жанчыне кіраваць калектывам кулінарнага каледжа, а ён пераважна жаночы, нескладана. Але дзяўчаты — народ няпросты, да кожнай з іх трэба знайсці падыход, у кожнай з іх свае ўяўленні пра кухню і яе афармленне. Да таго ж, кухня заўсёды асацыіруецца з домам, сям'ёю, цеплынёю і ўтульнасцю.

Усё, здаецца, проста і зразумела. Тым не менш калі пачынаеш вывучаць кухарскую справу сур'ёзна — тэхналогію прыгатавання, — адразу разумееш, што гэта не побытавы ўзровень, а мастацтва і навука. Тамара Міхайлаўна ўпэўненая, што кулінарныя прафесіі вымагаюць і ад выкладчыкаў, і ад майстроў вытворчага навучання пастаяннага ўдасканальвання.

**Вера Віктараўна Дзеніціс**, намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай працы, у каледжы з 2004 года. Па адукацыі яна філолаг, раней працавала ў адным з ПТВ выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. І тут, у каледжы, імкнецца перад навучэнцамі выступаць з прамовамі на роднай мове. Заўсёды сочыць за новымі творамі беларускіх літаратараў, сама спрабуе пісаць. Яна кажа, што з першых дзён працы калектыў выкладчыкаў установы ўразіў яе сваім прафесіяналізмам, з'яднанасцю і мэтанакіраванасцю. Шмат хто прысвяціў працы з навучэнцамі па 25—35 гадоў. Тут робяць усё магчымае, каб з каледжа ў свет выйшаў не толькі кваліфіцыраваны спецыяліст, запатрабаваны на рынку працы, але і неабыякавы грамадзянін, адукаваны і прыйстойны чалавек, які цікавіцца сваёй культурай, любіць, захоўвае і развівае яе традыцыі.

**Святлана Мікалаеўна Дзядзюля** адказвае за вучэбны працэс. Яна перакананая, што для развіцця прафесійных якасцей у навучэнцаў неабходна іх далучаць да навукі. Таму навучэнцы ўдзельнічаюць у навукова-практычных канферэнцыях, займаюцца даследаваннямі. Да прыкладу, вывучаюць уплыў водаправоднай вады на якасць згатаванай ежы або разнастайнасць макаронных вырабаў, іх гатункаў і страў, што можна з іх прыгатаваць. Такія даследаванні ацэньваюцца спецыялістамі кулінарнай справы, і лепшыя ўзнагароджваюцца дыпломамі.

Перыядычна праходзяць майстар-класы. Каб далучыць дзяцей да прафесіі, пашырыць іх кругагляд, на мерапрыемствы запрашаюць работнікаў кулінарных прадпрыемстваў, тыя дзеляцца сакрэтамі прафесіі. Майстар-класы ладзяцца і для педагогаў па выніках іх стажыровак у іншых навучальных установах краіны.

Зразумела, каб валодаць новай інфармацыяй, ведаць пра новыя тэхналогіі ў кулінарнай вытворчасці, трэба чытаць шмат літаратуры. Дапамагае багаты бібліятэчны фонд каледжа, тут апроч падручнікаў па кулінарыі шмат дадатковых кніг, часопісаў і даведнікаў па мастацтву прыгатавання страў. Адзін з абавязкаў загадчыцы бібліятэкі **Алы Уладзіміраўны Жураўлёвай** — адсочваць навінкі спецыяльнай вучэбнай літаратуры. Што яна і робіць з прафесійным майстэрствам — кніжнай справе аддадзена амаль трыццаць гадоў.

Намеснік па вытворчаму выхаванню **Святлана Юр'еўна Куляшова** перакананая: падрыхтоўка прафесійных кухараў, кандытараў, афіцыянтаў і барменаў, запатрабаваных на рынку працы, немагчымая без трывалых практычных навыкаў. Таму ў каледжы вытворчае навучанне на дзейных кулінарных аб'ектах пачынаецца літаральна з першых дзён вучобы. Кіруюць гэтым працэсам майстры вытворчага навучання. Яны сочаць за выхадам навучэнцаў на працу, за іх знешнім выглядам, разам з куратарамі груп складаюць вучэбныя планы, знаёмяць будучых кулінараў з навінкамі індустрыі, дапамагаюць ім авалодаць сучасным абсталяваннем і сённяшнімі тэхналогіямі ў прыгатаванні і афармленні страў. Кіраўнікі прадпрыемстваў, дзе адбываецца вытворчая практыка, павінны забяспечваць спрыяльныя ўмовы для якаснай прафесійнай падрыхтоўкі навучэнцаў. Дарэчы, шмат хто з іх — былыя выхаванцы каледжа, што сведчыць пра шырокія перспектывы для выпус-



*Мастацтва карвінгу — дэкаратыўнай нарэзкі гародніны — дэманструе выкладчыца каледжа Ірына Іванаўна Лапотка.*

кнікоў і магчымасці далейшага прафесійнага росту.

Для падрыхтоўкі спецыялістаў, наданню ім трывалых тэарэтычных ведаў і практычных навыкаў у каледжы створаны ўсе ўмовы. Так, у вучэбных лабараторыях па кулінарыі ёсць абсталяванне, дзе можна папрактыкавацца ў прыгатаванні халодных і гарачых закусак, супоў і мучных вырабаў. Для барменаў і афіцыянтаў створаны кабінеты, дзе стацыянарна ўстаноўлены буфет і барная стойка з разнастайнымі напоямі і ўсім неабходным у працы. У гэтых жа лабараторыях і кабінетах навучэнцы гатуюць стравы для конкурсаў прафесійнага майстэрства і рыхтуюцца да выпускных іспытаў. Адной з умоў іспытаў з’яўляецца прыгатаванне трох страў-выпрабаванняў, трэцяя — фірмавая страва таго прадпрыемства, дзе праходзілі практыку. Самы адказны і разам з тым прыемны момант — дэгустацыя. Якасць прыгатаваных страў ацэньваюць выкладчыкі і майстры каледжа, прадстаўнікі прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

## З ГЛЫБІНІ СТАГОДДЗЯЎ І НЕ ТОЛЬКІ

Але вернемся да нацыянальнай беларускай кухні. Што робіцца ў каледжы для яе прапаганды? Усе выкладчыкі, з кім мне давялося сустрэцца, у тым ліку і дырэктар, сцвярджаюць, што пры вывучэнні нюансаў прыгатавання кулінарных страў усіх народаў асаблівы націск і ўвага надаюцца беларускай кухні. І гэта пры тым, што на дысцыпліну «Сусветная і нацыянальныя кухні» адведзена ўсяго 30 гадзін, а асноўны падручнік, па якім тут вывучаюць спецыяльную тэхналогію пра рацыянальныя спосабы падрыхтоўкі прадуктаў, прыгатаванне страў і кулінарных вырабаў, выдадзены ў Расіі — свайго проста яшчэ не распрацавалі. Тым не менш сакрэты прыгатавання родных беларускіх страў тут ведаюць і шануюць.

А далучаюць будучых кулінараў да таямніц нашай кухні такія выкладчыкі, як **Людміла Міхайлаўна Кодас, Марыя Іосіфаўна Максімовіч і Святлана Іванаўна Рагель.** Яны працуюць у каледжы не адзін дзесятак гадоў, шчыра аддадзены сваёй працы і шмат робяць для папулярызацыі беларускай кухні. Святлана Іванаўна нават выдала ўласную кнігу — практыкум па тэхналогіі прыгатавання ежы. Але асноўная крыніца натхнення ў гэтым кірунку — «Зборнік рэцэптур беларускіх страў», які склала і падрыхтавала да друку беларуская асацыяцыя кулінараў пры Міністэрстве гандлю Рэспублікі Беларусь. Дзякуючы рэцэптам гэтага зборніка навучэнцы пад кіраўніцтвам выкладчыкаў апроч традыцыйных дранікаў і бабкі з цыбуляй ды шпікам гатуюць такія стравы, як боршч «Хатні», зацірку, мачанку, каўбасу бульбяную, кісель з аўсянкі, жур па-сялянску, розныя поліўкі і шмат што іншае. У стравах выкарыстоўваюцца нашы прадукты, да якіх прызвычаіліся беларусы, і тыя расліны, што растуць на беларускай зямлі. А гэта гародніна і садавіна, грыбы, ягады і розныя злакі...

Немалая ўвага нацыянальнай кухні надаецца і падчас конкурсаў прафесійнага майстэрства. Мерапрыемствы тычацца літаральна ўсіх прафесій: кухараў, кандытараў, афіцыянтаў і барменаў. Кухары і кандытары гатуюць стравы, афіцыянты сервіруюць сталы, бармены прапаноўваюць напоі. Конкурсы ладзяцца, каб прывіць навучэнцам любоў і цікавасць да іх будучай прафесіі, развіць творчыя здольнасці. Да прыкладу, каб далучыць навучэнцаў да нацыянальных традыцый, летась у каледжы прайшоў конкурс «З глыбіні стагоддзяў». У ім бралі ўдзел навучэнцы першага і другога курсаў. Апроч таго, што стравы нацыянальнай кухні гатаваліся па старадаўніх рэцэптах, яны былі прэзентаваны выключна па-беларуску. Адмысловыя стравы ў гліняным посудзе выстаўляліся на сталах, засланых льнянымі абрусамі і ручнікамі, упрыгожанымі вышыўкай. Апранутыя ў народныя строі, дзяўчаты і хлопцы «абаранялі» свае стравы: адны прэзентавалі іх як антураж беларускай казкі, другія прамаўлялі прымаўкі і прыказкі, трэція чыталі сугучныя сваім творам вершы беларускіх аўтараў.

Далучаюць будучых кухараў і кандытараў да абрадавых свят. Штогод на Масленку, Вялікдзень, Каляды навучэнцы знаёмяцца з асаблівасцямі страў, якія традыцыйна гатуюцца беларусамі на гэтыя святы. Часам афармленне і прэзентацыю ім дапамагаюць рабіць выкладчыкі, часам рыхтуюцца самастойна: збіраюць інфармацыю ў бібліятэцы або праз Інтэрнэт. У некаторых навучэнцаў ёсць добрыя сямейныя традыцыі, яны вельмі ахвотна дзеляцца імі са сваімі педагогамі.

Але не толькі ў старадаўніх народных

традыцыях афармляюцца стравы беларускай кухні. Некалі тут праводзілі конкурс, прысвечаны легендарнаму Уладзіміру Мулявіну. Навучэнцы з'ездзілі ў музей песняра, што месціцца ў філармоніі, пазнаёміліся з яго творчасцю і жыццём больш падрабязна, даведаліся пра яго звычкі. У выніку быў аформлены стол, прысвечаны памяці знакамітага песняра. Элементам дэкору зрабілі пюпітр з раскладзенымі нотамі, якія паставілі побач са сталом, а меню склалі з улюбёных страў самога Мулявіна.



На конкурсе «З глыбіні стагоддзяў».

***Усё гэта добра. А ці запатрабаваная беларуская кухня сёння ў грамадскім харчаванні? Як вядома, яно цяпер амаль усё ў прыватных руках. Куды выпускнікі каледжа ідуць працаваць са сваімі ведамі пра сакрэты гатавання беларускіх страў? Возьмем хаця б сталіцу. У Мінску ёсць некалькі месцаў, дзе шырока прапануюць нашы нацыянальныя стравы. Да прыкладу, у рэстаране «Пан Хмелю» гатуюць старабеларускія і старапольскія стравы, у «Ракаўскім бровары» нават вараць свежае піва па старажытных рэцэптах. Вядомы і страўні «Мірскі замак», «Камяніца», «Старыя традыцыі», «Падвор'е», кафэ «Спадчына» і яшчэ некаторыя. На ўсіх гэтых аб'ектах праходзілі практыку выпускнікі каледжа, шмат хто з іх цяпер тут працуе, і іх досвед у гатаванні беларускіх страў запатрабаваны.***

***Але згадзіцеся, што гэтага вельмі мала. Калі ўзяць толькі Мінск, то так званых пунктаў грамадскага харчавання тут налічваецца каля дзвюх тысяч, і нешта не чуваць, каб большасць з іх вылучалася нацыянальнай кухняй. У асноўным нашы страўні ды кафэ прапануюць наведвальніку змешанае меню, дзе прысутнічаюць стравы як беларускай, так і ўсярэдненай еўрапейскай кухні. Ды і беларускімі тыя нешматлікія стравы назваць не выпадае. Пад цэтлікам «нацыянальнага» вам прапануюць «Філе птушкі з сырам» або «Язык у цесце» і розныя салаты, «згатаваныя выключна з беларускіх прадуктаў». Больш таго, калі вы звыклі хадзіць у пэўнае кафэ або ў рэстаран, дзе сёння гатуюць беларускія стравы, магчыма, што заўтра іх ужо не знойдзеце ў меню. У наш час з неверагоднай хуткасцю мяняюцца як гаспадары прыватных кулінарных устаноў, так і шыльды на тых установах і, натуральна, меню. Замест крупніка або мачанкі вам могуць прапанаваць на выбар або сушы, або піцу.***

***Кожная краіна ганарыцца сваёй нацыянальнай кухняй. Гэта натуральна і справядліва. Як мова, так і нацыянальная кухня — той складнік, што вызначае людзей як нацыю. Цудоўна, што ў Мінску шмат кафэ і рэстаранаў, якія запрашаюць пакаштаваць стравы народаў свету. Аднак кожны італьянец «на пальцах» давядзе вам, што ні ў якой іншай краіне вы не знойдзеце такой смачнай піцы, як у Італіі. І будзе мець рацыю. Несумненна, такому патрыятызму нам яшчэ трэба вучыцца. Усе людзі, якія жывуць у Беларусі, гадуюць дзяцей, захоўваюць пераемнасць пакаленняў, павінны задумацца пра свае карані, традыцыі і азірнуцца ў мінулае. Там шмат цікавага і адметнага, у тым ліку і нашы нацыянальныя стравы.***

***Інакш кажучы, як зварыш — так і з'ясі!***

**Ірына КЛІМКОВІЧ**

*Фота з архіва і аўтара.*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## ВАЛОЖЫНСКІ РАЁН

**Вёска Рудня** Івянецкага сельсавета

**Голуб Тэрэсы** (н. 13.5.1951), літаратуразнаўца-тэкстолага, радзіма. З сям'і лесніка. Закончыла Сівіцкую васьмігодку, Івянецкую СШ (1968). Пераехаўшы ў Мінск, працавала выхавальніцай дзіцячага сада. Закончыла філфак БДУ. Кандыдат філалагічных навук (2001). Звыш трох гадоў працавала ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (у тым ліку намеснікам дырэктара). У Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі прайшла шлях ад лабаранткі да загадчыка аддзела выданняў і тэксталогіі. Удзельнічала ў падрыхтоўцы збораў твораў Максіма Гарэцкага, Петруся Броўкі, поўнага збору твораў Янкі Купалы. Цяпер працуе над 20-томнікам Якуба Коласа. Аўтар кніг «У творчай майстэрні класіка» (2002), «Услед за лініяй жыцця» (2006).

**Вёска Сакаўшчына,** цэнтр сельсавета

**Каваленкі Віктара** (21.7.1929—17.8.2001), крытыка, літаратуразнаўца, празаіка, радзіма. З сям'і малазямельнага селяніна. У 1939 г. скончыў тры класы польскай школы. Пасля вайны вучыўся ў Сакаўшчынскай сямігадовай школе. У 1948 г. скончыў Лідскае педагагічнае вучылішча. Працаваў настаўнікам на Гродзеншчыне. У 1955—1958 гг. займаўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры АН БССР, дзе застаўся працаваць. З 1982 г. — дырэктар інстытута. Доктар філалагічных навук (1978), прафесар, акадэмік НАН Беларусі (1994), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1980), Літаратурнай прэміі СП СССР (1976). Друкаваўся з 1952 г. Аўтар шэрагу літаратурна-крытычных артыкулаў, зборнікаў, адзін з сааўтараў 2-томнай «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры», «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (на рускай мове), аўтар рамана «Падвышанае неба» (1978), кнігі выбранага «Веліч праўды» (1989), 11 манаграфій. Школа ў роднай вёсцы носіць яго імя. У ёй створаны музей пісьменніка. На доме, дзе ён нарадзіўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**Вёска Седлішча** Сугваздаўскага сельсавета

Тут пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі для дзяцей-сірот, бацькі якіх загінулі ў час Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, быў створаны прытулак. Вясной 1919 г. сюды прыязджаў **Купала Янка**, каб пазнаёміцца з жыццём сірот.

**Хутар Тупальшчына**, існаваў да 1947 г. у Падневіцкім сельсавеце

Тут, побач з каплічкай, якую пабудаваў у 1852 г. мясцовы землеўласнік Э. Жаброўскі, — магіла **Дуніна-Марцінкевіча Вінцэнта**, яго жонкі Марыі і дачкі Цэзарыны. На крыжы, пастаўленым унучкамі пісьменніка ў 1930 г., надпіс: «Тут спачываюць Вінцэнты, Марыя і Цэзарына Дуніны-Марцінкевічы. Памерлі ў 1885, 1891, 1902 гг.» У 1950-х гадах крыж знеслі, таблічку забралі ў Інстытут літаратуры АН БССР. У 1957 г., у год святкавання 150-годдзя з дня нараджэння Дуніна-Марцінкевіча, на магіле пісьменніка ўстанавілі новы помнік. На мармуровай пліце, што прымацавана да бетоннай стэлы, значыцца: «Тут пахаваны выдатны беларускі пісьменнік Вікенці Іванавіч Дунін-Марцінкевіч. 1807—1884 гг.» Аўтары помніка Я. Каленік і А. Пупко. Летам 1977 г. помнік быў заменены, устаноўлены бронзавы бюст пісьменніка на гранітным пастаменце. Яго аўтар М. Якавенка.

**Вёска Узбалаць,** цэнтр сельсавета

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—2 за 2010 г.

**Шакун Марыі** (н. 13.1.1937), паэтэсы, радзіма. Закончыла Валожынскую СШ № 1, філфак БДУ. Працавала ў школах Валожынскага р-на, сістэме адукацыі. Выдала зборнік вершаў «Песняй рамонкаў» (2007).

# ВІЛЕЙСКІ РАЁН

## г. Вілейка

**Вуліцы Астроўскага А., Горкага Максіма, Гурыновіча А., Жалігоўскага Э., Коласа Якуба, Купалы Янкі, Някрасава М., Пушкіна А., Талстога Л.**

**Вул. Вадап'янава, 21**

**Гарадская бібліятэка, філіял № 1**

Пры бібліятэцы працуе літаратурная суполка «Натхненне», якой кіруе настаўніца Зінаіда Губарава-Крупская, аўтар паэтычнага зборніка «У краіне чароўных сноў». У філіяле збіраюцца матэрыялы па літаратурнаму краязнаўству.

**Вул. Свабоды, 8**

**Вілейскі гісторыка-краязнаўчы музей**

Заснаваны 30.7.1982 г., адкрыты 7.5.1985 г. Плошча экспазіцыі 179 м$^2$, 14,4 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1992). У экспазіцыі матэрыялы, прысвечаныя жыхарцы Вілейкі паэтэсе **Новік Ганне**, іншым пісьменнікам.

**Вул. Ходзькі І**. У 2005 г. на будынку па вуліцы змешчана мемарыяльная дошка чорнага колеру з надпісам: «Ігнацій Ходзька (1795—1861), пісьменнік, наш зямляк, аўтар аповесці аб Вілейшчыне».

* * *

**Дэмбінскі Генрык** (30.7.1908—12.8.1941), польскі публіцыст, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, ураджэнец г. Іркуцка (Расія), працаваў тут у 1939—1941 гг. у органах народнай асветы. Расстраляны немцамі ў *Ганцавічах*.

**Дубровіч Алесь,** паэт, ураджэнец в. *Галубічы* Дзісненскага пав. Віленскай губ. (цяпер в. Каралевічы Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.), перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў у вілейскай раённай газеце, дзе змяшчаў вершы, нарысы, карэспандэнцыі.

**Новік Ганна** (25.3.1914—7.1.1997 г.), паэтэса, ураджэнка г. Аўгустуў (Польшча), правяла ў Вілейцы большую частку свайго жыцця. У 1932 г. скончыла сем класаў Куранецкай школы. Працавала наймічкай з 9 гадоў, а ў 1935 г. была ў лагеры для беспрацоўнай моладзі ў Рашыне пад Варшавай. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху неаднаразова арыштоўвалася. У 1936—1938 гг. зняволена ў вілейскай турме. Пасля прыходу Чырвонай Арміі (1939) абрана дэпутатам Народнага Сходу Заходняй Беларусі, працавала інспектарам Куранецкага РАНА. У час Вялікай Айчыннай вайны — партызанская сувязная. У 1948—1954 гг. працавала старшынёй калгаса імя Леніна ў в. Варонічы Вілейскага р-на і старшынёй Кузьміцкага сельсавета Вілейскага р-на, памочнікам начальніка палітаддзела Будслаўскай машынна-трактарнай станцыі на Мядзельшчыне. Першыя вершы надрукавала ў 1937 г. Аўтар зборніка вершаў «Мае вёсны» (1961), аповесці «Другая сустрэча» (фрагменты апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1979), паэтычнага зборніка «Мая Вілейшчына» (1997).

**Родзевіч Леапольд,** празаік, публіцыст, паэт, драматург, ураджэнец фальв. *Кур'янаўшчына* Лагойскага р-на, у 1909 г. скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы.

**Танк Максім,** народны паэт Беларусі, ураджэнец в. *Пількаўшчына* Мядзельскага р-на, вучыўся ў Вілейцы ў рускай гімназіі.

**Уласава Аляксандра** (10.8.1874, паводле старога стылю, па іншых звестках — 16(28).8.1974—11.3.1941), выдаўца, публіцыста, мемуарыста, грамадскага дзеяча, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і начальніка Вілейскай пошты. Скончыў політэхнічны інстытут у Рызе (1905).

Адзін з арганізатараў і актывістаў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), член яе ЦК. Рыхтаваў да друку газету «Наша доля», у 1906—1914 гг. быў рэдактарам-выдаўцом газеты «Наша ніва». Адзін з заснавальнікаў у Вільні беларускага выдавецкага таварыства «Наша хата». У 1912 г. у Вільні наладзіў выданне сельскагаспадарчага часопіса «Саха», у 1914 г. у Мінску — краязнаўчага часопіса для беларускай моладзі «Лучынка». У 1914—1917 гг. служыў у царскай арміі. Дэлегат з'езда воінаў-беларусаў Заходняга фронту ў кастрычніку 1917 г., Усебеларускага з'езда 1917 г. У Заходняй Беларусі на выбарах у лістападзе 1922 г. быў абраны дэпутатам польскага сейма як беспартыйны. Арганізатар і адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. Пад яго апякунствам у 1922—1929 гг. дзейнічала Радашковіцкая беларуская гімназія імя Ф. Скарыны. Аўтар працы «Аб гаспадарцы на хутары і шнурах» (1909), эканамічнага нарыса «Беларусь. Літва» (1917). У 1930-я гг. пісаў успаміны «З майго жыцця» (захаваліся не поўнасцю). 16.10.1939 г. арыштаваны органамі НКУС па абвінавачанні ў «шпіёнска-правакатарскай дзейнасці», 29.11.1940 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР асуджаны як «сацыяльна-небяспечны элемент» на 5 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах. Высланы ў Сіблаг (Новасібірская вобл., Расія). Памёр ад «паралічу сэрца» (паводле даведкі) на ст. Марыінск (цяпер Кемераўская вобласць; паводле іншых звестак — на этапе ў г. Арол ці ў Рэспубліцы Марый Эл, Расія). Рэабілітаваны ў 1961 г.

**Ходзька Ігнацы** (17(29).9.1795—1.8.1861), празаік, паэт, мемуарыст, ураджэнец в. *Заблошчына* Вілейскага р-на, правёў тут частку жыцця. Пісаў на польскай мове. У *Дзевятні* напісаў асноўныя свае творы «Ліцвінскія абразкі», «Дом майго дзеда», «Літоўскія паданні» (1852—1860), дзе намаляваў карціны мясцовага жыцця, паказаў быт насельніцтва. У яго бывалі **Кіркор Адам, Плуг Адам**. Тут у 2007 г. прайшлі Другія Ходзькаўскія чытанні.

**Юстыновіча Багдана** (н. 30.8.1939), польскага паэта, публіцыста, празаіка, перакладчыка, радзіма. Аўтар кнігі апавяданняў і вершаў на польскай мове «Кніга, якой не было» (1990, Варшава).

* * *

**Вёска Багданава** Куранецкага сельсавета

**Дубовік Клаўдзіі** (н. 16.8.1950), паэтэсы, радзіма. Скончыла Куранецкую СШ, Рыжскае вучылішча сувязі, факультэт журналістыкі БДУ, курсы прадпрымальнікаў. Працавала рэдактарам, карэспандэнтам маладзечанскай газеты «Святло камунізму», выхавальніцай рабочага інтэрната завода «Зеніт». Аўтар зборнікаў вершаў «Я вярнуся да цябе», «Малітва кахання», паэм «А на тым беразе…», «Фальварак Багданава», «Станіслава», «Камень сораму», «Мястэчка Куранец», «Паход «Чарапашкі» ў фальварак Багданава», «Марыя». У 2008 г. узяла ў арэнду на 25 гадоў былы фальварак Багданава, адкрыла ў ім свой ***літаратурна-этнічны прыродны музей***. Некаторыя творы дэманструюцца ў ім у рукапісах.

**Контрыма Казіміра** (Пётры з-пад Крэва) (1776—11.6.1836), эканаміста, публіцыста, радзіма. Удзельнік паўстання 1794 г. Пазбегнуўшы рэпрэсій, працаваў памочнікам бібліятэкара, ад'юнктам Віленскага універсітэта. Супрацоўнічаў у газеце „Powszechna gazeta literacka» («Усеагульная літаратурная газета»), у 1815—1818 гг. рэдактар часопіса «Dziennik Wilenski» («Штодзённік віленскі»), іншых перыядычных выданняў. У 1817—1822 гг. выдаваў «Wiadomosci Brukowe» («Вулічныя паведамленні») — орган літаратурна-грамадскага Таварыства шубраўцаў, напісаў для таварыства кодэкс. Заснаваў таварыства дапамогі незаможным вучням. У 1829—1830 гг. служачы Польскага банка ў Варшаве, рэдагаваў часопіс «Biblioteka Handlowa» («Гандлёвая бібліятэка») і газету „Wiadomosci Handlowe» («Гандлёвыя весткі»). Даследаваў Палессе, яго эканамічны стан і гандлёвыя шляхі. Вынікам падарожжа стала выданне ў 1829 г. у некалькіх экземплярах апісання Палесся (перавыдаў яго ў 1839 г. Э. Рачыньскі), дзе прыведзены звесткі пра насельніцтва, флору, фауну, прамысловасць, сельскую гаспадарку, суднаходства. Памёр у Шыдлове (Польшча).

**Вёска Батурына** Хаценчыцкага сельсавета

Тут працаваў настаўнікам **Бядуля Змітрок**, пісьменнік, ураджэнец мяст. *Пасадзец* (цяпер вёска Лагойскага р-на Мінскай вобл.).

**Сыча Пятра** (18.1.1912—20.6.1963), празаіка, радзіма. Друкаваўся з 1932 г. Арыштаваны 3.10.1939 г., пасаджаны ў Вілейскую турму, з 1940 г. у Полацкай турме. Асуджаны на дзесяць

гадоў прымусова-папраўчых работ. Вывезены ў Комі АССР, дзе быў да канца 1941 г. Паводле так званай дамовы «Сікорскі-Майскі», патрапіў у армію генерала Андэрса. У чыне паручніка прымаў удзел у баях пад Монтэ-Касіна, Анконай, Балоньяй, чатыры разы паранены. З 1946 г. у Англіі, з 1951 г. у Германіі. Рэдагаваў часопіс «Шарсцень». Аўтар кнігі «Смерць і салаўі».

**Вёска Баяры** Ільянскага сельсавета

**Лашуткі Івана** (10.11.1933—1.9.2004), паэта, радзіма. Скончыў пачатковую школу ў Баярах, Ільянскую СШ. Працаваў у рэдакцыі газеты палітаддзела Ільянскай МТС. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1958). Працаваў настаўнікам у в. Латыгаль. З 1971 г. жыў у Вілейцы. Працаваў настаўнікам у Вілейскай СШ № 3. Аўтар паэтычных зборнікаў «Свята дваіх» (1992), «Край верасоў» (2000), «Святое слова» (2003). На словы І. Лашуткі Аляксандрам Высоцкім і Леанідам Гайчуком напісаны песні, якія склалі асобны дыск (2009).

**Вёска Більцавічы** Любанскага сельсавета

**Дубовіка Уладзіміра** (1936(?)—1986), паэта, радзіма. Працаваў у раённай газеце «Шлях перамогі», чырванадрэўшчыкам, шахцёрам. Аўтар зборніка вершаў «Веру ў цябе» (1981).

**Фальв. Вінцантова,** не існуе, да 1975 г. у Ільянскім сельсавеце

**Петрашкевіча Альфонса** (1894—20.5.1918), паэта, празаіка, перакладчыка, радзіма. Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах. Удзельнічаў у беларускім нацыянальна-культурным руху, быў асабіста знаёмы са З. Бядулем.

**Вёска Вязынь,** цэнтр сельсавета

**Мокрага Міколы** (Андрэя Мікалаевіча Сухога), карэспандэнта «Нашай Нівы», радзіма.

Тут прайшло маленства **Зана Тамаша**, польскага паэта, ураджэнца в. *Мясата* Маладзечанскага р-на. У мясцовага дзяка Аляшкевіча ён пачаў вучыцца грамаце. Бацька Т. Зана працаваў тут эканомам у адстаўнога палкоўніка польскіх войскаў Трамбіцкага. Адсюль маці адвезла будучага паэта ва Узду. Пасля смерці дзеда Тамаш разам з бабуляй зноў вярнуўся да сваіх бацькоў у Вязынь. Працягваў вучобу ў гувернёра Калантая ў суседняй Слабадзе.

**Вёска Губы** Куранецкага сельсавета

**Вясёлага Касьяна** (сапр. Аўдзей Вікенцій; 1891—1916), беларускага пісьменніка, радзіма. Пачатковую адукацыю атрымаў у в. Куранец. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1905), Віленскі настаўніцкі інстытут (1910). Працаваў у гарадскіх вучылішчах Вільні і Вілейкі. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Загінуў у 1916 г. на руска-аўстрыйскім фронце ў Карпатах. Пра пачатак літаратурнай дзейнасці звестак не захавалася. У газеце «Крестьянин» змяшчаў вершы, апавяданні, допісы. Там жа надрукавана яго сацыяльна-бытавая драма «Не розумам сцяміў, а сэрцам. П’еса з беларускага жыцця» (Вільня, 1910, 1927).

**Вёска Даўгінава**, цэнтр сельсавета

Тут прайшлі дзіцячыя гады **Бядулі Змітрака**, пісьменніка, ураджэнца мяст. *Пасадзец* (цяпер вёска Лагойскага р-на Мінскай вобл.). Тут ён паўгода вучыўся ў пачатковай яўрэйскай школе — хедэры, затым перавёўся ў мяст. Ілья. Аб гэтым перыядзе пісьменнік расказаў у аповесці «У дрымучых лясах».

Тут пасля Касцяневіч служыў ксяндзом былы філарэт, апісаны ў III томе міцкевічаўскіх «Дзядоў», **Львовіч Юзаф Калясанты Цыр’як**. У Даўгінаве яго наведалі **Ігнацы Дамейка**, **Ота Слізень**, **Тамаш Зан**. Дамейка апісаў яго ў кнізе «Filareci i filomaci» («Філарэты і філаматы», Познань, 1872).

**Купала Янка** напісаў верш «На Даўгінаўскім гасцінцы».

**Вёска Дварэц** Хаценчыцкага сельсавета

**Папковіча Уладзіміра** (н. 25.3.1935), пісьменніка і перакладчыка, радзіма. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў (1958), выкладаў у ім. З 1966 г. — у Віцебску, настаўнічаў, выкладаў у Віцебскім індустрыяльным тэхнікуме, з 1982 г. — у Віцебскім універсітэце. Друкуецца з 1962 г. Аўтар паэтычных зборнікаў «На досвітку» (1978), «Зерне» (1982),

«Самы кароткі дзень» (1988), апавяданняў і гумарэсак, перакладаў на беларускую мову нямецкамоўных пісьменнікаў.

**Вёска Заблошчына** Касцяневіцкага сельсавета

**Ходзькі Ігнацыя** (17(29).9.1795—1.8.1861), пісьменніка, кандыдата філасофіі, радзіма. Хрышчаны ў Завілейскім павеце, у Касцяневіцкім касцёле 15.1.1796 г. У 1810—1814 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце. У 1814 г. стаў членам таварыства шубраўцаў і масонскай ложы ў Мінску. З 1855 г. — член Віленскай археалагічнай камісіі. Пісаў на польскай мове. Аўтар шматтомных збораў твораў «Літоўскія малюнкі» (1840—1863) і «Літоўскія паданні» (1852—1860), «Мемуараў скарбніка» (1844), створаных пераважна на беларускім матэрыяле.

**Шкляная гута Залессе** Хаценчыцкага сельсавета (цяпер пас. Партызанскі)

11 жніўня 1911 г. у «Нашай ніве» была апублікавана карэспандэнцыя «З гуты «Залессе» пад подпісам «Ня-Гутніч». Напісаў яе **Купала Янка**, які ў чэрвені-ліпені працаваў у Акопах у маці. Інжынер А. Альшэўскі ў пісьме да У. Луцэвіч у 1952 г. пацвердзіў, што там пазнаёміўся з Я. Купалам.

**Вёска Золькі** Іжскага сельсавета

**Гурыновіч Адам,** беларускі паэт-дэмакрат, фальклaрыст, ураджэнец в. *Кавалькі* Мядзельскага р-на, пахаваны з раднёй на могілках каля вёскі ў сямейнай капліцы. 15.12.2007 г. тут устаноўлены памятны камень, у 2009 г. — капліца.

**Вёска Ілья**, цэнтр сельсавета

У **Ільянскай СШ** працуе **музей «Вілейшчына літаратурная»**. У ім прадстаўлены матэрыялы пра **Бядулю Змітрака, Кунавіч Эмілію**, **Родзевіча Леапольда**, іншых пісьменнікаў краю. Усяго маюцца папкі на 30 персаналій. Кіруе музеем Роза Шэрая.

**Брыль Янка**, народны пісьменнік Беларусі, ураджэнец г. Адэса, балаціраваўся ў Вярхоўны Савет БССР ад Ільянскай выбарчай акругі.

Тут у ешыбоце (школе рабінаў) вучыўся **Бядуля Змітрок,** пісьменнік, ураджэнец мяст. *Пасадзец* (цяпер вёска Лагойскага р-на Мінскай вобл). Пасля трох гадоў навучання ён уцёк са школы, і з пятнаццацігадовага ўзросту пачаўся яго працоўны шлях.

**Купала Янка** ў артыкуле «З гуты «Залессе» пісаў пра наведванне ў жніўні 1911 г. гуты, што знаходзілася за 7—8 км ад Ілы, і ўспомніў Ілью, якую праязджаў па дарозе з Акопаў у Залессе.

**Вёска Калодчына** Ільянскага сельсавета

**Гаўрыліка Язэпа** (6.4.1893—8.12.1937), пісьменніка і публіцыста, аднаго з арганізатараў сялянска-рабочага пасольскага клуба «Змаганне», радзіма. Скончыў Барунскую настаўніцкую семінарыю (1914), настаўнічаў. Адзін з заснавальнікаў Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны (1922), удзельнічаў у рабоце Таварыства беларускай школы. З 1925 г. член Беларускай сялянска-работніцкай грамады, з 1930 г. член КПЗБ. У 1928 г. абраны дэпутатам у польскі сейм. У жніўні 1930 г. арыштаваны польскімі ўладамі як «дзяржаўны злачынца» і прыгавораны да 9,5 года зняволення. У выніку абмену палітвязнямі з верасня 1932 г. у СССР. Працаваў у Мінску заг. сектара Народнага камісарыята асветы БССР. У 1933 г. рэпрэсіраваны па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 21.11.1937 г. прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1956 г.

**Вёска Карэкаўцы (раней Карэйкаўцы)** Касцяневіцкага сельсавета

**Жалігоўскага Эдварда Вітальда** [псеўд. Антон Сава; 21.11. (4.12)1815—28.12.1864], польскага паэта рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, радзіма. Месца нараджэння ўдакладнена дзякуючы архіўнай даведцы, якая захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Сын адміністратара Вілейскага казённага старастваа. Калі Эдварду споўнілася 6 гадоў, бацька набыў частку невялікага маёнтка Арпа, пабудаваў там новую сядзібу і даў ёй назву па імені гаспадыні — Мар’янполе. Вучыўся ў Дэрпцкім універсітэце (1833—1836). У 1850 г. за ўдзел у вызваленчым руху (стварэнне п’есы «Іардан») сасланы ў Петразаводск, потым (улетку 1853 г.) у Арэнбург. З студзеня 1854 г. жыў ва Уфе, служыў у канцылярыі грамадзянскага губернатара. З 1858 г. — у Пецярбургу, дзе з І. Агрызкам выдаваў часопіс «Slowo» («Слова», 1859). З 1860 г. за мяжой, супрацоўнічаў з польскім рэвалюцыйным друкам. Аўтар антыпрыгонніцкай вершаванай драмы «Іардан» (1846), драмы «Зорскі» (2 ч. «Іардана», неапубл.), «Паэзіі Антона Савы» (1858). Сябраваў з Т. Шаў-

чэнкам, перапісваўся з ім, падарыў яму свой партрэт (не знойдзены). Перакладаў яго творы, прысвяціў яму верш «Да брата Тараса Шаўчэнкі». З «Зорскага» Шаўчэнка выкарыстаў у «Перайманні Эдуарда Савы» беларускую народную песню «Пасаджу я ля хаціны». У нарысах «Сёння і ўчора» (т. 1—2, 1858) пісаў пра галечу беларускіх сялян, пра В. Дуніна-Марцінкевіча. Перапісваўся з А. Вярыгам-Дарэўскім. Памёр і пахаваны ў Жэневе. На могілках у Касцяневічах захаваўся чыгунны помнік на магіле бацькі паэта. На месцы б. фальв. Карэкаўцы ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**Вёска Касічы** Нарачанскага сельсавета

**Барыса Сымона** (н. 20.5.1937), пісьменніка, этнографа, гісторыка, радзіма. Закончыў гістарычна-філалагічны факультэт Наўгародскага педагагічнага інстытута (1965), аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Выкладаў гісторыю ў Сергаўскай школе Наўгародскага і Браўкоўскай школе Мінскага раёнаў, рускі фальклор і старажытнарускую літаратуру ў Брэсцкім педагагічным інстытуце. Працаваў загадчыкам навукова-экспазіцыйнага аддзела Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, рэдактарам часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» (з 1993 г. — «Роднае слова»). З 1992 г. у рэдакцыі «Беларускага гістарычнага часопіса», рэдактар аддзела методыкі выкладання гісторыі. Аўтар некалькіх навукова-мастацкіх кніг па гісторыі Беларусі.

**Былы фальв. Крыстынопаль** Іжскага сельсавета

Месца смерці **Гурыновіча Адама**, ураджэнца в. *Кавалькі* Мядзельскага р-на, паэта, фалькларыста. Пахаваны на могілках каля суседняй вёскі *Золькі.*

**Вёска Латыгаль** Вязынскага сельсавета

Паводле адной з навуковых версій, беларускі асветнік **Цяпінскі Васіль**, які нарадзіўся у в. *Цяпіца* Чашніцкага р-на Віцебскай вобл., жыў некаторы час у маёнтку Латыголь, які належаў яго жонцы Сафіі Жыжэмскай. Тут жа («50 км ад Лоска») знаходзілася яго славутая друкарня, у якой з'явілася перакладзенае ім «Евангелле» (1670-я гг.).

**Вёска Мікуліна** Даўгінаўскага сельсавета

**Сяліцкага Францішка** (29.11.1923—2.9.2001), польскага літаратуразнаўца-славіста, фалькларыста, радзіма. Доктар філалагічных навук. Скончыў Вроцлаўскі універсітэт (1955). З 1978 г. прафесар Інстытута славянскай філалогіі гэтага ж універсітэта. Даследаваў рускую класіку. Аўтар прац «Беларускія вясельныя абрады і песні з вёскі Мікуліна...» (1980), «Пахавальныя і дзядоўскія песні, якія выконваліся ў б. Вілейскім павеце» (1982), «Відовішчы ў вёсцы Мікуліна б. Вілейскага павета ў міжваенны перыяд» (1982), анталогіі беларускай літаратуры і інш.

**Вёска Навасады** Нарачанскага сельсавета

Тут знаходзіўся маёнтак **Дзевятні** (цяпер на яго месцы поле), у якім правёў большую частку жыцця **Ходзька Ігнацы,** празаік, паэт, мемуарыст, ураджэнец в. *Заблошчына* Вілейскага р-на. Пісаў на польскай мове. У Дзевятні напісаў асноўныя свае творы «Ліцвінскія абразкі», «Дом майго дзеда», «Літоўскія паданні» (1852—1860), дзе намаляваў карціны мясцовага жыцця, быту насельніцтва. Тут у яго бывалі Адам Кіркор, Адам Плуг. Летам 1856 г. сюды, да І. Ходзькі, заязджаў У. Сыракомля, але не застаў гаспадара дома. У сваім «Дарожным дзённіку» зрабіў апісанне маёнтка і лямуса, ці скарбца, дзе быў рабочы кабінет пісьменніка. У дзённіку ёсць такія радкі: «Начыркаўшы запіску Ходзьку і Плугу, які сёння павінен быць тут, я ўкраў на памяць пяро са стала Ходзькі (упамянуўшы пра гэта ў запісцы) і склаў пра кражу пяра верш…» На месцы маёнтка ў 2005 г. быў адкрыты памятны знак у выглядзе валуна з чорнай мармуровай плітой і тэкстам: «Тут быў маёнтак Дзевятні, дзе жыў пісьменнік Ігнацій Ходзька (1795—1861) — аўтар твораў аб родным краі».

**Вёска Нарач**, цэнтр сельсавета

Тут у 2006 г. прайшлі першыя Ходзькаўскія чытанні, прысвечаныя **Ходзьку Ігнацыю**, празаіку, паэту, мемуарысту, ураджэнцу в. *Заблошчына* Вілейскага р-на.

**Вёска Пагост** Даўгінаўскага сельсавета

**Танк Максім,** народны паэт Беларусі, ураджэнец в. *Пількаўшчына* Мядзельскага р-на, у 1932 г., ратуючыся ад праследу польскай дыфензівы, перайшоў цераз раку Вілія ў раёне гэтай вёскі. Паэт успамінаў: «Заўтра збіраюся ў Даўгінава. Можа загляну і ў Пагост, дзе калісьці

ў 1932 г. пераходзіў граніцу, уцякаючы ад паліцыі, і дзе перавозчык сцягнуў з мяне дадзены мне бацькамі на дарогу кажушок».

**Вёска Падбярэззе** Касцяневіцкага сельсавета

**Лявіцкага Элханана Лейбы** (1858—1910), яўрэйскага пісьменніка, журналіста і выдаўца, радзіма. Ратуючыся ад пагромаў, выязджаў на ізраільскую тэрыторыю, дзе ў газеце «Гамеліц» (на іўрыце) змяшчаў нарысы пра яўрэйскія пасяленні. Напісаў утапічную кнігу «Падарожжа ў Эрэц-Ісраэль у 2040 годзе», у якой паказаў у светлых колерах будучы росквіт краіны. З 1895 г. жыў у Адэсе. Пачаў выдаваць там першую штодзённую газету на ідыш «Гут морген», друкаваў у ёй фельетоны-гумарэскі. Пасмяротна, у 1911—1913 гг., у Адэсе выйшаў збор яго твораў.

**Былы фальв. Палачаны** (месцазнаходжанне не ўстаноўлена)

**Шэмета-Палачанскага Яна** (20.6.1826—9.8.1905), паэта, радзіма. Аўтар паэм «Даўгінаўскі пагром», «Вяселле ў Беляка», «Барысаў камень», вершаў «Да братоў у пакоях», «За чаркай», «На дзяды», «Думы ў полі». Творы паэта, вывезеныя яго дачкой у г. Цюмень, куды ў архіў быў пасланы запыт, не выяўлены.

**Вёска Папоўка** Нарачанскага сельсавета

**Станкевіча Івана** (1947—1974), паэта, радзіма. Скончыў Нарачанскую СШ, філалагічны факультэт БДУ. У час вучобы наведваў літаратурнае аб'яднанне «Узлёт», якім кіраваў Алег Лойка. Служыў два гады афіцэрам у войску. З 1972 г. жыў з сям'ёй у Вілейцы. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Шлях Перамогі». У 1971 г. падрыхтаваў зборнік «Клопат», які патрабаваў дапрацоўкі. У 1996 г. сябры выдалі зборнік яго вершаў «Да апошняй маёй пары». Архіў паэта захоўваецца ў **Жука Алеся**.

**Вёска Пятрылава** Хаценчыцкага сельсавета

Тут у сваёй хаце праводзіў лета **Левановіч Леанід**, пісьменнік, ураджэнец *в. Клеявічы* Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. У Пятрылаве пісаў свой раман «Бесядзь цячэ ў акіян». Аўтар нарыса «Лясы Вілейшчыны мяне натхняюць». Цяпер, як відаць з друку, жыве тут стала. Займаецца пчалярствам, сее рапс, грэчку, сустракаецца з вучнямі.

**Вёска Селішча** Вязынскага сельсавета

Маёнтак Селішча арандаваў бацька польскага паэта **Зана Тамаша** Кароль Зан, які быў бурмістрам у Радашковічах, дзе меў нейкія зямельныя надзелы. Тут некаторы час жыла сям'я Занаў, у тым ліку малы Тамаш.

**Вёска Тарасавічы** Іжскага сельсавета

**Лукшы Леаніда** (н. 17.7.1933), паэта і журналіста, радзіма. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Вілейскай СШ № 2 (1952), вышэйшую — у Ленінградскай ваеннай інжынернай акадэміі імя А. Ф. Мажайскага (1963). З 1952 да 1988 г. служыў у Савецкай Арміі (Прыбалтыйская, Прыкарпацкая, Ленінградская, Сібірская ваенныя акругі). Першыя творчыя спробы зрабіў у 1949 г. на старонках раённай газеты. Піша на рускай і беларускай мовах. Выдаў кнігі паэзіі «На кругі свае» (2003), «Блажэнны, хто веруе» (2004), «Люблю цябе, жыццё» (2005). Родным мясцінам прысвяціў каля 80 твораў. Жыве ў Мінску, але кожнае лета праводзіць на бацькоўскай сядзібе, дзе мае пчэльнік. Узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі, «Знак Пашаны», медалямі. Сярод грамадскіх абавязкаў — сакратар літаратурнага аб'яднання «Доблесць» пры Цэнтральным доме афіцэраў. Член Фонду Г. К. Жукава.

**Вёска Трапалава**

**Позьняка Тэлесфора** (н. 28.11.1932), польскага літаратуразнаўцы, радзіма. Доктар філалагічных навук. З сялянскай сям'і, якая пасля вайны перасялілася ў Польшчу. Закончыў аддзяленне русістыкі Вроцлаўскага універсітэта (1955). Аўтар манаграфіі «Дастаеўскі ў коле рускіх сімвалістаў» (1969), раздзела «Беларуская літаратура» ў 3-м томе «Гісторыі еўрапейскіх літаратур» (1986), укладальнік «Анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя» (1977).

***Выказваем падзяку вілейскаму краязнаўцу Анатолю Рогачу за істотныя ўдакладненні і дапаўненні да гэтай часткі даведніка.***

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***